**«Аб утрыманні асоб, якія адпраўляюцца ў Японію**

У Пецярбургу
19 жніўня 1852 г.

*Беручы пад увагу, што генерал-ад'ютанту Пуцяціну для маючых быць яму перагавораў у Японіі трэба будзе мець перакладчыкаў, — Міністэрства замежных спраў, з-за адсутнасці ў нас людзей, якія ведаюць японскую мову, знаходзіць мажлівым замяніць да некаторай ступені гэты недахоп камандзіраваннем у гэтую экспедыцыю асоб, што ведаюць кітайскую мову, бо пісьмёны японскія па сутнасці тыя самыя, што і ў кітайцаў, і пісьмовая мова амаль адна ў абодвух народаў...*

*...Такім чынам Міністэрства замежных спраў меркавала б адправіць у памянутую экспедыцыю ў Японію, па-першае, аднаго з перакладчыкаў кітайскай мовы, што знаходзяцца пры Азіяцкім дэпартаменце, а менавіта калежскага асэсара Гашкевіча (які ведае і маньчжурскую мову, яна таксама можа быць не лішняй пры зносінах з кітайскімі чыноўнікамі ў кітайскіх портах, куды экспедыцыя наша таксама павінна заехаць); па-другое, адправіць яшчэ замест іераманаха, які паводле палажэння павінен знаходзіцца на пасыланым фрэгаце, — архімандрыта Авакума, што знаходзіцца ў ведамстве Азіяцкага дэпартамента і мае таксама глыбокія веды ў кітайскай мове і які, выконваючы абавязкі іераманаха ў гэтай экспедыцыі, мог бы быць вельмі карысны, служачы з тым разам у выпадку неабходнасці і перакладчыкам пры зносінах з японцамі і кітайцамі...*

ЛЕЎ СЯНЯВІН»
(Дырэктар Азіяцкага дэпартамента. — *В. Г.*)

# ПАЧАТАК ПЛАВАННЯ

## I

Восеньскае сонца вісела над Кранштатам.

Дзень выдаўся на рэдкасць пагодлівы. Неба бязвоблачнае. Поўны штыль. Вада ў гавані адлівала свінцовым бляскам.

З васьмі гадзін раніцы фрэгат «Палада» аздобіўся рознакаляровымі флагамі. На кармавым штоку ледзь пагойдваўся ваенна-марскі, або, як яго яшчэ называюць, Андрэеўскі флаг з сінім крыжам на белым палотнішчы. Замёр часавы з штуцэрам. Матросы, апранутыя па-святочнаму,— у новых фланелеўках і адпрасаваных штанах, афіцэры — у мундзірах з эпалетамі і пры крыжах. На шканцах іграла музыка.

На фрэгаце чакалі рэдкага госця.

Ён з'явіўся апоўдні. На парусных суднах, што знаходзіліся ў гавані, каманды выстраіліся ўздоўж борта і голасна, колькі было сіл, крычалі «ўра», але той не ўдастоіў іх увагаю, яго флагманскі катар ішоў да «Палады». На насавым флагштоку трапятаў белымі касіцамі імператарскі брэйд-вымпел. Катар падышоў да параднага трапа, засланага дывановаю дарожкаю. Фалрэпныя мічманы, затаіўшы дыханне, стаялі на ніжняй пляцоўцы трапа, гатовыя ў любую секунду падхапіць пад рукі імператара, калі раптам катар пахіснецца на хвалі. Але ўсё абышлося добра. Мікалай I узняўся на палубу ў суправаджэнні генерал-ад'ютантаў і флігель-ад'ютантаў. У яго свіце былі вышэйшыя начальнікі: вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч — сын цара, кіраўнік Марскога міністэрства князь Меншыкаў, шэф жандарскага ўпраўлення князь Арлоў, дзяжурны генерал Галоўнага марскога штаба віцэ-адмірал граф Гейдэн, віцэ-дырэктар Інспектарскага дэпартамента контр-адмірал Мацюшкін. Фёдар Фёдаравіч Мацюшкін быў ліцэйскім сябрам Аляксандра Пушкіна, у чыім вершы «19 кастрычніка» ёсць такія радкі:

> Счастливый путь!.. С лицейского порога
> Ты на корабль перешагнул шутя,
> И с той поры в морях твоя дорога,
> О, волн и бурь любимое дитя!

Флоцкія афіцэры з вялікай павагаю адносіліся да контр-адмірала. З усяго штабнога начальства ён адзіны не заслугоўваў мянушкі «марака з маркізавай лужыны». Фёдар Фёдаравіч плаваў вакол свету на «Камчатцы» пад камандай славутага мараплаўца В. М. Галаўніна, а гэта азначала прайсці сапраўдную школу флоцкай вывучкі. Мацюшкін, які нядаўна развітаўся з карабельным жыццём, лічыў, што не флот павінен існаваць для міністэрства, а міністэрства для флоту. Вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч і граф Гейдэн не любілі яго за рэзкія меркаванні, што былі не ў духу імператара і яго памагатых.

І ўсё ж вялікаму князю даводзілася лічыцца з Мацюшкіным: таго ведаў увесь рускі флот. Першы, хто шкадаваў бы аб страце для флоту Фёдара Фёдаравіча,— гэта капітан-лейтэнант Ункоўскі, камандзір фрэгата «Палада». Ён пачынаў сваю службу гардэмарынам на караблі Мацюшкіна. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, вялікі князь быў разумны і рашучы. І ўсё добрае, у ліберальным духу, прыпісвалі яму, але гэта будзе потым, пасля смерці бацькі, пры Аляксандру II, які стаў вылучаць Канстанціна Мікалаевіча на важныя пасты ў краіне і той меў мажлівасць уплываць на ўнутраную палітыку Расіі.

...Мікалай I абышоў строй, павітаўся з афіцэрамі і камандаю. Гасудар быў у лагодным настроі. Высокі, стройны, ён стаяў перад экіпажам фрэгата, выпнуўшы грудзі, абкладзеныя ватай, не ведаючы, куды падзець доўгія рукі з вялікімі кісцямі. Перад тым як пачаць прамову, імператар зняў белыя пальчаткі і пачаў імі ляпаць па тугіх ляжках. Ён гаварыў хутка і адрывіста — фразу за фразаю. Каранаваны госць заклікаў маракоў «Палады» ўзвялічыць славу рускага флоту. Яго імператарская вялікасць спадзяецца, што місія, ускладзеная на яго падданых, будзе выканана з гонарам.

— Шчаслівага вам плавання і ўдалага вяртання на радзіму! — вымавіў цар у канцы кароткай прамовы.

Амаль пяцьсот чалавек каманды адказалі гучным «ура».

Мікалай I і яго шматлікая світа накіраваліся да трапа. Уздоўж правага борта стаялі афіцэры фрэгата, а паміж імі, побач з капітанам Ункоўскім,— два чыноўнікі ў віцмундзірах. Праходзячы міма, імператар скоса глянуў на іх.

— Хто такія? — не абарочваючыся, спытаў цар.

— Пра каго маеце ласку пытаць, ваша вялікасць? — падскочыў Гейдэн.

Контр-адмірал Мацюшкін, што знаходзіўся поблізу, сказаў:

— Калежскія асэсары Гашкевіч і Ганчароў, ваша вялікасць, Драгаман[1] і сакратар віцэ-адмірала Пуцяціна.

— За якія стараннасці па службе яны прызначаны ў гэты ваяж?

Граф Гейдэн ступіў за спіну цара. На твары дзяжурнага генерала можна было прачытаць: «Вы ўсёзнайка, вашэць Фёдар Фёдаравіч, вось і адказвайце перад яго вялікасцю».

— Вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч асабіста даручыў мне камплектаваць «Паладу»,— спакойна сказаў контр-адмірал. — Інспектарскі дэпартамент, ваша вялікасць, мае станоўчыя атэстацыі на гэтых чыноўнікаў.

— Я дакладваў вашай вялікасці...— хацеў дадаць вялікі князь, але імператар ужо павярнуў галаву ў бок шэфа жандараў Арлова.

— Яны не з тых?..

— Не, ваша вялікасць,— зразумеў намёк свайго валадара Арлоў,— у гуртку дзяржаўнага злачынца Петрашэўскага гэтыя спадары не былі.

Цар спусціўся па трапе і ступіў на катар. Аркестр зайграў гімн «Коль славен наш Господь в Сионе...». Уся імператарская світа ў бляску залатых эпалетаў, крыжоў і блакітных муаравых стужак паспяшалася ўслед за манархам. Агляд закончыўся.

Раздалася каманда флаг-афіцэра:

— Вёслы на ваду!

Заграбныя матросы зрабілі два рыўкі, і катар адплыў ад борта «Палады».

Рэдкі госць адышоў. Як трапна сказаў Герцэн з іншай нагоды, адышоў «у акружэнні пасрэднасцей... балтыйскіх немцаў і дзікіх кансерватараў... падазроны, халодны, упарты, бязлітасны, пазбаўлены вялікасці душы,— такая самая пасрэднасць, як і тыя, што яго акружалі».

Імператарскі катар аддаліўся на даволі вялікую адлегласць. Высокая і сутулая фігура цара ўжо не маячыла перад вачыма. Каманда «Палады» бачыла валадара Расіі апошні раз.

Ганчароў нахіліўся над вухам Гашкевіча і ледзь чутна прашаптаў:

— Дзіўнае, аднак, пачуццё апанавала мяне, калі гасудар паглядзеў на нас. Вось, думаю, і закончылася наша непачатае кругасветнае плаванне.

---

[1] Драгаман — перакладчык пры дыпламатычнай місіі або консульстве (звычайна ў краінах Усходу). Драгаманы ў той час з-за недастатковага ведання мясцовых моваў начальнікамі місій адыгрывалі значную ролю ў дыпламатычнай службе і выконвалі важныя палітычныя даручэнні. *(Тут і далей заўвагі аўтара.)*

Іосіф Антонавіч[1] выцер хустачкаю ўспацелы ад хвалявання твар, сказаў:

— Баязлівасці нам не пазычаць. Драбяза наш брат чыноўнік. Навекі, да страшнага суда мы аддзелены ад саноўных асобаў непраходным бяздоннем.

— Хутчэй, хутчэй бы ў дарогу! — прамовіў Ганчароў.

Размова пра «дзяржаўнага злачынца Петрашэўскага» не была выпадковай. Ганчароў добра ведаў пра справу «петрашэўцаў», сярод якіх быў, як вядома, Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі. Відаць, для шэфа жандараў не з'ўляліся таямніцаю знаёмства і кантакты двух літаратараў. Іншае пытанне — ці наведваў Ганчароў вядомыя «пятніцы Петрашэўскага»? Арлоў гэтага не ведаў.

Забягаючы наперад, скажу: восенню 1854 года, калі Ганчароў пакіне «Паладу», у яго адбудзецца прыватная гутарка з генерал-губернатарам Усходняй Сібіры М. М. Мураўёвым-Амурскім. Прагульваючыся па палубе шхуны «Усход», разгаварыліся пра «дзяржаўных злачынцаў», высланых у Сібір, і ў прыватнасці пра Міхаіла Васілевіча Петрашэўскага. Ганчароў спытаў у Мураўёва, дзе ён цяпер знаходзіцца і ў сваю чаргу прызнаўся, што «мімаходам» бачыў недзе Петрашэўскага. Магчыма, Ганчароў казаў праўду, а можа, з асцярожнасці ўжыў выраз «мімаходам», каб не падумалі, быццам ён быў звязаны з гуртком «петрашэўцаў». Як бы там ні было, а літаратару, які заўсёды вылучаўся памяркоўнасцю палітычных поглядаў, стала неяк нядобра ў час праяўленай цікавасці гасудара імператара: «Яны не з тых?..»

І Ганчароў зноў паўтарыў задуменна:

— Хутчэй, хутчэй бы ў дарогу!

## II

Апоўдні 7 кастрычніка 1852 года фрэгат «Палада» зняўся з якара. Параход «Адважны» адбуксіраваў яго за востраў Сескер, што амаль за сорак міляў ад Кранштата, і кінуў канат. Суднавыя барометры прадракалі штармавое надвор'е. Афіцэры сабраліся ў каюткампаніі, вялі нудныя размовы пра сваё жыццё-быццё і саграваліся чаем з ромам.

Ганчарову і Гашкевічу спачатку здавалася, што на фрэгаце яны будуць адзінокія. Не адразу змогуць увайсці ў таварыскія адносіны з афіцэрамі, бо іх намеры і жыццёвыя мэты далёкія ад імкненняў

[1] Імя Гашкевіча — Іосіф, але сябры, у тым ліку і І. А. Ганчароў, называлі яго па-простанароднаму — Восіпам.

вайсковых людзей, якія прысвяцілі сваё жыццё мору. У Івана Аляксандравіча былі свае погляды на сяброўства, ён лічыў, што «дружба ўе гняздо не ў нервах, не ў крыві, а ў галаве, у свядомасці». Гашкевіч паводле характару быў мяккім чалавекам. Мог бы прагна цягнуцца да людзей — яму хацелася сапраўды прыяцельскіх адносін,— але яго заўсёды бянтэжыла думка аб няроўнасці паміж чалавекам простага паходжання і дваранінам, спадчыннікам або ўладальнікам багатага маёнтка. Палохалі яго і з'едлівы здзек, пад'юджванне, на якія такімі шчодрымі былі марскія афіцэры. Як паводзіць сябе ў новых і незвычайных абставінах? Добра, што побач ёсць Ганчароў — роўны з ім па рангу. Ён смялейшы і многім вядомы сваім раманам «Звычайная гісторыя».

«Я зараз адчуваю сябе, як папяровы караблік,— раздумваў Іосіф Антонавіч,— гатовы наскочыць на адзін з тысячы рыфаў і пацярпець крушэнне». Душэўныя пакуты новаспечанага «марака» былі дарэмныя. Гашкевіч не здагадваўся, што афіцэры стараліся прыстасавацца да яго, самі шукалі знаёмства, бачылі ў ім дыпламата, які прынясе экспедыцыі пэўны поспех у перагаворах з японцамі.

## III

Фрэгат «Палада» не мог пахваліцца сваёй маладосцю, але па-ранейшаму лічыўся прыгажуном рускага флоту. Амаль дваццаць гадоў ён баразніў воды розных мораў. З дня закладкі судна на Охценскай верфі ў 1832 годзе яго камандзірам, які потым вывеў фрэгат у мора, быў Павел Сцяпанавіч Нахімаў — пасля праслаўлены марак і флатаводзец. Некаторыя дакументы сведчаць, што Аляксандр Сяргеевіч Пушкін з жонкаю і сваячкаю ездзілі на Охту, калі спускалі «Паладу».

З цяжкасцю прамінуўшы пагібельныя і негасцінныя для мараплаўцаў мясціны — астравы Готланд і Борнхальм, каманда фрэгата страціла чатырох матросаў. Трое памерлі ад халеры, адзін сарваўся з рэі і загінуў у бурных хвалях Балтыкі.

Пакуль «Палада» трымае курс да берагоў Брытаніі, ёсць патрэба коратка расказаць пра некаторых афіцэраў фрэгата.

Пачнём з самога Яўфімія Васілевіча Пуцяціна. Кіраўнік экспедыцыі адбыў у Англію на некалькі дзён раней, чым «Палада» адплыла з Кранштата. Ён меўся ў Брысталі набыць вінтавую металічную шхуну, названую пасля «Усход», якая павінна была ўвайсці ў склад экспедыцыі як дапаможнае судна. Пра Пуцяціна гаварылі featрознае. Некаторыя сучаснікі ўважалі яго рэакцыянерам і ханжой, напаўанглічанінам паводле сваіх густаў і сімпатый і, нарэшце, скнараю. Сярод маракоў ён лічыўся манахам. Хадзілі чуткі, быццам

у маладосці, пакутуючы ад цяжкай хваробы, Пуцяцін даў абяцанне — калі стане здаровым, дык абавязкова пойдзе ў манастыр. Аднак збаяўся, не адрокся ад свету — гэта яго мучыла і прыгнятала. А як быць у такім выпадку? Трэба маліцца. І адмірал маліўся. Удзень і ўночы. І патрабаваў ад падначаленых захоўваць статут і царкоўныя парадкі. Любімым яго чытаннем былі «Жыціі святых». У адным з данясенняў Пуцяцін пісаў: «З часу адплыцця фрэгата з Англіі не праходзіла ні аднаго нядзельнага, ні святочнага дня без адпраўлення набожнай літургіі; частка каманды фрэгата і ўсе чыны шхуны адгавелі ў першыя тыдні посту, а астатнія выканаюць свой абавязак па адбыцці нашым адсюль. Нельга дастаткова дзякаваць Богу за гэтае духоўнае суцяшэнне, якога мы былі б пазбаўлены, калі б не было ўведзена паходных цэркваў[1] на флоце».

І. А. Ганчароў амаль поўнасцю абышоў увагаю Пуцяціна ў «Фрэгаце «Палада», не даў яму ніякай характарыстыкі (відаць, не жадаючы псаваць з начальствам службовых адносін).

Пуцяцін атрымаў адукацыю ў Марскім кадэцкім корпусе, з якога выйшаў у 1822 годзе ў чыне мічмана. У тым жа годзе быў прызначаны ў кругасветнае плаванне на фрэгаце «Крэйсер» пад камандаваннем вядомага капітана Міхаіла Пятровіча Лазарава. Пуцяцін належаў да ліку маракоў «Лазараўскай школы», якія заўсёды вылучаліся веданнем марской справы, рашучасцю ў дзеяннях і знаходлівасцю ў хвіліну небяспекі.

Кругасветнае плаванне доўжылася каля пяці гадоў. Вярнуўшыся, будучы адмірал удзельнічаў на лінейным караблі «Азоў» у Наварынскай бітве (1827), за што атрымаў ордэн Уладзіміра 4-ай ступені. У 1830 годзе за здзейсненыя 18 кампаній узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 4-ай ступені і ўзведзены ў капітан-лейтэнанты, прызначаны камандзірам карвета «Іфігенія» для плавання па Міжземным і Чорным морах.

У ім як бы жылі дзве асобы: марак, разумны і настойлівы баявы афіцэр і няўжыўчывы, дробязны чалавек. Як бы там ні было, а трэба аддаць належнае кіраўніку экспедыцыі хаця б за тое, што ён падабраў выдатны афіцэрскі састаў.

Камандзіра «Палады» капітан-лейтэнанта Ункоўскага — ідэаліста, энергічнага, да самазабыцця адданага справе, які жыў розумам і нервамі,— Яўфімій Васілевіч знаў яшчэ кадэтам і сачыў за яго прасоўваннем па службе. Той таксама быў вучнем адмірала М. П. Лазарава. Да крыўднага скупа напісаў Ганчароў пра Івана

[1] Першая такая царква была наладжана ў 1851 годзе на фрэгаце «Палада».

Сямёнавіча Ункоўскага. Прычына, відаць, тая самая, хоць апошні вельмі сімпатызаваў пісьменніку.

Старшы афіцэр«Палады» лейтэнант Бутакоў уваходзіў у чацвёрку, якая амаль штовечар збіралася ў каюце капітана Ункоўскага і заседжвалася да глыбокай ночы. У кампанію акрамя капітана фрэгата, Бутакова і Ганчарова ўваходзіў Канстанцін Мікалаевіч Пасьет.

У лісце Ганчарова да пецярбургскіх знаёмых Языковых пра Бутакова сказана: «Ён увесь век служыў у Чорным моры — і не дарма: ён выдатны марак. Пры бяздзеянні ён апатычны або любіць прыткнуцца куды-небудзь у куточак і паспаць; але ў буру і наогул у крытычную хвіліну — увесь агонь... Ён другая асоба на фрэгаце, і ледзь толькі патрэбна распарадчасць, хуткасць ці лопне штонебудзь, ці сарвецца з месца, ці хлыне вада патокамі ў карабель — голас яго чуваць над усімі і паўсюль, а хуткасць яго кемнасці і распарадчасці здзіўляючая». З першых дзён «марской службы» на фрэгаце Іосіфа Антонавіча Гашкевіча звязваў з Іванам Іванавічам Бутаковым узаемны давер.

Прыкметнаю асобаю на фрэгаце быў Воін Андрэевіч Рымскі-Корсакаў. Пасля прыбыцця ў Англію гэтага вельмі адукаванага марака з вялікім вопытам прызначаць камандзірам паравой шхуны «Усход». Праз год яму давядзецца займацца даследаваннем мораў Далёкага Усходу і плаваць там амаль без картаў і лоцыяў. Шхуна «Усход» стане першым марскім суднам, якое пройдзе ліман Амура. Славуты мараплавец Генадзь Іванавіч Невяльской высока ацэніць высілкі Рымскага-Корсакава па асваенні Амура і Татарскага праліва. У «Агульным марскім спісе» пра яго будзе сказана: «В. А. Рымскі-Корсакаў належаў да ліку тых асоб, якія аднолькава былі на месцы як на ваенна-марскім, так і на педагагічным полі дзейнасці. Марак не толькі паводле прафесіі, але і ў душы, ён з самых маладых гадоў меў мажлівасць цераз працяглыя далёкія плаванні і знаёмствы з замежнымі флотамі, асабліва з англійскім, засвоіць сабе правільны погляд на марскую службу... Воін Андрэевіч заслужана карыстаўся на флоце славай выдатнага марака і хвацкага камандзіра».

У адмірала Пуцяціна быў верны памочнік, даверанaя асоба — Канстанцін Мікалаевіч Пасьет. Гэта пра яго гаварылася ў дакуменце Міністэрства замежных спраў: «Генерал-ад'ютант Пуцяцін, акрамя таго, будзе мець у ліку афіцэраў гэтай экспедыцыі аднаго, які навучаўся галандскай мове...» Капітан-лейтэнант Пасьет сваімі асабістымі якасцямі, адукаванасцю, веданнем марской справы пераўзыходзіў шмат каго з афіцэраў «Палады». Пазней ён стане аўта-

рам многіх прац па марской справе, атрымае адміральскі чын, яго імем будуць названы пасёлак і бухта ў Ціхім акіяне. У нейкі час нават зойме пост міністра шляхоў зносін, але пасля зразумее, што ён усё-такі мараплавец, а не чыгуначнік і пойдзе ў адстаўку.

Сярод маракоў фрэгата вылучалася фігура «дзеда» — галоўнага штурманскага афіцэра, штабс-капітана Аляксандра Антонавіча Халезава, чалавека незвычайных душэўных якасцей, агульнага любімца экіпажа, вясёлага, спагадлівага, дабрадушна-бурклівага «марскога ваўка». Плаванне на «Паладзе» было яго пятым кругасветным падарожжам. Не кожнага афіцэра на флоце маглі ў твар называць па мянушцы, а «дзед» для ўсіх заставаўся «дзедам». З трынаццаці гадоў ён плаваў па морах і акіянах і вельмі рэдка знаходзіўся на беразе. Матросы і афіцэры любілі Аляксандра Антонавіча за марацкія якасці, за дабрыню і сумленнасць. Шторм, спёка або сцюдзёны вецер — яму ўсё хоць бы што. І апавядальнікам ён лічыўся выдатным. А такія людзі, як вядома, у далёкіх плаваннях заўсёды ў цане. Добрым памочнікам Халезаву ў штурманскай прафесіі быў паручнік Леў Папоў.

Іван Белавенец, Міканор Савіч, Аляксандр Болцін, Пётр Ціхмянёў, Аляксандр Калакольцаў, Канстанцін Лосеў — розныя характары, розныя людзі. Але ва ўсіх былі душы рамантыкаў. Усе яны прысвяцілі сваё жыццё мору і знаді сваю справу дасканала. Пра кожнага з іх драгаман Гашкевіч мог сказаць: «Гэта мой таварыш».

Сярод маладых афіцэраў — даўней на флоце іх называлі «фендрыкамі» — не было ні лянівых, ні фанабэрыстых. Службу неслі спраўна, паказвалі прыклад прыхільнасці да матросаў — учарашніх сялянскіх хлопцаў. Відаць, гэта таму, што некаторыя выбіліся ў карабельныя афіцэры з матросаў. Гаспадарнік па шкіперскай частцы Якаў Істомін, як успамінаў гардэмарын Ліндэн, не раз казаў: «А колькі па маёй спіне гуляла лінькоў і палак, вось яны і адгукаюцца». Урэшце хвароба зламала Якава Істоміна, ён памёр у час гэтага плавання.

Гардэмарынам адразу пасля заканчэння марскога корпуса прыбыў на «Паладу» Аляксей Пешчураў. Ён лічыўся цікаўным і начытаным юнаком. Выдатна ведаў англійскую, вывучаў галандскую мову. Гэта было да душы начальніку экспедыцыі, які свабодна гаварыў на англійскай. Але мала хто ведаў, не выключаючы і самога Аляксея, што за год да нараджэння будучага гардэмарына бацьку яго — А. М. Пешчураву — быў дадзены найвысачэйшы загад весці нагляд за ссыльным паэтам Аляксандрам Пушкіным. У кастрычніку 1824 года паэт пісаў з сяла Міхайлаўскага свайму старэйшаму

сябру В. А. Жукоўскаму: «Пешчураў, прызначаны за мною сачыць, меў бессаромнасць прапанаваць бацьку майму пасаду распячатваць маю перапіску, карацей — быць шпіёнам...»

У 1867 годзе Аляксею Пешчураву — не гардэмарыну, а ўжо контр-адміралу — будзе даручана незайздросная і ганебная місія перадаць Злучаным Штатам Рускую Амерыку[1], за бесцань прададзеную царскім урадам. Як камісар і асабісты даручэнец Аляксандра II Пешчураў эвакуіруе з Аляскі ўсіх рускіх падданых.

Былі на «Паладзе» людзі, якія фарсілі сваімі арыстакратычнымі замашкамі. Матросы і частка афіцэраў не любілі іх за эгаізм, за франдзёрства, за франтаўство. У аднаго з такіх — барона Крыднера, ад'ютанта вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча, напэўна была «рука» ў Пецярбургу. Пра гэта ўголас гаварылі ў кают-кампаніі. Незалежныя паводзіны барона часам раздражнялі і Пуцяціна. Адмірал чакаў зручнага выпадку, каб адправіць «прыдворнага сусліка» любой аказіяй у Расію. На вялікі жаль многіх, такога выпадку не надарылася. Крыднер адплаваў на «Паладзе» ўсю кампанію і быў пасланы ў Пецярбург кур'ерам толькі ў жніўні 1854 года.

Другі афіцэр — мічман Зялёны — чымсьці нагадваў самога Пуцяціна ў маладыя гады. Быццам бы дабрадушны, праставаты, любіў распяваць народныя песні: «Сени новые, кленовые», «Зачем, зачем обворожила, коль я душе твоей не мил». І ў той жа час яго характару была ўласціва шалапутнасць, што межавала з самадурствам. Праз некалькі гадоў славуты цыркавы комік Анатоль Дураў дасціпна высмее віцэ-адмірала П. А. Зялёнага — адэскага граданачальніка.

Многія пералічаныя афіцэры «Паллады», за выключэннем тых, хто пасля заканчэння плавання звольніцца са службы, пазней стануць адміраламі і генераламі. А некаторыя з адміралаў — сенатарамі, членамі Дзяржаўнага савета, міністрамі. Вядома, у іх будучай бліскучай кар'еры адыграюць ролю не толькі асабістыя якасці і здольнасці, але найперш, відаць, знатнае паходжанне і сувязі ў прыдворных колах. Адзін Іосіф Антонавіч не дасягне высокіх чыноў.

## IV

Шлях ад Кранштата да Портсмута аказаўся вельмі працяглым і цяжкім. Неспакойнае ў восеньскія месяцы Балтыйскае мора жорстка абышлося са старым фрэгатам: даволі моцна пацярпелі рангоўт, такелаж і ветразі, у днішчы судна паявілася цеча. Па Лондане прайшла чутка, што рускі фрэгат загінуў у праліве Зунд. Яна мела

[1] Так раней называлася Аляска. Яна была прададзена за 7 200 000 долараў.

пад сабой такія-сякія падставы: «Палада» наляцела на мель каля мыса Драга і магла б закончыць сваё плаванне, не выходзячы з Балтыйскага мора. З Капенгагена быў выкліканы буксірны параход, які дапамог зняцца з мелі. Капітан Ункоўскі ўзяў на борт лоцмана, і пасля, як толькі сціх шторм, шчасліва прамінулі Зунд.

Трэба было яшчэ прайсці два небяспечныя пралівы — Катэгат і Скагерак. На гэты раз «Паладзе» пашанцавала: падзьмуў папутны вецер, і праз суткі фрэгат ужо плыў па Паўночным моры. У Портсмут старшы штурман Халезаў разлічваў прыйсці на пачатку трэцяй дэкады кастрычніка, але падзьмуў супраціўны вецер, што часта бывае ў праліве Ла-Манш, і каля двух тыдняў давялося дрэйфаваць каля ўваходу ў Англійскі канал. Нарэшце 12 лістапада «Палада» ўвайшла на портсмуцкі рэйд. Фрэгат даў салют нацый. На грот-стэньзе затрапятаўся англійскі флаг. Флагманскі карабель «Экселента» даў салют у адказ. Загрымелі аркестры: брытанцы ігралі рускі гімн, расіяне — брытанскі. Стрэлы абменных салютаў прыцягнулі ўвагу каманд іншых караблёў. Матросы залазілі на рэі, віталі рускіх маракоў. «Палада» аддала якар.

Раніцай наступнага дня паявіўся адмірал Пуцяцін. Прыезд начальства ўнёс у жыццё фрэгата некаторыя перамены. Выслухаўшы даклад капітана Ункоўскага аб самаахвярных паводзінах экіпажа ў час штармавога плавання, генерал-ад'ютант расчуліўся і доўга быў надзвычай лагодны. Ён разумеў, якія важныя ў далёкім плаванні высокі маральны дух і добрая вывучка каманды. У першым цяжкім выпрабаванні, праз якое прайшлі маракі, Пуцяцін бачыў залог поспеху ўсёй далейшай экспедыцыі. Яго радавала, што ён не памыліўся ні ў афіцэрах, ні ў матросах. У гэты ж дзень адбылося прызначэнне камандзірам паравой шхуны «Усход» лейтэнанта Рымскага-Корсакава. Матросаў паступіла з «Палады» дваццаць восем чалавек.

Пасля абеду Пуцяцін, капітан Ункоўскі і старшы афіцэр Бутакоў пазнаёміліся з пашкоджаннямі фрэгата. Пры аглядзе высветлілася, што пацярпелі не толькі рангоўт і такелаж, але і многія мацаванні, бэлькі корпуса аказаліся гнілымі — іх трэба было замяняць. Адмірал нанёс візіт галоўнаму камандзіру порта адміралу Чарлзу Непіру[1], і з ім была дасягнута дамоўленасць аб рамонце фрэгата.

14 лістапада «Паладу» паставілі ў док, а экіпаж перавялі на лінейны карабель «Кемпердаўн», што быў калісьці ў эскадры Нельсана, а цяпер прызначаўся для часовага пражывання каманд суднаў,

[1] Чарлз Непір у Крымскую вайну 1854—1856 гадоў камандаваў англійскай эскадраю, што крэйсіравала ў Балтыйскім моры і блакіравала Кранштат.

якія рамантаваліся. Калежскіх асэсараў Ганчарова і Гашкевіча, архімандрыта Авакума і Канстанціна Пасьета размясцілі ў чатырохмеснай каюце. Кожную раніцу ў восем гадзін іх будзіў гарматны стрэл з фрэгата «Экселента». Рускія афіцэры праклінаді гэту традыцыю брытанскіх маракоў абвяшчаць карабельную дзянніцу грамавым стрэлам з гарматы, але ўсё ж жвава ўставалі і спяшаліся ў каюткампанію на снеданне. Пра свайго суседа па каюце Іосіфа Антонавіча Ганчароў пісаў: «...непарушна спакойны ў душы і з усімі заўсёды аднолькавы; ні ў што не ўмешваецца, ні вясёлы, ні сумны; ні ад чаго яму ні балюча, ні холадна; на ўсё згодны, што прапануюць іншыя; з усімі ласкавы да сяброўства, хоць няма ў яго сяброў, але і ворагаў няма. Куды яго ні павязі, яму ўсё роўна: ён усім задаволены, ні на што не скардзіцца. Пра ўсякую навіну даведваецца на дзень пазней за іншых: здаецца, для яго выдумалі слова «памяркоўны».

Праз два дні Іосіф Антонавіч, Іван Аляксандравіч, архімандрыт Авакум і Канстанцін Пасьет паехалі ў Лондан. Гашкевіч павінен быў пабываць у рускім пасольстве і ўручыць лісты міністра Несельродэ паслу Ф. І. Брунову. На некалькі гадзін ён расстаўся са сваімі спадарожнікамі.

У гэтыя дні Англія была ў жалобе. Лонданцы хавалі нацыянальнага героя, генерала Велінгтана, вядомага сваёй перамогаю над Напалеонам пры Ватэрлоа ў чэрвені 1815 года. Іосіф Гашкевіч назіраў за жалобным шэсцем з балкона пасольства, Канстанцін Пасьет — за некалькі шылінгаў з акна прыватнага дома. Архімандрыту Авакуму паслужыла пропускам адзенне святара. Ён ішоў за катафалкам да самага сабора Святога Паўла.

Размаўляючы пазней пра тую падзею са сваім карабельным сябрам, Гашкевіч заўважыў:

— У нашага імператара было правільнае прадчуванне, інакш ён грошы на вецер не пусціў бы.

— Вы гаворыце загадкамі, Восіп Антонавіч,— сказаў Ганчароў.

— Не, чаму ж. Чатыры гады назад, у 1848 годзе, у час наведання Лондана яго вялікасць зрабіў ахвяраванні на помнікі...

— Няўжо дзюку? — перабіў Іван Аляксандравіч.

— Так, спадар, яму — Артуру Велінгтану і... Нельсану.

Горды двухмільённы Лондан пахаваў свайго дзюка Велінгтана, і жыццё горада ўвайшло ў звычайную каляіну, хоць на ўсіх вуліцах яшчэ доўга віселі партрэты дзюка і дзеці жвава гандлявалі медальёнамі з выяваю профіля нацыянальнага героя.

Пакідаючы Англію, Іосіф Антонавіч адчуваў дваякае пачуццё: яму хацелася ўведаць бліжэй акіян, далёкія заморскія краіны, і ў

той самы час ён нудзіўся па родным краі. Цяпер у Беларусі ўжо зіма. Пуста і холадна. Неба зацягнута сівымі бясконцымі хмарамі. Пушысты снег тоўстым пластам лёг на стрэхі хат і гумен, шчыльнымі камякамі абляпіў сукі кустоў і дрэваў. Прайшлі Каляды. Заціхлі ігрышчы, варажба, хаджэнні пераапранутых і святочныя фэсты-гандлі. Бацька Гашкевіча — сельскі святар, паводле ўспамінаў Іосіфа Антонавіча, вельмі любіў такія святы. На Каляды маці варыла куццю, а бацька браў гаршчок і выходзіў на двор. Ён раскідваў куццю па ўсіх кутах і закутках, частуючы злых і добрых духаў. Пасля запрашаў Мароза ўвайсці ў хату, прасіў з'есці куццю, беручы з яго слова, што вясною не будзе губіць «жыта, пшаніцу і ўсякую пашніцу». Неўзабаве пачнецца свята Вадохрышча. Звычайна ў гэтыя дні мацнеюць маразы. На вокнах з'яўляюцца дзівосныя ўзоры. Сяло заціхае, усе адседжваюцца па сваіх хатах каля гарачых печак. Дым з каміноў падымаецца роўным слупом, і відаць яго здалёк. Добра было б пабываць цяпер дома! Ды, пэўна, не суджана. Падарожжа наперадзе доўгае і далёкае. Трэба набрацца цярпення. Акіян вялікі.

У Англіі адмірал Пуцяцін прыняў рашэнне ісці да мыса Горн, не заходзячы ў Рыа-дэ-Жанейра. Ён спадзяваўся такім чынам выйграць час і быць каля бурнага мыса раней, каб захапіць у студзені больш спакойныя цёплыя дні. А ў лютым меркавалі ўвайсці ў чылійскі порт Вальпараіса. Такі маршрут мог бы быць сапраўды рэальным, калі б фрэгат не прастаяў да пачатку студзеня новага года ў Портсмуце. Час ціхамірнага спакою пасатаў быў упушчаны. Каля мыса Горн пачалі лютаваць заходнія вятры. Вопытныя мараходы ведаюць: заходні вецер — уладар мораў. Не інтрыган і не падманшчык, ён залішне магутны для дробных каверзаў. Крушыць і змятае на сваім шляху ўсё, у ім няма літасці ні да белапарусных караблёў, ні да марскіх портаў, якія трапляюцца яму на шляху. Ён тыран. Паводле прапановы старшага штурмана Халезава, які двойчы пабываў каля мыса Горн, адчуў на асабістым вопыце пачым пуд ліха, начальнік экспедыцыі адмяніў сваё першапачатковае рашэнне. Цяпер шлях «Паллады» ляжаў да мыса Добрай Надзеі, а адтуль да Зондскіх астравоў, пасля — Філіпіны, Ганконг, Шанхай і нарэшце Японія. Адлегласць не маленькая. Ад Англійскага канала да мыса Добрай Надзеі — 11 400 кіламетраў.

Так, многіх людзей з душою рамантыкаў звабіў акіян сваімі прасторамі, нязведанымі таямніцамі! Так, у многіх ад шчасця кружылася галава, калі насуперак прамудраму грэку Пталемею мараходы агіналі Афрыку і ўжо не ў мроях, а наяве бачылі шлях у Ін-

дыю! Так, у жыцці чалавека заўсёды дзівосныя тыя імгненні, калі ён адкрывае для сябе новыя мацерыкі і краіны, каб расказаць пасля людзям пра свае выпрабаванні, пра тое, што давялося пабачыць, даведацца, перажыць.

# ДАРОГА ПАД ВЕТРАЗЯМІ

## I

Каму даводзілася бываць у доўгім плаванні, той ведае, што дні і месяцы марскога жыцця цякуць сваім звыклым парадкам. А на ваенным караблі — і тым больш. Статутны распарадак — ад пабудкі да адбою — выверавы па гадзінах і хвілінах. Вахта. Карабельныя работы. Вучэнні. Вольнага часу — кот наплакаў. Старшы афіцэр і боцманы заўсёды знойдуць матросам што рабіць.

Кожнае свята служылі на фрэгаце абедню. На сігнал вахтавага начальніка каманда сходзілася ў насавы кубрык, дзе была ўладкавана паходная царква з іканастасам, з алтаром, з падсвечнікамі. Адмірал не прамінаў ніводнай службы. Гледзячы на яго, стараліся і афіцэры. Бо ад атэстацыі начальніка экспедыцыі залежала іх далейшая кар'ера.

Пасля абедні матросам, як правіла, давалі чарку.

Назіраючы за жыццём каманды, Гашкевіч заўважыў:

— Што датычыцца шляху на неба, дык нашы людзі, відаць, яго ўжо вымалілі. Асталося, каб яго чорт узяў, зусім нямнога — па аднаму глытку шчасця на брата.

Ганчароў насцярожана спытаў:

— Вы лічыце, што ўсё можа быць інакш, чым цяпер?

— Я аддаў бы частку свайго жыцця, каб ведаць пра гэта наперад.

— Вы хочаце асвоіць цаліну часу і прасторы?

— Для гэтага чалавечы век кароткі. Чарлз Дарвін, кнігу якога я купіў у Лондане, дае тлумачэнне шмат чаму... Узяць зуб любой жывёлы і вызначыць яго сувязі з іншымі суродзічамі, як думаюць некаторыя вучоныя,— бязглуздзіца.

Не, сцвярджае Дарвін. Паводле яго тэорыі гэта акалічнасць можа быць вытлумачана, у той час як паводле іншай тэорыі яна з'яўляецца праяваю волі Бога. Нашы слабасці ўжо нам не шкодзяць, калі мы з імі расстаемся.

Ганчароў і Гашкевіч не спускаліся з верхняй палубы. Яны праходжваліся па юту, зрэдку падыходзілі да борта і моўчкі назіралі за акіянам. Надвор'е часта мянялася: вецер то заціхаў лётаючы над

блакітам хваляў, то пераходзіў у рэдкія парывы, збіваючы белую пену з высокіх грабянёў.

Гамонка дыпламата і пісьменніка цягнулася доўга. У кожнага мелася што ўспомніць: былі засмучэнні, былі і радасці. Непрыкметна для самога сябе Гашкевіч пачаў расказваць пра сваё жыццё.

## II

Дзяцінства Іосіф Антонавіч правёў у Якімавай Слабадзе Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Калі глянуць на карту, дык гэта вёска размясцілася на рацэ Бярэзіне, а крыху ніжэй, ужо на Дняпры, знаходзіўся павятовы гарадок Рэчыца, дзе жылі сваякі Гашкевіча[1]. Вучыўся Іосіф дома. У прыходскай школе адзіным настаўнікам быў яго бацька — святар Антон. У дванаццаць гадоў хлопчыка ўслед за старэйшым братам Іванам аддалі ў Мінскую духоўную семінарыю. У адрозненне ад брата Іосіф захапляўся не толькі духоўнымі кнігамі, з прагнасцю накідваўся ён і на свецкія. Чытаў без разбору ўсё, што трапляла пад руку. Блытаніна была поўная.

У кнігах Карамзіна, Дзяржавіна, Пушкіна людзі, прырода і свет паўставалі незвычайна ўзвышанымі і высакароднымі. Колькі бяссонных начэй правёў Іосіф над «Каўказскім палоннікам» і «Цыганамі»! Ён праз шмат гадоў памятаў многія ўрыўкі з іх, і чароўная мова пушкінскай паэзіі развярэджвала душу.

...Зіма ў канцы 1825 года выпала завірушная. Снегу было многа, на праезнай дарозе — коням да трыбуха. Старыя людзі бачылі ў гэтым добрую прыкмету. «На ўраджай»,— гаварылі яны.

---

[1]На гэта паказваюць дакументы, якія вядомы аўтару. 13 красавіка 1851 года, упершыню за доўгія гады адлучкі ад родных мясцін (вучоба ў Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, дзесяцігадовае прабыванне ў Кітаі), І. А. Гашкевіч атрымаў адпачынак. Яму была выдадзена падарожная — адкрыты ліст на атрыманне паштовых коней, які сведчыў, што калежскі асэсар І. А. Гашкевіч «накіроўваецца ў Мінскую губерню праз г. Рагачоў на станцыю Якімаўскую».

Збярогся яшчэ дакумент, напісаны самім Іосіфам Антонавічам. У ім ён просіць дырэктара Азіяцкага дэпартамента МЗС: «З-за хатніх абставін не магу з'явіцца ў дэпартамент у прызначаны тэрмін, а таму прашу даць мне адтэрміноўку на 29 дзён і прысласць пасведчанне праз г. Рагачоў на станцыю Якімаўскую». Прашэнне датавана 5 мая 1851 года.

І трэці дакумент. Гэта ліст у Азіяцкі дэпартамент Каржанеўскага благачыннага протаіерэя Адама Фірыновіча, які расшукваў свайго сваяка І. А. Гашкевіча, назваўшы адрас, па якім яму трэба адказваць: Мінская губерня, Рэчыцкі павет, с. Ліпаў. Як бачым, усе гэтыя мясціны — малая Бацькаўшчына І. А. Гашкевіча.

У прастольнае свята, якое супала з днём Святога Аляксандра Неўскага, 6 снежня, зранку пpацяжна і сумна загулі званы над сялом. Не святочную літургію давялося служыць Антону Гашкевічу, а паніхіду. У Таганрогу раптоўна аддаў богу душу імператар Аляксандр І. Ад сваёй жонкі Лізаветы Аляксееўны цар дзяцей не меў, таму прыхаджане Узвіжанскай царквы давалі прысягу новаму ўсяе Русі гасудару Канстанціну Паўлавічу.

Не прайшло і тыдня, як айцец Антон казаў сялянам зноў цалаваць крыж. Імператарскі вянец прыняў малодшы брат Аляксандра — Мікалай Паўлавіч.

Зімой у госці да Гашкевічаў прыехаў сваяк — протаіерэй Адам Фірыновіч і, зачыніўшы добра дзверы, пад вялікім сакрэтам расказаў бацьку пра бунт на Сенацкай плошчы.

...З разгорнутымі сцягамі, з барабанным пошчакам выходзілі на плошчу палкі імператарскай гвардыі і выстройваліся ў карэ. У шырокі праём сенацкай аркі, быццам у горную расколіну, урывалася снежная віхура, яна гуляла на плошчы, насілася па кругу ад Адміралцейства да Ісакіеўскага сабора, прычыняючы клопаты салдатам і афіцэрам, колка апякаючы твары снежнаю крупою. Генерал Міларадавіч, гарцуючы на вараным кані, сарваным голасам заклікаў мяцежных гвардзейцаў да падпарадкавання. Рэхам пракаціўся над плошчаю стрэл, і генерал замоўк. Назаўсёды. Стрэл аказаўся пагібельным. Царская світа і мітрапаліт засяшаліся схавацца ў Зімнім. Пад вечар з Петрапаўлаўскай крэпасці грымнулі стрэлы, засвістала карцеч. З рускіх гармат стралялі ў рускіх, у герояў Айчыннай вайны 1812 года. Сенацкая плошча абмылася крывёю. Бунт быў жорстка задушаны. А распачалі гэту «антыхрыставу справу» афіцэры дваранскага саслоўя. З-пад Кіева, дзе таксама было выступленне, у Бабруйскую крэпасць прыгнаныя этапам першыя арыштанты з паноў афіцэраў і хутка будуць аддадзены пад суд.

Вось якую гісторыю пачулі ў доме Гашкевічаў ад благачыннага.

Не адразу стане ўсё зразумела Іосіфу. Чаму за святую нянавісць да рабства новы цар пазбавіць жыцця пяцёх дзекабрыстаў? Чаму адны павінны быць павешаны на кронверку Петрапаўлаўскай крэпасці, а другія сасланы ў сібірскія руднікі? Роздум і пытанні. Пытанні і роздум. Яны яшчэ доўга не будуць даваць спакою маладому чалавеку...

Гашкевіч і Ганчароў гаварылі доўга, пакуль над акіянам гусцела сутонне.

— Іосіф Антонавіч,— сказаў Іван Аляксандравіч.— Вы надоечы выказалі шкадаванне, што па іроніі лёсу не сталі вучоным — лінгві-

стам або натуралістам, а пайшлі ў духоўную акадэмію. Не адмоўце ў даверы: што вам перашкодзіла?

Гашкевіч адказаў не адразу. Ён доўга глядзеў на хвалі, на гульню апошніх сонечных промняў, што адыходзілі разам з ружовым захадам недзе за гарызонт.

— Хлапчуком я любіў самотнае жыццё,— няспешна пачаў свой аповяд Гашкевіч.— На людзях не паказваўся. А калі вёў гаворку, дык, бадай, сам з сабою або — калі забіраўся на званіцу — з галубамі... А так — больш маўчаў. Бацька мой моцна гневаўся на мяне: «Паразі мяне вогненнай стралою, Ілля Прарок,— крычаў ён,— калі маё чада не стане вядомым на ўсю епархію званаром!» У наш дом зрэдку наязджаў стары сябар бацькі протаіерэй Іаан Грыгаровіч, чалавек вясёлы, дабрадушны, а які апавядальнік!.. Увогуле, такой душы чалавека, як айцец Іаан, відаць, цяжка адшукаць.— Іосіф Антонавіч памаўчаў.— І дзіўная рэч! Ён на мяне паўплываў. Разбудзіў маю ляноту да духоўнай кар'еры, вучыў розуму, указваў, з каго трэба браць прыклад. Часцяком даваў мне чытаць урыўкі з сваіх твораў... Вось ён і вызначыў мой шлях.

Пісьменнік імкнуўся зразумець, якія ідэі кіравалі субяседнікам, калі той «грыз граніт навукі» ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Калі б Ганчароў спытаў, то Гашкевіч, пэўна, адказаў бы, што ў час вучобы больш за ўсё ён налягаў на мовы. Навошта, для чаго? Вытлумачыць не мог бы. Можа, проста падабалася.

Як доказ я прывяду выпіскі з публічных іспытаў «у прысутнасці ўсіх чыноўнікаў Акадэміі і знатнейшых асоб». Трэба думаць, пад словамі «знатнейшых асоб» — прадстаўнікі саноўнага Пецярбурга, гэта значыць вялікасвецкая знаць.

Такім чынам:

«Іосіф Гашкевіч — па класе грэчаскай мовы — поспехаў вельмі добрых»;

«Іосіф Гашкевіч — нямецкая, французская, англійская — даволі добрых поспехаў»;

«Іосіф Гашкевіч — сачыненні на рускай і лацінскай мовах — вельмі добрыя»;

«Іосіф Гашкевіч — яўрэйская мова — выдатных поспехаў».

Веданне замежных моў, відаць, і вызначыла далейшы лёс студэнта вышэйшага аддзялення духоўнай акадэміі Іосіфа Гашкевіча. Думаецца, нехта са «знатнейшых асоб» заўважыў здольнага маладога чалавека. Навошта студэнту-выпускніку прымаць манаскі пострыг, калі яго моцныя веды можна выкарыстаць і па іншым ведамстве? Напрыклад, у Міністэрстве замежных спраў. А для пачатку па-

слаць на стажыроўку — у Пекінскую духоўную місію на дзесяць гадоў. Глядзіш, да шасці замежных моў прыбавяцца яшчэ кітайская, маньчжурская, мангольская... І беларускі юнак ахвяраваў краіне ўсё самае каштоўнае, што ў яго было,— розум, веды, толькі б умаліць Стваральніка даравань, бо ён не па сваёй волі не прыняў сан святара.

Пасля доўгай паўзы Ганчароў сказаў:

— Ніколі не думаў, што духоўная акадэмія можа папаўняць ведамства графа Несельродэ.

— Я бачу, вы невысокай думкі пра акадэмію? Для мяне яна, што для вас — універсітэт. Сыдзіцеся бліжэй з архімандрытам Авакумам — пераканаецеся, які ён дыпламат.

— Дарэчы, Іосіф Антонавіч, вы разам служылі ў Кітаі?

— Не давялося. Айцец Авакум быў кіраўніком місіі на цэлы тэрмін раней за нашую.

— Вялікі тэрмін?

— Дзесяць гадоў.

— На алтар Айчыны, у імя праваслаўя столькі гадоў жыцця аддаць, гэта, бацenька мой, велізарная ахвяра,— сказаў Ганчароў.

— Калі вы не жартуеце, то я дзякую вам за разуменне нашай сціплае працы.

Стала халаднавата. Іосіф Антонавіч накінуў на галаву капюшон і працягваў апавядаць.

Незадоўга да паступлення ў Расійскую духоўную місію, што накіроўвалася ў Кітай, Гашкевіч займаўся падрыхтоўкай да выдання першага перакладу старазапаветных кніг протаіерэя Паўскага з яўрэйскай мовы на рускую. Разам з таварышам па курсу Захаравым ён адбіраў і рэдагаваў лепшыя спісы перакладу, што захоўваліся ў рукапісах у студэнтаў акадэміі на працягу многіх гадоў і пераходзілі па спадчыне з курса на курс. Як толькі Біблія была гатова да друку, Іосіф Антонавіч дамовіўся з літографам, і неўзабаве яна пабачыла свет. У адрозненне ад другога і трэцяга выданняў на кнізе стаіць прозвішча Гашкевіча і год выпуску літаграфскім спосабам — 1839-ы.

У Кітай Гашкевіч адправіўся 28 снежня 1839 года. Гэта было першае сухапутнае падарожжа маладога вучонага-багаслова. Шлях духоўнай місіі ляжаў праз усю Расію. Санкт-Пецярбург — Масква — Уладзімір — Мурам — Ніжні Ноўгарад — Чэбаксары — Казань — Пермь — Екацярынбург — Цюмень — Табольск — Омск — Калывань — Томск — Ачынск — Краснаярск — Канск — Ніжнеудзінск — Іркутск — цераз Байкал — Селянгінск — Кяхта. Тут пачынаўся славуты Кяхцінскі караванны маршрут у Пекін, або

«Чайная дарога», як яшчэ называлі сучаснікі гэты руска-кітайскі гандлёвы шлях. Знаходзячыся ў Пекіне, Гашкевіч вывучаў мову, старажытную гісторыю Кітая, літаратуру, мастацтва, філасофію, помнікі архітэктуры. Яму цяжка было адразу «ачысціцца» ад рэлігійна-схаластычных догмаў, ён чытаў Канфуцыя, думаючы пры гэтым, што адкрывае для сябе больш гібкую філасофію. Але ж не, Канфуцый быў прапаведнікам таксама рэлігійна-філасофскай школы, праўда, асаблівай, сваёй. Прынцып канфуцыянства — традыцыя. Пасля, будучы ў Японіі, Гашкевіч разбярэцца што да чаго і зразумее: японскае вучэнне бусідо таксама бярэ свае вытокі ад канфуцыянства. Іосіфа Антонавіча не задаволіць класавая сутнасць кітайскіх рабаўласнікаў, якія былі ўдзячныя Канфуцыю за тое, што ён сцвярджаў права на высакароднасць «блакітнай крыві» найвышэйшых саноўнікаў. З пункту гледжання Канфуцыя: «Цёмныя людзі павінны падпарадкоўвацца арыстакратам і мудрацам», «Калі цёмныя людзі перастануць падпарадкоўвацца вышэйшым і адукаваным, дык у краіне не будзе міру».

У Кітаі Іосіфу Антонавічу было даручана адказнае заданне — усяляк спрыяць пашырэнню руска-кітайскіх сувязяў. У 1840-я гады ў Пекінскай місіі з'явіўся Мікалай Іванавіч Любімаў. Пасада яго называлася «прыстаў для суправаджэння місіі». Приставамі прызначаліся чыноўнікі МЗС, якія ўжо мелі пэўны вопыт дыпламатычнай службы, або вайскоўцы ў чыне падпалкоўніка ці палкоўніка (гэта штосьці накшталт ваеннага аташэ). Якраз тады яны з Гашкевічам і пазнаёміліся. У Любімава была інструкцыя, дзе гаварылася: «...Адным з галоўных відаў у адносінах з Кітаем ёсць свабоднае плаванне па Амуры, дык ці можна міралюбным чынам пры дапамозе перагавораў дасягнуць гэтай мэты? Як кітайцы глядзяць на мясціны, што дасюль застаюцца неразмежаванымі (прастора паміж ракою Удзьдзю і Амурам і ўся заходняя граніца Кітая)? Ці можна, выкарыстаўшы гэта і інш. абставіны, прымусіць міралюбным чынам кітайцаў схіліць на нашы патрабаванні, не супраціўныя іх інтарэсам?».

Іосіф Антонавіч пабываў на Амуры, пазнаёміўся з сёламі, у якіх жылі рускія казакі. Там ён займаўся і астранамічнымі назіраннямі.

Чаму ў Пецярбургу былі занепакоены, як складуцца расійска-кітайскія адносіны ў Прыамур'і? У час прабывання духоўнай місіі ў Кітаі адбыліся падзеі, якія крута змянілі яго гістарычнае развіццё. Паражэнне Цынскай імперыі ў першай «опіумнай» вайне (1840—1842) і падпісанне няраўнапраўнага Нанкінскага дагавора з Англіяй, а таксама дадатковага Хумэньскага пагаднення пацягнулі за сабою

цэлую серыю падобных дагавораў Кітая з іншымі дзяржавамі. Гэта азначала крах ізаляцыянісцкай знешняй палітыкі Цынаў і вымушанае адкрыццё краіны для замежнага капіталу. Больш за тое, англічане маглі перашкодзіць традыцыйнаму расійскаму гандлю з Кітаем. Пецярбург, вядома, не мог дапусціць, каб прывілеі былі аддадзены толькі Англіі, таму Міністэрства замежных спраў даручыла Пекінскай місіі інфармаваць яго пра гандлёвую сітуацыю ў Паднябёснай.

Архімандрыт Палікарп (Пётр Андрэевіч Тугарынаў), начальнік Пекінскай духоўнай місіі, рэгулярна дакладваў у Азіяцкі дэпартамент аб навуковых занятках яе членаў, і ў Пецярбургу, відаць, былі задаволены. Асабліва высока архімандрыт ацэньваў незвычайную працалюбівасць П. Кафарава, В. Горскага і І. Гашкевіча. Неадменнаму сакратару Імператарскай Санкт-Пецярбургскай Акадэміі навук сапраўднаму стацкаму саветніку П. Н. Фусу было паслана 17 сакавіка 1842 года пісьмо, у якім паведамлялася: «Начальнік Пекінскай духоўнай місіі даставіў у Азіяцкі дэпартамент сшытак бараметрычных і іншых назіранняў студэнта місіі п(ана) Гашкевіча за першую палову 1841 года, дадаўшы, што назіранні гэтыя былі роблены з усемажлівай стараннасцю і цярпеннем, заснаваным на любові да навукі».

Ну што ж, гэта гаворыць пра многае. Палікарп, вопытны псіхолаг і дыпламат, убачыў у Гашкевіча любоў да навукі.

Яшчэ ў дзяцінстве, чытаючы паэмы Гамера і Гесіёда, Іосіф задумваўся, чаму вялікія вучоныя нічога не гавораць пра час. Нават у Платона і Ксенафонта нідзе не сустракаецца слова «гадзіна». А як жывуць народы на поўначы? Летам жа за Палярным кругам сонца не заходзіць, а зімою не ўзыходзіць і ноч доўга не канчаецца. Дапытлівы розум юнака шукаў адказы на ўсе гэтыя пытанні. І калі ён даведаўся, што чукчы і эскімосы вызначаюць час дня па прылівах і адлівах, захацелася пабываць там, на Чукотцы. Але лёс распарадзіўся па-іншаму: ён апынуўся ў Кітаі. Акрамя астраноміі давялося вывучаць і кітайскую эканамічную батаніку. Свае назіранні Іосіф Антонавіч адсылаў у Галоўную фізічную абсерваторыю, якая знаходзілася ў Пулкаве пад Пецярбургам.

Перад самым адплыццём з Кранштата ён здаў некалькі сваіх навуковых артыкулаў у зборнік «Працы членаў Расійскай духоўнай місіі ў Пекіне».

Іван Аляксандравіч Ганчароў быў удзячны Гашкевічу за такую шчырую размову. Вядома, што людзі ў кароткіх і далёкіх падарожжах сыходзяцца хутка, часта мімалётнае знаёмства перарастае ў дружбу, а гэтым двум калежскім асэсарам прадбачыўся, як тады

казалі, «кругаземны ваяж». Яшчэ ніхто не мог сказаць, колькі ім давядзецца дзён — не, відаць, не дзён, а месяцаў — быць у плаванні. Падарожжы рускіх караблёў вакол свету рэдкія. Першае кругасветнае плаванне было здзейснена адміралам І. Ф. Крузенштэрнам у 1803—1806 гадах. Апошняе, пятае, падарожжа зрабіў капітан-лейтэнант В. М. Галаўнін у 1817—1819 гадах. І вось цяпер, праз 35 гадоў, у далёкае плаванне пайшла «Палада».

Дзівосная, крыху журботная цішыня абдымала неба і акіян. Зіхоткі шар сонца ўжо даўно схаваўся за гарызонтам. На нейкае імгненне з'явіўся двухрогі аранжавы месяц і адразу пацьмянеў, растаў на цёмным вячэрнім небе.

Два новыя сябры, звязаныя цяпер адным лёсам, як зачараваныя, сачылі за гэтым цудоўным пераўтварэннем. Яны ад ранку не сыходзілі з юта. Ім хацелася пазнаёміцца з акіянам. «Які ж ён сапраўды?» — думаў кожны, пазіраючы навокал. Акіян быў вялікі і неабсяжны. Размова пра яго неяк не атрымалася, затое падарожнікі блізка пазнаёміліся адзін з адным.

— Дзіўна ўстроены чалавек,— пачаў задумліва Ганчароў.— Я паехаў з айчыны спакойна, без сардэчнага хвалявання і з зусім сухімі вачыма. А гэта ж мара майго дзяцінства... На Волзе жыве сябар нашай сям'і дзядзька Коля... Мікалай Мікалаевіч Трыгубаў, афіцэр флоту, удзельнік бітваў каля Гаджыбея і Каліакрыі. Пасля смерці нашага бацькі ён больш і больш прывыкаў да нашай сям'і, пасля прыняў удзел у нашым выхаванні. Гэта цікавіла яго, напаўняла яго жыццё. Добры марак узяў нас пад сваё крыло, а мы адчулі прыхільнасць да яго дзіцячымі сэрцамі, забылі пра сапраўднага бацьку. Ён шмат расказваў мне пра мора, пра далёкія краіны, а я нават і не ўяўляў, якое бывае мора!.. Волга ў веснавое разводдзе здавалася мне сапраўдным морам. І вядома, я не думаў, што паплыву вакол свету.

— Гэта добра, што мара становіцца яваю,— сказаў Гашкевіч.

— Я ўспомніў пра гады маленства ў сувязі з вашым аповядам, Іосіф Антонавіч. Вы марылі стаць вучоным, вам лёгка даваліся прыродазнаўчыя навукі, мовы... Ды вось прыйшоў протаіерэй Іаан і захапіў вас. Захапіў сваімі словамі пра духоўныя крозы. Ішлі гады, а вы па-ранейшаму цягнуліся да любімага занятку... Атрымліваецца, пачатковы шлях мы не самі сабе выбіраем. Умешваюцца людзі, абставіны...

— Вы ж не сталі мараком.

— Я да гэтага і хілю. Аднойчы два чалавекі сказалі пра мяне дрэнна, што я нават і не літаратар... І мне так крыўдна здалося... Розныя думкі сталі кроіць душу. Брыдка жыць!

— Які ж вы, далібог! — прамовіў Іосіф Антонавіч, неспакойна глянуўшы на Ганчарова.— Хто ж яны такія? Ці вартыя, каб вяршыць суд над чалавекам?

— Вартыя, Іосіф Антонавіч.

— Прыкра,— сказаў Гашкевіч.— А я не магу падзяліць іх думку. Мне падабаюцца адносіны Бялінскага да вашага рамана. Яго артыкул пра вас, Герцэна і Тургенева — разумны і бліскучы. Ён справядлівы, поўны веры ў вас... Я сказаў бы больш: належны адказ скептыкам...

— Ну, шаноўны Іосіф Антонавіч, вы пусціліся ў рэверансы,— з сяброўскай прастатою праказаў Ганчароў.— Дзякуй на добрым слове... Вам холадна? Пойдземце ў кают-кампанію, адагрэемся.

Толькі пакінулі яны ют, як з цемры, з боку бізань-мачты, паявіўся матрос Фадзееў.

— Ідзіце, калі ласка, вашы благароддзі, піць чай, я даўно клічу, ды вы не чуеце.

— Ідзём, ідзём,— азваўся Ганчароў.

— Рана памёр наш Бялінскі,— з горасным пачуццём сказаў Іван Аляксандравіч.— Змардаваў сябе работаю... І хвароба няўмольна падточвала яго арганізм... Рускія літаратары страцілі вялікага сябра і дарадчыка.

## III

Недзе ў раёне вострава Узнясення караблі выйшлі з мёртвай зоны акіяна. Падзьмуў пасат. У моры з'явіўся буйны зыб. Ветразі ад ветру сталі тугімі. Неўзабаве перасеклі тропік Казярога. А ў першыя дні сакавіка наблізіліся да берагоў Паўднёвай Афрыкі.

І вось — ружовы світанак. Залацісты бляск хваляў. Матросы высыпалі на палубу. Афіцэры ўзняліся на мосцік. Адкрылася бухта Фолс-Бей. Над ёю ўзвышаецца Сталовая гара, а там, дзесьці далей, асляпленыя сонцам Драконавы горы, пласкагор'е Кару...

Афрыка!

Бясконца вялікая была ў тыя часы адлегласць паміж Усходам і Захадам, і якіх толькі небяспек і перашкод не даводзілася пераадольваць у дарозе каравелам, якая цяжкая адысея выпадала на долю бадзягу-мараку, што спрабаваў дасягнуць берагоў Індыі.

Магчыма, толькі наша пакаленне, пакаленне XX стагоддзя, на вачах у каго адбывалася заваёва паветранага акіяна «мёртваю пятлёю» Несцерава, далёкімі пералётамі над мацерыкамі і акіянамі Чкалава і Громава, першым касмічным палётам Гагарына,— мы адны здольныя ў поўнай меры зразумець тую гарачую зацікаўле-

насць, тое бурнае захапленне і ўсеагульную радасць, з якімі народы Еўропы сачылі за нечаканым і бясстрашным пранікненнем маленькай Партугаліі ў невядомыя краіны. Перагорнем старонкі гісторыі: у 1471 годзе смелыя мараходы перакрочылі праз экватар, у 1484 годзе Дыёгу Кан дасягнуў вусця ракі Конга і, нарэшце, у 1488 годзе партугальскі марак Барталамеу Дзіаш дасягнуў самага паўднёвага краю Афрыкі — мыса Добрай Надзеі, які ён спачатку з-за сустрэчнага ўраганнага ветру і шторму назваў Мысам Бураў. Гэта назва была бліжэй да праўды. Такія парадоксы не рэдкасць: назваў жа Магелан Ціхі акіян — ціхім.

## ПАД ПАЎДНЁВЫМ КРЫЖАМ

### I

У лісце да мастака, акадэміка жывапісу Мікалая Апалонавіча Майкава і яго сям'і Ганчароў пісаў з мыса Добрай Надзеі: «Адмірал быў настолькі ўважлівы і прыязны, што спытаў, як бы я жадаў падарожнічаць. Я растлумачыў яму, што падарожжа па берагах не вельмі займальнае, што трэба імкнуцца як можна далей пранікнуць унутр... Нас едзе сем чалавек. Адмірал усім даў занятак на ўсё падарожжа. Аднаму Гашкевічу (чыноўнік МЗС) даручана геалагічная частка, доктар са шхуны, вучоны немец, займаецца батанікай (Генрых Вейрых.— *В. Г.*). Пасьет... вывучае галандскую мову. Едзе яшчэ малады мічман (Павел Зялёны.— *В. Г.*) у дапамогу Гашкевічу. З намі едзе і фатаграфічны прыбор для здымкаў мясцовасці і тыпаў жыхароў таксама. Вы бачыце, што гэта цэлая экспедыцыя».

Да сакавіка 1853 года ніводзін рускі даследчык не быў у Паўднёвай Афрыцы далей бліжэйшых ваколіц Капштада. Недалёка ад гэтага горада знаходзіцца бухта Саймансбей,— паводле слоў Ганчарова, «невялікі, зацішны куток вялікай бухты Фальсбей[1]»,— на беразе якой ляжыць порт Сайманстаўн. Стаянка «Палады» на Саймансбейскім рэйдзе супала са знаходжаннем у гэтай частцы кантынента Дэвіда Лівінгстана — англійскага місіянера, які ў красавіку 1851 года накіраваўся ў доўгае падарожжа на поўнач і тады знаходзіўся ў пустыні Калахары. Цяпер цяжка сказаць, ці ведаў хто-небудзь з рускіх маракоў пра падарожжа Лівінгстана, ва ўсякім разе

---

[1]Часам замежныя геаграфічныя назвы ў XIX стагоддзі перадаваліся на пісьме не так, як зараз, чым і абумоўлены розныя варыянты іх напісання ў нашым тэксце.

усім было зразумела, што Паўднёвая Афрыка — маладаследаваная краіна.

Некалькі дзён удзельнікі навуковай экспедыцыі пражылі ў Капштадзе. Яны знаёміліся з мясцовымі жыхарамі, аглядалі славутасці, наведвалі Англійскі клуб, запасаліся неабходнымі інструментамі, адзеннем, запісвалі ў дзённікі апавяданні абарыгенаў.

Аднойчы вечарам у гасцініцу да рускіх прыйшоў джэнтльмен у чорным капелюшы. Ён быў сярэдніх гадоў, высокі, стройны, з пасівелымі бакенбардамі, у руках трымаў плётку і злёгку паляпваў ёю па халяве бота.

— Вандзік[1],— адрэкамендаваўся госць і ветліва ўсміхнуўся.

— Вельмі прыемна,— адказаў па-англійску Гашкевіч.

— Праваднік ваш па калоніі,— працягваў гаварыць прышэлец,— мяне наняў ваш банкір, з двума экіпажамі і васьмю коньмі. Калі пажадаеце ехаць?

— Заўтра чым раней,— сказаў Пасьет як начальнік навуковай экспедыцыі.

У дзень выезду пайшоў праліўны дождж.

Вандзік, усміхнуўшыся, сказаў:

— Дождж у дарогу — на шчасце. У нас такая прыкмета.

— У нас таксама,— адказаў Іосіф Антонавіч.

У дарозе рускія падарожнікі бліжэй пазнаёміліся са сваім праваднікам.

Вандзік нарадзіўся на ферме ў ваколіцах Капштада. Яго продкі — галандскія пасяленцы — жывуць тут з канца мінулага стагоддзя.

За першы дзень удзельнікі экспедыцыі зрабілі дваццаць міль. У непагадзь такую адлегласць можна лічыць рэкорднай. На крутым павароце раскіслай дарогі праваднік спыніў экіпажы каля чырвонага цаглянага будынка. Гэта была станцыйная гасцініца з дзіўнай назваю «Сабакі і лісіца».

Канстанцін Пасьет забурчаў:

— Гэта немажліва! Паедзем далей.

— Куды? — спытаў, усміхаючыся, Вандзік.— Цёмна ж. І дождж ідзе.

— Ён мае рацыю,— пачалі наракаць некаторыя на чале з Ганчаровым.

Але Гашкевіч і Пасьет не хацелі вылазіць з экіпажа. Тым не менш праваднік распрагаў коней.

---

[1] У І. А. Ганчарова — Вандзік, а сапраўднае імя яго — Эверт Йаханэс ван Дзік, у 1853 годзе ён быў фурманам вустэрскага омнібуса.

Барон Крыднер ужо клапаціўся аб гарачай вячэры.

Іосіф Антонавіч расчаравана прыкусіў губу. «Які дарагі час мы трацім,— раздумваў ён.— Як мараплаўцы былых часоў, набліжаючыся да незнаёмай зямлі, мы павінны быць прагнымі да ўсяго. А мае спадарожнікі? Калі б яны ведалі пра маю размову з прафесарам Брантам? Няўжо яны не захацелі б стрымаць слова, калі б ім давялося яго даць? У Пецярбургу ад мяне чакаюць унікальных экспанатаў, а я быццам на экскурсіі. Трэба быць бязлітасным да сябе. Для барона Крыднера — гэта пацешлівая прагулка, а для мяне — работа».

Перад сном Гашкевіч перагортваў кнігу Чарлза Дарвіна і час ад часу ўспамінаў сустрэчу з прафесарам Брантам у Заалагічным музеі — былой кунсткамеры Пятра Вялікага.

## II

Знаходзячыся ў кабінеце прафесара Бранта, Іосіф Антонавіч у думках вяртаўся да пакутлівых гадзін і мінут, праведзеных у зборах, у хатніх клопатах, у бясконцых візітах і размовах з чыноўнікамі Азіяцкага дэпартамента. Многіх таварышаў па службе грызла зялёная зайздрасць. Таму, мажліва, і цяклі ялейным маслам словы аднаго з іх.

— Васпан Іосіф Антонавіч,— гаварыў барон Марангейм,— мы з вамі супляменнікі, народжаныя на Белай Русі... Я рады за вас, рады, што вам выпаў такі вояж... Вы заслужылі права быць у свіце адмірала Пуцяціна. Заўсёды і ва ўсім ваш пакорны слуга, шчаслівай дарогі!

«Не, гэта агідна! Ён яўна здзекуецца з мяне. Я, відаць, выглядаю перад усімі белай варонаю? — пытаў сябе ў думках Гашкевіч.— Дапраўды, я не дваранскага паходжання, не гродзенскі барон, як Артур Марангейм, я асоба непрыкметная, з семінарыстаў... За дзесяць гадоў службы ў Кітаі ўдастоіўся ўсяго толькі калежскага асэсара. Не вялікі чын! Пан Гогаль не дарэмна так злосна жартуе з нашага брата, калежскага асэсара. Значыць, так і трэба. Барон без малога тры гады як служыць у міністэрстве, а ўжо малодшы сакратар у канцылярыі графа Несельродэ. Чаго добрага, вярнуся з Японіі, а ён ужо ў рангу пасланніка. Такім, як барон, процьма льгот ад іх манархавай ласкі і ўвагі...»

Калі Іосіфа Гашкевіча запрасілі на службу ў Азіяцкі дэпартамент, многія чыноўнікі паставіліся да яго з асцярогаю. Іншага прыёму чакаць было цяжка. Прыйшоў магістр багаслоўя, чалавек «без роду і племені». Само сабою зразумела, ні з кім з супрацоўнікаў дэпарта-

мента не вучыўся ў Аляксандраўскім ліцэі, які ў той час адкрываў шырокую дарогу для дыпламатычнай службы. Прыйшоў чыноўнік без пратэкцыі і адразу атрымаў жалаванне. Яшчэ ўчора насіў папоўскую расу, а сёння надзеў віцмундзір. Чаго добрага, праз год-другі ўзнагародзяць Ганнай або Уладзімірам. Як жа да такога калегі адносіцца, як не з халоднай важнасцю? Ці добра сустрэлі Гашкевіча, ці дрэнна — гэта паўбяды. Здзіўляла іншае: пачынаючы з самога міністра замежных спраў графа Несельродэ і канчаючы малодшым драгаманам Гірсам маладога дыпламата акружалі людзі з нярускімі прозвішчамі.

Паводле сацыяльных адзнак, дэпартамент быў даволі-такі рознакаліберны. Паміж знатнымі і «быдлам» праходзіла памежная зона. І калі нехта з чыноўнікаў ніжэйшага саслоўя рабіў дыпламатычную кар'еру, дык гэтаму магло спрыяць толькі выдатнае валоданне якой-небудзь усходняй моваю. Але такіх удачлівых людзей было мала: Пётр Лопаў, Іван Захараў, Аляксандр Татарынаў, Васіль Васільеў — прыяцелі і таварышы па службе Гашкевіча. Да паходжання граф Несельродэ адносіўся вельмі разборліва. Затое да замежнікаў меў ласку. У кабінеце за суседнім сталом з Гашкевічам сядзеў драгаман Мікалай Гірс — швед, крыху воддаль, ля дзвярэй,— немец Ламздорф, насупраць — барон Артур Марангейм, які выдаваў сябе за двараніна Гродзенскай губерні. Такія ультракасмапалітычныя дыпламаты маглі б з не меншым поспехам прадстаўляць любую краіну.

Іосіф Антонавіч стараўся прыглядацца да чыноўнікаў, асабліва дружбы, акрамя названых асоб, ні з кім не заводзіў, трымаў сябе з усімі аднолькава, быў цярплівы, а з Гірсам і Марангеймам толькі ветлівы ківок — і ўсё. Падобныя да іх не хацелі змірыцца з тым, што сын вясковага святара стаў дыпламатам. Час ад часу яны давалі зразумець былым членам Пекінскай духоўнай місіі, у тым ліку і Гашкевічу, то намёкам, то сваёй пыхлівасцю, што свет дыпламатаў — свет сакрэтаў і дзяржаўных таямніц, куды доступ мажлівы для абраных.

Гашкевіч мог бы плаціць тою самаю манетаю за гэтыя дурныя намёкі, але ён быў разумнейшы за многіх супрацоўнікаў і не падаваў віду, што ведае, якая чорная зайздрасць грызе кожнага з іх. Многія ўсё жыццё правялі ў сценах міністэрства, за мяжою нідзе не былі, але затое ведалі назубок канцылярскую справу, за што начальства і цаніла іх. Кур'еры, якім шмат даводзілася матацца па розных краінах, злосна жартавалі пра сваіх калегаў, называючы іх «калумбамі», што пабывалі ў іншаземных дзяржавах на папяровых караблях. Бу-

дучы стараннымі справаводамі, «калумбы» імкнуліся завесці ў канцыляры такі парадак, у якім маглі б разабрацца толькі яны самі, і такім чынам станавіліся «незаменнымі» работнікамі.

Амаль усім супрацоўнікам дэпартамента даводзілася займацца перапісваннем папер. Адны чыноўнікі хітравалі, адкупляліся, стараліся выкруціцца ад такой няўдзячнай работы, іншыя ж, наадварот, дасягалі вялікага майстэрства ў гэтай справе, што несумненна ўплывала на іх кар'еру. Граф Ламздорф, якому таксама не да душы прыйшоўся Гашкевіч, сваймy хуткаму прасоўванню па службе ў многім абавязаны прыгожаму почырку і ўменню вастрыць алоўкі і гусіныя пёры для князя Гарчакова, што праз чатыры гады зменіць на пасадзе міністра замежных спраў графа Несельродэ.

Роздум Гашкевіча перарваў прафесар Брант. Ён нечакана падыйшоў да яго і па-сяброўску палажыў руку на плячо.

— Пра што задумаліся, калега?

— Пра ўсё патроху: пра службу, будучае плаванне...

— Калі ў Кранштат?

— Заўтра. Раніцаю.

— Едзеце з лёгкім сэрцам?

— Звыкся.

— Вы бачылі ўжо сваю калекцыю, прывезеную з Кітая?

— Хадзіў па зале, Фёдар Фёдаравіч. Ці не залішне вялікі гонар маёй асобе?

— У лік будучых кантактаў,— усміхнуўся прафесар.— Дык вы сказалі, едзеце заўтра? — спытаў Брант, пагладжваючы далонню чорную бараду.— А я разлічваў пабачыцца з вамі на пачатку новага тыдня. Думаў, падрыхтую вам падрабязную інструкцыю, а выйшла не па-мойму. Мог бы і вас правароніць...

— Камандзір фрэгата загадаў з'явіцца на «Паладу» заўтра. Па мяне і калежскага асэсара Ганчарова будзе пасланы вельбот,— адказаў Гашкевіч.

— Крыўдна, што ў вас часу мала. Але нічога не зробіш, пагаворым... — І Брант жэстам рукі прапанаваў сесці.

Гашкевіч падсунуў да сябе крэсла.

Прафесар задумаўся і пасля двух-трох хвілін маўчання спытаў, не паніжаючы голасу:

— Іосіф Антонавіч, ці не змаглі б вы ўзяць на сябе цяжкі клопат і на гэты раз?

Гашкевіч нешта хацеў сказаць, але прафесар спыніў яго:

— Падумайце і не спяшайцеся з адказам, шаноўны Іосіф Антонавіч. Я знаю: вашы абавязкі складаныя. Місія, што выпала на

вашу долю, нялёгкая. І начальнік ваш, Пуцяцін, кажуць, не славіцца анёльскім характарам. І ўсё ж...

Прафесар Брант не збіраўся чытаць лекцыю Гашкевічу, ён проста нагадваў свайму субяседніку, што чалавек з ранніх гадоў гарыць цягаю да ажыўленай дзейнасці, далёкіх вандровак. Адны падарожнікі наперад смакуюць радасць моманту, калі яны ўбачаць сузор'е Крыжа або Магеланавыя аблокі, што круцяцца вакол Паўднёвага полюса; другія — як Чарлз Дарвін — не абмяжоўваюцца толькі сузіральнасцю, а становяцца вучонымі-натуралістамі, у час падарожжа «палююць» на цікавыя віды жывёльнага свету, будуюць рабочыя гіпотэзы, правяраюць іх на месцы, у працэсеназірання, даследавання. Дні спаўнення такіх жаданняў — гэта цэлая эпоха ў жыцці кожнага чалавека.

Іосіф Антонавіч слухаў Бранта з непрыхаванай увагаю і зацікаўленасцю. Дырэктар першага ў Расіі Заалагічнага музея Акадэміі навук умеў захапляць субяседнікаў, жыццё, мэты і інтарэсы якіх былі іншымі.

— Я неяк вам ужо казаў, Іосіф Антонавіч, што мы бываем гордыя і шчаслівыя, калі нашаму музею ўдаецца набыць рэдкі экспанат. Але гэта, як вы ведаеце, не надта лёгка і проста. Нам даводзіцца звяртацца да нямецкіх і французскіх вучоных — падарожнікаў. Усё гэта каштуе вялікіх грошай, золата. Так, так, васпан, мы плацім золатам. А ўрад не шчодры да нашай навукі, не вельмі шчодры.

— Я згодзен выканаць любыя вашы даручэнні, Фёдар Фёдаравіч,— сказаў Гашкевіч.

— Вось і добра. А цяпер я хачу сказаць некалькі слоў пра вашы артыкулы. Цудоўна! Вы, васпане, прапагандуеце карысныя для Расіі працы кітайскіх вучоных. Гэта вялікая падмога для вядзення культурнай сельскай гаспадаркі.

На твары Іосіфа Антонавіча з'явіўся звычайны выраз клопату і суровай задуменнасці.

— Мне хочацца, каб пладаносныя расліны прыжыліся і на маёй радзіме — на Беларусі. Маіх землякоў душыць бядота. Зерне, кінутае ў зямлю, родзіць у сярэднім не больш як утрая. Беспрасветная галеча.

— Падобныя думкі прыходзяць і мне ў галаву. На жаль, наша навука яшчэ далёкая ад патрэб земляроба. Вы маеце рацыю,— сказаў Брант.— Жыццё пражыць — не поле перайсці. Я бачу, вам сялянская праца знаёма?

Гашкевіч кіўнуў. Прафесар Брант перайшоў да размовы пра артыкулы маладога вучонага.

Першы артыкул Іосіфа Антонавіча «Спосаб прыгатавання тушы» быў напісаны ў канцы 1851 года. У другім — «Кітайскія бялілы і румяны» ён папулярна раскрываў старажытныя «сакрэты» хімікаў-практыкаў: «У нас звычайна хваляць кітайскія бялілы ў тых адносінах, што яны, пры выдатнай белізне, нікольні не шкодныя. Гэтыя бялілы, па сутнасці, не што іншае, як крухмал з сарацынскага проса... Румяны здабываюцца з сафлору, амаль такім самым чынам, як і ў нас здабываецца фарба з гэтай расліны. Прамыўшы кветкі ў халоднай вадзе, абліваюць іх шчолакам з попелу розных раслін, пераважна з палыну».

На гэтым не вычэрпваўся спіс навуковых артыкулаў Гашкевіча. На год-два пазней будуць апублікаваны яго работы па прыкладной батаніцы.

— Вы разумееце, Іосіф Антонавіч,— Брант раптам пачаў гаварыць ціха, што надавала яго словам асаблівую значнасць.— Я — заолаг, невялікі спецыяліст па батаніцы і хіміі, але тое, пра што вы пішаце, цікава! І галоўнае — даходліва і талкова. Якая надзвычайная дакладнасць думкі! Віншую!

— Фёдар Фёдаравіч...— праказаў збянтэжана Гашкевіч, але прафесар не даў яму дагаварыць.

— Калі будзеце ў Лондане, адкладзіце ўсе справы і пабывайце ў Заалагічным музеі. Мне казалі, там прадаецца кніга Чарлза Дарвіна «Падарожжа натураліста вакол свету на караблі «Бігль» — абавязкова купіце! Гэта праца для вас — добры компас у навуковых даследаваннях.

Гашкевіч падзякаваў вядомаму вучонаму за добрую параду і пажаданні. Яны рассталіся як старыя сябры. Адыходзячы, Іосіф Антонавіч адчуваў нейкае ўцешнае абнаўленне, быццам яго нядаўняе мінулае і ўсе пражытыя гады ў Кітаі былі часовымі, мінучымі, а сапраўднае пачыналася толькі цяпер.

У гэтым была вялікая доля праўды.

## III

...Дарога, па якой каціліся экіпажы, раскісла, размытая начным дажджом. Не праехалі і пяці міль, як Ганчароў і барон Крыднер ператаліліся ад дарожнай трасяніны. Папрасілі зрабіць прывал. Канстанцін Пасьет, памятаючы ўчарашнюю выхадку барона і пісьменніка, пакінуў просьбу без увагі. Уз'ехалі на шэрую стужку шашы, і экіпажы пакаціліся даволі хутка. З усіх бакоў іх акружалі квітучыя каштаны, персікавыя і фігавыя дрэвы. Сонца паступова пачынала ўздымацца. Спёка адольвала коней і седакоў.

Вандзік сказаў:

— Хутка будзе Стэленбош. У гэтым мястэчку не прынята добра гаварыць пра англічан.

— Чаму? — пацікавіўся Гашкевіч.

— Яны часта ваююць з кафрамі, мусульманскімі плямёнамі, нацкоўваючы на іх неграў. А галандцам гэта не падабаецца, яны працягваюць лічыць сябе першаадкрывальнікамі гэтых зямель.

Да полудня яны прыехалі ў невялікае мястэчка Стэленбош, якое славілася ў наваколлі пышнай зелянінаю, садавінаю, цішынёю і здаровым паветрам. Тут жылі фермеры галандцы і датчане, якія, паводле слоў Вандзіка, тояць у сваіх сэрцах злую нянавісць да англічан.

Вечарам Канстанцін Пасьет прывёў у гасцініцу чалавека ў гадах, вельмі ўкормленага, з румяным і дабрадушным тварам.

— Пан Ферстфельд, мясцовы доктар,— прадставіў Пасьет.

— Што гэта ён на нас так дзіўна глядзіць і адкуль вы яго ўзялі? — спытаў Ганчароў.

— Сам прыйшоў: даведаўся, што рускія прыехалі, прыйшоў паглядзець. Ніколі, кажа, не бачыў,— стаў апраўдвацца афіцэр.

На другі дзень доктар Ферстфельд адвёз рускіх падарожнікаў на галандскую ферму Эльзенбор, што належала яго блізкаму прыяцелю. Тут яны папілі добрага віна, запасліся свежаю садавінаю і развіталіся. Доктар вяртаўся дадому, а навуковая экспедыцыя рушыла далей да мястэчка Велінгтан. Адлегласць аказалася не такой і вялікай, да захаду сонца яны ўжо ўязджалі на шырокую вуліцу, дзе знаходзілася гасцініца — несамавіты домік з адкрытаю верандаю.

У англійскай калоніі падарожнікаў сустрэў старажыл Велінгтана містэр Бэн[1]. Па прафесіі ён грамадзянскі інжынер — будаўнік дарог. А ў вольныя часіны — геолаг-аматар, вялікі ахвотнік да прыгод.

Містэр Бэн падрадзіўся сам суправаджаць рускіх па наваколлях Паарльскай акругі, да якой адносіліся мясцовыя гарадкі Велінгтан, Паарль і Вустэр.

Кожнай раніцы яны выязджалі ў горы або ў даліны рэк Грэйтберг і Брэдэ. Нягледзячы на паўдзённую спякоту, Іосіф Антонавіч не любіў адседжвацца ў гасцініцы, а блукаў па горных схілах і цяснінах у пошуках цікавых экспанатаў.

Многа новага даведаўся малады вучоны.

У Капскай калоніі Гашкевіч пазнаёміўся не толькі з раскошаю афрыканскага лесу, непраходнымі джунглямі. Недалёка ад гарадка

---

[1] У І. А. Ганчарова — Бэн, а сапраўднае яго імя — Эндру Бэйн, геолаг, адзін з самых вядомых паўднёваафрыканскіх вучоных (1796—1864).

Вустэр Іосіф Антонавіч пабываў у мясцовай турме, дазорцам якой аказаўся сын містэра Бэна — бялявы, чырванашчокі малады чалавек.

Смаліла сонца. У цяні не менш за трыццаць градусаў. Арыштанты сядзелі і ляжалі на двары, пакутуючы ад паўдзённай спёкі і смагі. Увагу Гашкевіча і яго спадарожнікаў прыцягнуў стары негр: змарнелы, хворы, ён ляжаў, расцягнуўшыся на зямлі.

— Якое варварства! — вымавіў Іосіф Антонавіч.— Мне зусім не падабаюцца гэтыя паны Бэны.

Ганчароў спытаў:

— Навошта іх выводзяць на сонца? Гэта ж шкодна.

— Не,— адказаў Бэн-малодшы,— яны любяць сонца і нават ахвотней працуюць у гарачы сонечны дзень, чым у хмурны.

Цынічны адказ Бэна ўразіў Гашкевіча. «Белыя — гаспадары, чорныя — слугі і адрозніваюцца ад рабоў толькі фармальным правам выбару работы,— думаў Гашкевіч.— Прыход англічан ускладніў пытанне аб роўнасці афрыканскіх неграў. Феадальныя парадкі для забітага і цёмнага народа — гэта траха не рай, прагрэс. Англічане перакананыя, што яны прыносяць неграм раскошу сваёй цывілізацыі. Так ямчэй падманваць сябе і іншым гэтыя думкі ўнушаць лягчэй».

Незадоўга да адыходу Гашкевіча ў кругасветнае плаванне Азіяцкі дэпартамент купіў у Францыі два фатаграфічныя апараты «дагератып». Іосіф Антонавіч даўно ўмеў карыстацца гэтай дзіва-тэхнікай. Яшчэ раней, у 40-я гады, калі ён знаходзіўся ў Кітаі і займаўся астранамічнымі назіраннямі, у яго быў велізарны апарат, крыху большы за чалавечы рост. Але, на жаль, малая святласіла першых аб'ектываў і нізкая адчувальнасць фотапласцінак не дазвалялі зрабіць імгненны здымак. Натуральна, што пры такіх умовах чалавека або жывёліну зняць амаль немажліва. Трэба было мець самавалоданне, жалезныя нервы ёгаў, каб акамянець на цэлых трыццаць—сорак хвілін. Таму Іосіф Антонавіч здымаў толькі пейзажы, помнікі даўніны, ірыгацыйныя збудаванні, будыйскія храмы. Праз год пасля вяртання Гашкевіча з Кітая паявіліся новыя апараты, экспазіцыя якіх ужо не доўжылася больш за дзесяць секунд[1].

Падарожнічаючы па Паўднёвай Афрыцы, Гашкевіч шмат здымаў

---

[1]На жаль, аўтар не выявіў фотаздымкаў І. А. Гашкевіча, але мае на руках копіі дакументаў, у якіх гаворыцца, што члену Пекінскай духоўнай місіі пану Гашкевічу дасылаліся розныя інструменты для метэаралагічных і магнітных назіранняў, бараметрычныя прыборы і г. д. Работамі І. А. Гашкевіча былі зацікаўлены Імператарская Акадэмія навук і Штаб корпуса горных інжынераў.

і разам са сваімі памочнікамі рабіў геалагічныя даследаванні палеазойскіх адкладаў каменнага вугалю, гнейсаў, саланчакоў, гранітаў і солевых балотаў; шляхам асабістых назіранняў, фатаграфавання і апытвання мясцовых абарыгенаў складаў прыкладную геалагічную карту ад Капштада да ракі Аранжавай. Заадно збіраў гербарый паўднёваафрыканскай флоры, расшукваў шкілеты выкапнёвых жывёл Паўднёвай Афрыкі.

Канстанцін Пасьет заносіў у дзённік: «Мы набылі ў паездцы некалькі чарапоў капскіх звяроў, гіены, тыгра, антылоп і інш.; некалькі акамянеласцей, у тым ліку два рэдкія трылабіты, штук 20 змей у спірытусе і г. д. Усё гэта, вядома, павінна ісці як набытак экспедыцыі».

Для сябе Пасьет купіў шкуру барса, абсалютна цэлую, з галавой і хвастом, абшытую знутры шэрым і чырвоным футрам антылопы. Усё гэта яму каштавала не вельмі дорага: трыццаць шэсць шылінгаў. Прадаў шкуру паляўнічы, які сам забіў драпежніка ў цясніне Бэнсклюфэ, названай па імені містэра Бэна.

Руская экспедыцыя заспела Капскую калонію ў момант абвостранай барацьбы англічан з неграмі-кафрамі і бурамі. Падарожнікі былі сведкамі так званай трэцяй кафрскай вайны (1851—1853), упартага супраціўлення кафраў брытанскім каланізатарам, анексіі англічанамі Аранжавай рэспублікі бураў і вымушанага прызнання яе незалежнасці паводле дагавора 1852 года.

Нашы вандроўнікі ехалі па зямлі, дзе ўчора пракацілася вайна. Насустрач па абочыне дарогі вялі палонных кафраў. Міма на павозках ехалі англійскія салдаты. Яны кідалі ў неграў арэхамі, бананавым шалупіннем і самазадаволена рагаталі:

— Варушыцеся, чарнамазыя!

Уперадзе калоны нявольнікаў крочыў высокі негр, галава ў яго была кучаравая, твар скуласты, з тоўстымі, вывернутымі губамі.

— Хто ён? — спытаў Гашкевіч у англійскага афіцэра.

— Бунтар! Правадыр гэтых чорных — Сейола.

— Дазволіце мне зрабіць фатаграфічны здымак?

Афіцэр канвоя не пярэчыў, ён загадаў сваім салдатам вывесці правадыра з агульнай масы палонных. Сейола не спалохаўся, ён глядзеў на белых людзей гаротнымі вачыма, думаючы пра нешта сваё.

Іосіф Антонавіч хутка падрыхтаваў апарат і спытаў афіцэра па-англійску:

— Ці магу я спадзявацца яшчэ на адну сустрэчу з правадыром кафраў?

— Навошта?

— Хачу падараваць здымак.

— Прыязджайце ў Вінберг. Яго пасадзяць у капштадскую турму.

Гашкевіч прапанаваў сваім спадарожнікам паехаць у лагер бураў. Ён знаходзіўся ў Каплэндзе. Але па дарозе яны сустрэлі качавых бураў. Фермер-жывёлавод запрасіў рускіх раздзяліць з ім сціплую трапезу.

«...Бур, які частаваў нас цудоўнай каваю,— знаходзім мы запіс у дзённіку Пасьета,— расказваў сваё знаёмства са славутым Галаўніным, калі ён у 1806 годзе быў затрыманы на мысе англічанамі як ваеннапалонны. Ён апісваў уцёкі Галаўніна з Сіманс-бухты і злосць англічан (бур быў тоўсты, вясёлы)».

Буры аказаліся гасціннымі, хлебасольнымі. Яны былі ўражаны тым, што тут з'явіліся рускія людзі з-за мора і вядуць з імі сяброўскую гаворку. Не, гэтыя падарожнікі не падобныя да англічан, якія здзекуюцца з бураў за «нячыстую», з галандскіх дыялектаў, мову і за тое, што называюць сябе афрыканерамі. Засведчыўшы сваю пашану фермеру, удзельнікі экспедыцыі паехалі далей, у бок Аранжавай ракі.

Праз сорак пяць гадоў сюды зноў прыедуць рускія, але ўжо з іншаю мэтаю: яны без усякага карысталюбства будуць дапамагаць бурам змагацца за свабоду і нацыянальную незалежнасць. А яшчэ праз некаторы час у Расіі стане вядомай песня:

> Трансвааль, Трансвааль, страна моя,
> Ты вся горишь в огне...

Назад у Капштад нашы вандроўнікі вярнуліся той самай дарогай. Трэба было спяшацца ў Сайманстаўн і даведацца падрабязней, калі «Палада» адыходзіць у мора. У сталіцы англійскай калоніі вучоная экспедыцыя сустрэла старшага афіцэра Івана Іванавіча Бутакова, лейтэнанта Савіча і айца Авакума.

Іван Іванавіч зацягнуў усіх у дарожны шынок і пачаставаў віном.

— А ну, Іосіф Антонавіч,— ажыўлена гаварыў Бутакоў,— паказвайце сваю здабычу. Што ў гэтым слоіку?

— Асцярожней, змяя.

— А тут што за казюлі?

— Пабойцеся Бога, васпан, гэта ж немезіда. Райскі матылёк.

— Адчыніце гэтую скрынку,— працягваў жартаваць Бутакоў, але Іосіф Антонавіч прымаў усё ўсур'ёз.

Падарожнікі ад душы смяяліся.

— Няўжо вы ачарсцвелі за восем тыдняў плавання? Гляньце сюды: гэта аўрора. А вось — юнонія-лаамедыя!..

Міканор Савіч любаваўся матылькамі з таямнічымі імёнамі невядомых багінь.

Гашкевіч працягваў:

— Тутэйшая прырода капрызна параскідвала багатыя дзівосы, вам у казцы не прысніцца падобнае. Вось вам яшчэ адзін унікальны экземпляр — аксамітная гіпалімнада. Прыгожая? Дачка цяпла і сонца.

Ганчароў разрадзіў сітуацыю:

— Даволі, панове, жартаў. Цану гэтым скарбам ведае толькі Восіп Антонавіч. Вольнай часінай мы яго папросім расказаць пра кожнага матылька. А цяпер — у дарогу!..

У мястэчку Вінберг, дзе былі размешчаны летнія дачы англічан негацыянтаў, знаходзілася капштадская турма. Улады выбралі для пабудовы гмаху голую раўніну, выпаленую трапічным сонцам. Ганчароў папрасіў Вандзіка адвезці яго і Гашкевіча ў турму. Але найперш яны пабывалі ў крамцы англічаніна-гандляра і купілі некалькі пачкаў ліставой табакі.

Каля дзвярэй турмы прыяцеляў сустрэлі англічане-наглядчыкі ў цывільным і салдаты. Гашкевіч спытаў:

— Ці можна ўбачыць Сейолу?

Джэнтльмены ў цывільным пачціва пакланіліся і запрасілі Гашкевіча і Ганчарова прайсці за імі. Прайшоўшы два-тры вузкія калідоры, рускія госці апынуліся ў маленькім, але абнесеным высокаю сцяною дворыку. У кутку пад навесам, сплеценым з ліян, ляжалі два матрацы з шэрай мешкавіны. На адным сядзеў правадыр кафраў Сейола, на другім — юная негрыцянка. Гэта была яго жонка. Сейола ўстаў, працягнуў руку. Маладая жанчына зрабіла гэтак жа, як муж. Іван Аляксандравіч перадаў вязню тытунь. Хвіліну, а можа быць крыху болей, яны моўчкі разглядвалі адзін аднаго, а паразумецца не маглі. Кафры гаварылі на мове банту, якая для паліглота Гашкевіча была таямніцаю за сямю пячацямі. Іосіф Антонавіч паказаў здымак Сейолу, той паглядзеў на яго і гучна засмяяўся.

— Сейола! Сейола! — выгукнула маладая жанчына, паказваючы на свайго мужа.

Правадыр і яго жонка весела рагаталі. У іх залівістым смеху было шмат дзіцячай непасрэднасці.

Іосіф Антонавіч зрабіў знак негрыцянцы, што яна можа ўзяць партрэт мужа ў падарунак. Жанчына спачатку не паверыла, але Ганчароў пацвердзіў кіўком галавы: дарым, дарым.

Вязні засталіся задаволеныя візітам белых людзей, яны шчыра ўсміхаліся ім і, развітваючыся, нізка пакланіліся. Гэта была плата за велікадушнасць.

Джэнтльмены ў цывільным не саромеючыся ўзялі ад рускіх «на чай» — англійскія фунты не пахнуць — і папрасілі наступны раз не праязджаць міма.

Калі сядалі ў экіпаж, Гашкевіч сказаў:

— А ведаеце, Іван Аляксандравіч, Чарлз Дарвін — празорлівец.

— У чым?

— Вось прачытайце. Я тут падкрэсліў.— Іосіф Антонавіч працягнуў Ганчарову кнігу.

«...дзе б ні ступіла нага еўрапейца, смерць праследуе туземца. Куды мы ні кінем погляд — ці на вялізныя прасторы абедзвюх Амерык, на мыс Добрай Надзеі або на Аўстралію,— паўсюль мы назіраем адзін і той самы вынік».

Я заўсёды казаў, — абурана прамовіў Ганчароў, прачытаўшы тэкст, — яны не прызнаюць гэты народ за людзей. Негры для іх — нейкая рабочая скаціна.

Іван Аляксандравіч прадбачыў далейшае еўрапейскае пранікненне ў глыб Афрыкі і нават захоп усяго кантынента. У падарожных нататках ён адзначыў: «Еўрапейцы ўжо датыкаюцца тропікаў. Мы, вядома, не дажывём да таго часу, калі адны з Алжыра, а другія ад Капштада сыдуцца дзе-небудзь унутры, але няма сумнення, што сыдуцца».

Гашкевіч, думаецца, пачаў разумець расавыя адносіны і расавы прыгнёт раней за пісьменніка. Ён мог расказаць аб паводзінах англічан у Кітаі. Пад чужым небам, у чужым укладзе жыцця, неяк па-іншаму глядзіцца «свабоднае» рабства, хоць на радзіме таксама гуляе бізун пана па спіне селяніна...

## IV

9 красавіка 1853 года фрэгат «Палада» зноў вырушыў у свой далёкі шлях. Цяпер ужо плылі Індыйскім акіянам. Надвор'е больш не песціла рускіх маракоў. На трэці дзень пасля выхаду з мыса Добрай Надзеі фрэгат трапанула бура, і ён пацёк як рэшата. Рамонт, зроблены ў Сайманстаўне, не залячыў раны старому марскому служаку. Хвалі рабіліся ўсё размашысцей, вырастаючы ў аграмадныя зубчастыя скалы. «Палада» чэрпала носам дзясяткі тон вады.

«Хвалістасць ішла гарамі, фрэгат лажыўся то на адзін, то на другі бок і, нягледзячы на паўторную паўсюдную аканапатку ў Сайманс-беі, пацёк усімі палубамі і паказаў рух у надводных частках корпуса»,— пісаў у адным са сваіх лістоў Канстанцін Пасьет.

Начальнік экспедыцыі ўсур'ёз задумаўся над лёсам «Палады»: ці зможа фрэгат прадаўжаць плаванне далей? Судна па-ранейшаму мела выдатныя якасці. Даволі сказаць, што Індыйскі акіян яно перасекла за 32 дні. У гісторыі мараплавання адлегласць 5700 міль яшчэ не пераадольвалася за такі кароткі час ніводным паруснікам. Што да жывучасці, гэта значыць здольнасці трымацца на плаву, дык ён нагадваў камандзе старую разбітую ладдзю, добрасумленна адслужыўшую свой марацкі век. Яшчэ адзін такі шторм — і «Палада» можа не вытрымаць. У адмірала Пуцяціна не было іншага выйсця, як толькі падстрахаваць фрэгат новым караблём. Нехта павінен быў накіравацца ў Пецярбург з падрабязным дакладам і з просьбаю аб замене судна. Яўхімій Васілевіч спыніў свой выбар на лейтэнанце Іване Бутакове. У Сінгапуры старшы афіцэр «Палады» развітаўся з сябрамі. У дарогу ён не ўзяў ніякай паклажы, акрамя дакументаў і лістоў сваіх таварышаў па службе.

Пуцяцін даносіў у Пецярбург: «...фрэгат «Палада» менш за іншыя адпавядаў прызначэнню для прадстаячага нам плавання, але выбар гэты зроблены адзіна з-за недахопу новых фрэгатаў, а як цяпер маецца пры Балтыйскім флоце новапабудаваны фрэгат «Дыяна», то я лічу абавязкам прадставіць, ці не добрапрыстойна будзе выклапатаць дазвол аб адпраўцы ў гэтым жа годзе фрэгата «Дыяна» нам на змену. Для падрабязнейшага вытлумачэння ўсіх меркаванняў па гэтым прадмеце і для выйгрышу часу я палічыў патрэбным пасла̀ць кур'ерам старшага афіцэра фрэгата, лейтэнанта Бутакова, мяркуючы адправіць яго праз Батавію[1], і для гэтага спыніўся на некалькі гадзін у мястэчку Анжэр, што ляжыць у Зондскім праліве. Даведаўшыся тут, што галандскі параход адыходзіць з Батавіі даволі няправільна, я палічыў за лепшае ісці ў Сінгапур. Гэта адхіленне вельмі мала адвядзе нас ад прамога шляху; зрабіўшы патрэбныя запасы ў Сінгапуры, мы можам прабыць меней часу ў Ганконгу, дзе ў цяперашнім месяцы сонечная спёка робіцца больш нясцерпнай і шкоднай, чым пад самым экватарам. З Сінгапура лейтэнант Бутакоў накіраваўся ў Цэйлон, адтуль на англійскіх ост-індскіх параходах праз Чырвонае мора і Егіпет дасягне Еўропы».

1 ліпеня фрэгат зняўся з якара і пакінуў Сінгапурскі рэйд. І зноў ішлі дні, вечары і ночы на палубе «Палады».

Паўднёва-Кітайскае мора ўздыхала лянотным зыбам.

---

[1] Цяпер Джакарта.

# КРАІНА ЎЗЫХОДЗЯЧАГА СОНЦА

## I

«Палада», злёгку і плаўна пагойдваючыся, несла на сабе ўсе ветразі і ходам у дзевяць вузлоў спяшалася да берагоў Японіі. У кільватэры за флагманскім караблём трымалі курс карвет «Алівуца» і барк «Князь Меншыкаў». Паравая шхуна «Усход» ішла на буксіры фрэгата.

Руская эскадра набліжалася да заманлівай і таямнічай Краіны ўзыходзячага сонца, наглуха закрытай для еўрапейскіх дзяржаў.

Іосіф Антонавіч узняўся на капітанскі мосцік пазней за ўсіх. Ён дрэнна пераносіў марскую хваробу і змог устаць з пасцелі толькі пры ўваходзе ў Нагасакскі рэйд, дзе хвалі не так адчувальна расхіствалі фрэгат.

Жнівеньскае сонца смаліла неміласэрна, але нясцерпная спёка не перашкаджала добраму настрою — зусім іншая карціна, чым падчас плавання ў Біскайскім заліве ў студзеньскую сцюжу. Паэзіі ў тым сапраўдным пекле было не многа. Шторм лютаваў тады некалькі дзён і даволі-такі патрапаў фрэгат, не кажучы ўжо пра маракоў, выматаных гайданкаю, сырасцю, пранізваючым да касцей ветрам. Гашкевіч прыняў марское хрышчэнне пакутліва і з праклёнамі.

— Добрай раніцы, панове,— стомленым голасам вітаў афіцэраў Іосіф Антонавіч. Прысутныя лёгкім нахілам галавы засведчылі пашану драгаману.

Канстанцін Мікалаевіч Пасьет, што вечна пакепліваў з Гашкевіча за яго немарацкія якасці, і на гэты раз не пазбавіў сябе прыемнасці па-сяброўску пажартаваць:

— Панове, прашу звярнуць увагу на шаноўнага Іосіфа Антонавіча...

Афіцэры перасталі разглядаць бераг, апусцілі трубы.

Пасьет працягваў:

— Ці не пара, панове, пераатэставаць нашага драгамана на паявятовага брандмаёра. Выдатная служба. Цэлы дзень спіш, а адпачыць няма калі.

Весела смяяліся маракі з прастадушнага і лагоднага Гашкевіча. Жарт развесяліў і яго самога. Ён падышоў да Ганчарова і стаў поруч. Пасьет падаў драгаману сваю трубу.

— Палюбуйцеся, Іосіф Антонавіч. Вось Папенберг, а побач з ім другі астравок — Каменасіма. З Папенберга японцы калісьці скідвалі каталіцкіх місіянераў, таму галандцы так яго і празвалі. Як ён называецца па-японску, мы яшчэ з вамі не ведаем... А вунь, далей,

маленькі астравок бачыце? Гэта Пацучыны востраў, на ім японцы перабілі калісьці іспанцаў і спалілі іх караблі...

— А каторая тут гара Бань-пянь-шань? — спытаў Гашкевіч.

Пасьет паціснуў плячыма.

— У Кітаі я пачуў легенду,— сказаў Іосіф Антонавіч.— Ёсць у Нагасакі славутая гара — Бань-пянь-шань. Паводле даўняга падання, калі славуты пірат Чжэн Чэнгун быў яшчэ дзіцем, маці яго раптам знікла, уцёкшы ў Японію. Чэнгун падрос, даведаўся ад старых пра гісторыю свайго нараджэння і вырашыў расшукаць маці. Ён падрыхтаваў у паход некалькі соцень суднаў і накіраваўся да японскіх берагоў. Адзіная прыкмета, па якой можна было пазнаць родную маці,— гэта чорныя зубы. Даведаўшыся пра гэта, нагасакскія жанчыны зачарнілі свае зубы. Чэнгун тры дні і тры ночы шукаў маці, але лёс абыходзіў яго. Тады асілак вырашыў паказаць сваю моц. Ён пачаў страляць з гармат у адну з гор і разбурыў настолькі, што палова яе ўпала ў заліў. Спалохаўшыся, жыхары Нагасакі скарыліся Чжэн Чэнгуну.

— Забаўная гісторыя,— сказаў барон Крыднер.— А нам пакарацца?

— Вам пакарацца толькі жанчыны,— пажартаваў Аляксандр Халезаў.— І то не ўсе, а гейшы.

— Іосіф Антонавіч, а што вы ведаеце пра японскіх жанчын? — падхапіў вясёлую думку барон.

— Напрыклад, знаю, як вызначыць блудніцу...

Афіцэры дружна засмяяліся.

— Панове, гэта павінна быць цікава, паслухаем! — усклікнуў Крыднер.

— Японка, якая жадае выказаць свае адносіны да палюбоўніка, наколвае тушшу ўмоўныя знакі на руках. Дапусцім, зашыфроўвае імя каханка. Пройдуць гады.Назбіраецца многа палюбоўнікаў. Усе пальцы становяцца чорнымі. Па пальцах і можна пазнаць блудніцу, барон!

Ганчароў не прыслухоўваўся да вясёлага смеху, да размоў афіцэраў, да іх захопленых выгукаў: «Панове, гляньце на мыс Нома. Якая сінеча, вясёлкавае спалучэнне фарбаў. Божа мой, гэта ж японская акварэль!» Не, Івана Аляксандравіча займалі не гэтыя думкі. Ён разважаў пра іншае.

— Ці ж доўга так будзе? — праказаў услых Ганчароў.

— Вы пра што? — спытаў Гашкевіч.

— У вас няма такога адчування, Восіп Антонавіч, што вы прыйшлі ў гэту краіну з хвораю душою, а? — спытаў пісьменнік.

— Раней было, калі я паехаў служыць у Кітай. Усход ёсць Усход.

— А ў мяне такое цяжкае пачуццё, быццам я ўваходжу ў турму, няхай гэтая турма і абсаджана дрэвамі. І разам з тым свядомасць падказвае: хоць бы японцы дапусцілі вывучаць сваю краіну, зведаць яе натуральныя багацці. Цяжка паверыць, што ў геаграфіі і статыстыцы зямнога шара амаль толькі адзін прабел і застаўся — Японія. Дзіўная зямля.

— Глядзіце, глядзіце! — гарэзліва крыкнуў мічман Болцін.— Нас зараз будуць браць на абардаж.

Ад берага насустрач караблям адчаліла флатылія японскіх лодак — джонак.

Флагманскі фрэгат узняў умоўны сігнал, і на суднах адначасова ўзляцелі да брам-стэньгаў белыя палотнішчы з японскімі знакамі: «Рускае судна».

Джонкі набліжаліся. Грабцы, голыя да пояса, спрытна ўзмахвалі доўгімі вёсламі, граблі таропка, быццам на гонках. Адна з лодак блізка падышла да «Паллады», другая — да шхуны «Усход». Астатнія леглі ў дрэйф метраў за трыццаць ад караблёў. Матросы махалі японцам рукамі і бесказыркамі. На загад капітана Ункоўскага за борт быў выкінуты штормтрап. Японцы ўхапіліся за яго і няўмела, як чарапахі, сталі падымацца на судна. Вахтавы начальнік мічман Болцін выйшаў сустрэць гасцей. Тыя, баязліва азіраючыся, прысядаючы і кланяючыся амаль не да самай палубы, падышлі да афіцэра і перадалі пісьмо, згорнутае трубачкаю.

— Іосіф Антонавіч, прачытайце, калі ласка, пісьмо і правядзіце японцаў у маю каюту.

— Добра, Іван Сямёнавіч,— адказаў Гашкевіч капітану і накіраваўся да прыбылых гасцей.

Перакласці змест пісьма, напісанага кітайскімі іерогліфамі, вялікай цяжкасці не было. Японцы пыталіся назву судна і да якой нацыі належыць экіпаж.

— Толькі і ўсяго? — здзівіўся Ункоўскі.

— Так, — сказаў Іосіф Антонавіч.— Трэба думаць, для першага знаёмства ім дастаткова гэтых сціплых звестак.

Гашкевіч памыляўся.

Хвілін праз трыццаць на фрэгаце паявіліся ў багатым адзенні чыноўнікі — баніёсы. Іх непранікальныя твары гаварылі пра тое, што нагасакскія ўлады адносяцца да візіту рускіх караблёў з вялікай асцярогаю. На гэты раз пасланне было складзена на трох мовах: галандскай, французскай і англійскай. Японцы прасілі не з'язджаць на бераг, не станавіцца на якар блізка да горада, каб пазбегнуць

вялікіх непрыемнасцей, гаварылася ў пісьме, не парушаць законаў краіны, чакаць далейшых указанняў губернатара.

Японскіх чыноўнікаў пачаставалі наліўкаю, чаем, цукеркамі і салодкімі піражкамі. Кожны выпіў па кубачку наліўкі і закусіў цукеркаю. Цукеркі елі ахвотна, відаць, прыйшліся даспадобы, нават загарнулі па адной у свае паперкі, якія служылі ім замест насовак, і схавалі за пазуху. Юнкер Міша Лазараў крануў клавішы фартэпіяна. Японцы прыціхлі. У вачах лёгкі сполах. Секунда-другая, а пасля ўсмешка. Зразумелі: музыка з павагі да іх. Такі сардэчны прыём расчуліў гасцей, японцы глядзелі на ўсё, бесперастанку кланяючыся і ўсміхаючыся. З наступленнем сутоння заспяшаліся дадому, абяцаючы прыслаць у падарунак правізію, у якой мелі патрэбу каманды суднаў.

Назаўтра на прыбранай шаўковымі стужкамі лодцы-фунэ прыехаў хударлявы японец. Пасля губернатара і яго памочнікаў гэта старшы ў Нагасакі чыноўнік — гакейнс. Імя яго было — Баба-Гарадзаймон. Ён гаварыў пачцівым шэптам, без вокрыку, але світа, што яго суправаджала, імгненна смірнела. На рускіх афіцэраў ён зрабіў ураджанне прастачка і абжоры.

— Колькі дзён вы былі ў дарозе і як называецца горад, з якога вы адправіліся ў плаванне? — спытаў гакейнс, з задавальненнем цмокаючы губамі пасля з'едзенага пірага з варэннем.

Па даручэнні адмірала з японцам гутарыў Канстанцін Пасьет.

— Мы выйшлі з Расіі позняй восенню мінулага года. А горад наш называецца Кранштат.

— Мэта вашага візіту ў нашу краіну?

— Мы прывезлі імператару Японіі пісьмо нашага Міністэрства замежных спраў.

— Навошта ж з адным пісьмом прыбылі чатыры судны? — сказаў Баба-Гарадзаймон, нечакана паставіўшы сваім пытаннем Пасьета ў тупік. Аказалася, японскі чыноўнік не такі ўжо просты, якім прыкінуўся ў першы момант знаёмства. І трымаўся, і гаварыў ён як роўны з роўным. Справа набыла некалькі іншы кірунак. Японцы-госці — не дзеці. Іх наіўнасць не ёсць выказванне дзікасці. І даверлівасць — не загана. Справядлівей будзе сказаць, што яны па-старэчы мудрыя, уніклівыя, але ў чымсьці марудлівыя. Так што прадбачыць вынікі будучых перагавораў наўрад ці магчыма.

Дзень пры дні на фрэгаце з'яўляліся новыя людзі. Адразу ўсіх і не запомніш. Опер-баніёсы, проста баніёсы, перакладчыкаў — цэлае саслоўе, старшыя і малодшыя. Амаль усе ведаюць галандскую мову. Па-кітайску гавораць амаль так, як каталіцкія багасловы па-латыні.

На думку Іосіфа Антонавіча, пісьменства, культура, будыйская рэлігія, канфуцыянскае выхаванне прыйшлі да японцаў з Кітая.

Часцей за іншых на «Паладзе» бываў перакладчык Лёда. Рабы і тоўсты. Ён хутка рухаўся. Баніёсаў цікавіла ўсё. Адкуль прыйшлі? Мэта прыбыцця? Чым збіраецеся гандляваць? Ці ёсць на судне японцы, што пацярпелі караблекрушэнне? Ці доўга будуць рускія ў Нагасакі?

Па вечарах у кают-кампаніі ўсе размовы — пра японцаў. Афіцэры строілі жарты, паказвалі ў асобах перакладчыка Лёду і чыноўніка нагасакскага губернатара Баба-Гарадзаймона. Так, японскія вяльможы смешныя. Але нельга не аддаць належнае іх хітрасці і спрыту. Яны цягнуць перагаворы, не хочуць лічыцца з ветлівасцю і дабрынёю рускіх. Хто ведае, можа, ім больш спадабаліся б бесцырымоннасць, бізун, рашучыя дзеянні англійскіх каланістаў, што актыўна праявілі сябе ў Паўднёвай Афрыцы?

Барон Крыднер — самы нецярплівы афіцэр на фрэгаце — быў прыхільнікам крутых мер, яго раздражняла ўхілістасць і марудлівасць японцаў.

— Я не разумею дзеянняў адмірала,— звярнуўся ён аднойчы да Ганчарова і Гашкевіча, што гутарылі адзін з адным.— Час сагнуць японцаў у бараноў рог. Ці мы мазаныя іншым мірам?.. Нам жа таксама патрэбен на Ціхім акіяне свой порт! Англічане такую магчымасць не ўпусцілі б!..

Крыднер ведаў, што Гашкевіч і Ганчароў невысокай думкі пра англічан, таму вырашыў закрануць балючую струну.

— Японцы — народ з будучыняю,— адказаў Іосіф Антонавіч.— Мы не ведаем, што блукае цяпер у іхніх галовах, але ясна відаць — яны маюць патрэбу ў сувязях з еўрапейцамі. Думаю і пераканаы: плот, што адгарадзіў іхнія душы ад нашых, будзе знесены. Цярпенне, барон, цярпенне.

Іван Аляксандравіч Ганчароў па-іншаму вырашыў адказаць Крыднеру, але чамусьці прытаіў свае думкі. А былі яны вось якія: «Мы не англічане, мэты нашы іншыя, і Русь наша — не Англія. Ці не залішне далёка мы махнулі... Мы абураемся, што англічане прыгнятаюць неграў і індзейцаў. А што ў нас у Расіі? Ды яшчэ лянота нашых паноў, якая відаць нават тут на эскадры, у пасольстве, марудлівасць розуму...» Хто ведае, адносіліся гэтыя думкі да барона Крыднера ці не, але яны наводзяць на роздум: можа, у афіцэрскім асяроддзі пачынаў знаходзіць Ганчароў прыкметы абломаўшчыны?

Што ж да японцаў, дык ці не мелі яны да пэўнай ступені рацыю? Гашкевіч у нечым адчуў іх бяду і крыўду. Што яны бачылі ад еўра-

пейцаў? Дабра бачылі мала, а зла многа. Можа быць, таму і нарадзілася адчужэнне? Іншаземцы, асабліва партугальскія місіянеры, зрабілі ўсё, каб абудзіць у японцаў гідлівыя адносіны да еўрапейцаў, да іх рэлігіі, да іх вадаў: любові да ўлады, да золата, да ліхвярства, да дробных пачуццяў.

## II

Яўфімій Васілевіч Пуцяцін, прымаючы ў сябе опер-баніёсаў Баба-Гарадзаймона і Самбро, не лічыў, што ён мае справу з людзьмі ніжэйшага рангу, якім даручана роля пасыльных і часткова дробнае шпіёнства, выведніцтва. І ўсё ж адмірал прыняў рашэнне пасланы пісьмо нагасакскаму губернатару Авасава Бунгано-камі-сама. Баба-Гарадзаймон узяў пісьмо абедзвюма рукамі, узняў яго на знак пашаны да лоба, далікатна паклаў у драўляную лакіраваную скрынку.

Перакладчык Лёда, што сядзеў на карачках, прыслухоўваўся да шэпту Баба-Гарадзаймона, старанна паўтараючы пры кожнай яго фразе: «Хі, хі, хі» (абазначае прыкладна «так, слухаю»). Рускія афіцэры глядзелі на іх як на вандроўных акцёраў. Выслухаўшы да канца опер-баніёса, Лёда сказаў:

— Пісьмо, адрасаванае губернатару, мы перадамо сёння ж. Пісьмо ў вярхоўны савет губернатар Авасава Бунгано без цырыманіялу не прыме: такая воля бога сонца — нашага мікада. Учора пасланы ў сталіцу кур'ер, каб атрымаць дазвол у вышэйшых улад.

Пуцяцін не вельмі быў задаволены такім адказам, але не стаў наракаць на коснасць японскіх чыноўнікаў. Ён прапанаваў ім паснедаць у сваёй каюце, а сам пайшоў у карабельную царкву.

«Гасцям было горача ў каюце,— запісаў у сваім дзённіку Ганчароў,— яны даставалі маленькія каляровыя насоўкі і абціралі пот, асабліва другі баніёс, смаркаліся ў паперкі, хавалі іх у рукаў, абмахваліся веерамі. В. А. Гашкевіч завёў скрынку з музыкаю, і раптам ціха, пад сурдзінаю раздалося grâce, grâce — з Роберта[1]. Але гэта мала падзейнічала: Баба сказаў, што ў яго ёсць дзве табакеркі з музыкаю — галандцы прывезлі».

Пра галандцаў размова заходзіла часта. Яны тут прыжыліся. Японцы лічылі іх сваімі сябрамі. Галандцы ж, наадварот, скардзіліся на сваё вартае жалю становішча. Дырэктар галандскай факторыі обер-гофт Донкер Курцыус не нанёс візіт на карабель, даў знаць адміралу, што ён нездаровы. Але, як пасля высветлілася, японскія ўлады забаранілі обер-гофту наведаць рускі фрэгат. Пуцяцін зразу-

[1] Арыя з оперы «Роберт-Д'ябал» Джакома Меербера, нямецкага кампазітара.

меў сапраўдную прычыну «нялетлівасці» Донкера Курцыуса і не палічыў яго ўчынак крыўдным для сябе.

Афіцыйную справаздачу ў Міністэрства замежных спраў аб экспедыцыі ў Японію Пуцяцін загадаў Ганчарову і Гашкевічу складаць разам, удваіх. Асабліва важныя паперы і асабістыя пасланні вялікаму князю Канстанціну і графу Несельродэ генерал-ад'ютант пісаў сам, не знаёмячы з перапіскаю ні свайго сакратара, ні чыноўніка Азіяцкага дэпартамента Гашкевіча. Правіў справаздачы Пуцяцін мала, цалкам спадзеючыся на адукаванасць сваіх памочнікаў, але абавязкова нагадваў, каб аўтары дакументаў не забывалі ўпамінаць яго імя ў трэцяй асобе, бо яму так зручней ставіць подпісы пад дакументамі.

Вечарамі, калі заціхала жыццё на фрэгаце, Іосіф Антонавіч прыходзіў у каюту Ганчарова, па-дамашняму размяшчаўся ў крэсле і пачынаў абмяркоўваць напісаны ім або Іванам Аляксандравічам тэкст, ачышчаючы яго ад лішніх, што не адносіліся да справы, фраз, яркіх эпітэтаў і іншасказальных метафар.

— Шаноўны Іван Аляксандравіч, я разумею, якія недарэчныя мае паводзіны,— даруйце мне. Але... чыноўнікі Азіяцкага дэпартамента прывучаны чытаць дэпешы, зробленыя ў духу мемарандума. Мова фактаў, якая выкладае сутнасць пытання,— і толькі,— ветлівым тонам гаварыў Гашкевіч, імкнучыся аберагаць самалюбства пісьменніка.

— Я не бачу вашай віны, Восіп Антонавіч, наадварот, вы аказваеце мне паслугу. Дзелавыя паперы ў мяне не вельмі атрымліваюцца. Яны мне ў цяжар. І вандроўніцкае жыццё даволі-такі абрыдла. Часам у душы нараджаецца пачуццё раскаяння: навошта паехаў!

Гашкевіч насцярожыўся.

— У Расію хочацца,— працягваў Ганчароў,— у Расію... Даруйце, адхіліўся... Дык што ж у нас атрымалася? Восіп Антонавіч, прачытайце.

Іван Аляксандравіч запаліў яшчэ адну свечку і паставіў яе на край стала, бліжэй да Гашкевіча.

— «9 верасня на фрэгат з'явіліся старшыя пры губернатары два чыноўнікі са світаю і паведамілі, што губернатар чакае паўнамоцнага,— глухаватым голасам чытаў Іосіф Антонавіч.— У той час, калі шэсць шлюпак з паўнамоцным і яго світаю ў строгім парадку адна за другою крануліся з месца, судны нашыя імгненна пакрыліся флагамі ўсіх нацый, а матросы, якія стаялі па рэях, напоўнілі паветра трохразовым «ура». Усё гэта выклікала ў японцаў, мноства якіх сабралася на лодках каля суднаў, адзін агульны крык здзіўлення і захаплення. Пры выхадзе на бераг ген. Пуцяцін быў сустрэты

загадзя прыбылым туды каравулам і афіцэрамі і, адмовіўшыся ад падрыхтаваных для яго па дамоўленасці насілак, адправіўся цырыманіяльным шэсцем пад музыку да дома губернатара. Па дарозе расстаўлены былі японскія салдаты, якія выглядам сваім і адзеннем выклікалі ў нашых маракоў смех і шкадаванне. Пакоі губернатарскага дома, па якіх праходзіў паўнамоцны са світаю да залы, дзе прызначана спатканне, напоўнены былі сядзеўшымі ўздоўж сцен на падлозе чыноўнікамі ў парадным адзенні. Губернатар увайшоў у залу ў адзін час з паўнамоцным, і тады пачалася гутарка паміж імі праз перакладчыкаў...»

— Пачакайце, Восіп Антонавіч, я тут запісаў адну фразу... — Ганчароў пачаў гартаць свой дзённік.— Вось. Хачу пераканацца ў яе дакладнасці. Паслухайце. «Губернатар гаварыў, што «японскаму воку балюча бачыць чужыя судны ў двух портах Японіі, акрамя Нагасакі; што адказу мы тым не паскорым, калі пойдзем самі».

— Так, размова такая была.

— Можа, упісаць гэту фразу ў справаздачу?

— Я не пярэчу. Але як паглядзіць на гэта адмірал? Раптам ён пераменіць сваё рашэнне і мы не пойдзем у Эда?[1] Абставіны складваюцца так, што ён наўрад ці пойдзе за прыкладам камадора Перы.

— Бог з ім, чытайце далей,— сказаў Ганчароў.

— «Пасля размену звычайных пачціvасцей і перадачы губернатару пісьма ў вярхоўны савет паўнамоцны хацеў прыступіць да перагавораў адносна атрымання адказу, але губернатар адхіліў гэта, просячы адпачыць і пасля ўжо прадаўжаць гутарку, а пасля выйшаў. Правёўшы некалькі хвілін у адпачывальні, паўнамоцны са світаю вярнуўся ў залу і працягваў гаворку з губернатарам. Развітаўшыся з ім і праходзячы назад па пакоях, нашы ўбачылі, што ў адным з іх накрыты вялікі стол па-еўрапейску, застаўлены ўсялякімі блюдамі, што ўсё, відаць, было ўзята ў галандскай факторыі. Японскія чыноўнікі вельмі прасілі ген. Пуцяціна і яго світу прыняць снеданне, але ген. Пуцяцін, заўважыўшы ім, што яны дзейнічаюць супраць умовы і што пачастунку без удзелу ў ім губернатара прыняць не можа, выйшаў са світаю з дому і тым самым парадкам вярнуўся на фрэгат». Усё. Цяпер пакажаце адміралу?

— Раніцаю,— стомлена праказаў Ганчароў.

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Прайшоў месяц. Перагаворы зацягваліся. Нагасакскі губернатар паказаў сябе ўмелым дыпламатам,

---

[1] Эда — старая назва сталіцы Японіі, у многіх дакументах будзе прыводзіцца ў розным напісанні: Іеда, Еда, Ідда, Едда, Іедда.

знешне выказваў сяброўскія пачуцці, а напраўду быў праціўнікам усякіх зносін з чужаземцамі.

Іосіф Антонавіч Гашкевіч, афіцэры фрэгата з цяжкасцю пераносілі не толькі бесперспектыўнасць перагавораў, але і адсутнасць вестак з Расіі. А раптам ужо пачалася вайна?

Адмірал Пуцяцін на выпадак мажлівай вайны прыняў меры. Ён адправіў барк «Князь Меншыкаў» у Шанхай па навіны, а Рымскага-Корсакава на шхуне «Усход» — у Татарскі праліў пазнаёміцца з нядаўна адкрытымі Генадзем Іванавічам Невяльскім, але не нанесенымі яшчэ на карту гаванямі, якія можна было б выкарыстаць як закрытыя стаянкі для караблёў эскадры.

15 верасня капітан-лейтэнант Фуругельм вярнуўся на сваім барку з Шанхая. Замежныя газеты «Чайна мэйл», «Таймс», «Нью-Ёрк дэйлі трыбюн» пацвердзілі паведамленне аб разрыве Расіі з Турцыяй. Праз тыдзень адмірал зноў адправіў барк «Князь Меншыкаў» у Шанхай. У гэты час ад берагоў Сахаліна вярнулася паравая шхуна «Усход». Воін Андрэевіч Рымскі-Корсакаўданёс Пуцяціну, што ён агледзеў і апісаў тры бухты і частку берага на заходнім баку Сахаліна, а таксама частку азіяцкага берага на поўнач і на поўдзень ад толькі што адкрытай Імператарскай бухты, вызначыў узаемнае размяшчэнне берагоў Татарскага і Сахаліна. Вопіс азначаных мясцін і карту Сахаліна Пуцяцін паслаў потым Галоўнаму марскому начальству ў Пецярбург, а разам з імі ўзор каменнага вугалю, знойдзенага на заходнім беразе Сахаліна ў вялікай колькасці на паверхні зямлі (дваццаць чалавек матросаў за некалькі дзён наламалі яго каля 35 тон, і на ім шхуна зрабіла адваротнае плаванне да Нагасакскага порта).

Акрамя гэтага, Корсакаў даставіў прысланае праз генерал-губернатара Усходняй Сібіры паведамленне аб заняцці Расіяю Сахаліна і прадпісанне ад Міністэрства замежных спраў настойваць у перагаворах з японцамі аб уступках рускім гэтага нікому не належачага вострава, выключаючы паўднёвы яго край з залівам Аніва, дзе знаходзяцца японскія сялібы, у якіх займаюцца рыбнымі промысламі.

— Настойваць на перагаворах пра Сахалін? — разважаў Гашкевіч.— Гэтыя перагаворы з японцамі яшчэ не пачыналіся, а граф Несельродэ ўжо спіць і бачыць Сахалін. Усё не так проста. Да таго ж — вайна на парозе Расіі.

10 лістапада 1853 года Яўфімій Васілевіч Пуцяцін запрасіў да сябе афіцэраў і аб'явіў ім сваё рашэнне аб пераходзе ўсёй эскадры ў Шанхай. Адмірал спадзяваўся асабіста атрымаць інфармацыю кон-

сулаў нейтральных дзяржаў аб вайне і ў выпадку ваенных дзеянняў прыняць меры для абароны ўсходніх берагоў Расіі.

На другі дзень апоўдні рускія караблі зняліся з якараў і пакінулі Нагасакі.

## III

У канцы 1853 года камадор Перы атрымаў звестку пра тое, што руская эскадра зноў рыхтуецца да адплыцця ў Японію. Баючыся саперніцтва Расіі, камандуючы амерыканскай эскадры вырашыў сарваць дыпламатычную місію Пуцяціна. Перы загадаў закупіць у Шанхаі ўвесь вугаль, які там быў, і змясціць яго ў марскія склады ЗША пад адказнасць негацыянта Ааморы з найстражэйшым прадпісаннем не выдаваць паліва нікому без асабістага пісьмовага паведамлення камадора.

Аднак планы Перы сарваліся. Прыбыўшы ў Шанхай, Яўфімій Васілевіч Пуцяцін спыніўся ў доме містэра Канінгама — мясцовага рускага прадстаўніка і адначасова амерыканскага консула (для консульскай службы таго часу было звычайнай з'яваю, калі адзін і той жа чалавек мог выконваць абавязкі консула або віцэ-консула і іншай дзяржавы). Начальнік экспедыцыі звярнуўся да містэра Канінгама з просьбаю закупіць дваццаць тон вугалю. Рускаму віцэ-консулу было няёмка адказаць Пуцяціну і ў той жа час не хацелася парушаць загад Перы. Ён доўга раздумваў, а пасля рызыкнуў выдаць рускаму камандуючаму нязначную частку неабходнага для караблёў эскадры вугалю. Ааморы спачатку адмовіўся, але потым вымушаны быў падпарадкавацца. Калі Перы даведаўся пра гэта, ён быў літаральна ашалелы і даў жорсткі наганяй негацыянту. «Я звольніў бы Ааморы,— пісаў камадор марскому міністру ЗША,— але мяне стрымала толькі тое, што такая мера была б вытлумачана тым, што ён пазычыў вугаль рускаму адміралу; тым самым была б нанесена абраза як самому Пуцяціну, так і яго ўраду». Адкрытая ж канфрантацыя з Расіяй не ўваходзіла ў планы амерыканцаў.

15 снежня Яўфімій Васілевіч Пуцяцін атрымаў поштаю вестку пра блізкі разрыў з заходнімі дзяржавамі — Англіяй і Францыяй. Адмірал загадаў камандзіру шхуны «Усход» В. А. Рымскаму-Корсакаву і афіцэрам з Шанхая адправіцца да Сядзельных астравоў, дзе знаходзіліся караблі эскадры. Пад вечар шхуна «Усход» прыбыла на рэйд і кінула якар недалёка ад фрэгата «Палада». На другую раніцу ўсе караблі рускай эскадры накіроўваліся зноў у Японію. Праз пяць дзён яны былі ў Нагасакі.

Напярэдадні новага 1854 года японскія ўлады згадзіліся прыняць рускага пасланніка Пуцяціна на сваім беразе.

У адзінаццаць гадзін 31 снежня да фрэгата «Палада» падышла вялікая прыбраная лодка-фунэ з трыма важнымі саноўнікамі са світы японскіх паўнамоцных. Як толькі яны ўзняліся на палубу, зайграў аркестр і каравул аддаў чэсць. Дробныя чыноўнікі, што суправаджалі саноўнікаў, і перакладчыкі аддалі самы нізкі паклон. Шоргаючы туфлямі, госці абышлі строй матросаў і накіраваліся ў салон да адмірала, каб яшчэ раз папрасіць яго з'ехаць на бераг. Пуцяцін з ушанаваннямі прыняў візіцёраў і адразу аддаў распараджэнне спусціць на ваду адміральскі катар.

А палове першай руская дыпламатычная місія адплыла ад фрэгата.

Праходзячы міма шхуны «Усход» і барка «Князь Меншыкаў», японцы, чакаючы салюту, са страху паўцягвалі галовы ў плечы. Але на гэты раз стралялі з гармат «Палада» і карвет «Алівуца». Яны знаходзіліся далей за гэтыя судны. Матросы ж са шхуны і барка толькі крычалі «ўра», узрушваючы цішыню гавані.

Флатылія рускіх шлюпак прыстала да берага каля плошчы. Каравул выстраіўся з правага боку прыстані, а афіцэры эскадры — з левага. Японскія чыноўнікі сустрэлі Пуцяціна нізкімі паклонамі, а каравульныя матросы адсалютавалі ружжамі.

Рускія пасланнікі ішлі пешшу ў акружэнні шматлікіх японскіх чыноўнікаў і афіцэраў, узброеных бамбукавымі палкамі. Шэсце замыкалі паліцэйскія, яны вялі за аброць прыбранага стужкамі каня і неслі паланкіны, хоць патрэбы ў іх не было — дзень надарыўся ясны, сонечны. Дарога ад марской прыстані да параднай брамы дома, дзе прызначалася аўдыенцыя, адгароджвалася ад вачэй простага люду шоўкавай матэрыяй і ахоўвалася салдатамі ў лакіраваных канічных капелюшах; кожны з іх стаяў за дзесяць крокаў ад іншага і трымаў на плячы ружжо, драўляны ствол якога быў абмотаны нечым накшталт чырвонага сукна.

Рускія маракі перасеклі плошчу, падняліся на галерэю, што вяла к дому. Тут світа Пуцяціна спынілася. Японскі афіцэр скамандаваў на каравул, і камандуючы ў суправаджэнні Гашкевіча, Пасьета і Ганчарова пераступіў парог доўгага калідора, па баках якога сядзелі на кукішках самураі-стражнікі, не варушачыся, баючыся змаргнуць вокам, быццам статуі. Пуцяціна сустрэў сакратар паўнамоцных Накамура Тамея і запрасіў прайсці ў парадную залу. Яны прамінулі анфіладу пустых пакояў, і нарэшце рускія дыпламаты ўбачылі, што ў апошнім пакоі каля задняй сцяны стаялі, з пашаны да

замежных гасцей, чатыры найвышэйшыя саноўнікі — Цуцуі Хізэно-камі[1], Кавадзі Сайеманно-камі[2], Алао Тасанно-камі і Макумота. За іх спінамі ўзвышаліся чатыры афіцэры-самураі і трымалі мячы сваіх патронаў, якіх японскі ўрад упаўнаважыў весці перагаворы.

Галовы паўнамоцных былі накрыты трохвугольнымі лакіраванымі какошнікамі, з-пад якіх тырчалі чорныя касічкі. У чыноўнікаў меншага рангу з-пад халатаў выглядвалі доўгія нагавіцы, якія апускаліся шмат ніжэй за ступні ног, так што японцы не хадзілі, а ледзь пасоўваліся, шаркаючы туфлямі па гладкіх эластычных падсцілках, што пакрывалі ўсю падлогу.

У самым цэнтры залы стаялі на каленях перакладчыкі Эйноске[3] і Кічыбе. Першы вітаў дыпламатаў старшы паўнамоцны Цуцуі, а за ім усе астатнія. Прамовы іх, перакладзеныя на галандскую мову, былі ветлівыя і па-ўсходняму красамоўныя. Рытуал вітанняў цягнуўся доўга, стары Цуцуі прыкметна стаміўся і прапанаваў гасцям адпачыць.

На гэтай урачыстай цырымоніі Іосіф Антонавіч Гашкевіч не выконваў ролі перакладчыка. Эйноске і Кічыбе гаварылі па-галандску, таму ўсе клопаты ўзяў на сябе Канстанцін Пасьет.

Пасля паўгадзіннага адпачынку з чаяваннем у зале паявіўся цырымоніймайстар Накамура. Гэты па-мядзведжы нехлямяжы пан ганарыўся сваім прызначэннем. Пры размове ён сціскаў рукі ў кулакі, а ў голасе адчувалася важнічанне. Перакладчыкі яго баяліся.

Накамура запрасіў усіх на абед. Пуцяцін, Ункоўскі, Ганчароў і Пасьет пайшлі ў прыёмную залу, дзе іх чакалі Цуцуі і Кавадзі. Астатнім рускім гасцям стол быў накрыты ў другім, больп прасторным пакоі. Елі доўга і многа. Смаку ніякага. Булёны, рыс, карэнне, ракі, рыба, ікра — усё без солі, без хлеба. А японцам — хоць бы што. На апетыт не скардзіліся. Ганчароў з вялікай цяжкасцю прымушаў сябе есці, выклікаючы не адну ўхмылку з боку японцаў. «Памятаю, што была смажаная рыба, вараныя вустрыцы, а можа быць, і малюск

---

[1] Цуцуі Хізэно-камі Масаноры (1778—1859) — вядомы дыпламат і дзяржаўны дзеяч. Пасля падпісання дагавора з Я. В. Пуцяціным быў у апале ў сёгуна, які санкцыянаваў на гэта Цуцуі.

[2] Кавадзі Сайеманно Тасіакіра (1801—1868) — у час перагавораў з Я. В. Пуцяціным другая асоба пасля Цуцуі. Кавадзі вёў дзённік аб перагаворах, апублікаваны ў 1913 годзе. Пасля падзення сёгуната скончыў жыццё самагубствам.

[3] Эйноске (правільна Эйносукэ Марыяма Такіхіра (1829—1887)) пазней як знаўца англійскай і галандскай моў прыцягваўся да перагавораў з рускім і амерыканскім пасольствамі. У 1862—1863 гадах наведаў Францыю, Англію, Германію і Расію ў складзе першай дыпламатычнай місіі, шго пабывала ў Еўропе.

які-небудзь, падобны смакам на вустрыцу. В. А. Гашкевіч казаў, што тут былі трэпангі; я еў нешта чорнае, крохкае і слізістае, але не ведаю што».

Пад канец абеду з'явіліся слугі з гарачымі чайнікамі.

— Цяпер трэба выпіць саке,— сказаў стары Цуцуі.

На рускія караблі японцы не раз прывозілі сваю гарэлку, але яна нікому не спадабалася. Цёплая яна аказалася лепшай: нагадвала нечым слабы, вытхнуты ром. Саке — самагонка з рысу. Выпіўшы па кубачку, рускія маракі пачалі адмаўляцца — агідна! Але японцы як гасцінныя гаспадары аб'явілі, што паводле іх звычаю трэба выпіць да трох разоў. Гаспадары ветлівыя; давялося падтрымаць японскі звычай. Маракі — народ загартаваны!

Цуцуі пазіраў на гасцей з усмешкаю, па-сяброўску.

— Мы прыехалі з-за многіх соцень,— пачаў ён мямліць,— а вы з-за многіх тысяч міль; мы ніколі адзін аднаго не бачылі, былі так далёкія між сабою, а вось цяпер пазнаёміліся, сядзім, гамонім, абедаем разам. Як гэта дзіўна і прыемна!

У рускіх маракоў былі тыя самыя думкі, тыя самыя пачуцці. Бадай, толькі Іосіф Антонавіч не паддаваўся настрою, які адчувалі яго суайчыннікі. Ён добра ведаў людзей Усходу. Дзесяць гадоў, пражытых у Кітаі, многаму яго навучылі. З кароткіх фраз, выпадкова кінутых баніёсамі, ён зразумеў, што японцы не хочуць гаварыць аб справе. Нахіліўшыся да адмірала, Гашкевіч сказаў:

— Ваша правасхадзіцельства, сённяшні візіт без карысці. На сыты страўнік нашы гаспадары дыпламатыяй займацца не здатныя. Трэба пачакаць дзянёк-другі.

Пуцяцін не прыслухаўся да парады свайго перакладчыка. Як толькі слугі прыбралі са стала пустыя кубачкі і цукеркі ў лакіраваных скрынках, рускі пасланнік вырашыў распачаць перагаворы.

— Панове,— звярнуўся адмірал да паўнамоцных,— у мяне да вас два пытанні па справе, якая прывяла сюды маю місію. Я прашу сёння адказаць на іх.

За ўсіх адказаў стары Цуцуі:

— Паводле нашых японскіх звычаяў, пан адмірал, пры першым знаёмстве размовы аб справе не вядуцца. Гэтага патрабуюць свецкія прыстойнасці і законы гасціннасці.

Ганчароў першы зразумеў, як меў рацыю Гашкевіч: японцы лянуюцца гаварыць пра істотнае. Дарэмна адмірал кінуў пробны камень. Ён, як бумеранг, вярнуўся назад.

— Іосіф Антонавіч, перакладзіце,— голас Пуцяціна прагучаў з адценнем крайняга абурэння.— Я буду рады, панове, прыняць вас

заўтра ў сябе на фрэгаце, выкладу пытанні на паперы, але з тым, каб да вечара вы адказалі на іх.

— Як мы можам абяцаць гэта,— запярэчыў Цуцуі,— калі не ведаем, у чым заключаюцца пытанні?

Іосіф Антонавіч сказаў, што пытанні будуць падрыхтаваны своечасова. Японскія паўнамоцныя, параіўшыся між сабою, абяцалі зрабіць усё мажлівае, каб задаволіць просьбу адмірала.

У час візіту ў адказ японскіх паўнамоцных на фрэгат «Палада» Пуцяціну ўсё ж удалося ўручыць старому Цуцуі пісьмо графа Несельродэ ў японскі вярхоўны савет.

У гэты дзень госці і гаспадары рассталіся вялікімі сябрамі.

## IV

Як жа праходзілі перагаворы японцаў з амерыканскім пасольствам камадора Перы? Няўжо яны так вадзілі за нос камандуючага амерыканскай эскадры, як водзяць цяпер адмірала Пуцяціна? Тады, больш за сто гадоў назад, руская дыпламатычная місія Пуцяціна не ведала амаль нічога, блукала ў поцемках. Звесткі з газет, калі іх удавалася атрымаць, былі настолькі малыя, мізэрныя, што па іх складсці агульны малюнак амерыкана-японскіх перагавораў наўрад ці было мажліва.

Зараз мы можам раскрыць заслону амерыканскай дыпламатыі. Сакрэту ў гэтым няма. Таямніца нічыя: ні японцаў, ні камадора Перы.

Праз пяць дзён пасля таго, як «Палада» пакінула Мадэйру, кінулі якар каля вострава Сант'яга ў порце Прая. Экіпажы рускіх караблёў мелі патрэбу ў свежай правізіі. Тут было афрыканскае сонца, але партугальскія ўладанні. Ад Мадэйры да астравоў Зялёнага Мыса лічыцца тысяча марскіх міль па мерыдыяну. Порт Прая вельмі зручны для якарнай стаянкі. Суднаў замежных дзяржаў было не так ужо шмат. Пры добрым надвор'і на моры караблі ў гавані доўга не застойваліся.

На рэйдзе стаялі два амерыканскія фрэгаты і паравая шхуна, што ўваходзілі ў эскадру камадора Перы. Флаг-афіцэр Пасьет і лейтэнант Бутакоў наведалі фрэгат «Паўхатан», якім камандаваў капітан Адамс. У афіцэраў была прыдумана зачэпка: наладзіць шлюпачныя гонкі паміж экіпажамі дзвюх нацый. Амерыканцы ад спаборніцтваў адмовіліся, але прынялі рускіх маракоў гасцінна. Старшы афіцэр фрэгата лейтэнант Мак-Клюні аказаўся не дурань выпіць. За абедзенным сталом, за размовамі па ўрыўкавых фразах госці даведаліся, што эскадра Мэцью Колбрайта Перы выйшла з Норфал-

ка 24 лістапада 1852 года і накіроўваецца ў Японію. Камадор трымае свой брэйд-вымпел на фрэгаце «Сасквехана». Аказалася, што амерыканскія караблі ідуць тым самым маршрутам, што і «Палада», але апярэджваюць экспедыцыю Пуцяціна на цэлы месяц. Эскадра Перы ўжо пабыла каля вострава Мадэйра. Папоўніўшы запасы вугалю, прайшла міма Канарскіх астравоў і рухаецца да вострава Святой Алены, што стаў славутым дзякуючы французу Банапарту. Каля мыса Добрай Надзеі камадор затрымлівацца не збіраецца, а адразу крута паверне на паўночны ўсход, да вострава Цэйлон. Пра мэты свайго плавання да берагоў Японіі гаспадары маўчалі. Пазней, калі рускія афіцэры яшчэ раз пабывалі на фрэгаце «Паўхатан», змова маўчання была парушана. З вуснаў аднаго з афіцэраў яны даведаліся, што марскі міністр Кенэдзі перад адыходам эскадры з Норфалка ўручыў камадору Перы інструкцыю, у якой гаварылася: «Вы загадайце ўсім Вашым падначаленым устрымацца ад упамінання аб гэтым у іх лістах да сяброў. Журналы і асабістыя запісы афіцэраў і іншых асоб, што ўваходзяць у склад экспедыцыі, павінны разглядацца як належныя дзяржаве да таго часу, пакуль не будзе атрыманы дазвол Марскога дэпартамента на іх апублікаванне». Таямніца, якою была акружана экспедыцыя амерыканцаў, лішні раз сведчыць пра тое, што яна зусім не мела мірнага характару. Робячы з усяго гэтага высновы, Канстанцін Пасьет запісаў у дзённіку: «Амерыканцы вырашылі дасягнуць мэты дабром або сілаю і, захапіўшы які-небудзь астравок, прызначыць яго складачным месцам сваіх запасаў і тавараў. Ідуць яны з патрабаваннем, каб усім дзяржавам было адкрыта некалькі портаў, як зроблена гэта ў Кітаі, і найгалоўнейшае, каб мець у паўночнай частцы Ціхага акіяна прыстанішча для сваіх кіталоваў і доступ да мясцін, багатых на каменны вугаль, у якім мае патрэбу ўвесь Ціхі акіян».

...Амерыканская эскадра з'явілася нечакана. Японскія вартавыя пасты, размешчаныя на ўзбярэжжы заліва Урага, данеслі ў сталіцу аб паяўленні чужаземных караблёў.

Гэта было 8 ліпеня 1853 года. Праз суткі на борт флагманскага фрэгата «Сасквехана» ўзняўся прадстаўнік японскага ўрада Накадзіма Сабурасука. Камадор Перы прыняў госця ў сваім салоне. Візіт быў кароткі і дзелавы. Накадзіма Сабурасука заявіў пратэст:

— Паколькі паводле японскіх законаў усе справы з замежнымі дзяржавамі могуць весціся толькі ў Нагасакі, я прашу вас накіравацца туды.

Гэтыя словы пакрыўдзілі амерыканскага пасла. Ён не чакаў, што японцы праявяць цвёрдасць духу, хоць і ведаў ад галандцаў аб паслядоўнай палітыцы ўрада Такугава ў адносінах да чужаземцаў.

Перы заявіў, што «ні ў якім выпадку не пойдзе ў Нагасакі» і што ён «павінен уручыць пасланне прэзідэнта японскаму імператару менавіта тут з адпаведнымі цырымоніямі». Маючы на ўвазе дапамогу эскадры[1], камадор тут жа прыгразіў, што ён не пойдзе, пакуль яго місія як пасла не будзе выканана.

Накадзіма не хацеў і не мог вяртацца ў Эда ні з чым: трэба было дамагчыся ад амерыканскага пасла падпарадкавання і павагі да законаў чужой краіны. Японскі чыноўнік сустрэўся з Перы яшчэ раз і прад'явіў ультыматум.

Камадор не стаў хаваць свае агрэсіўныя задумы, шчыра заявіў: калі японскі ўрад не знаходзіць патрэбным прызначыць адпаведную асобу для атрымання дакументаў, адрасаваных імператару, дык ён, камадор, абавязкам якога з'яўляецца даставіць іх, высадзіцца на бераг з дастатковымі сіламі і ўручыць іх асабіста, якія б ні былі вынікі гэтага.

Пагроза камандуючага амерыканскай эскадры не была пустой. Чатыры фрэгаты знаходзіліся ў поўнай баявой гатоўнасці. Японскія ж фарты не ўяўлялі сабою магутных умацаванняў. Яны мелі ўсяго 124 гарматы, з якіх толькі восем калібрам перавышалі 5 дзюймаў.

Каб запалохаць жыхароў горада Урага, Перы аб'явіў Накадзіму, што ён загадае страляць па вартавых джонках, якія акружылі амерыканскія караблі, а потым перанясе агонь на фарты і горад. У Уразе пачалася паніка.

Відавочца падзей гэтых трывожных дзён Іідзука Кумэсабура пісаў, што, калі прыйшлі замежныя караблі, купцы сталі вывозіць з горада тавары і ўзніклі беспарадкі. Бугё (граданачальнік) супакойваў усіх, кажучы, што не варта паддавацца паніцы і што калі здарыцца нешта сур'ёзнае, дык будуць дадзены адпаведныя загады. Ён угаворваў усіх разысціся па хатах, але яго словы ні на каго не дзейнічалі, і ўсе людзі рыхтаваліся ўцякаць з горада. Акрамя таго, шырыліся розныя чуткі, народ страшэнна хваляваўся і з цяжкасцю можна было навесці парадак.

Між тым, не трацячы ні адной хвіліны, амерыканскія афіцэры заняліся абследаваннем глыбінь заліваў Урага і Эда, а таксама разведкаю фартоў і батарэй японцаў. На немалое здзіўленне амерыканскіх маракоў, берагавыя ўмацаванні аказаліся з бярвенняў. Апрача гэтага, маючы вялікую патрэбу ў гарматах, японцы пабудавалі некалькі фальшывых батарэй.

---

[1]Камадор Мэцью Колбрайт Перы камандаваў эскадраю з 12 караблёў, сярод якіх быў 74-гарматны лінейны і некалькі паравых фрэгатаў. Судны гэтыя не ўсе суправаджалі свайго флагмана, але яны плавалі ў суседніх з Японіяй морах і маглі прыйсці на загад Перы ў самы кароткі тэрмін.

Тут дарэчы ўспомніць вясёлую размову Ганчарова з адным матросам «Палады»: «Вось я на днях сказаў яму, што бачыў, як японец адзін паварочвае гармату, а вас тут... удзесяцёх валтузіцеся каля аднае і ледзьве рухаеце яе». «Точна так, ваша высокаблагароддзе,— адказваў ён,— куды нам! Надоечы і я бачыў, як хваляй плюхнула на бераг, вунь на тую нізенькую батарэю, ды і змыла гармату, а яна і паплыла, а японец едзе побач, ды і штурхае яе да берага. Ужо такія пушкі ў іх!»

Японцы не маглі супрацьстаяць першакласнай артылерыі амерыканцаў. Што ж да ружжаў, дык, як пісаў японскі гісторык Цудзі Дзэнасукэ, «іх у нас на 1000 чалавек даводзілася ўсяго 30 штук, а ў заходніх дзяржавах на 1000 чалавек — 1000 штук».

Камадор Перы цудоўна разумеў, што ў яго распараджэнні добра ўзброеныя баявыя караблі, а ў японцаў — джонкі ды самурайскія мячы. Ён амаль бачыў перамогу. Трэба зрабіць яшчэ адзін крок, і яго дыпламатычная місія будзе мець поспех.

11 ліпеня Перы аддаў загад камандзірам суднаў зняцца з якараў і ісці ў Эда. Цяпер пагроза навісала і над сталіцаю Японіі.

Ва ўрадзе сёгуна[1] — перапалох. Для перагавораў з амерыканскім паслом быў прызначаны ўплывовы чыноўнік Каяма Эдзаэмон.

«Не кажучы ўжо пра камадора,— пісаў ён у сваім данясенні,— ва ўсіх прысутных на гутарцы чужаземцаў былі суровыя твары, і не цяжка было здагадацца, што ў глыбіні душы яны поўныя рашучасці што б там ні стала дамагчыся задавальнення іх патрабаванняў. Таму калі яны з дапамогаю зброі прымусяць нас прыняць пасланне, дык гэта будзе мець небяспечныя вынікі ў сувязі з агульным становішчам у краіне».

Адзіны шлях пазбегнуць вайны — гэта задаволіць патрабаванні амерыканцаў і прыняць пісьмо прэзідэнта Філмара. Так лічыў Каяма..

Раніцай 14 ліпеня фрэгаты «Сасквехана» і «Місісіпі» аддалі якары на рэйдзе невялікага рыбацкага паселішча Курыга-гама.

Тут камадор Перы сустрэўся з князем Ідзу і ўручыў яму пасланне прэзідэнта ЗША.

Насуперак спадзяванням амерыканцаў цырымонія перадачы пісьма праходзіла ў абсалютнай цішыні; паўнамоцныя японскага ўрада на знак пратэсту супраць гвалтоўных дзеянняў камандуючага амерыканскай эскадры не вымавілі ні адзінага слова.

---

[1] Сёгун (сіагун, сьегун, шагун) — фактычны правіцель Японіі, буйнейшы феадал, якому поўнасцю належала ўлада. Імператар заставаўся як бы духоўным галавой».

Дасягнуўшы свайго першага поспеху, Перы заявіў, што ён дае японцам часу на роздум да вясны 1854 года. На пытанне Хоры — японскага перакладчыка,— ці вернецца зноў камадор у Японію, Перы адказаў, што вернецца з усёй эскадраю, гэта значыць з яшчэ большай колькасцю караблёў.

Праз тры дні амерыканскія судны пакінулі Японію.

## V

На Новы год, вечарам, калі на фрэгаце «Палада» прабілі чатыры склянкі, да борта прычаліла фунэ з двума чыноўнікамі ад паўнамоцных. Яны прывезлі адказ на два пытанні Пуцяціна. Гашкевіч і Пасьет спалі. Ганчароў, пакутуючы ад бяссонніцы, хадзіў па палубе. Яму як сакратару адмірала давялося прыняць чыноўнікаў. Праз перакладчыкаў Сёзу і Лёду ён даведаўся, што на прапанаваныя Пуцяціным пытанні паўнамоцныя адказаць пакуль што не могуць, але ў іх ёсць пісьмо вярхоўнага савета на пасланне з Расіі графа Несельродэ.

Сёза сказаў:

— Няхай пан Гашкевіч перакладзе адміралу. Можа, у пісьме сёгуна ёсць адказы на пытанні рускага пасланніка?

...Ранічкай прыехалі перакладчыкі Эйноске і Кічыбе прасіць адмірала і ўсіх старшых афіцэраў з'ехаць на бераг. Паўнамоцныя вырашылі аказаць яшчэ адзін урачысты прыём.

— З якой нагоды? — спытаў Гашкевіч.

— Будуць уручаць пісьмо вярхоўнага савета,— з гонарам адказаў Кічыбе.

«...5 студзеня 1854 года ўрачыста ўручылі мне адказ вярхоўнага савета на кітайскай мове з перакладам на галандскую на пісьмо пана Расійскага дзяржаўнага канцлера,— даносіў Пуцяцін міністру замежных спраў,— і ў той самы час аб'явілі, што яны прысланыя для вытлумачэння ўсяго таго, што ў гэтым пісьме магло б нам здацца незразумелым.

Адказ вярхоўнага савета можа служыць узорам японскай дыпламатыі і наогул выразам хітрага розуму і спрытнага характару, што вылучаюць японскі народ. У пісьмах не выказана зусім ні адмовы, ні згоды на нашы патрабаванні.

...Я імкнуўся даказаць, што з пашырэннем дасягненняў мараплавання, навук і гандлю ўсе самыя далёкія краіны збліжаюцца і ўступаюць паміж сабою ў цесныя ўзаемаадносіны, што Японіі, якая ляжыць паміж Кітаем, Каліфорніяю, Камчаткаю і Сандвічавымі

астравамі, па адным гэтым яе геаграфічным становішчы нельга ўхіліцца ад частых наведванняў яе портаў замежнымі суднамі...

...Што да законаў, якімі забаронены ў Японіі кантакты з іншаземцамі і на якія японскі ўрад пастаянна спасылаўся, падмацоўваючы гэтым адмовы свае ўступіць у сувязі з рознымі дзяржавамі, дык я, нагадаўшы ў азначанай ноце, што законы гэтыя існуюць усяго каля двух стагоддзяў, г. зн. з таго часу, калі Японія стала цурацца іншаземцаў, заўважыў, што японскі ўрад прызнаў некаторыя з гэтых законаў несправядлівымі і адмяніў іх, між іншым закон, паводле якога прадпісвалася ўсіх іншаземцаў, што прыбываюць да японскіх берагоў, саджаць у астрог, то, такім чынам, і іншыя падобныя да гэтай і якія парушаюць агульначалавечыя правы пастановы могуць быць таксама зменены ў адпаведнасці з часам і абставінамі».

6 студзеня пачаліся перагаворы, а з наступнага дня і сталыя паездкі афіцэраў у Нагасакі. Цырыманіялу больш не было. Уся група дыпламатаў размяшчалася на двух вельботах. У адным — адмірал, Гашкевіч, Пасьет, Ганчароў і Пешчураў, у другім — матросы з крэсламі. У гэтых крэслаў была свая гісторыя.

Японцы такой мэбляй не карысталіся, і рускія вымушаны былі прывезці яе з карабля. У першы дзень візіту ў Нагасакі Пуцяцін вырашыў пакінуць крэслы ў тым доме, дзе яго самога і світу прымалі японскія паўнамоцныя.

Губернатар Авасава Бунгано ад перапуду замахаў рукамі:

— Што вы, ваша правасхадзіцельства, мне тады давядзецца самому пільнаваць крэслы.

Адмірал прыняў словы губернатара за жарт, афіцэры засмяяліся, але гаспадар горада стаяў на сваім:

— Пажар будзе, згараць, відаць, і пацукоў таксама многа ў гэтым доме: папсуюць.

Ды мы не спагонім, у нас яшчэ ёсць,— сказаў прыязна Пуцяцін.

— Вы не спагоніце, а я ўсё ж павінен буду адказваць, калі хоць адно крэсла папсуецца.

— Добра,— згадзіўся адмірал,— воля ваша.

Авасава Бунгано адчуў палёгку: цяжкая адказнасць, здавалася, адляцела прэч! Вось і давялося вазіць на вельбоце крэслы.

Паўнамоцны Цуцуі прыняў ноту адмірала Пуцяціна і абяцаў прадставіць яе са сваімі каментарыямі ў вярхоўны савет.

На гэтым перагаворы закончыліся. Зноў рускія госці елі лепшыя прысмакі японцаў, але не вельмі апетытна, бо мала каму прыйшлася да густу прытарна-салодкая ці прэсная кухня гаспадароў.

Паўнамоцныя некалькі разоў спрабавалі даведацца, куды цяпер пойдуць рускія караблі, яны баяліся, асабліва Кавадзі, каб адмірал Пуцяцін іх не ашукаў: чаго добрага паверне судны ў Эда, тады на галовы паўнамоцных зваліцца непапраўная бяда.

— Я вырашыў ісці ў Кітай,— сказаў Пуцяцін.— У Расію пакуль не пойдзем, у Ахоцкім моры — ільды, туды нельга.

Супакаенне японцаў было нядоўгім — адмірал нагнаў страху, паабяцаўшы вярнуцца ў Нагасакі ранняй вясною.

# ЛЯ НЯЗВЕДАНЫХ БЕРАГОЎ

## I

Фрэгат «Палада» трымаў курс на астравы Рукю, або Лікейскія, як іх тады называлі. У порце Наха флагманскі карабель Пуцяціна павінна была чакаць шхуна «Усход», высланая туды раней, каб падрабязней разведаць аб міжнароднай абстаноўцы ад камадора Перы як прадстаўніка нейтральнай дзяржавы.

Амерыканцы, або «людзі Злучаных Штатаў», празваныя так японцамі, пайшлі з Лікейскіх астравоў за некалькі дзён да прыходу рускай эскадры. У порце Наха на востраве Акінава знаходзіліся толькі хворыя матросы і два афіцэры, што ўзначальвалі мясцовую амерыканскую калонію. Адзін з іх наведаў адмірала. «Афіцэр,— пісаў Пуцяцін,— прад'явіў мне паперу, у якой сказана было, што Лікейскія астравы паступаюць у распараджэнне Злучаных Штатаў як адплата за некаторыя патрабаванні, незадаволеныя японскім урадам...»

Само сабою зразумела, што Пуцяцін рашуча адмовіўся прызнаць незаконныя дамаганні ЗША на архіпелаг Рукю.

Да 1372 года Лікейскія астравы і народ, што жыў на іх, не зналі іншаземнага панавання, а пасля трапілі пад прыгнёт і ўплыў Кітая. У 1609 годзе на астравы прыйшлі японскія судны. Даймё[1] Сацумоскі пакарыў свабодалюбны народ і абклаў велізарнай данінаю. З таго часу японцы сталі гаспадарамі архіпелага і нават зацвярджалі лікейскага караля.

Аднак з прычыны ўкаранёнай традыцыі лікейцы прадаўжалі ездзіць па гандлёвых справах не ў Японію, а ў Кітай.

...Ранічкаю 9 лютага эскадра пакінула маляўнічыя Лікейскія астравы і праз два дні дзякуючы папутнаму ветру перасекла паўночны тропік. Адмірал загадаў «дзеду» — старшаму штурману Халезаву

---

[1] Даймё, або дайміёс, — князь.

пракладваць курс да вострава Лусон. Пуцяціна ісці туды прымусіла неабходнасць. Ён шукаў вялікі порт, дзе можна было б адрамантаваць судны, папоўніць трумы правізіяй.

Праз тыдзень эскадра ўвайшла на рэйд Манілы. 23 лютага да яе далучылася шхуна «Усход», адпраўленая з Нахі для вопісу Барадзінскіх астравоў. На рэйдзе аказаўся французскі ваенны параход «Кальбер», з якім ужо даводзілася сустракацца раней у Шанхаі. Гэта для рускіх з'явілася непрыемнай нечаканасцю. Іспанскія ўлады ў Маніле былі яўна збянтэжаны прыходам «Палады» і пастараліся як найхутчэй адкараскацца ад няпрошаных гасцей. Баючыся англічан і французаў, яны прапанавалі адміралу Пуцяціну пакінуць рэйд, амаль нічога не зрабіўшы для рамонту фрэгата.

27 лютага 1854 года, пагрузіўшы на ўсе судны вялікую колькасць харчовых запасаў, руская эскадра пакінула Манілу.

За дзень да адыходу «Палады» выбухнуў скандал паміж капітанам Ункоўскім і начальнікам экспедыцыі. Раніцай 26 лютага Пуцяцін з'ехаў на бераг і стаў хадзіць па магазінах з адной адзінаю мэтай: праверыць цэны, па якіх карабельны рэвізор лейтэнант Ціхмянёў закупляў правізію. Такі недавер да Пятра Аляксандравіча, паважанага ўсімі маракамі, вельмі не спадабаўся афіцэрам. Нехта з іх далажыў Ункоўскаму. Іван Сямёнавіч у ветлівай форме, захоўваючы субардынацыю, даў адміралу зразумець, што ён сваім учынкам кідае цень на сумленнага афіцэра.

Пуцяцін ускіпеў:

— А я ўсё ж прымушу вас правяраць дзеянне рэвізора!

— Не прымусіце,— глуха адказаў капітан «Палады».

— Прымушу-с! — гучна паўтарыў адмірал.

— Не прымусіце! — адказаў Ункоўскі.

— Прымушу-с! — крычаў Пуцяцін, спускаючыся па трапу на катар.— Прымушу-с!

— Не прымусіце.

Іван Сямёнавіч загадаў спусціць з другога борта гічку, для таго каб пайсці следам за Пуцяціным і высветліць з ім канчаткова ўзаемаадносіны, але дагнаць катар адмірала не ўдалося...

Ункоўскі не з'явіўся ў Пуцяціна на традыцыйным абедзе і тым самым парушыў марскі звычай. Яўфімій Васілевіч вырашыў пайсці на міравую і сам наведаў капітана.

— Вы закранулі мой гонар, ваша правасхадзіцельства, гонар афіцэра... і флігель-ад'ютанта яго імператарскай вялікасці,— рэзка вымавіў камандуючы фрэгатам «Палада». Можна ўявіць здзіўленне адмірала, калі ён пачуў ад свайго афіцэра такія словы. Больш за тое,

капітан-лейтэнант выклікаў на дуэль начальніка дыпламатычнай экспедыцыі, які мае прыдворнае званне генерал-ад'ютанта ў свіце імператара. Нечуваны пасаж! Ункоўскі таксама быў у свіце, але чын меў намнога ніжэйшы — флігель-ад'ютант.

Гэта падзея добра запомнілася ўсім афіцэрам. Відавочцы сведчылі, што канфлікт паміж Ункоўскім і Пуцяціным наспяваў даўно. Але не было сур'ёзнай прычыны для сваркі. І вось — выпадак з рэвізорам лейтэнантам Ціхмянёвым, чалавекам сумленным і паважаным камандаю[1].

— Гэтага нельга-с,— пашчыпваючы казацкія вусы, сказаў Пуцяцін.— Я не магу пазбавіць фрэгат капітана, пазбавіць у той час, калі Расія напярэдадні ваенных дзеянняў. А калі вы так абражаны мною, што лічыце свой гонар закранутым, дык я гатовы пазней даць вам усякае задавальненне.

У каюце Ункоўскага з'явіўся архімандрыт Авакум, якога ўгаварылі пайсці Ганчароў і Гашкевіч, і разважыў:

— Трэба мець шчырую пакорлівасць перад Богам і людзьмі. Пакорлівасць і мір... Памірыцеся.

Іван Сямёнавіч адмовіўся ад дуэлі, ён разумеў: ёсць рэчы, якія вышэй за асабістыя крыўды. Экіпаж яго карабля знаходзіцца далёка ад радзімы і выконвае заданне дзяржаўнай важнасці.

Афіцэры фрэгацкай кают-кампаніі былі высокай думкі пра Ункоўскага. Таму яны даравалі яму нерашучасць, тое, што ён не змыў крывёю крыўду, нанесеную Пуцяціным.

Воін Андрэевіч Рымскі-Корсакаў, які добра ведаў Івана Сямёнавіча, у адным са сваіх лістоў даў пахвальную характарыстыку капітану «Палады»: «...Я вельмі зблізіўся з Ункоўскім, на якары мы штодзённа бачымся, разам катаемся на шлюпках, разам навучаем на перагонку нашы каманды — словам, і ў службе і ў дружбе — пастаянна побач. Ён чалавек вельмі добрага сэрца, з высакароднымі правіламі, з адкрытым норавам, і прытым любіць сваю справу, бойкі і хвацкі афіцэр. Фрэгат ён трымае ў такім стане, што ўпэўнена можа ісці супраць любога англічаніна, роўнай і нават большай сілы. Мне яшчэ не даводзілася бачыць судна, даведзенага да такой хуткасці ў работах і да такога парадку ў баявых манеўрах і вучэннях, як фрэгат «Палада».

---

[1] Пётр Аляксандравіч Ціхмянёў (1823—1888) з прыходам «Палады» ў Рускае Прымор'е пакіне фрэгат і вернецца ў Пецярбург. У 1857 годзе паступіць на службу ў Расійска-амерыканскую кампанію, напіша двухтомную працу «Гістарычны агляд стварэння «Расійска-амерыканскай кампаніі».

...У той час, калі руская эскадра знаходзілася каля Манілы, 11 лютага, амерыканскія караблі зноў паявіліся каля берагоў Японіі. На гэты раз іх было чатыры — камадор Перы, як і абяцаў японскаму перакладчыку Хоры, прыйшоў з цэлаю армадаю. У склад эскадры ўваходзілі фрэгаты: «Місісіпі», «Сасквехана», параходы «Паўхатан», «Вандалія», «Македоніэн», «Лексінгтан». Неўзабаве да іх далучыліся яшчэ тры судны. З дапамогаю картаў, складзеных у час першага наведвання заліва Урага, караблі без усякіх затрымак накіраваліся проста да сталіцы Эда.

Ураду сёгуна стала зразумела, што Перы гатовы зрабіць так, як англічане ў Кітаі, каб прымусіць Японію падпісаць трактат. Пра сур'ёзнае супраціўленне эскадры з дзевяці ваенных суднаў з 250 гарматамі не даводзілася і думаць. Заставаўся толькі адзін шлях: ісці на ўступкі, бо паражэнне ў вайне магло прывесці да вялікіх унутраных ускладненняў ажно да масавага выступлення сялян. Сёгун даў згоду на афіцыйны кантакт. Паўнамоцныя прапанавалі для сустрэчы мястэчка Канагава. Перагаворы доўжыліся шэсць тыдняў, у выніку чаго 31 сакавіка 1854 года быў падпісаны першы япона-амерыканскі дагавор.

Такім чынам, амерыканскі капіталізм сілай прабіў брэш у той сцяне, якая дзякуючы палітыцы Такугава на працягу двух з паловаю стагоддзяў штучна аддзяляла Японію ад знешняга свету.

...Пакінуўшы Манілу, караблі рускай эскадры накіраваліся да берагоў Усходняй Сібіры. Шлях меў быць не з лёгкіх. «Палада» з кожным днём плавання старэла. Дзесьці трэба было знайсці порт або ціхую гавань, каб пачаць рамонт фрэгата сваімі сіламі. Надзея на нечыю дапамогу — марная. Адмірал Пуцяцін прыняў рашэнне паслаць шхуну «Усход» да вострава Батан на пошукі зручнай для рамонту якарнай стаянкі. Іншым суднам было прадпісана ісці далей на ўсход і ў строгім сакрэце трымаць свой маршрут. Карвет «Алівуца» пад камандаваннем капітан-лейтэнанта Мікалая Назімава накіраваўся на Камчатку, каб адвезці харчовыя запасы мясцоваму гарнізону. Барк «Князь Меншыкаў» як судна, што належала Расійска-амерыканскай кампаніі, мог па гандлёвых справах зайсці ў любы порт. Капітан-лейтэнант Фуругельм атрымаў загад адправіцца ў Шанхай па пошту з Расіі.

Ноччу 10 сакавіка «Палада» кінула якар каля вострава Батан, які знаходзіўся на паўдарозе да Тайваня. Фрэгат і шхуна «Усход» прастаялі суткі, прынялі правізію і накіраваліся да больш дробнай групы астравоў Камігін, Пія-Квінта. Самай зручнай для стаянкі аказалася бухта Пія-Квінта. Яна закрытая ад вятроў і акіянскіх

хваляў. Мясціна райская: пальмы, бананы, сонечна і не вельмі горача. Іосіф Антонавіч Гашкевіч зыкарыстоўваў усякую мажлівасць, каб пабываць на беразе. Азарт натураліста заводзіў яго ў самыя непраходныя мясціны. Жыццё на востраве было для яго ідыліяй. Разам з Пасьетам і доктарам Арэф'евым ён паставіў палатку і абсталяваў паходную лабараторыю. Іосіфа Антонавіча цікавіла ўсё: каменьчыкі, каралы, ракавіны. Ён паляваў на залацістых папугаяў. Матросы дапамагалі Гашкевічу патрашыць іх і набіваць баваўнянай паперы, робячы часовыя чучалы.

Тым часам экіпаж фрэгата «Палада» закончыў рамонт, карабельныя штурманы склалі некалькі картаў з апісаннем бухтаў і астравоў, Гашкевіч сабраў вялікую прыродазнаўча-гістарычную калекцыю.

21 сакавіка фрэгат падняў ветразі і накіраваўся на поўнач, да берагоў Карэі. Месца сустрэчы караблям эскадры адмірал прызначыў каля астравоў Нан-хоў, у порце Гамільтан. Чым далей адыходзілі ад Філіпін, тым прыкметней мянялася надвор'е. Рабілася холадна, ветрана. Усходне-Кітайскае мора сустрэла праліўным дажджом, які ішоў тры дні. Нікому не хацелася паказвацца на палубе. Адольваў смяротэльны сум. 31 сакавіка прайшлі за шэсцьдзясят міль ад Нагасакі. Спадарожны вецер, быццам угадваючы жаданні маракоў, падганяў фрэгат, прыспешваў да месца рандэву. Пра блізкасць доўгачаканага берага даведаліся па вераб'ях. Яны прыляцелі і доўга кружыліся над мачтамі. Раніцай 2 красавіка адкрыўся Гамільтан.

У гавані стаяла шхуна «Усход». Порт Гамільтан размешчаны на адным з трох невялікіх астравоў на 34 паралелі, каля паўднёвага берага Карэі. Бераг спакуслівы, экзатычны. Некаторыя афіцэры і з імі Гашкевіч адразу паехалі ў карэйскую вёску. Пад вечар з Шанхая прыйшоў барк «Князь Меншыкаў». Капітан-лейтэнант Фуругельм не прывёз ніякіх навін. Консулы, акрэдытаваныя ў Шанхаі, мала што ведалі пра палітычныя падзеі ў Еўропе. Газеты ўдзялялі шмат месца перапісцы Мікалая І з імператарам Напалеонам III. Французскаму двару не давала спакою перамога адмірала Нахімава над турэцкім флотам каля Сінопа.

...У карэйскім порце Гамільтан эскадра рускіх караблёў прабыла нядоўга, усяго пяць дзён. Адмірал Пуцяцін, перш чым ісці да ўсходніх берагоў Расіі, у Татарскі праліў, вырашыў пабываць у Нагасакі і даведацца ў мясцовых улад пра лёс пісьма, якое ён паслаў са старым Цуцуі ў японскую сталіцу Эда.

Адлегласць ад астравоў Нан-хоў да Нагасакі — 180 міль. Гэта — пры добрым спадарожным ветры — двое сутак дарогі.

У поўдзень 9 красавіка «Палада» была на нагасакскім рэйдзе. Гашкевіч і Ганчароў нанеслі візіт новаму губернатару Мізна Чыкагано-камі-сама. Адмірал прасіў дамовіцца аб закупе правізіі. Горад на гэты раз выглядаў неяк маркотна. Зяленіва на гарах выцвіла, дрэвы стаялі голыя, апалае лісце шамацела пад нагамі. «Дзіўна: красавік халодны. У нас на Беларусі цяплей».

Рускіх дыпламатаў праводзіў да губернатара перакладчык Кічыбе. Ён шмат гаварыў, кляўся ў дружбе. Мізна Чыкагано ахвотна адгукнуўся на просьбу Пуцяціна. Яму хацелася паказаць сябе, у горадзе ён аставаўся адзін без апекі першага губернатара Авасавы Бунгано, які быў адкліканы ў Эда і, відаць, прысутнічаў на перагаворах з амерыканцамі.

На працягу пяці дзён правізію пагрузілі на караблі.

Адмірал аддаў распараджэнне капітан-лейтэнанту Рымскаму-Корсакаву ісці ўздоўж японскіх берагоў і апісаць астравы, а пасля — у Шанхай, па навіны пра вайну. «Палада» і барк «Князь Меншыкаў» адпраўляюцца ў Татарскі заліў з заходам у Карэю. Да хуткага спаткання, пані хрызантэма!

На світанні, калі сонца, што ўзыходзіць над Японскім морам, яшчэ схавана за далёкім абрысам гарызонту, у паветры разносяцца гучныя, пранізлівыя крыкі чаек. Дзесьці там, далёка за кармою, астаўся востраў Цусіма. У такую, як цяпер, ясную пагоду з яго добра відаць берагі дзвюх краін: Японіі і Карэі.

Недаступная і цнатлівая пані хрызантэма! Як ты не можаш зразумець, што знаходзішся на такіх марскіх і акіянскіх шляхах-дарогах, якія вядуць да збліжэння з многімі краінамі? І найперш з Расіяю. Калі б у валадаркі мораў Англіі не было заваяваных калоній у Індыі, Кітаі і Паўднёвай Афрыцы, ёй спатрэбілася б не 60 дзён, каб дабірацца да тваіх берагоў праз Ост-Індыю, а больш за дзвесце. Нават Новы Свет і то далёка — за сотні, дзясяткі соцень міль. А Расія побач. Побач, як і Кітай, як і Карэя. Якая магчымасць для гандлю з краінамі-суседзямі! Што за жыццё кіпела б каля тваіх берагоў, Японія! Сезам, адчыніся марскім нацыям і атрымаеш для сябе такія выгоды, якіх не мог паабяцаць табе за ўсе 250 гадоў ізаляцыі ад Еўропы твой імператар, сын неба мікада.

З такімі думкамі пакідалі Японію нашы героі — сакратар віцэ-адмірала Пуцяціна Іван Ганчароў і чыноўнік асобых даручэнняў Азіяцкага дэпартамента Іосіф Гашкевіч.

Вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч — шэф Ваеннамарскога флоту





Кіраўнік экспедыцыі віцэ-адмірал Я. В. Пуцяцін

Контр-адмірал
А. А. Пешчураў,
былы мічман фрэгатаў
«Палада» і «Дыяна»





Адмірал
К. М. Пасьет, былы
афіцэр па асобых
даручэннях пры
дыпламатычнай
экспедыцыі
Я. В. Пуцяціна





Рускае пасольства на чале з віцэ-адміралам Я. В. Пуцяціным у Японіі. З японскай карціны



**Контр-адмірал В. А. Рымскі-Корсакаў, былы капітан-лейтэнант, камандзір вінтавой шхуны «Усход»**

Капітан 1-га рангу
А. Ф. Мажайскі,
былы лейтэнант
фрэгата «Дыяна»





М. А. Бакунін





Руская эскадра на рэйдзе горада Нагасакі ў 1853 годзе.
З японскай карціны



І. А. Гашкевіч (у першым радзе другі злева)
і І. А. Ганчароў (у першым радзе пяты злева) сярод афіцэраў фрэгата «Палада» ў 1852 годзе



Накамура Тамея,
сакратар японскіх
паўнамоцных



# ЯПОНСКО-РУССКІЙ СЛОВАРЬ.

イ 伊 い

意 мысль, мнѣніе яп イ・ロ

威 важность, достоинство. イバリ

イバル важничать.

夷 варваръ, иностранецъ エビス

井 колодезь イド°セイ

亥 циклическій знакъ ガイ

位 особа. クライ

醫 лекарь, см. イ・シャ

猪 дикая свинья イ・シ・シ

易 перемѣна.

射 стрѣльба изъ лука, см. イル°

イヤウ°イドル и т. п.

違 удаленіе, отвращеніе.

爲 сдѣлаться чѣмъ; для

伊 онъ, тотъ.

異 отличный, другой.

以 посредствомъ モツテ употр. въ немногихъ сложныхъ словахъ

イヒ 1) рисовая каша イヒ 2) Отъ глагола イフ говорить. Правильнѣе: イヒ

イヰキ 異域 другой, иной городъ.

イロ 1) Краска, цвѣтъ. 2) Похоть, сладострастіе: — ニオボレル предаваться похоти. 3) видъ, предлогъ — ニカコツケ подъ видомъ. 4) бѣлый трауръ.

イロイロ различный, всякій.

イロハ азбука.

イロドル раскрашивать, расписывать красками.

イロリ обмазка глиною, или обкладка кирпичемъ внутри очага.

イロカ цвѣтъ и запахъ цвѣтка, красота, прелесть.

イロカハル линять, мѣнять цвѣтъ

Старонка з японска-рускага слоўніка І. А. Гашкевіча


2 二

Любезные дети!

Возьмите эту азбуку: учитесь читать, писать также и говорить порусски.

И. Маховъ.

3 三

БУКВЫ

| Книжныя |  | Рукописныя |  | 日本 |
|---|---|---|---|---|
| 大 | 小 | 大 | 小 | 同字 |
| А | а | А | а | ア |
| Б | б | Б | б | バ |
| В | в | В | в | ワ |
| Г | г | Г | г | ガ |
| Д | д | Д | д | ヂ |
| Е | е | Е | е | エ |


Русскаго Чиновника

Подарокъ

Японскимъ Дѣтямъ

Русская Азбука

изданiе И. Махова

Хакодатѣ

1861 г.

**Рукапісная азбука для японскіх дзяцей,**
**выпушчаная Расійскім консульствам у Хакадатэ ў 1861 годзе**



Контр-адмірал А. А. Папоў,
камандуючы эскадрай Ціхага акіяна



М. М. Мураўёў-Амурскі,
генерал-губернатар Усходняй Сібіры



К. М. Станюковіч, былы гардэмарын вінтавога карвета «Калевала»



Контр-адмірал М. А. Бірылёў, былы капітан-лейтэнант, камандзір вінтавога карвета «Пасаднік»



**Жонка І. А. Гашкевіча Кацярына Сямёнаўна і сын Іосіф. З фатаграфіі 1870-х гадоў**



Брат І. А. Гашкевіча Іван Антонавіч Гашкевіч — протаіерэй Кіеўска-Падольскай царквы ў імя святога роўнаапостальнага цара Канстанціна

Руская царква ў Хакадатэ



## II

З 20 красавіка да 11 мая 1854 года, кіруючыся картаю англійскага мараплаўца Броўтана, афіцэры фрэгата сажань за сажнем складалі новую карту Карэйскага ўзбярэжжа Японскага мора. Яны пераканаліся, што нават з папраўкамі адмірала І. Ф. Крузенштэрна ранейшыя карты ніяк не адлюстроўвалі сапраўдных абрысаў бухтаў, заліваў і астравоў усходняга берага Карэі. І. А. Ганчароў запісаў у дзённіку: «Шукалі ўсе глыбокай, паказанай у Броўтана бухты, але пад той шыратою, пад якою яна ў яго пазначана, не знайшлі. Затое ўчора, паўночней супраць карты, адкрыўся вялікі заліў. Уваходзячы ў яго, не думалі, да якой ступені ён вялікі. Ён увесь устаўлены астраўкамі. Па меры таго як мы рухаліся, адкрываліся ўсё новыя, меншыя залівы: глыбіня ўсюды цудоўная. Увайшоўшы ў сярэдзіну заліва, у шхеры, мы кінулі якар. Мора ўжо не відаць: яно з усіх бакоў запёртае берагамі; ад хвалявання бяспечна, а басейн аграмадны».

Быў адкрыты заліў, названы па імені славутага адмірала М. П. Лазарава (цяпер — Енгхынгман з портам Хыннам), следам за ім заліў Гашкевіча (цяпер тут значны порт Начжын), заліў Пасьета, вялікая група астравоў Рымскага-Корсакава. Пазначылі на карце і новы востраў, які атрымаў імя пісьменніка Ганчарова (цяпер Маянда). Калі б афіцэры фрэгата «Палада» зрабілі толькі гэта апісанне Японскага мора, дык і тады і назву карабля, і імёны ўсіх удзельнікаў здымкаў трэба было б занесці ў летапіс айчыннай геаграфіі. Афіцэры «Палады» — сапраўдныя маракі-энтузіясты і знатакі сваёй справы — выконвалі геаграфічныя работы, нягледзячы на моцны холад, туманы і штармавое мора.

Скончыўшы работу каля берагоў Карэі, «Палада» накіравалася на поўнач. 17 мая на гарызонце Татарскага праліва паказаўся парусцік. Адмірал загадаў узняць Андрэеўскі флаг і выстраліць з бартавога фальканета. Калі карабель наблізіўся, сігнальшчыкі пазналі ў ім вінтавую шхуну «Усход». Аказалася, што з 18 сакавіка гэтае судна знаходзілася у порце Лазарава, чакаючы прыходу «Палады». Капітан-лейтэнант Рымскі-Корсакаў цярпліва чакаў свайго флагмана, а пасля, маючы на руках тэрміновыя дакументы, вырашыў выйсці насустрач. У шыфраваным прадпісанні з Пецярбурга адміралу Пуцяціну прапанавалася неадкладна ісці ў Дэ-Кастры, куды павінны былі прыбыць для папаўнення эскадры фрэгаты «Аўрора», «Дыяна» і карвет «Наварын».

Праз тры дні «Палада» падышла да ўваходу ў Імператарскую гавань. Фрэгат некалькі разоў спрабаваў прайсці ў яе, але яму пера-

шкаджалі густыя туманы, і толькі 22 мая ў восем гадзін раніцы судна ўвайшло ў заліў і кінула якар на рэйдзе Канстанцінаўскай бухты. Сюды ж прыйшлі шхуна «Усход» і барк «Князь Меншыкаў». У гэты час у Імператарскай гавані зімавалі караблі «Мікалай» і «Іртыш», што ўваходзілі ўсклад экспедыцыі капітана 1-га рангу Невяльскога. На суднах лютавала цынга, на момант прыходу «Паллады» ў абедзвюх камандах недалічваліся 33 чалавек — больш за трэць экіпажаў. Пуцяцін аддаў распараджэнне забяспечыць караблі харчам і аказаць людзям медыцынскую дапамогу.

Шхуне «Усход» не давялося доўга адстойвацца ў Канстанцінаўскай бухце. На пачатку чэрвеня адмірал адправіў яе ў Дэ-Кастры. Воіну Андрэевічу Рымскаму-Корсакаву было даручана паведаміць начальніку экспедыцыі Г. І. Невяльскому аб разрыве Расіі з заходнімі дзяржавамі і пра тое, што адмірал чакае яго на «Палладзе» з дакладам.

Генадзь Іванавіч Невяльской быў у гэты час у сяле Оўля-Куру, прыблізна за 500 вёрстаў ад Марыінскага паста і нікольki не меней за гэту адлегласць ад заліва Дэ-Кастры. Ён выехаў сустракаць генерал-губернатара Усходняй Сібіры М. М. Мураўёва, які плыў са сваёй світаю па Амуры на баржах.

Усё Забайкалле і Усходняя Сібір рупліва рыхтавалі гэты сплаў. Было пабудавана 76 грузавых баркасаў для экспедыцыі Генадзя Іванавіча Невяльскога і камфартабельны на той час параход «Аргунь». Мураўёў са світаю прыбыў на Шылкаўскі завод, зачэрпнуў у шклянку амурскай вады і павіншаваў усіх з адкрыццём плавання. Салдацкі аркестр грымнуў «Боже, царя храни». З крыкамі «ўра», кідаючы ўверх шапкі, натоўпы людзей праводзілі флатылію.

Сплаў рушыў. На галоўнай баржы трапятаўся на ветры генерал-губернатарскі флаг. Падарожжа было не з лёгкіх. Плыць па невывучанай гіганцкай рацэ — рэч складаная і небяспечная.

Трэба аддаць належнае Мураўёву — ён знаў толк у людзях. Набліжаў да сябе не легкадумных маладзёнаў, якія выхваляліся знатным паходжаннем або сваяцтвам, а людзей таленавітых, вопытных і працавітых. Ён часта любіў гаварыць: «Для мяне ж няма розніцы — просты народ або высакародны». Многія разумелі: сказана для прыгожага слоўца, але ў парыве пачуццяў шчыра захапляліся мураўёўскім «дэмакратызмам».

У шматлікай свіце генерал-губернатара былі на рэдкасць энергічныя памочнікі, якім ён мог цалкам даверыцца. Гэта капітан 2-га рангу Казакевіч — сябра і спадзвіжнік Невяльскога, чыноўнік

Міністэрства замежных спраў Свярбееў і капітан Сычэўскі — знаўца Кітая, перакладчык з маньчжурскай мовы, пекінскі прыяцель Гашкевіча. У Іркуцку жылі сем'і дзекабрыстаў С. Г. Валконскага і С. П. Трубяцкога. Мураўёў прызначыў сына Валконскага — Міхаіла — «знаходзіцца ў свіце генерал-губернатара», гэта значыць пры сабе, чыноўнікам асобых даручэнняў. Пазней на Міхаіла Валконскага будзе ўскладзены абавязак звязацца з амерыканскім камадорам Перы, каб купіць адно з яго ваенных суднаў.

10 чэрвеня каля астравоў Оўля-Куру флатылію Мураўёва сустрэў мічман Разградскі і перадаў генерал-губернатару пісьмо, у якім камандзір Амурскай экспедыцыі Невяльской прасіў выставіць ваенныя пасты на Усуры і Сунгары.

Генадзь Іванавіч пісаў:

«Пункт гэты як найбліжэйшы да ўзбярэжжа паўднёвага Усурыйскага краю і як пункт цэнтральны адносна Ніжнеамурскага і Усурыйскага басейнаў уяўляе такую мясцовасць, у якой павінна сканцэнтравацца ўся галоўная наша дзейнасць у гэтым краі і кіраванне ім».

Мураўёў ігнараваў тую просьбу Генадзя Іванавіча Невяльскога. Ён не пажадаў паслухаць і думку Пятра Васілевіча Казакевіча, лічачы, што ніхто лепш, чым ён сам, не можа ведаць усіх пільных патрэб Прыморскага краю.

У заліў Дэ-Кастры Невяльской прыбыў 11 чэрвеня, пакінуўшы, як вядома, замест сябе чакаць мураўёўскую флатылію мічмана Разградскага. Тым самым ён зрабіў промах: Мураўёў затаіў на Генадзя Іванавіча злосць. Яго правасхадзіцельства належыць сустракаць асабіста, а не перадаручаць афіцэру самага нізкага чына на флоце.

Генадзю Іванавічу вельмі хацелася ўведаць навіны, прывезеныя яму Рымскім-Корсакавым. Але звесткі не былі суцяшальныя: узгарэлася полымя вайны. Англійскі і французскі флоты ўвайшлі ў Чорнае мора. Севастопалю і рускаму флоту пагражала небяспека. Недалёкі час, калі і ў ціхаакіянскіх водах з'явяцца эскадры праціўніка. Невяльской ведаў, што ў гэтай сітуацыі ад яго запатрабуецца максімум энергіі, арганізатарскіх намаганняў па ўмацаванні створаных ім асабіста берагавых пастоў, якія ахоўваюць падыходы да новых, зусім невядомых замежным мараплаўцам гаваняў і бухтаў. Для гэтага быў патрэбен баяздольны флот, людзі, зброя, боепрыпасы, харчаванне і, нарэшце, час, але, на жаль, Амурская экспедыцыя мала што мела.

## III

Раніцаю, перад самым снеданнем, Іосіф Антонавіч заглянуў у каюту Ганчарова. Іван Аляксандравіч перабіраў службовыя паперы.

— Скончылася маё жаданае падарожжа, Восіп Антонавіч,— сказаў пісьменнік.— Рыхтуйце лісты ў Пецярбург. Аказія надзейная.

Гашкевіч паверыў не адразу.

— Вы жартуеце, Іван Аляксандравіч. Адмірал жа пазбавіцца сваёй правай рукі.

— Ды што вы, васпане, якія жарты! Вось паглядзіце,— Ганчароў працягнуў Гашкевічу чарнавік загада па экспедыцыі.

«...Кіравацца да С.-Пецярбурга, і каб столаначальніку дэпартамента знешняга гандлю калежскаму асэсару Ганчарову,— чытаў Іосіф Антонавіч,— паўсюль чынілі свабодны пропуск і аказвана было ў дарозе, з боку начальніцкіх асоб, усялякае садзеянне...»

— Так,— вымавіў Гашкевіч,— такой дабрыні ад яго правасхадзіцельства я не чакаў.

— Вы чытайце далей — тут і пра вас сказана.

Іосіф Антонавіч блізарука прыжмурыўся, пачаў знаёміцца з дакументам.

«Даносячы пра гэта вашай імператарскай высокасці, маю шчасце дадаць,— пісаў Пуцяцін,— што аб узорным выкананні гэтымі трыма асобамі[1] сваіх абавязкаў і аб выдатнай карысці, прынесенай імі экспедыцыі, я палічыў доўгам справядлівасці сведчыць перад іх начальствамі і хадайнічаць аб годным узнагароджанні іх стараннасці і працы».

Пасля таго як Гашкевіч перадаў Ганчарову дакумент у рукі, Іван Аляксандравіч сказаў:

— Гэта так нечакана для мяне. Учора вечарам у прысутнасці генерал-губернатара зрабіў ласку прыняць рашэнне: «Бог з вамі, едзьце: я ведаю, што тут вам сумна будзе цяпер».

— Мне астаецца толькі пазайздросціць вам, Іван Аляксандравіч.

Ганчароў сумеўся.

— Мне, вядома, радасна, што я вяртаюся дадому, але і сумна, што павінен расстацца з выдатнымі людзьмі і таварышамі.

Ганчароў казаў праўду. Яшчэ год назад, на самым пачатку плавання, ён вырашыў пакінуць экспедыцыю. Марская стыхія не прыйшлася яму да душы. Яна наводзіла на смутныя думкі. Дзіва

---

[1] Маюцца на ўвазе архімандрыт Авакум, чыноўнік МЗС І. А. Гашкевіч і І. А. Ганчароў.

што! Ён бачыў шторм ля берага, амаль у закрытай гавані, дзе заўсёды ёсць мажлівасць выратавацца, атрымаць дапамогу ад камандаў іншых суднаў. А што будзе ў адкрытым моры? Ганчароў пра гэта нічога не ведаў, ведалі толькі маракі. Яны бачылі ўсякае. Маглі б расказаць. Але Ганчароў гэтага не хацеў. Канстанцін Пасьет запісаў у сваім дзённіку: «Наш шаноўны Ганчароў не сышоўся з морам і не ідзе з намі далей. Яго не ўгойдвае, але ён такі слабанервовы, што найменшы шум для яго невыносны; а як на судне, асабліва на пяцідзесяцігарматным фрэгаце, не праходзіць амаль хвіліны ў бяздзеянні або без якога-небудзь манеўру, дык ён пастаянна, увесь пераход, быў расстроены і пакутаваў».

Ганчарову проста было не па сабе ў суровых умовах карабельнага жыцця, яго даймала хандра. Ен часта думаў пра свае хваробы, пакутаваў ад галаўнога болю.

— З'еду,— скардзіўся пісьменнік Іосіфу Антонавічу,— нервы пачынаюць не вытрымліваць. Не для маёй натуры гэты ваяж.

— А вы пагаварыце з адміралам.

— Не, не магу. Сумленне не дазваляе. Я ж так прасіўся... Ледзь у ногі не кланяўся ўсім знаёмым маракам, каб яны ўзялі нада мною апекаванне.

— Хочаце, я пагавару?

— Божа вас барані!—замахаў рукамі Ганчароў.— Калі надарыцца выпадак, я сам.

Аднойчы, знаходзячыся ў каюце ў капітана Івана Сямёнавіча Ункоўскага, Ганчароў разгаварыўся шчыра:

— Мне так палюбілася ваша фрэгацкая каманда, Іван Сямёнавіч, але, прызнацца, цягне ў Пецярбург. Дадому. Хачу вярнуцца. Кітай і Бразілія і цікавяць мяне, як я цяпер бачу, не вельмі каб. Я ўжо і не малады, а тут клопатна, навыцяжку, і норавы і звычкі, звычаі не па мне.

— Ну, хочаце, я вам арганізую вяртанне? — сказаў камандзір «Палады».

— Малю Госпада!

Праз некалькі дзён адмірал Пуцяцін запрасіў Івана Аляксандравіча на гутарку.

— Капітан Ункоўскі мне дакладваў, што вам не пад сілу далей прадаўжаць плаванне?

— Так, ваша правасхадзіцельства,— адказаў пісьменнік і расказаў пра свае няшчасці, болі і ўпалы настрой.

— Ну што ж, справа ваша, васпан, трымаць я вас не стану. Цяпер, вядома, лепш вярнуцца, чым заехаць далей і пакутаваць,— сказаў

Пуцяцін.— Толькі шкада, што вы не прадбачылі гэтага ў Пецярбургу: цяпер няма каго ўзяць на ваша месца.

Адмірал выклапатаў у свой час у пасла Брунова даручэнне ў Берлін і ў Варшаву, каб Ганчароў мог вярнуцца ў Расію на казённы кошт. Іван Аляксандравіч пражыў некалькі дзён у Лондане. Напярэдадні Каляд 1853 года, за два тыдні да адыходу «Палады», Піліп Іванавіч Бруноў выклікаў Ганчарова ў пасольства і прапанаваў з'ездзіць у Портсмут па рэчы, а пасля з'явіцца да яго па дыпламатычныя паперы. Івану Аляксандравічу прызначалася часовая роля дыпкур'ера.

Ганчароў паехаў у Портсмут на «Паладу» па багаж, але ў Лондан больш не вярнуўся.

Сябрам ён вытлумачыў свой учынак так: «Я ўсё чакаў перамены, перашкоды: мне здавалася, што лёс адумаецца і не пашле мяне далей, таму нерашуча рабіў у Англіі прыгатаванні да ад'езду, не запасаў многага, што патрэбна для далёкага ваяжу, і ўзяў тое-сёе, патрэбнае больш для жыцця на беразе. Ды вось акіян; пераступіш за яго парог — і вяртання няма!»

...Цяпер мара Ганчарова збылася. Ён вяртаўся ў Расію.

— Ну як? — Пісьменнік зрабіў паўзу, хітра прыжмурыў вочы.— Я бачу, вы незадаволеныя?

— Ёсць пагаворка: «Шчасце заўсёды наперадзе»,— адказаў Іосіф Антонавіч.

— Дыпламатычна, нічога не скажаш.

У каюту пастукалі. Увайшоў матрос Фадзееў — веставы Ганчарова.

— Ідзіце, ваша высокаблагароддзе, снедаць.

Субяседнікі ахвотна прынялі запрашэнне і ўзняліся на палубу.

Раніца была ціхая, амурскі ліман зацягнула туманам.

У кают-кампаніі знаходзіліся камандуючы фрэгата Іван Сямёнавіч Ункоўскі і незнаёмы марскі афіцэр.

— Прашу сядаць, панове,— запрасіў Ункоўскі па праву гаспадара,— і пазнаёмцеся... Капітан 1-га рангу Невяльской, Генадзь Іванавіч.

Афіцэр прыўстаў, пакланіўся.

«...Невяльской... Невяльской... Дзе я раней чуў прозвішча гэтага афіцэра? — пытаў сябе Гашкевіч.— Не, не ад Рымскага-Корсакава і не ад «дзеда» Халезава, з якім апошні плаваў на транспарце «Байкал». Раней ад кагосьці чуў». Можна было пацікавіцца, звярнуцца да самога афіцэра. Ці ёмка? Відаць. Па тым, як ён проста і прыязна паводзіў сябе ў кают-кампаніі ў прысутнасці двух незнаёмых яму

чыноўнікаў, вымаўляючы мякка, спакойна кожнае слова і ніколькі не задаючыся сваім высокім чынам, можна было зрабіць выснову, што чалавек ён добры і выхаваны.

І тут Іосіф Антонавіч успомніў.

Пецярбург. Люты 1850 года.

Разам з дырэктарам Азіяцкага дэпартамента Сянявіным ён быў выклікаы да міністра Несельродэ.

— Мяне клапоціць адна акалічнасць,— сказаў па-французску граф.— Вам былі вядомыя мае інструкцыі па часці ўступак Кітаю нашых тэрыторый?

— Так, ваша высокаправасхадзіцельства.

Незадоўга да свайго ад'езду з Пекіна Гашкевіч сапраўды пазнаёміўся з адным з дакументаў, што датычыўся меж паміж Расіяй і Кітаем.

Несельродэ пісаў: «...Палажыць граніцу нашу з Кітаем на паўднёвым схіле Хінганскага Станавога хрыбта да Ахоцкага мора, к Тугурскай губе, і аддаць, такім чынам, назаўсёды Кітаю ўвесь Амурскі басейн, як бескарысны для Расіі па недаступнасці для мараходных суднаў вусця ракі Амура...»

— Чаму ж вы ў сваіх пісьмах,— прадаўжаў міністр,— ставіце пад сумненне данясенні вашых калегаў? Якія маеце доказы, што на рацэ Амур няма кітайскіх ні марскіх, ні сухапутных сіл? Вашы, калежскі асэсар, безадказныя вывады можна разглядаць як повад для разрыву выгаднага для Расіі кяхцінскага гандлю! — ставячы націск на апошніх словах, Несельродэ кінуў на Гашкевіча злосны погляд.

Іосіф Антонавіч, блізарука прыжмурыўшы вочы, крышку збаяўся.

— Ваша правасхадзіцельства, я зыходзіў з інтарэсаў айчыны.

— Што вы хочаце гэтым сказаць?

Гашкевіч яшчэ не быў запалоханы, хоць непрыемнасць яму пагражала. «Чорт з ёю, з дыпламатычнай кар'ерай! — пагарачыўшыся, падумаў ён.— Была ні была!»

— Наша асцярожнасць у адносінах Амура, каб не зачапіць Кітай, крайне неапраўданая,— цвёрда вымавіў малады дыпламат.— Я быў у тых краях і магу пакляўшыся пацвердзіць, што нізоўе Амура знаходзіцца ў стане першабытнай дзікасці. Па берагах ракі амаль няма кітайскага насельніцтва, і, вядома, існаванне войскаў і флатыліі — спрытная выдумка пекінскіх чыноўнікаў.

Несельродэ зняў акуляры. Твар у яго выцягнуўся, стаў шэрым. Міністр быў у гневе.

— Вальтар'янства ў вашым дэпартаменце, пан Сянявін!

— Як вернападданы яго вялікасці, я выканаў свой доўг,— зусім асмялеўшы, выпаліў Гашкевіч.— Усё, што я далажыў вашаму высокаправасхадзіцельству, такая ж праўда, як праўда тое, што я стаю перад вамі.

— Вы што, згаварыліся з капітанам 2-га рангу Невяльскім? — па-старэчы заскрыпеў голас графа.

— Не маю гонару ведаць гэтага афіцэра.

Прыўстаўшы з-за стала, Несельродэ нахмурыўся. Сянявін і Гашкевіч зразумелі: аўдыенцыя скончылася.

— Вы што, Іосіф Антонавіч, з глузду з'ехалі? — барвавеючы ад злосці, загаварыў Сянявін і стаў прабіраць свайго падначаленага.

За дырэктарам вадзіўся такі грэх: ён быў гатовы ўнізіцца перад любым царскім саноўнікам, толькі б не страціць месца ў дэпартаменце, і ў той самы час любіў папаздзекавацца з тых, хто стаяў на прыступку ніжэй за яго службовае становішча. З Гашкевічам ён паводзіў сябе па-іншаму. Дырэктар Азіяцкага дэпартамента павінен быў лічыцца з тым, што малады дыпламат акрамя сваіх непасрэдных абавязкаў рабіў вялікія поспехі і як вучоны-сінолаг. Пецярбургская Духоўная акадэмія і Імператарскі заалагічны інстытут трымалі для яго вакансію.

Ад свайго начальніка Гашкевіч даведаўся, што раніцай адбылося пасяджэнне ўрадавага камітэта, на якім слухаўся даклад капітана 2-га рангу Невяльскога аб яго даследаваннях Амура. Несельродэ быў устрывожаны гэтым паведамленнем, варожа настроіўся супраць марака і пасварыўся з генерал-губернатарам Усходняй Сібіры Мураўёвым, абвінаваціўшы таго ў якабінстве і нават здрадзе. На гэтым пасяджэнні граф праявіў вельмі дзіўную недасведчанасць аб граніцы Расіі з Кітаем. Міністр замежных спраў спадзяваўся пачуць ад Гашкевіча як дыпламата, што добра вывучыў эканоміку і палітыку Кітая, такую інфармацыю, якая карэнным чынам разыходзілася б з адкрыццямі Невяльскога, але чыноўнік Азіяцкага дэпартамента не апраўдаў яго спадзяванняў.

«Невяльской... Невяльской... Дык вось ад каго я першы раз пачуў гэта прозвішча! Ад самога міністра».

Афіцэры нягучна вялі між сабою размову.

— Я не разумею адмірала,— гаварыў Невяльской.— Калі ён хоча знайсці спакойную стаянку «Паладзе», дык лепшага месца, чым вусце Амура, і не прыдумаеш.

Забягаючы наперад, вымушаны сказаць, што, нягледзячы на ўсе намаганні, праводка «Палады» ў вусце Амура так і не ўдалася. Пасля кароткай нарады Пуцяцін, Невяльской, Ункоўскі, Лясоўскі

і старшы штурман Халезаў вырашылі адбуксіраваць фрэгат на зімоўку ў Імператарскую гавань, а ранняй вясною паўтарыць спробу.

— Няхай даверыцца мне,— прадаўжаў Невяльской.— У мяне ёсць цудоўныя лоцманы з гілякоў. У рэшце рэшт, ёсць прадпісанне генерал-губернатара пакінуць «Паладу» зімаваць у лімане.

— Я вас разумею, Генадзь Іванавіч, Мураўёў гне адно, Пуцяцін сваё... Вы дрэнна ведаеце Пуцяціна,— сказаў Ункоўскі, маючы, відаць, на ўвазе неўраўнаважаны характар адмірала і цяжкія, невыносныя ўмовы, створаныя ім у час плавання, а таксама бясконцыя сутыкненні самога Івана Сямёнавіча з адміралам, адно з якіх ледзь не закончылася дуэллю.— Вы дрэнна ведаеце Пуцяціна,— паўтарыў капітан фрэгата,— ён рызыкаваць не любіць. А што да загаду Мураўёва, дык тут найшла каса на камень. Адмірал пыхлівы не менш за самога генерал-губернатара.

— Гэта я паспеў заўважыць.

— Супастаўляючы розныя факты, я прыходжу да высновы: калі б нашу экспедыцыю ўзначальваў не Пуцяцін, дык трактат з японцамі падпісалі б даўным-даўно! Праўду я кажу, Іосіф Антонавіч? — Ункоўскі павярнуўся да Гашкевіча.

Нечаканае пытанне, натуральна, заспела дыпламата знянацку. Ён глянуў на Ганчарова, спрабуючы заручыцца падтрымкаю на той выпадак, калі адказ акажацца залішне смелым. Але твар пісьменніка нічога не выяўляў. Гэта і зразумела. Іван Аляксандравіч не схільны быў па «службовых меркаваннях» як асабісты сакратар адмірала зачапляць аўтарытэт свайго начальніка.

— Я адмаўляю сабе быць суддзёй адміралу,— пасля некаторага роздуму сказаў Гашкевіч,— бо адказ перад гасударом імператарам трымаць яму аднаму. А што да матухны-Расіі, дык у яе будзе час параздумваць аб дыпламатычнай місіі яго правасхадзіцельства.

— Добрая ў вас душа, Іосіф Антонавіч,— вымавіў з непадробнай шчырасцю камандзір фрэгата «Палада»,— у Судны дзень вы ні на каго не пакажаце пальцам.

Гашкевіч сумеўся.

З верхняй палубы даносіўся шум дажджу, які чымсьці нагадваў шолах восеньскіх лістоў.

— Ваш адказ мне спадабаўся,— сказаў Невяльской.— І вы ведаеце, пра што я зараз падумаў? Уявіце на момант: заўтра граф Несельродэ прызначае вас паслом у Японію. Вы прымаеце на сябе абавязкі Пуцяціна і ведзяце справу аб гражтаце. Дапусцім... Выслухайце мяне да канца. Дапусцім, вам удалося падпісаць трактат. Вы маглі б гучна сказаць пра памылкі адмірала? — Рэзкім рухам Невяльской

узняў галаву. Пад яго цяжкім поглядам, нерухомым і ўтаропленым, Іосіф Антонавіч адчуў сябе стомленым, абяссіленым.

— У мяне няма пратэкцыі, каб стаць паслом. Раз. І другое, пан капітан 1-га рангу, у мяне ёсць свой свет, свет навукі.

— Іосіф Антонавіч — арыенталіст, знаўца моў народаў Усходу,— сказаў Ганчароў.

— Мажліва, у Японіі такі чалавек і патрэбен,— працягваў гаварыць Невяльской.— Я дрэнны псіхолаг, але мне здаецца, што вы выдатна справіліся б з пасадаю пасла.

— Вы думаеце? — жартам спытаў Гашкевіч.

— Магу пайсці ў заклад.

Іосіф Антонавіч крыху разгубіўся.

— Быць ці не быць мне паслом?

— Ага. З хвіліну курылі моўчкі.

Гашкевіч сказаў:

— Не хачу ў заклад. Ды і плаціць мне вам няма чым.

— Закладзіце маёнтак,— гарэзліва ўсміхнуўся Невяльской.

Падбадзёраны раптоўнай пераменаю ў настроі Генадзя Іванавіча, Іосіф Антонавіч дадаў:

— У Расіі ў мяне нават хаты сваёй няма. Здымаю два-тры пакоі на лініях Васілеўскага вострава.

— Тады мая думка жахлівая,— сказаў Невяльской.

— Флоцкія афіцэры таксама абжылі Васілеўскі,— уставіў рэпліку Ункоўскі.— Думаецца, наш дыпламат не ў дрэннай кампаніі...

У кают-кампаніі паявіўся матрос-веставы.

— Ваша благароддзе,— звярнуўся ён да Гашкевіча,— яго правасхадзіцельства пан адмірал кліча вас да сябе...

Іосіф Антонавіч адвітаўся з афіцэрамі і выйшаў следам за веставым.

— Прыйшло распараджэнне з вашага міністэрства,— сказаў Пуцяцін.— Вы павінны прыняць прысягу.

— Але я яе прымаў, ваша правасхадзіцельства, перад ваяжам,— збянтэжыўся Гашкевіч.

— Трэба думаць, гэта звязана з будучай вайною...

— Як загадаеце.

— Дакументы ў Пасьета. З аказіяй адправім у Азіяцкі дэпартамент,— падвёў рысу адмірал.

Усе фармальнасці былі выкананы. Гашкевіч атрымаў новае прызначэнне і пераводзіўся начальнікам дыпламатычнай экспедыцыі на фрэгат «Дыяна».

«У Інспектарскі дэпартамент Марскога міністэрства

## РАПАРТ

*Маю гонар прадставіць пры гэтым у Інспектарскі дэпартамент Марскога міністэрства спісы пп. штаб- і обер-афіцэраў і ніжніх чыноў, перамешчаных 1-га гэтага жніўня паводле распараджэння п. генерал-ад'ютанта віцэ-адмірала Пуцяціна з даверанага мне фрэгата «Палада» для кампаніі на фрэгат «Дыяна» і пакінутых, за размяшчэннем, у камандзе першага.*

Флігель-ад'ютант УНКОЎСКІ.
Амурскі ліман. 3 жніўня, 1854 года. № 166».

## «СПІС

**пп. штаб- і обер-афіцэраў, што паступаюць з фрэгата «Палада» для кампаніі на фрэгаце «Дыяна»**

| Якіх каманд | Чыны, імёны і прозвішчы |
|---|---|
| 18-га флоцк. экіп. | Капітан 2-га рангу Канстанцін Пасьет |
| | Мічманы: |
| 24-га | Аляксандр Болцін |
| 20-га | Павел Зялёны |
| 23-га | Аляксандр Калакольцаў |
| 2-га | Аляксей Пешчураў |
| Корпуса мар. артыл. | Падпалкоўнік Канстанцін Лосеў |
| Азіяцкага дэпартамента | Калежскі асэсар Іосіф Гашкевіч |
| Разам 7 чалавек | |

Камандуючы фрэгата «Палада»
флігель-ад'ютант УНКОЎСКІ».

**«Міністэрства Марское, дэпартамент Інспектарскі**
**Мая 27-га дня 1855 года.**

У АЗІЯЦКІ ДЭПАРТАМЕНТ

*Камандуючы фрэгата «Палада» ад 3 жніўня данёс, што калежскі асэсар Восіп Гашкевіч 1-га таго ж жніўня паступіў з фрэгата «Палада» для кампаніі на фрэгат «Дыяна», аб чым Інспектарскі дэпартамент мае гонар паведаміць Азіяцкаму для звестак.*

Дзяжурны генерал граф ГЕЙДЭН
і начальнік аддзялення КУЗЬМІЧ».

# СІМОДСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

## I

Віцэ-адмірал Пуцяцін для сябе ўжо вырашыў перавесці на фрэгат «Дыяна» ўсю каманду «Палады», але Іван Сямёнавіч Ункоўскі пачаў адгаворваць яго:

— Ваша правасхадзіцельства, на «Дыяне» ўзорная каманда. Людзі сплаваліся. Дружныя. Выдатна ведаюць хадавыя якасці судна. А маім падначаленым, так прывыкшым да старэнькай «Палады», трэба пачынаць усё спачатку.

— Я вас разумею. У гэтым ёсць рэзон. Ну а вы самі?

— Дзякую вам за давер, ваша правасхадзіцельства, але Сцяпан Сцяпанавіч Лясоўскі — талковы марскі афіцэр. І я не хачу пазбаўляць такога капітана ўдзелу ў экспедыцыі дзяржаўнай важнасці.

— А я вам не дзякую, Іван Сямёнавіч. Якая можа быць падзяка, калі вы не хочаце служыць пры мне! — ці то жартам, ці то сур'ёзна сказаў адмірал.

Ункоўскі не трымаў камень за пазухай, але, відаць, мінулае не было забыта. Ён рваўся ў Санкт-Пецярбург.

Тыдні праз два каманду фрэгата Лясоўскага ператасавалі. Спачатку Пуцяцін браў з «Палады» толькі добраахвотнікаў. У асноўным пажадалі перавесціся на «Дыяну» маладыя мічманы і хвацкія марсавыя на чале са старым служакам унтэр-афіцэрам Цярэнцьевым. А пасля адмірал паступова замяніў «паладаўцамі» амаль усю каманду «Дыяны». Выключэнне зрабіў для свайго асабістага повара Цімафея, які быў пры Яўфімію Васілевічу больш за чвэрць стагоддзя. Адмірал сказаў Ганчарову:

— Я забіраю вашага веставога Фадзеева, а вам аддаю Цімафея. Ён адслужыў сваё. І ў труднай дарозе будзе верным слугою.

Толькі ў аднаго Іосіфа Антонавіча не пыталі згоды. Яму, чыноўніку і драгаману Азіяцкага дэпартамента, трэба было быць пры свіце начальніка дыпламатычнай экспедыцыі столькі часу, колькі спатрэбіцца для выканання ўскладзенай на Пуцяціна місіі.

Вечарам 1 жніўня Іосіф Антонавіч перабраўся са сваімі манаткамі на фрэгат «Дыяна». Галоўнай каштоўнасцю для яго быў

куфэрачак, акаваны фігурнымі меднымі пласцінамі. У ім ён захоўваў асабістыя запісы аб перагаворах з японскімі паўнамоцнымі, нарыхтоўкі для руска-японскага лексікона[1]. Напярэдадні Гашкевіч папрасіў адмірала, каб яго размясцілі з кім-небудзь з афіцэраў, з якімі ён сышоўся ў плаванні, але на «Дыяне» пуставала месца толькі ў каюце лейтэнанта Мажайскага. А з ім, як расказвалі афіцэры, ніхто разам жыць не хацеў. Аляксандр Фёдаравіч Мажайскі не быў дрэнным таварышам, больш за тое, яго любілі за жыццярадаснасць і дабрыню, але пасяліцца з ім у каюце — барані Божа! Ён вечна поркаўся з нейкімі слоікамі, колбамі і састаўляў растворы. Едкія і ўдушлівыя пахі падоўгу не выветрываліся з памяшкання, хоць люк заўсёды быў адчынены насцеж. Аднойчы падчас чарговага доследу Мажайскі ледзь-ледзь не згарэў. На «Дыяне» нават хацелі аб'явіць пажарную трывогу, але абмежаваліся тым, што аблілі карабельнага «алхіміка» забортнай вадою. Капітану Лясоўскаму нічога не заставалася, як выклікаць да сябе і строга папярэдзіць апантанага вынаходніцтвам лейтэнанта.

— Аляксандр Фёдаравіч,— сказаў Сцяпан Сцяпанавіч,— акрамя вас на фрэгаце нясуць службу яшчэ чатыры сотні матросаў і паноў афіцэраў. Я думаю, што вы не можаце распараджацца іх жыццямі, на гэта ёсць айчына і гасудар імператар.

Лясоўскі не быў шматслоўны, а лейтэнант Мажайскі не любіў павучанняў.

— Даруйце, Сцяпан Сцяпанавіч, але вы самі падахвоцілі мяне на гэтыя доследы.

— Так, лейтэнант, падахвоціў. Але я лічу за лепшае гібель «Дыяны» ў баі з непрыяцелем, чым ад удалага практыкавання з порахам аднаго з маіх афіцэраў.

На гэтым размова была закончана. Мажайскі даў слова спыніць свае эксперыменты да вяртання ў Расію і заняўся маляваннем. Яно не так шмат адымала часу, як доследы па хіміі, і прыносіла душэўнае заспакаенне. У лейтэнанта набралася многа рысункаў з відамі мыса Лазарава, дзе стаяла «Дыяна», і з рознымі сцэнамі матроскага жыцця. У першы ж дзень знаёмства з драгаманам Гашкевічам Аляксандр Фёдаравіч паказаў свае алоўкавыя і акварэльныя накіды, пацікавіўшыся:

— Як вы думаеце, Іосіф Антонавіч, японцы пагодзяцца пазіраваць? Я чуў, быццам у іх звычаі строгія, як у паўднёваамерыканскіх туземцаў.

---

[1] Куфэрачак І. А. Гашкевіча цяпер выстаўлены ў экспазіцыі музея ў пасёлку Хэда. Відаць, Гашкевіч, пакідаючы летам 1855 года Хэду, падараваў камусьці куфэрак на знак удзячнасці за аказаную гасціннасць.

— Адкуль вам вядома, што ў нас будзе сустрэча з японцамі? Хіба мы ідзём не ў Амерыку?

— Я думаю, размова пра Рускую Амерыку — для адводу вачэй.

— Ну, калі так, то з японцамі як-небудзь дамовімся.

На просьбу Мажайскага вечарамі Гашкевіч расказваў пра свае японскія ўражанні, пра побыт гэтага народа, пра моцныя традыцыі, якія раўніва аберагаліся. Лейтэнант з вялікай увагаю слухаў свайго суседа па каюце, часта задаваў пытанні:

— Іосіф Антонавіч, вы рэдка ўпамінаеце пра самураяў. Я пра іх так многа чуў. Што, яны сапраўды рыцары гонару?

— Навошта гэта вам, Аляксандр Фёдаравіч?

— Ну, як жа, дзеля экзотыкі. А раптам давядзецца калі-небудзь рысаваць: у душу ж самураю не заглянеш?

— Правільна, заглянуць цяжка.

Гашкевіч напхаў люльку, ямчэй усеўся ў крэсла і крыху прыжмурыў вочы, быццам штосьці прыпамінаючы.

— Такім чынам, вас цікавяць самураі? Японцы лічаць, што на дне душы самурая, як у люстэрку, можна ўбачыць сапраўднага джэнтльмена. У іх ёсць вучэнне пра маральнасць — бусідо. Літаральны сэнс гэтага слова азначае — «ваяўнічы дух рыцарства». Японцы тлумачаць яго як закон аб рыцарскіх паводзінах і гонары. Яшчэ ў Кітаі я пазнаёміўся з ім. Канфуцый і Менцый — вось яго прабацькі. Але японцы разумеюць гэта вучэнне на свой лад. Напрыклад, яны лічаць, што чалавек павінен жыць без свайго «я». Самураю дастаткова мець мужнасць і сумленне. Дарэчы, гэта не так ужо і дрэнна. Як вы думаеце, Аляксандр Фёдаравіч? — спытаў Гашкевіч.—Мужнасць і сумленне?

— Па-мойму, японцы запазычылі мараль старажытных рымлян,— адказаў Мажайскі.

— Згодзен, рымляне не рабілі розніцы паміж мужнасцю і мудрасцю. Але сказаў пра гэта раней Менцый: мужнасць, калі выходзіць з пэўных меж, робіцца дзікасцю. Пра сябе самураі кажуць так: «Як сярод кветак сакура — каралева, так сярод людзей самурай — пан». Вось у чым корань вучэння бусідо. Ёсць і іншыя аспекты. Пабывайце ў Японіі, Аляксандр Фёдаравіч, прыглядзіцеся... Я ўжо прызвычаіўся.

— Вы сабраліся б з думкамі, Іосіф Антонавіч, ды напісалі б сачыненне... Пан Ганчароў дабярэцца да Пецярбурга і, чуе маё сэрца, возьмецца за пяро.

— Нічога дзіўнага — ён жа літаратар. Яму, як кажуць, і карты ў рукі.

## II

...Ішлі дні. Фрэгат «Дыяна» рыхтавалі для далёкага плавання. А пакуль меўся быць пераход у Імператарскую гавань, Мажайскаму і Гашкевічу хапала розных клопатаў. Рэдка перападала вольная хвіліна, каб выкурыць люльку ў кают-кампаніі. Сустракацца даводзілася ў адмірала за абедам ды позна вечарам у каюце.

Пайшоў яшчэ адзін афіцэр з «Дыяны» — лейтэнант Іван Бутакоў, з якім Іосіф Антонавіч пасябраваў на «Паладзе». Замест яго старшым афіцэрам фрэгата Пуцяцін прызначыў лейтэнанта Мусіна-Пушкіна.

«Паладаўскія» афіцэры не паспелі «растварыцца» сярод «дыянаўскіх» — пакуль трымаліся асобна. Гашкевіч гэта заўважыў, як і тое, што акрамя лейтэнанта Мажайскага былі тут яшчэ не абы-якія асобы. Звяртаў на сябе ўвагу лейтэнант Мікалай Густававіч Шылінг — спакойны, разважлівы, крыху фантазёр. Пасля барон Шылінг стане выдатным гідрографам. Ён першы прадкажа існаванне архіпелага Зямля Франца-Іосіфа ў артыкуле «Думка пра новы шлях для адкрыцця ў Паўночным Палярным акіяне», надрукаваным у «Марскім зборніку» ў 1865 годзе. Штурманам на «Дыяне» быў Пётр Гаўрылавіч Ёлкін, мужны афіцэр, які ў цяжкіх умовах плавання падрабязна апісаў паасобныя ўчасткі марскога ўзбярэжжа Японіі. Ён добра вывучыў «абкатаныя» курсы праз Атлантыку і Ціхі акіян, гэтым самым садзейнічаў хуткаму прыбыццю фрэгата да берагоў Рускага Прымор'я.

Кожны карабель, што адыходзіў з Кранштата ў кругасветку, браў на борт вучоных, мастакоў, негацыянтаў і служачых Расійска-амерыканскай кампаніі. Фрэгат «Дыяна» не быў выключэннем. У спісачны склад каманды быў уключаны калежскі сакратар Карл Іванавіч Максімовіч, будучы акадэмік, а пакуль што супрацоўнік Імператарскага батанічнага сада, які прыбыў на Амур. У размове з Гашкевічам ён панаракаў на тое, што адмірал не бярэ яго ў Японію, дзе малады вучоны даўно марыў пабываць.

На гэта Іосіф Антонавіч адказаў:

— Трактат, які мы хочам падпісаць з японскімі паўнамоцнымі, прадугледжвае свабоднае наведванне расійскімі грамадзянамі гэтай краіны. Пацярпіце крыху, можа, пашанцуе, і вы ўбачыце і Хакадатэ, і Нагасакі, і Эда...

У Амурскім лімане ночы пачыналіся рана, ліпеньскія світанкі з кожным днём рабіліся халаднейшыя. Зачасцілі туманы. Пастуопова гаснулі летнія фарбы прыроды. Бляknулі, трацілі яркасць кветкі і

травы, хоць у поўдзень яшчэ было горача. На краях лістоў і пялёсткаў пачалі з'яўляцца ржавыя палоскі.

Часам, пераважна па нядзелях, афіцэры «Дыяны» хадзілі на паляванне ці рыбалку. Капітан 1-га рангу Невяльской як мясцовы старажыл раіў ім браць з сабою праваднiка з гілякоў або тунгуса Афоньку. Гашкевіч і Мажайскі разы два бралі за праваднiка Афоньку, але пасля адмовіліся — хоць хлопец ён быў удачлівы, смелы, але балбатун і п'яніца. Ім хацелася пацягацца па лесе адным, падыхаць смольным пахам, паслухаць спеў птушак, адпачыць ад мітусні карабельнага жыцця.

...Паляўнічыя прасоўваліся бясшумна, лёгка ступаючы па вільготнай хвоі, абыходзячы гурбы буралому, зламаныя сукі, асцярожна пераскокваючы праз паваленыя дрэвы. Нарэшце яны выйшлі да сасновага бору. Паміж дрэваў мільгала паляна.

Раптам Гашкевіч застыў на месцы. Мажайскі злавіў рух рукі напарніка, накіраванай кудысьці ўдалечыню. Лейтэнант зрабіў некалькі крокаў і рассунуў кустоўе. На супрацьлеглым баку паляны гуляў плямісты алень.

Іосіф Антонавіч узняў двухстволку, але праз некалькі секунд апусціў яе да ног.

— Іосіф Антонавіч, што вы марудзіце! — здаўленым голасам прамовіў Мажайскі.

— Не магу! Страшэнна прыгожы і малады. Гляньце, як ганарліва пасаджана галава...

— Прыслухоўваецца. Чуе сваю пагібель...

— Малю вас, не трэба! — Іосіф Антонавіч апярэдзіў стрэл афіцэра, разрадзіўшы ружжо ў паветра, каб спалохаць аленя. Затрашчала сухое ламачча, і звер знік у гушчары.

— З вамі хаджу на паляванне апошні раз,— выкрыкнуў са злосці Мажайскі.— Што я скажу ў каюткампаніі? Не паверaць жа, засмяюць...

— Не засмучайцеся, Аляксандр Фёдаравіч, сустрэнем пастарэлага — заб'ём. Абавязкова заб'ём.

— Навошта мне лядашчы казёл!

— Гэтага малайца нельга было. Вы ж бачылі: стройны, гнуткі, з моцнымі нагамі. Кітайцы называюць іх «хуанлу», што значыць «алень-кветка». Няўжо ў вас шкадавання да яго няма?

Лейтэнант не адказваў. Мажліва, ён думаў пра тое самае, але працягваў маўчаць.

Так і ішлі яны вёрстаў тры, пакуль Гашкевіч не забіў ваверкі.

— Пачатак зроблены,— сказаў ён, кладучы звярка ў ягдташ Мажайскага.

У халоднай сінечы неба лунаў балотны мышалоў. Яму было адзінока, ён кружыў над возерам, пільна высочваючы дурную і неасцярожную здабычу.

— Іосіф Антонавіч, вам падабаецца назіраць за палётам птушак? — спытаў Мажайскі.

— З дзяцінства люблю, Аляксандр Фёдаравіч. Бывала, залезеш на званіцу... Бацька мой — святар, жылі побач з храмам. Дзядулязванар — чалавек добры, мяккі — усё вучыў мяне адрозніваць галасы званоў: які з іх ягораўскі, будзённы або красны... А мне не да званоў было. Галубы заміналі. З ранку да вечара бавіў час у царстве шызых галубоў. Белых або са шпорамі — такіх высакародных птушак не ведаў.

Мажайскі лёг на спіну, раскінуў рукі ў бакі.

—Добра... Прывольна,— вымавіў афіцэр і на поўныя грудзі ўдыхнуў паветра.— Добра... Я таксама не ведаў высакародных птушак, Іосіф Антонавіч. Пагдядзіце на гэтага мышалова, праўда прыгожа? Даўно заўважаю, што здольнасць лунаць у небе не ва ўсіх птушак аднолькавая. Вазьміце альбатроса, у рэшце рэшт — вераб'я, і вы лёгка заўважыце, што тыя, хто маюць вялікія крылы, лунаюць лягчэй, свабодней. У птушак з маленькімі крыламі — цела цяжэйшае. Таму яны, як я думаю, павінны мацней і як можна часцей махаць крыламі. Альбатросу гэта неабавязкова. Яму даволі аднагодвух узмахаў — і ў яго ўжо набрана хуткасць.

— Вы правільна заўважылі, Аляксандр Фёдаравіч, але я, прызнаюся, не надаваў гэтаму асаблівага значэння. Лунае птушка і лунае... Палюбуешся ёю, пазайздросціш і ўздыхнеш, як гэта зрабілі надоечы вы.

— І я зайздрошчу. А яшчэ болей — мару ўзняцца ў паветра. А як?.. Лагічна я ўжо прыйшоў да некаторых думак. Праўда, яны так сабе. Не закон Архімеда.

— Падзяліцеся, я вас зразумею.

— Калі птушка лунае ў паветры... Ну вось гэтая, напрыклад, балотны мышалоў. Я заўважыў, што існуюць пэўныя адносіны паміж цяжарам, хуткасцю і велічынёю плошчы крылаў. І мне робіцца зразумелым: чым большая хуткасць руху, тым большы цяжар можа несці тая самая плоскасць. Праўду я кажу ці не?

— Цікавыя думкі. І вы ведаеце, пра што я цяпер шкадую? Што вас не было з намі ў Лонданскай політэхнічнай школе. Мы заблукалі туды выпадкова з Канстанцінам Мікалаевічам Пасьетам.

— Там праводзіліся доследы?

— Так. Мы прысутнічалі пры надзвычайным доследзе па кіраванні аэрастатам.

— Гэта вельмі цікава, Іосіф Антонавіч! А што ён з сябе ўяўляе, як выглядае? — ускочыў Мажайскі. І Гашкевічу здалося, што з зямлі ўзняўся велікан. Лейтэнанта Бог не пакрыўдзіў ні ростам, ні шырынёю ў плячах — асілак ёсць асілак, а тут як быццам вырас яшчэ на аршын.

— Па-мойму, усё проста. Помню невялікі шар і лодачку, да якое былі прыроблены руль і вінт. Апошні прыводзіўся ў рух спружынаю. Аэрастат, як і птушка, узняўшыся звычайным чынам, прымаў той ці іншы накірунак, гледзячы, на які бок быў пакладзены руль. Дарэчы, угаварыце Пасьета паказаць свае запісы, па-мойму, ён замаляваў гэты паветрабежны апарат. Калі б штосьці падобнае ўдалося і вам у большым памеры, лічыце — задача вырашана.

— Калі вы былі ў політэхнічнай школе?

— Здаецца, у снежні пяцьдзясят другога. Так-так, у канцы Калядных свят. Лонданцы ўмеюць іх адзначаць.

Прыяцелі, якіх неўзабаве звяжа марскім вузлом лёс, яшчэ доўга сядзелі на прывале. У іх знайшлося многа агульных тэм для размовы. Іосіф Антонавіч быў на дзесяць гадоў старэйшы за Мажайскага, але гэта не перашкаджала яму з жарам віць ніткі сваіх мараў і летуценняў, жыць аднымі думкамі з чалавекам іншага саслоўя — дваранінам Санкт-Пецярбургскай губерні, патомным мараком і адораным мастаком. Мажайскага ж прыцягвалі ў Гашкевічу многія рысы: ён быў мудры, як будыйскі жрэц, што пражыў доўгае жыццё, сумленны і не любіў круціцца на вачах у начальства, ведаў больш за дзясятак моў і ніколі гэтым не хваліўся, гаварыў заўсёды і з усімі роўным, спакойным голасам.

Як толькі сонца пераваліла за полудзень, паляўнічыя паспяшаліся пакінуць возера, аблюбаваную імі раней мясціну, каб да сутоння прабрацца праз тайгу, выйсці да лімана, дзе на хісткіх хвалях пагойдвалася «Дыяна».

## III

Каманда фрэгата, як ужо гаварылася, рыхтавалася да адплыцця ў Імператарскую гавань. Ніхто на судне, відаць і сам адмірал, не ведаў, што вось-вось сітуацыя ў Прыамур'і вельмі ўскладніцца. Англійскія і французскія вінтавыя фрэгаты і карветы не дабраліся ў раён Амурскага лімана з-за дрэннай паінфармаванасці. На еўрапейскіх марскіх картах яшчэ не было пазначана, што сюды ёсць праход з боку Ахоцкага (з поўначы) і Японскага (з поўдня) мораў. Таму англа-французская эскадра сканцэнтравала сваю ўвагу на

Камчатцы. Калі б англічане і французы ведалі, што можна плаваць у лімане, дык яны, напэўна, не прамінулі б захапіць Сахалін і тым самым заперці вусце Амура.

Мінула тры тыдні, як Мураўёў расстаўся з Пуцяціным. Як быццам якіх-небудзь сур'ёзных рознагалоссяў аб становішчы спраў на Усходзе паміж імі не ўзнікла, але генерал-губернатар усё ж быў занепакоены тым, каб «Дыяна» доўга не затрымлівалася ў Імператарскай гавані. Галоўнае — перагаворы з Японіяй. 18 жніўня Мураўёў пасылае з Аяна Пуцяціну ліст, дзелячыся сваімі клопатамі:

«Адносна перагавораў з Японіяй я лічу абавязкам паўтарыць тут маю думку, што лепш пакінуць пагранічнае пытанне ў няпэўным па-ранейшаму стане, чым зацвярджаць за намі... частку Сахаліна... Аб неraздзеленасці нашага ўладання Сахалінам я атрымаў з апошнім кур'ерам з Пецярбурга вельмі станоўчае меркаванне, але не з Міністэрства замежных спраў; а таму і не лічу сябе правамоцным паведаміць пра гэта Вашаму правасхадзіцельству афіцыйна, а перадаю як бы на словах, тым больш што аднойчы вытлумачаная высачэйшая воля аб тым, што Сахалін наш, не можа падвяргацца сумненню».

Цяжкая місія выпала на долю Пуцяціна.

...Дні рабіліся халоднымі, сырымі. Надвор'е капрызіла: туманы і дождж, дождж і туманы. Вось і гэтым кастрычніцкім ранкам. Лье — і ніякага прасвету. Пад хмурным небам свяжэе вецер, буйнеюць хвалі. Але жыццё ў гавані не замірае. На караблях адбіваюць склянкі. Шлюпкі і катары снуюць па вадзе.

3 кастрычніка 1854 года «Дыяна», узняўшы ветразі, адправілася ў плаванне да берагоў Японіі.

У Імператарскай гавані заставалася «Палада». У закутку бухты Паставой яе раззброіў пакінуты за камандзіра лейтэнант І. І. Бутакоў, падрыхтаваў да ўзрыву на выпадак, калі паблізу з'явяцца караблі англа-французскай эскадры, а сам узяў 160 матросаў і двух афіцэраў, запасся правіянтам на дзесяць дзён, дзвюма сотнямі зарадаў для гармат і пешшу накіраваўся да мыса Лазарава. На фрэгаце застаўся тузін матросаў. Старшым — прапаршчык Корпуса флоцкіх штурманаў Дзмітрый Кузняцоў з фрэгата «Дыяна». Забягаючы наперад, трэба адзначыць, што маракі клапатліва даглядалі ветэрана паруснага флоту, абагравалі трумы, каюты, адпампоўвалі ваду і, вядома, неслі вахту. Служба ёсць служба. І час да таго ж ваенны. Будзь пільны!

У гэты ж час у Амурскім лімане стаялі на якары параход «Аргунь» і карвет «Алівуца», якім камандаваў капітан-лейтэнант Мікалай

Паўлавіч Назімаў. Карвет толькі што вярнуўся з Камчаткі і ў моры размінуўся з англа-французскімі караблямі, што кіраваліся граміць Петрапаўлаўск. Але пра гэта адмірал Пуцяцін даведаецца залішне позна, каб аказаць дапамогу мужным абаронцам крэпасці. Ён сам хутка будзе мець патрэбу ў ёй.

Паравая шхуна «Усход» стаяла на рэйдзе порта Аян. На ёй адпраўляліся з Нікалаеўска-на-Амуры світа генерал-губернатара Усходняй Сібіры, сам генерал-лейтэнант М. М. Мураўёў, кур'еры з «Палады» — лейтэнанты Савіч, барон Крыднер, Ціхмянёў, з «Дыяны» — мічман князь Абаленскі. Вяртаўся ў Расію і пісьменнік Ганчароў, але ўжо па сушы.

Сябры Івана Аляксандравіча шкадавалі, што ён не адправіўся з імі на «Дыяне», але не асуджалі. Кожнае такое плаванне — турбота нялёгкая.

Трэба думаць, адмірал Пуцяцін застаўся пэўны сабе. Для яго ж Ганчароў перш за ўсё чыноўнік, а пасля ўжо літаратар. Таму яго правасхадзіцельства і сказаў незадаволена: «Як жа вы пакінеце экспедыцыю ў самы важны час? Вы ж не ўбачыце самага галоўнага — як дакумент падпісваецца! У вас і кнігі не можа без гэтага атрымацца!»

Размова адбылася ў ліпені. Але цяпер, у кастрычніку, у час плавання «Дыяны», усё ўспомнілася, быццам здарылася ўчора. Калі фрэгат падыходзіў да японскага вострава Хакайда, Пуцяцін завёў гаворку з Гашкевічам. Пачаў здалёку, спытаў з некаторай доляй спачування:

— Іосіф Антонавіч, вы паспяваеце спраўляцца з паперамі? Пакінуў нас Іван Аляксандравіч, у самы гістарычны час пакінуў. Бог з ім! Успомніце маё слова, як толькі вернемся ў Пецярбург,— прыбяжыць. Будзе прасіць аўдыенцыі. З далікатнасці не адмоўлю, а так трэба было б...

Іосіф Антонавіч не адрэагаваў прама на папрок Пуцяціна ў адрас Ганчарова, сказаў толькі:

— Па маіх разліках, ваша правасхадзіцельства, Іван Аляксандравіч, відаць, мінуў Якуцк, спускаецца па рацэ Лене... Завірушны край, сярдзіты. Праасвяшчэнны айцец Інакенцій расказваў мне: шчодрая на багацце Якуція і яе акругі, ды вось бяда — сцюдзёная зямля.

— Я вам пра Фаму, а вы мне пра Ярому,— буркнуў адмірал.— Хто вам будзе памочнікам у справах? Айца Авакума няма, пан Ганчароў засумаваў па сталічным жыцці... Справіцеся адзін?

— Буду старацца,— паціснуў плячыма Гашкевіч.

Гаворачы пра Ганчарова, Пуцяцін нібы забыўся, якую выдатную характарыстыку даў яму ў рапарце вялікаму князю Канстан-

ціну Мікалаевічу: «...Аб прабыванні нашым у Японіі і аб зносінах з японцамі, то я бяру смеласць данесці, што п. Ганчароў лепш за іншых можа паказаць высокай увазе вашай высокасці ўсе падрабязнасці нашых спатканняў з японскімі паўнамоцнымі, бо ён паводле прызначэння майго прысутнічаў пры ўсіх перагаворах з імі».

Хітраваў адмірал: ён не столькі злаваўся на Ганчарова, колькі шкадаваў, што адпусціў такога сакратара.

## IV

Прайшоў тыдзень спакойнага плавання. 9 кастрычніка «Дыяна» стала на якар у хакадацкай гавані. Праз суткі адмірал вырашыў адправіцца далей — у Осаку, што паблізу Міяка, дзе жыў мікада, сын неба, «духоўны імператар» Краіны ўзыходзячага сонца, але давялося крыху затрымацца на чужым рэйдзе.

Надвор'е з кожным днём горшала. Кастрычнік — месяц перадзімовы на востраве Хакайда. Моцны зыб разгойдваў фрэгат, быццам арэхавую шкарлупку, гатовы ў любы момант сарваць з якара. Па загаду адмірала Лясоўскі перамяніў месца стаянкі. «Дыяна» адышла далей ад берага на сярэдзіну бухты.

Час набліжаўся да паўдня, калі раптам нечы адчайны голас крыкнуў:

— Чалавек за бортам!

Матросы, што працавалі на палубе, кінуліся да правага фальшборта.

— Вунь ён, братцы, вунь — галава відаць,— паказваў рукою унтэр-афіцэр Аляксей Собалеў.

Капітан Лясоўскі і старшы афіцэр Мусін-Пушкін імкліва выскачылі наверх. Вахтавы начальнік лейтэнант Мажайскі аддаваў распараджэнні:

— Баркас да спуску! Боцманам Цярэнцьеву і Бакееву падрыхтаваць грабцоў!

Матросы падбеглі да шлюпбэлькі, узяліся за талі і пачалі спускаць баркас на ваду. Яны працавалі спрытна, разумеючы, як дарагая кожная секунда. Ад іх спрыту залежала жыццё чалавека. Мічман Мікалай Кавалеўскі ўжо сядзеў за рулём, дакладна вымаўляючы каманды:

— Правая табань, левая на ваду! — Павольным рухам рукі мічман перакладваў руль, накіроўваючы фарштэвень баркаса на хвалю.— Абедзве на ваду!

— Малайчына,— сказаў Лясоўскі.— Пайшоў на хвалю, цяпер яна яго не захлісне. Выдатны афіцэр!

На шканцах з'явіўся адмірал.

— Хто ўпаў у мора, Сцяпан Сцяпанавіч? — спытаў Пуцяцін.

— Не ведаю, ваша правасхадзіцельства. Мне далажылі, што нашы матросы ўсе на борце.

Адмірал і капітан Лясоўскі ўзнялі біноклі. На фрэгаце панавала панурае маўчанне. Матросы сабраліся на баку, пра нешта гаманілі, з апаскаю паглядваючы на гарбатыя хвалі, за якімі схаваўся баркас.

Прайшло паўгадзіны, а можа і болей, усе гэтыя хвіліны каманда правяла ў пакутлівым чаканні.

Між тым мічман Кавалеўскі павярнуў баркас назад да фрэгата.

— Вязём, вязём! — крычаў афіцэр з усіх сіл.

Матросы з палёгкаю перахрысціліся. На душы ў кожнага радаснае супакаенне. Твары прасветленыя, з усмешкаю.

— Братцы, ды гэта ж япошка!

— Сапраўды. Глядзі, касавокі.

— Жывенькі.

— А што гэта ў яго на шыі? Як быццам крыж?!

— Ён. Дальбог, як у мяне.

— Хрышчаны, атрымліваецца. Нашай веры, бедалага,— выказваліся наперабой матросы.

Капітан Лясоўскі падзякаваў мічману Кавалеўскаму за кемлівасць і выдатнае кіраванне баркасам, а лейтэнант Мажайскі тым часам падаў выратаванаму чарку анісавай гарэлкі, каб сагрэўся.

На загад Пуцяціна японца накіравалі ў лазарэт да доктара Франца Кралявецкага, пераапранулі ў сухую бялізну, далі адпачыць, а пасля павялі да адмірала на гаворку.

Іосіф Антонавіч падсунуў японцу раскладное крэсла і на просьбу Пуцяціна пачаў распытваць няўдачлівага госця, падмацоўваючы словы выразнымі жэстамі. Аказалася, што японец ведае кітайскую і маньчжурскую мовы — гэта спрашчала гутарку.

— Што за бяда з вамі здарылася? — спытаў па-кітайску Гашкевіч.

— Я парушыў закон продкаў. У вучэнні бусідо сказана: «...Пазнай самога сябе. Пагледзі ў глыбіню сваёй душы. Спазнай сваё сэрца, у якім жыве бажаство, што ўказвае табе і загадвае табе. Слухай яго загадаў, і табе не патрэбна будзе іншае бажаство...» Я ж стаў мець патрэбу ў другім бажастве — Ісусе Хрысце. За гэта мяне падвяргаюць ганенню і патрабуюць мае смерці.

Пасля працяглай гаворкі з японцам Іосіф Антонавіч расказаў Пуцяціну і ўсім афіцэрам, якія прысутнічалі ў адміральскім салоне, драматычную гісторыю чалавека-бадзягі.

Бацьку і маці ён не ведаў. Яшчэ хлопчыкам трапіў з рыбакамі ў Карэю. Шкіперам парусага бота — кавасакі быў прададзены купцу.

Праз пяць гадоў збег у Кітай. Доўга бадзяўся ў партовых гарадах, пакуль не трапіў у Пекін, дзе пазнаёміўся з адным з членаў рускай духоўнай місіі. Паступова паверыў у вучэнне Хрыста і перад самым вяртаннем быў ахрышчаны. Давялося хаваць сваё адрачэнне ад культу продкаў, але хтосьці ўбачыў на яго шыі крыжык... Гэтага было дастаткова, каб японец панёс строгае пакаранне паводле закону бусідо. Яму пагражала па меншай меры халодная турма. Не раскаецца — смяротнае пакаранне.

Позна вечарам на фрэгат прыехаў пасланец ад хакадацкага губернатара і запатрабаваў праз Гашкевіча спаткання з начальнікам экспедыцыі.

— Што за спешка такая? — спытаў Іосіф Антонавіч чыноўніка.

— Трэба, вельмі трэба.

— Добра, спытаю.

Адмірал яшчэ не спаў. Японец стаў на калені і пачаў угаворваць Пуцяціна вярнуць уладам уцекача — адступніка закону бусідо. Адмірал не быў схільны ўступаць у дыскусію і тым больш выдаваць свайго адзінаверца. Ён сказаў:

— Няма большай за тую любоў, як калі хто паложыць душу сваю за сяброў сваіх. Гэта запавет нашага Боскага настаўніка. Чыноўнік хіхікнуў і пайшоў.

На другі дзень «Дыяна» знялася з якара і накіравалася на поўдзень у порт Осаку, маючы ў складзе экіпажа новага матроса. На жаль, далейшы яго лёс невядомы.

## V

«Дыяна» — добрае імя для парусніка. Першакласны для свайго часу фрэгат быў названы ў гонар рымскай багіні месяца. Праектаваў і будаваў карабель вядомы і вопытны інжынер-палкоўнік Фёдар Цімафеевіч Загуляеў (1791—1858). Закладка трохмачтавага фрэгата адбылася 21 мая 1851 года на Саламбальскай верфі горада Архангельска, а на наступны год, 19 мая, пры вялікай колькасці жыхароў парусьнік быў спушчаны на ваду. Тут дарэчы сказаць, што корпус і абшыўку саламбальскія майстры рабілі з вытрыманага лістоўнічнага, сасновага і дубовага лесу, падводную частку пакрывалі меднымі лістамі. Водазмяшчэнне фрэгата каля 2600 тон, артылерыйскае ўзбраенне складалася з 52 гармат 16-і 24-фунтовых калібраў. Хуткасць была таксама прыстойная — 12—14 вузлоў пры папутным ветры.

На світанні 9 лістапада «Дыяна» ўвайшла ў Осакскі заліў. Мясцовыя ўлады загарадзілі ўваход у гавань і на ўсе патрабаванні ад-

мірала адказалі адмоваю, спасылаючыся на загад сёгуна: Осака — закрыты порт для замежных суднаў.

10 лістапада «Дыяна» пакінула негасцінны горад і праз амаль два тыдні з'явілася на рэйдзе бухты Сімода.

Адмірал Пуцяцін паведамляў у рапарце генерал-адміралу, вялікаму князю Канстанціну Мікалаевічу: «Прыбыўшы з фрэгатам «Дыяна» 22 лістапада ў Сімоду для заканчэння пачатых з японскім урадам перагавораў, я заставаўся на гэтым рэйдзе ў чаканні прыбыцця паўнамоцных з Іедда».

Першымі ластаўкамі на «Дыяне», як і ў мінулыя візіты «Паллады» ў Нагасакі, з'явіліся опер-баніёс Ое-Саброскі і Кічыбе. Адмірал прыняў іх адразу, пацікавіўся вынікамі японa-амерыканскіх перагавораў, што праходзілі вясною ў Канагаве. Ое-Саброскі пачаў выкручвацца, ціха пасмейваючыся, як немаўля, што схавала ад дарослых знойдзеную манету. Кічыбе сказаў:

— З людзьмі Злучаных Штатаў мы не сустракаліся. Эйноске ўсё ведае.

— А дзе ён? — пацікавіўся Гашкевіч.

— Хварэе.

— Што з ім?

— Не ведаем,— ілгаў Ое-Саброскі.

Пуцяцін нерваваўся, яму абрыдла крыўлянне японцаў. Манера адказваць у перакладчыкаў была трывала завучана. На першае пытанне яны адказу звычайна не давалі, на другое — абавязкова трэба было салгаць.

— Калі мы будзем мець шчасце бачыць Цуцуі Хізэно-камі і Кавадзі? — спытаў адмірал.

— Праз два тыдні,— адказаў Кічыбе.

— Атрымліваецца, 6 снежня?

— Так.

Нарэшце яны сказалі праўду, відаць, мелі на гэта дазвол вышэйшых саноўнікаў.

8 снежня ў Сімоду прыбылі паўнамоцныя, Трэба думаць, опербаніёс Ое-Саброскі расказаў пра сваю сустрэчу з Пуцяцінам. Не забыў успомніць, што на рускім фрэгаце ён бачыў японца ў матроскім адзенні. Відавочна, той самы, што адмовіўся вярнуцца ў Хакадатэ. Паўнамоцныя, па ўсім відаць, ужо ведалі пра ўцекача з паведамлення хакадацкага губернатара і абмяняліся думкамі, як паводзіць сябе з Пуцяціным. Па сутнасці справы, прэтэнзій ніякіх. Паўнамоцным нават спадабалася такая абарона іх былога суайчынніка, што прыняў праваслаўную веру. Яны адступілі, і нават у час перагавораў гэты выпадак не абмяркоўваўся.

10 снежня 1854 года ў самым вялікім храме горада Сімоды Гёкусэндзі пачаліся перагаворы.

З японскага боку прысутнічалі паўнамоцныя: стары Цуцуі, Кавадзі, Макумота, Коча, сакратар Накамура Тамея, опербаніёс Ое-Саброскі, перакладчыкі Кічыбе і Сёза, а таксама вядомы вучоны і доктар Міцукуры Гэмпа. З рускага — віцэ-адмірал Я. В. Пуцяцін, чыноўнік асобых даручэнняў Азіяцкага дэпартамента драгаман І. А. Гашкевіч, капітан 2-га рангу К. М. Пасьет, капітан-лейтэнант С. С. Лясоўскі і мічман А. А. Пешчураў у якасці стэнаграфіста. Можна сказаць, малады афіцэр выконваў абавязкі І. А. Ганчарова.

Настаў нарэшце дзень, калі нягоды рускай дыпламатычнай экспедыцыі ў Японіі аплаціліся заключэннем гандлёвага трактата. Больш за год прадстаўнікі дзвюх дзяржаў сустракаліся, рабілі адзін аднаму візіты, дарылі багатыя падарункі, усміхаліся, спрачаліся паміж сабою, але справа далей не рухалася.

Гаспадары былі прыязныя. І ўсё ж з імі трэба трымаць вуха востра. На першы погляд здаецца, што японцы тугадумы, не кемлівыя,— гэта далёка не так. Гашкевіч ужо вывучыў іх звычкі. Праўда, часам яны не спяшаюцца з адказам. Лянівa раздумваюць, пазяхаюць. Да кожнага пытання прыстрэльваюцца. Часта лічаць простыя пытанні за галаваломку, імкнуцца падабраць да іх ключ, каб адгадаць напэўна, без прамашкі. А раптам за ўсім гэтым хаваецца падвох? Часам перапытваюць, і не адзін раз, а два і тры. Не, японцы не такія ўжо прастакі. Іосіфу Антонавічу многа разоў даводзілася назіраць за паводзінамі паўнамоцных. Набраўшыся вопыту, ён усвядоміў сабе цвёрда: калі японцы захочуць штосьці выведаць, дык чакай візіцёраў. Іх роля — як у армейскіх разведчыкаў у тыле праціўніка. Калі японцам трэба схаваць слабасць сваёй пазіцыі — будуць таўчы ваду ў ступе, але не пакажуць выгляду; калі нейкае пытанне вырашана сёгунам станоўча, то паўнамоцныя ніколі не раскрыюць карты адразу — паваландзяць. Ім абавязкова трэба пераканацца, што субяседнік па-ранейшаму моцна і паслядоўна стаіць на сваім. І толькі пасля прыадкрыюць заслону. Не, як ні кажыце, а японскія дыпламаты — арэшак цвёрды.

Перагаворы пачаліся. Паўнамоцныя прыўзняліся са сваіх падушак, і рускія ўзаемна раскланяліся. Японцы мінуту-дзве моўчкі разглядвалі рускіх прадстаўнікоў, быццам сустрэліся першы раз. Пасля стары Цуцуі зрабіў знак, што ён хоча гаварыць, Сёза падпоўз да яго ног, прыхінуўся лбом да падлогі і пачаў слухаць знатнага вяльможу, затаіўшы дыханне.

Сёза перакладаў на кітайскую, Гашкевіч — на рускую:

— Цуцуі Хізэно-камі рады бачыць дарагога госця ў добрым здароўі. Ён вельмі шкадуе, што дыпламатычная місія пана адмірала звязана з цяжкасцямі: Расія, блізкі сусед Японіі, у стане вайны з англічанамі і французамі.

«Дык вось дзе сабака закапаны?» — скеміў рускі дыпламат. Пуцяцін пакланіўся.

— Перакладзіце, Іосіф Антонавіч, мае віншаванні ў гэтым самым духу.

Гашкевіч працягваў перакладаць.

— Цуцуі пытае ў вашага правасхадзіцельства: якія важныя пытанні вы хочаце паставіць перад паўнамоцнымі сёгуна?

Пуцяцін без усякіх дыпламатычных акалічнасцей, проста і даходліва абгрунтаваў сваю праграму. У агульных рысах яна зводзілася да наступнага: 1. Адкрыць свабодны гандаль для Расіі. 2. Для рускіх суднаў павінны быць адведзены месцы стаянак — порты Осака і Хакадатэ. 3. Расіі дазваляецца мець у адным з портаў консула.

«Калі я выклаў галоўныя пункты мяркуемага трактата,— пісаў Пуцяцін у сваёй справаздачы графу Несельродэ,— у адпаведнасці з перададзеным мною ў Нагасакі праектам, дык першае пярэчанне з боку японскіх паўнамоцных было ў тым, што пра гандаль яны не маюць права нават разважаць, не толькі заключаць на гэты конт якія-небудзь абавязацельствы і што порт Осака, які разам з Хакадатэ я прызначыў пунктамі будучых кантактаў з рускімі, належыць, нароўні з Эда, выключыць адносна дапушчэння іншаземцаў».

Першы дзень афіцыйных перагавораў не прынёс ніякага поспеху.

Пуцяцін вярнуўся на фрэгат злосны, зачыніўся ў сваім адміральскім салоне і, да агульнага здзіўлення афіцэраў, не паклікаў да сябе на абед ні капітана, ні вахтавага начальніка, які нёс вахту з 4 да 8 гадзін раніцы. Адмірала можна было зразумець, ён хацеў паскорыць перагаворы, улічваючы няўдалы для Расіі ход вайны супраць Англіі, Францыі і Турцыі.

Іосіф Гашкевіч і Канстанцін Пасьет засталіся ў Сімодзе, каб дамовіцца з Накамурам пра заўтрашні дзень. Сакратар паўнамоцных папрасіў прабачэння, што, маўляў, паводле японскіх звычаяў нельга за адзін дзень вырашыць столькі важных спраў. Вышэйшыя саноўнікі маюць ад сёгуна інструкцыі. Ім трэба пра многае падумаць, а можа быць, і ўзгадніць у Эда.

— Супраць гэтага мы не пярэчым,— сказаў Гашкевіч.— Калі ёсць неабходнасць узгадняць з вярхоўнымі ўладамі — узгадняйце. У нас

ёсць добрая прыказка: «Сем разоў адмер, адзін раз адрэж». Але вы столькі разоў адмерваеце, што адбіваеце ў пакупніка ахвоту набыць тавар!..

— Гашкевіч-сан, вы што-небудзь рабілі без волі свайго начальства? — спытаў з усмешкаю Накамура.

— Не бачу ў гэтым гумару. Я ўсяго толькі драгаман, паднявольны чыноўнік... А вашы высокія саноўнікі, як мне вядома, надзелены дзяржаўнымі паўнамоцтвамі, даверaныя асобы Савета ўдзельных князёў,— адказаў Гашкевіч.

Накамура, надзьмуўшыся, як індык, прамаўчаў. Але ўсмешка зноў з'явілася на яго круглым, як блін, твары. На гэтым яны і разышліся.

## VI

Раніца 11 снежня выдалася шэрая, ветраная. З зюйд-веста набегла вялікая хваля. Бухта стала пеністаю, усё закіпела, быццам у гіганцкай чашы. «Дыяну» разгойдвала, якарны ланцуг нацягнуўся, як струна, гатовы вось-вось лопнуць.

У такое надвор'е нікому не хацелася выходзіць на палубу. Навошта мазоліць вочы старшаму афіцэру? У яго заўсёды ўзнікае жаданне «ўдружыць» якую-небудзь работку. Амаль усе афіцэры адлежваліся на сваіх ложках, з жахам думаючы пра час, калі давядзецца заступаць на вахту.

З 8 раніцы заступіў лейтэнант Мусін-Пушкін.

— Да ночы, відаць, не заціхне, Аляксандр Сяргеевіч? — спытаў вахтавы начальнік.— Як вы думаеце?

— Не,— адказаў лейтэнант,— зарадзіў, думаю, на суткі. А можа, і болей. Назірайце за якар-ланцугом, Аляксандр Фёдаравіч, а я спушчуся з дакладам да капітана.

Лясоўскага ў каюце не аказалася, ён сядзеў у адміральскім салоне. Там былі Гашкевіч, Пасьет і Пешчураў. Яўфімій Васілевіч патанаў у масіўным крэсле, лаючы на чым свет стаіць японскіх саноўнікаў.

— Якая шэльма Цуцуі... Я яму талкую: стрыжана, а ён мне — голена. Мінулы ж раз, у Нагасакі, пайшоў нам на ўступкі? Вы памятаеце, панове? — звярнуўся Пуцяцін да Пасьета і Гашкевіча.— З усяго ходу перагавораў — з пісьмовых і вусных запэўніванняў, нарэшце з намёкаў і напаўабяцанняў — я зразумеў, што паўнамоцныя жадалі ўступіць з намі ў цесныя дыпламатычныя зносіны. А ўчора? Гэта ж нечувана, панове! У такі момант адступіцца назад? Я нічога не разумею! Гульня ў кошкі і мышкі... Я не ведаю ніводнай нацыі, якая баялася б гандлю з іншымі краінамі. Ад гандлю нацыі не пры-

ходзяць да заняпаду, а, наадварот, багацеюць. Як гэту думку ўбіць у галаву Цуцуі? Як?!

— У час перагавораў, ваша правасхадзіцельства, я назіраў за Кавадзі,— сказаў Гашкевіч.— Мне здалося, што ён не падзяляе думкі Цуцуі. Помніце, ён казаў нам: «Дзяўчыну аддаюць замуж, калі яна вырасце — гандаль у нас не вырас яшчэ». Цяпер Кавадзі думае па-іншаму. Я ж вам дакладваў, вось тут, у вашым салоне, ён мне прызнаўся: «О, калі б не войны, Гашкевіч-сан, трактат быў бы падпісаны. У нас няма гарантый, што заўтра да нашых берагоў не прыйдуць англічане і французы...» Ці ж гэта не прызнанне? Кавадзі баіцца, як бы гэтым краінам таксама не давялося адкрываць порты.

— І давядзецца,— выказаў свой пункт гледжання Пасьет.— У англа-французскай эскадры суднаў, напэўна, болей, чым было ў камадора Перы. Калі мы не прымушаем сілаю, дык яны звернуцца да яе.

— Вы маеце рацыю, Канстанцін Мікалаевіч, звернуцца, не пасаромеюцца,— дадаў Іосіф Антонавіч.— Збудуцца словы манільскага епіскапа Дзінакура: «Японія адкрыецца для еўрапейцаў толькі з дапамогаю гармат».

— Я так разумею вас, панове,— вымавіў адмірал па-дзіцячы пакрыўджаным голасам,— да гэтага часу мы не былі актыўныя, а толькі заводзілі сантыменты. Так? Вы ўсе разумныя, а Пуцяцін...— На гэтым месцы адмірал запнуўся.— Маўчыце і не спрабуйце апраўдвацца... Усё ў руках Госпада Бога. А нашы ўчынкі павінны быць у згодзе з яго запаветамі. Адным евангельскім выслоўем: «Будьце мудрыя, як змеі, і простыя, як галубы» — я пачынаў бы інструкцыю кожнаму дыпламату, які ад'язджае за мяжу.

Іосіф Антонавіч уважліва слухаў павучанні начальніка экспедыцыі. Ад моцнай гайданкі ў яго кружылася галава, твар асунуўся, пабляднеў. Усе звярнулі на Гашкевіча ўвагу.

Пуцяцін сказаў:

— Іосіф Антонавіч, дарагі, ды вы і сапраўды невылечныя. Прыляжце на канапу. Во бяда!

У дзверы салона пастукалі.

Лейтэнант Мусін-Пушкін прыадчыніў дзверы, але ўваходзіць не стаў: з дажджавіка цурком сцякала вада.

— Даруйце, ваша правасхадзіцельства, шторм мацнее. Якары трымаюць слаба, паўзуць. Якія будуць загады?

Пуцяцін раззлавана спытаў:

— А вы не панікуеце, лейтэнант?

— Я, ваша правасхадзіцельства, не першы год...

— Можаце не працягваць,— перабіў адмірал,— я таксама не першы год плаваю. Падвахтавыя на месцах?

— Так точна, даўно выкліканы наверх.

— Аб'явіце аўрал.

— Слухаю, ваша правасхадзіцельства.

Суцэльнае выццё равучага мора даносілася ў напаўадчыненыя дзверы. Вахтавы сігнальшчык прабіў чатыры склянкі — 10 гадзін, але гук пагас у працяжным скуголенні штармавога ветру.

Раптам усе, хто знаходзіўся ў адміральскім салоне, адчулі ўздрыгванне. Фрэгат забіўся, быццам у ліхаманцы. Нейкая невядомая сіла лупцавала па днішчы «Дыяны».

— Панове, прашу прыступіць да выканання службовых абавязкаў. З Богам!

Адмірал узняўся на мосцік апошнім. Усе афіцэры былі ў зборы, на сваіх месцах — паводле аўральнага раскладу.

— Люкі закрыць! Няхай будзе воля Боская. Хлопцы, не бойцеся! — крыкнуў матросам Пуцяцін.

На «Дыяне» не было чалавека, які перажываў бы шторм упершыню. Варта ўспомніць мыс Горн! Папатрапала там судна! Былі і рваныя ветразі, і паламаныя рэі, карабель страціў трыццаць медных лістоў бартавой абшыўкі. Потым латанне корпуса ніжэй ватэрлініі абышлося суднавай казне ў 700 рублёў срэбрам. Але цяпер кожны адчуваў страх: нікому з каманды не даводзілася бачыць буру з грукатам і штуршкамі, што ішлі аднекуль знізу, з глыбіняў мора.

Трохтонныя якары не трымалі. Фрэгат закруціўся, як ваўчок, шалёныя хвалі насіліся па кругу і цягалі яго за сабою.

— О, Госпадзі Ісусе! — спалохана вымавіў нехта з юнкераў.

— Не бойся, галубчык. Так доўга працягвацца не можа. Ты лепш палічы, колькі «Дыяна» зробіць піруэтаў,— сказаў Лясоўскі.

— Гэта тайфун, Сцяпан Сцяпанавіч?

— Не, землетрасенне.

— Адкуль вы ведаеце? — спытаў адмірал.

— Меркаванне, не болей, ваша правасхадзіцельства. Калі б нас падхапіў ураган, фрэгат разбіла б на трэскі аб скалу Інубасары...

— Вы мяркуеце, гэтая кругавая свістапляска — землятрус?

— У закрытай гавані ўраган не можа нагнаць такія хвалі, ваша правасхадзіцельства,— тлумачыў свой пункт гледжання капітан.

— Можа быць, можа...

Адміралу і камандуючаму фрэгата паступалі даклады, суцяшальных сярод іх не было. Фрэгат адбіваў удары хваляў моцай свайго корпуса, і ўсё ж абшыўка ў некаторых месцах не вытрымала,

дала цечу. Водаадліўныя помпы не спраўляліся з напорам вады ў трумах і румпельным. Вычэрпваючы вёдрамі ваду, людзі знемагалі, амаль падалі з ног. Працавалі па чарзе ўсе, уключаючы і адмірала. А вада прыбывала. Было дзіўна, як гэта карабель яшчэ трымаўся на плаву. Акажыся на месцы «Дыяны» фрэгат «Палада», даўно ўсё скончылася б.

Змагацца за жыццё судна маракам перашкаджаў дождж, які ліў беспярастанку. Паветра настолькі набрыняла вільгаццю, што нават у кают-кампаніі запацелі люстэркі. Нельга было знайсці такога куточка, дзе каманда магла б прасушыць адзенне. Але людзі не думалі пра гэта, яны не шкадавалі сіл у цяжкай аўральнай рабоце.

На батарэйнай палубе падрыгвалі і перакочваліся з борта на борт ядры і самі гарматы, іх трэба было суняць, як наймацней замацаваць, а ядры ўкласці на месца. Камендоры, прыстасаваўшы падручныя сродкі, найтовілі гарматы. Гэта каштавала немалых высілкаў. Лейтэнант Мажайскі, пасланы адміралам на дапамогу артылерыйскаму афіцэру Лосеву, убачыўшы матроса, які прысеў каля гарматы, што адкацілася, адразу зразумеў: з камендорам Катковым няшчасце. Ён адцягнуў акрываўленага матроса ад лафета і панёс у ніжнюю палубу, дзе размяшчаўся лазарэт. Тут ужо знаходзілася некалькі пацярпеўшых матросаў і Гашкевіч, які рабіў ім перавязкі.

Вось што пісаў у сваім рапарце адмірал вялікаму князю Канстанціну Мікалаевічу, калі шторм заціх. Дакладней гэта быў не шторм у звычайным разуменні. Гэта былі цунамі — магутнай сілы акіянскія хвалі, што ўзнікаюць ад падводных землетрасенняў. «...А калі тым, хто мацаваў гарматы, прасвісталі наверх,— дакладваў Пуцяцін,— дык правая з гэтых гармат перакулілася і забіла трапіўшага пад яе матроса Собалева, унтэр-афіцэру Цярэнцьеву пераламала нагу, а матросу Віктараву адарвала нагу ніжэй калена».

## VII

Ураган заціх на другія суткі, але хваляванне ў бухце Сімода працягвалася.

«Дыяну» моцна пашкуматала. Рангоўт трэба было рамантаваць. Корпус даў цечу. Ваду ў трумах адпампаваць не мелася ніякай магчымасці, яна прыбывала з кожнай гадзінаю.

Пасля ўсё ж такі спынілі, заканапацілі шчыліны, завялі пластыр, які перакрыў доступ забортнай вады. Гарачую ежу ў час шторму не гатавалі. Афіцэры і матросы, якія пакутавалі ад марской хваробы, елі сухама сухары і квашаную капусту.

Змучаны штормам і голадам Іосіф Антонавіч пайшоў з лазарэта, калі ў яго дапамозе патрэба адпала. Ён заваліўся на ложак і заплюшчыў вочы. Сон не ішоў.

У каюту з шумам уваліўся велікан Мажайскі і, не адыходзячы ад дзвярэй, ля парога пачаў скідваць прамоклае адзенне.

Гашкевіч заварочаўся на ложку.

— Даруйце, Іосіф Антонавіч, я вас разбудзіў?

— Ды я не сплю... Пакутую.

— Агурочка салёнага не хочаце? Я загадаю веставому.

— Дзякуй, не трэба. Каторая гадзіна, Аляксандр Фёдаравіч?

— Склянкі прабілі першую папаўдні.

— Поўдзень? Дык жа японцы нас ужо чакаюць... Якраз у гэты час прызначаны перагаворы...

— Перагаворы, кажаце? Шаноўны Іосіф Антонавіч, японцам цяпер не да нас. У Сімодзе землетрасенне.

— Няўжо?! — здзіўлена ўсклікнуў Гашкевіч.

— Так, так,— адказаў лейтэнант.— Вы тут не сумуйце без мяне, я імгненна вып'ю чайку з ромам і... зноў да сваіх батарэйцаў.

Пасля адыходу суседа па каюце Іосіф Антонавіч яшчэ доўга варочаўся ў ложку і каторы раз за два гады плавання праклінаў марскую службу і свой лёс. Калі б хто ведаў, як яму хацелася пастаяць на нагах, пахадзіць па цвёрдай зямлі! А дзе яна, цвёрдая зямля? У Сімодзе? У Сімодзе, як казаў Мажайскі, землетрасенне.

Так, бяда прыйшла і ў гэты горад. Страшэннай сілы цунамі спустошыла бераг паўвострава Ідзу. Джонкі, што стаялі каля рыбацкіх прыстаней, адкатная хваля знесла ў мора. Змыла і некалькі дамоў, якія стаялі блізка на краі берага. Горад, дзе было каля тысячы будынкаў і амаль дваццаць храмаў, ператварыўся ў руіны. Загінулі і былі паранены сотні жыхароў, многія засталіся без даху над галавой, а рыбакі да таго ж без прылад лову і джонак.

Праз суткі пасля Сімодскай трагедыі віцэ-адмірал Пуцяцін адбыў з фрэгата на капітанскай гічцы ў разбураны горад. Яго суправаджалі Гашкевіч і Пасьет. Стары Цуцуі прыняў рускіх пасланцоў з нізкім паклонам і ветлівай усмешкаю, як быццам за апошнія гадзіны нічога навокал не адбылося: ні цунамі, ні землетрасення. Гашкевіч пераклаў словы Пуцяціна, выказаўшы спачуванне японскім сем'ям, якіх спасцігла трагічнае няшчасце. Паўнамоцны зноў усміхнуўся. Здавалася, у такі момант яму, мудраму і пажыўшаму на свеце чалавеку, усміхацца непрыстойна, але так прынята. Цуцуі паклікаў перакладчыка Эйноске, які сядзеў воддаль, загадаў перакласці на галандскую:

— Калі ты спытаеш у свайго сябра-японца, якога бачыш у вялікім горы, што з ім, дык ён табе адкажа з усмешкаю: «Нічога», бо навошта ж яму парушаць мір і весялосць свайго сябра, пакуль ён у стане пераносіць свае пакуты адзін.

Пуцяцін падзякаваў Цуцуі за шчырасць і папрасіў Гашкевіча расказаць паўнамоцным пра цяжкае становішча, у якім знаходзіцца каманда фрэгата «Дыяна».

— Судна мае патрэбу ў вялікім рамонце,— удакладніў просьбу рускі драгаман,— на борце ёсць цяжкапараненыя і хворыя.

Выслухаўшы з належнай увагаю Гашкевіча, Цуцуі адказаў: нягледзячы на тое што жыхары Сімоды перажылі, як і вы, рускія, шаленства прыроды, пазбаўлены ежы і цяпла, гараджане не адмовяць вам у дапамозе.

Забягаючы наперад, трэба сказаць, што паўнамоцныя стрымалі сваё слова: на працягу дзесяці дзён, з 7 да 18 студзеня, яны забяспечвалі каманду «Дыяны» рысам, рыбаю, саке і салодкай бульбаю.

Цяпер самым пакутлівым жаданнем Пуцяціна было перамяніць якарную стаянку фрэгата. А як гэта зрабіць? Іншаземцам дазвалялася быць толькі ў Сімодзе. Стары Цуцуі на свой страх і рызыку вырашыў даць згоду. Ён разумеў, што парушаў загад сёгуна, але пасылаць ганца ў Іеда — на гэта спатрэбіцца не адзін дзень, а рускае судна больш не можа знаходзіцца ў бухце Сімода, яму трэба падшукаць больш спакойнае месца.

Гутарка з японскімі саноўнікамі зацягнулася да позняга вечара. Была дасягнута дамоўленасць, што для прадаўжэння перагавораў і ўдакладнення паасобных артыкулаў трактата ў горадзе застануцца драгаман Гашкевіч і флаг-афіцэр адмірала — Канстанцін Пасьет. Паўнамоцны Кавадзі прапанаваў Пуцяціну наладзіць невялікую экспедыцыю ў пошуках закрытай ад ветру бухты, бо Сімода ўжо не магла размясціць каманду на беразе, яе жыхары самі мелі патрэбу ў жыллі. Цуцуі зрабіў яшчэ адзін крок насустрач рускім — дазволіў з 14 снежня звозіць з фрэгата гарматы, ядры і парахавыя зарады. Пуцяцін меркаваў, што, вызваліўшы ад лішняга грузу «Дыяну», можна будзе паспрабаваць заняцца рамонтам абшыўкі корпуса.

Пасля дзелавой размовы стары Цуцуі папрасіў гасцей астацца. Увайшло пяцёра слуг, па колькасці гасцей і саноўнікаў, у кожнага у руках — па кубку чаю. Рускія ўжо прызвычаіліся да такога пачастунку: духмяны зялёны чай без цукру, пасля люлькі, напханыя табакай, і цукеркі ў скрыначках. Чай могуць падаць і гарачы і халодны, у каго да якога душа ляжыць. Нічога не зробіш, звычай ёсць звычай. Як кажуць, прыход госця — гэта яго справа, а адыход госця — справа гаспадара.

На фрэгат адмірал прыбыў перад самым адбоем. Як толькі была адпушчана ганаровая варта, Пуцяцін запатрабаваў да сябе Лясоўскага і старшага афіцэра Мусіна-Пушкіна. На другі дзень з ранку пачаліся аўральныя будні...

Адмірал не забыў пра падказку Кавадзі — паслаў лейтэнанта Шылінга і мічмана Калакольцава абследаваць паўночную частку заліва Суругі. Для таго каб рускім афіцэрам не чынілі перашкод таўфані (стражнікі), Кавадзі вылучыў са свае світы двух чыноўнікаў. Амаль паўмесяца, не ведаючы ні сну, ні адпачынку, у холад і ў дождж пераадольвалі маракі складаны шлях уздоўж незнаёмага берага. У той час японцы яшчэ не апісалі сваіх бухтаў, астравоў і заліваў. У іх не было ні картаў, ні лоцыяў. А чыноўнікі Кавадзі ў марской справе нічога не цямілі. Заставалася адно: даверыцца сваім ведам і вопыту.

30 снежня Шылінг і Калакольцаў вярнуліся з нялёгкага ваяжу і прадставілі Пуцяціну падрабязную карту заліва. Яны знайшлі зручную і ціхую бухту Хэда. Там быў пясчаны бераг, на які можна валакам зацягнуць насавую частку фрэгата для рамонту, прыладзіўшы для гэтага драўляныя каткі. Камандуючы рускай экспедыцыяй зноў сустрэўся з паўнамоцнымі і дамовіўся аб перамене месца якарнай стаянкі «Дыяны».

У калядны дзень 2 студзеня 1855 года на фрэгаце апошні раз узнялі ветразі. Не ўсе, вядома, а толькі тыя, што засталіся пасля напору цунамі. На гэты раз зноў не пашанцавала. Шквальны вецер падхапіў «Дыяну», і яна, бездапаможная, непадуладная волі капітана, з вялікай цяжкасцю абагнула мыс Іра паўвострава Ідзу. А за мысам вецер ударыў проста ў нос караблю. Усе — ад адмірала да матроса — разумелі, што «Дыяне» не выйграць гэту шалёную бітву.

Вецер рабіўся ўсё мацнейшы і злейшы. Фрэгат стагнаў і трашчаў, быццам тысячы дэманаў усяліліся ў яго безабароннае цела.

Вось дзве выпіскі з шканцавага журнала «Дыяны».

«5 студзеня.

...У палове 10-й гадзіны на адміральскі катар пасадзілі цяжкахворых, доктара, святара са Святымі Дарамі і Антымінсам[1] і двух юнкераў — Лазарава і Карнілава з хранометрамі, і пад начальствам мічмана Свіньіна катар накіраваўся на бераг. Дасягнуў яго паспяхова, будучы падхоплены ў буруне катарнымі грабцамі, што з'ехалі напярэдадні, і сабранымі на беразе японцамі. За гэтым прыступілі

[1]Святыя Дары і Антымінс — у праваслаўнай царкве асобая шкатулка (каўчэг), у якой захоўваюцца кавалачкі «пасвенчанага» хлеба — так званыя святыя дары для тых вернікаў, якія не змаглі прысутнічаць пры прычасці.

да звозу каманды: яе саджалі партыямі па 60 чалавек у баркас, які па леееры цягнуўся да берага і, не даходзячы да бурунаў, спыняўся на ім як на дрэку, і людзі праз буруны перацягваліся канцом, пададзеным па леееры на бераг...

Перавозіць каманду і рыштунак з фрэгата на бераг было даручана лэйтэнанту Мажайскаму і мічману Зялёнаму».

«7 студзеня.

...А 9-й гадзіне пасля паўночы мноства японскіх лодак сабралася ля фрэгата, і тады адмірал у суправаджэнні камандзіра судна і лэйтэнантаў: Мажайскага 1-га і Шылінга і 15 матросаў ускочылі на фрэгат для падачы буксіраў і адклёпвання дагліксавага ланцуга, па выкананні чаго японскія лодкі ўзялі фрэгат на буксір пры пераменным малым ветры. А 1-й гадзіне пасля паўдня толькі адмірал у суправаджэнні тых самых афіцэраў і камандзіра сышоў з фрэгата, куды яны ўзышлі для задрайкі выскачыўшага партовага круга, як усе японскія лодкі з крыкам кінулі буксір і спешна, ставячы ветразі, панесліся ў глыбіню бухты да NO[1]. Нашы лодачнікі зрабілі тое самае, адказваючы на пярэчанні перакладчыка, што зараз будзе бура. І сапраўды, меней як праз паўгадзіны зрабіўся вельмі свежы SW[2] з велізарным зыбам. Пад вечар наша лодка схавалася ў бухце Ейнорэ, а ў 6 гадзін вечара з месца Мія-Сіма, дзе была каманда, бачылі, як фрэгат апусціўся кармою.

У час апошняй бытнасці адмірала на фрэгаце вада стаяла на трэць вышыні паміж кубрыкам і батарэйнай палубаю».

Лёгка можна ўявіць сабе пачуцці маракоў, калі іх фрэгат, які быў родным домам, плывучым астраўком Расіі, адыходзіў з жыцця, адыходзіў назаўсёды, зацягнуты ў бездань мора,— у гэтыя хвіліны мімаволі наварочваліся слёзы. Хто б мог угадаць наперад, што «Дыяна» знойдзе сваю магілу на дне чужой бухты! Яшчэ ніколі з такім болем у сэрцы не адчувалі сваёй адзіноты маракі, як у гэты дзень — 7 студзеня.

Пуцяцін даносіў у рапарце вялікаму князю Канстанціну Мікалаевічу: «Адной з тых жахлівых, рэдкіх з'яў у прыродзе, якія адбываюцца, аднак, часцей у Японіі, чым у іншых краінах, сталася гібель фрэгата «Дыяна».

З 11 снежня 1854 года да 5 студзеня 1855 года ў шканцавым журнале ніякіх запісаў чамусьці не вялося. Пасля 7 студзеня чыімсьці няроўным, экспансіўным почыркам напісана: «Канец плавання», а знізу прыпіска, відаць, для будучых марскіх падарожнікаў, каб

[1] NO — паўночны ўсход.

[2] SW— паўднёвы захад.

яны ведалі, якія выдатныя мараходныя якасці мела «Дыяна» ў час кругасветнага плавання: каманда фрэгата дасягнула і абагнула мыс Горн намнога хутчэй, чым гэта зрабілі Фернан Магелан, Джэймс Кук і іншыя выдатныя мараплаўцы.

Вось гэтая прыпіска:

**«Ад Краншатата**
да Капенгагена — 9 дзён,
да м. Лізарда — 11,
да в. Гамера — 15,
да Рыа-дэ-Жанейра — 29,
да Вальпараіса — 46,
да астр. Сандвічавых — 51,
да Дэ-Кастры — 43.

Усяго пад ветразямі 200 дзён».

Так, свет яшчэ не ведаў такога выдатнага, рэкорднага пераходу з перасячэннем двух акіянаў — Атлантычнага і Ціхага. Для таго часу (сярэдзіна XIX стагоддзя) гэта быў подзвіг.

## «ХЭДА» ПАДЫМАЕ ПАРУСЫ

### I

Нарэшце штармавыя вятры змянілі кірунак, пайшлі на зюйд-ост, недзе ў бок Гавайскіх астравоў. Заліў Суруга выглядаў амаль мёртвым, застылым. Быў студзень, але дні стаялі цёплыя і ясныя.

Рускія маракі з «Дыяны», якая пацярпела караблекрушэнне, зрабіліся берагавымі жыхарамі. Спачатку ў сяле Мія-Сіма японцы адвялі ім пад жытло самы вялікі храм, але ён не мог умясціць усіх, давялося перабрацца па патрабаванні Мікалая Густававіча Шылінга ў рыбацкую сялібу Хэду, жыхары якой аднесліся да рускіх дружалюбна, нават выявілі жаданне пусціць на пастой — заходзь у любы дом, але ўлады вызвалілі пад казармы зноў храмы. І не адзін. У келлях, дзе раней размяшчаліся будыйскія манахі, цяпер асталяваліся афіцэры і матросы.

Праз тыдзень быт маракоў быў наладжаны. Сухапутнае жыццё не стала здавацца дзіўным і незвычайным, паступова ўвайшло ў сваю каляіну.

Іосіф Антонавіч Гашкевіч прачнуўся рана, але, калі выходзіў з храма, звярнуў увагу, што на пясчаным беразе бухты ўжо гуляюць японскія дзеці. «І ў нас у слабадзе і стары і малы ўстаюць на досвітку»,— падумаў ён. Яму не хацелася на вачах ва ўсіх умывацца, чысціць зубы, але што зробіш, ён тут не гаспадар. Дзеці адразу ж

перасталі гуляць і павярнулі галовы ў яго бок. Белы чалавек быў у навіну. Не абарочваліся толькі рыбакі і дазоршчыкі. У іх свае клопаты. Адны смалілі лодкі, рамантавалі лавушкі, другія сачылі, каб дарослыя і дзеці не падыходзілі і не заводзілі размоў з рускімі. На людных месцах гэта забаранялася. А як усачыць у астатніх выпадках? У храме або ў двары храма, знаходзячыся блізка адзін ад аднаго,— няўжо не можна перакінуцца параю слоў? Вядома. Да ўсіх жыхароў Хэды не паставіш дазоршчыкаў і за ўсімі не ўсочыш.

Гашкевіч памыўся і пачаў узнімацца на пагорак да храма, каля варотаў якога яго чакаў сакратар паўнамоцных Накамура. Вяльможа па-сяброўску і, як здалося Гашкевічу, нават злёгку падлізваючыся, прапанаваў:

— Калі вам патрэбны будуць людзі з насілкамі, скажыце мне.

— Дзякую,— падзякаваў Іосіф Антонавіч.— Мы дабярэмся морам, а не праз горы, як мінулы раз.

17 студзеня Пуцяцін сабраўся ў Сімоду працягваць перагаворы з паўнамоцнымі сёгуна, але перад тым, як сесці ў адміральскі катар, запрасіў афіцэраў. Яму, начальніку экспедыцыі, хацелася ведаць думку падначаленых аб становішчы, якое склалася, выслухаць розныя пункты погляду. Бо абставіны, на першы погляд, уяўляліся сумнымі. Сапраўды, не па сваёй волі экіпаж фрэгата аказаўся на беразе чужой краіны, аддаленай на многа соцень міль ад айчыны. Праўда, каманда выратавана. Людскія страты мізэрныя. У час землетрасення, калі «Дыяну» кружыла ў віхравым віры, адкочаная ад борта гармата прыдушыла насмерць матроса Собалева. У наспех абсталяваным лазарэце ляжалі з пераломамі ног унтэр-афіцэр Цярэнцьеў і матрос Віктараў. Карабельны доктар Кралявецкі стараўся зрабіць усё, каб зберагчы жыццё маракам. Горш было з адпраўкаю людзей на радзіму. У Пецярбургу аб трагічнай гібелі «Дыяны», зразумела, нічога не ведалі. А калі б і ведалі, дык памагчы нічым не змаглі б. Вяртанне ў Расію ўскладнялася тым, што ў разгары была Крымская вайна. Англійскія і французскія караблі крэйсіравалі ў Ахоцкім і Японскіх морах, блакіравалі берагі Далёкага Усходу і порт Петрапаўлаўск-на-Камчатцы. Заставалася адно: шукаць самім шлях, як выкарабкацца з гэтага становішча. Японія свайго флоту не мела. На грабных суднах не дабярэшся, ды і рызыка вялікая. Давалі надзею амерыканскія і галандскія купецкія судны. Але ці пойдуць яны на фрахт па дагавору тайм-чартар?[1] Гэта будзе залежаць ад наяўнасці грошай і

[1] Тайм-чартар — адзін з відаў дагавору марской перавозкі, паводле якога адзін бок абавязваецца прадаставіць судна, якое яму належыць, а другі бок абавязаны заплаціць фрахтоўшчыку ўстаноўленую дагаворам узнагароду і пасля заканчэння тэрміну фрахту вярнуць судна ў спраўным стане.

дыпламатычных здольнасцей. А пакуль трэба думаць пра пабудову якой-небудзь двухмачтавай паруснай шхуны з бермудскаю аснасткаю[1].

Пасля ўсебаковага абмеркавання адмірал Пуцяцін падзякаваў афіцэрам за талковыя парады і выказаў некалькі сваіх меркаванняў. На яго думку, любой цаною і як найхутчэй трэба распачынаць будаваць шхуну. На ёй можна будзе адправіць у Расію частку каманды, усю сакрэтную перапіску дыпламатычнай місіі і суднавыя дакументы. Падтрымаў адмірал і рэкамендацыю капітан-лейтэнанта Лясоўскага аб фрахтаванні замежных суднаў нейтральных дзяржаў. Не выключаў і больш агрэсіўныя меры, напрыклад захоп непрыяцельскіх караблёў. Чатырыста чалавек, узброеных штуцарамі, пісталетамі, шпагамі і абардажнымі крукамі, уяўлялі немалую сілу. Матросы на беразе не страцілі свайго баявога духу, малайцаваталісці, штодзённа з імі праводзіліся заняткі па марской справе, стралковыя вучэнні і маршыроўка. Пуцяцін верыў у бясстрашнасць характару рускага матроса і, магчыма, употай маліў Госпада Бога, каб той налучыў зручны выпадак, на якім ён мог бы праверыць сваіх падначаленых у рабоце. Ці пачуў Усявышні просьбу багамольнага адмірала, ці не, але такі выпадак сапраўды надарыўся.

Вось што пісаў мічман Аляксандр Калакольцаў у сваіх успамінах: «17 студзеня адмірал адправіўся ў Сімоду і атрымаў на дарозе вестку аб прыходзе парахода «Powhatan»[2], а на другі дзень, з горада Мацэусакі, прыслаў з нарачным загад капітану: на двух грабных суднах з 90 чалавекамі дэсанту ісці ў Сімоду, каб узяць на абардаж французскага кітабоя, што туды прыйшоў; апошні, між іншым, апавешчаны параходам «Powhatan» аб прысутнасці на беразе рускіх, пайшоў з порта ў той самы дзень».

Адмірал Пуцяцін гэты выпадак апісаў так: «...17 студзеня адправіўся ў Сімоду для працягвання перагавораў... Пад вечар 18-га мы дасягнулі горада Мацэусакі, у якім я размясціўся на начлег. Тут у поўнач з'явіўся да мяне надворны саветнік Гашкевіч з весткаю, што па-за Сімодскім рэйдам спынілася французскае кітабойнае судна, якім нам выпадае завалодаць на грабных суднах.

Атрымаўшы гэту вестку, я ў тую самую ноч адправіў аднаго з афіцэраў, што мяне суправаджалі (мічмана Калакольцава), з загадам капітан-лейтэнанту Лясоўскаму ўзброіць два грабныя судны...

---

[1] Бермудская аснастка складаецца з косых ветразяў у выглядзе выцягнутых прамавугольных трохвугольнікаў, выкарыстоўваецца на невялікіх парусных суднах і яхтах.

[2] «Паўхатан» — амерыканскі фрэгат з эскадры камадора Перы.

На другі дзень да паўдня я быў у Сімодзе, але не заспеў там французскага кітабоя, які праз некалькі гадзін пасля адбыцця п. Гашкевіча, падазраючы пра наш намер, зняўся з якара і выйшаў у мора...»

Пуцяцін задумаў каперскім спосабам захапіць непрыяцельскі кітабой, але яго вайсковая хітрасць, на жаль, не ўдалася.

На другі дзень адмірал Пуцяцін, драгаман Гашкевіч і афіцэры світы капітан-лейтэнант Лясоўскі і мічман Пешчураў накіраваліся на амерыканскі фрэгат. Паводле міжнароднага ваенна-марскога звычаю належала нанесці візіт і павіншаваць са шчаслівым прыбыццём капітана. Каля трапа рускіх маракоў сустрэў старшы афіцэр Мак-Клюні і правёў у каюту капітана Адамса. Насустрач гасцям узняўся высокі, моцны брунет са шматлікаю сівізною, ружовашчокі, выпешчаны, з хрыплаватым голасам.

— Наколькі я чуў, ваша правасхадзіцельства,— пачаў ён гаворку пасля знаёмства з рускімі,— ваша дыпламатычная місія вось-вось закончыцца перамогаю?

— Бачыць Бог, дарагою цаною заплацілі мы за гэтую місію,— адказаў адмірал.

— Я разумею вас. Перажыць караблекрушэнне, страціць судна, калі ў Расіі так мала караблёў на Ціхім акіяне. Нялёгка вам давозіцца, адмірал.

Капітан Адамс стараўся быць шчырым, не крывадушнічаў. Ён прапанаваў гасцям скрынку з цыгарамі і працягваў гаварыць:

— Я ведаю, якія думкі вас зараз займаюць. Мая падтрымка ў перагаворах з туземцамі вам не была б лішняю. Але буду шчыры, адмірал. Я сябрую з рускім паслом у Вашынгтоне Мікалаем Бадзіскам, а яго сын Фёдар — мой прыяцель. Здаецца, пан Гашкевіч служыць з ім у адным дэпартаменце. Я не памыляюся?

— Так, але мы мала сустракаліся,— адказаў сарамліва Іосіф Антонавіч,— апошні раз на Бонін-Сіма, калі Фёдар Бадзіска прыбыў да нас на «Паладу» кур'ерам.

— Светлая галава ў маладога чалавека, трымаецца проста, з годнасцю. Фёдар Бадзіска зробіць сабе добрую кар'еру. Як бачыце, панове, маё сяброўства з рускімі дыпламатамі дае мне права, зноў паўтараю, быць з вамі шчырым... Наш камадор Перы ў сакавіку мінулага года падпісаў з японцамі трактат. Спадзяюся, вам гэта вядома? Я прыбыў ратыфікаваць яго. Але гэтыя туземцы пачалі думаць пра сябе чорт ведае што!.. Сёгун Іэсада, здаецца, у іх трынаццаты па ліку. Які нешчаслівы лік! Як мне ў галаву раней не прыйшло? — Амерыканец гаварыў з жарам, не спрабуючы стрымліваць сябе.— Дык вось, гэты палахлівы Іэсада прапанаваў самому імператару

Камеі вырашыць пытанне аб ратыфікацыі, а ў таго, бачыце, у імператарскім двары моцная апазіцыя даймiёсаў. Камеі раззлаваны ўчынкам сёгуна Іэсады. А мне што да таго? Паўночным Штатам няма справы да палацавых звадак! Гэтыя туземцы хочуць, каб мы зноў прыйшлі да іх на браняносцах. І прыйдзем!..

Пуцяцін зрэдку пакашліваў, выраз яго твару мяняўся: то ён слухаў уважліва, з хітрынкаю ў вачах, то яму хацелася пазяхнуць, але не дазвалялі правілы прыстойнасці.

— Цяпер вы ведаеце, панове, чаму я не магу падтрымаць вас у перагаворах,— сказаў больш спакойна Адамс.

— Ці толькі гэта? — спытаў Пуцяцін.

— Ваша правасхадзіцельства, я не даў вам повада...— спрабаваў абурыцца амерыканскі капітан, але адмірал перабіў яго:

— Вы ўжо зрабілі для нас адну паслугу: папярэдзілі французскага шкіпера.

— Капітан Адамс тут ні пры чым, сэр,— сказаў старшы афіцэр Мак-Клюні.— Француз спытаў мяне: «Чые гарматы ў Сімодзе? Па ўсім відаць, знятыя з ваеннага судна». Я сказаў: «Рускіх. Іх фрэгат пацярпеў караблекрушэнне, цяпер яны жывуць на беразе».

— Дзякую за шчырасць.— Пуцяцін узняўся, усталі і яго саветнікі.

— У чым вы бачыце маю віну, сэр? Як я павінен быў, па-вашаму, паступіць?

— Бог вам суддзя, лейтэнант.

— Не прымайце блізка да сэрца выхадку лейтэнанта Мак-Клюні,— сказаў прымірэнча Адамс.— Няхай ён мне даруе, старшы афіцэр лішне многа выпіў той раз херасу і, можа быць, набалбатаў чаго лішняга французу.

Прыдумаўшы нейкую хітрую прычыну, у якую не паверыў ніхто з гасцей, лейтэнант Мак-Клюні пакінуў рускіх дыпламатаў сам-насам з капітанам Адамсам.

— У мяне для вас ёсць навіна, панове. Прашу сядаць. Я загадаю прынесці каньяк і каву. І не падумайце, што я не джэнтльмен.

З чужаземцамі Пуцяцін бываў памяркоўны. Нездарма яго лічылі напаўангліччанінам. Вядома, пра роднасць душ не магло быць і гаворкі. Проста ён зайздросціў іх поспехам, багаццю, радыкальным поглядам на развіццё грамадства, але не болей.

— Добра, пан капітан, мы астанемся, але майце на ўвазе — у паблажлівасці я не маю патрэбы,— адказаў цвёрда Пуцяцін.

— Калі я дапусціў бястактнасць,— развёў рукамі Адамс,— дык віною гэтаму, ваша правасхадзіцельства, мая злосць на японцаў. Я думаю, мы знойдзем з вамі агульную мову.

Жаданай весткаю для рускіх маракоў было паведамленне Адамса пра перамогу петрапаўлаўскага гарнізона над англафранцузскай эскадраю. Абаронцы порта, каманда транспарта «Дзвіна» і экіпаж фрэгата «Аўрора» — усе разам налічвалі 879 салдат і матросаў, 40 афіцэраў і мелі ў сваім распараджэнні 67 гармат. І, як заўсёды, бязмернасць адвагі паралізуе праціўніка. Здаецца, усё прадугледзелі англійскі адмірал Давід Прайс і французскі адмірал Феўрые ле Пуант, але не маглі сабе ўявіць, што рускія адважацца абараняцца. Якая сіла магла ўстаяць супраць саюзнай эскадры! А ў яе ўваходзілі: тры фрэгаты — «Форт», «Пік» і «Прэзідэнт», два карветы — «Амфітрыта» і «Эўрыдыка», брыг «Аблігада» і параход «Вірага», узброены марцірамі. Усяго непрыяцельскія караблі мелі 236 гармат. Гэта добрая трэць ад колькасці тых, якія меў адмірал Гарацыа Нельсан у марской бітве каля мыса Трафальгар. Аднак якое трагічнае расчараванне: саюзнікі зрабілі дзве спробы высадзіць на бераг дэсант, але абодва разы былі адкінуты і пусціліся наўцёкі на свае караблі.

Горды сын Альбіёна адмірал Давід Прайс пасля гэтага пакончыў з сабою стрэлам з пісталета.

## II

— Іосіф Антонавіч, дарагі, вы забылі пра сваё абяцанне? — спытаў Аляксандр Мажайскі незадоўга да пачатку наступных перагавораў.

— Ну што вы, ні ў якім разе. Хочаце, пачнём з Накамуры? Праўда, чалавек ён цяжкай натуры, капрызны...

— А чынам менш нельга? Каго-небудзь бы з мясцовых рыбакоў?

— Пустая задума, друг мой. Трэба пачынаць з самога мікада.

— Навошта так жартаваць, Іосіф Антонавіч?

— Не падганяй. Паспрабую дамовіцца.

Гашкевіч перагаварыў са старым Цуцуі і Кавадзі, каб яны дазволілі афіцэру-мастаку зарысаваць для гісторыі момант перагавораў. Гэта трэба было зрабіць дзеля гонару і павагі да вышэйшых саноўнікаў: калі яны пагодзяцца пазіраваць, дык астатнія чыноўнікі і вяльможы, накшталт Накамуры, не пасмеюць не паслухацца. Паўнамоцныя згадзіліся не адразу. Пад канец перагавораў, калі стала відаць, што трактат вось-вось будзе падпісаны, яны самі падазвалі Гашкевіча і папрасілі пазнаёміць іх з Мажайскім.

Лейтэнант распачаў замалёўкі. Работа ў яго ішла спорна.

Горш было ў дыпламата Яўфімія Васілевіча Пуцяціна. Вось як адмірал выкладаў ход перагавораў графу Несельродэ:

«Бедства, што спасцігла Сімоду ў час першых нашых спатканняў, дало мне мажлівасць настойлівей патрабаваць перамены гэтага порта на іншы, больш зручны і не вельмі аддалены ад сталіцы. Паўнамоцныя спачатку пагадзіліся з маімі довадамі, але пасля, атрымаўшы, відаць, з Еда дадатковыя па гэтым прадмеце інструкцыі, сталі рашуча адмаўляць, прапануючы на першым часе абмежавацца толькі портамі Хакадатэ і Нагасакі. Бачачы перашкоды, што чыніў яцонскі ўрад у выбранні і адвядзенні для нас новага порта, я рашыўся задаволіцца ўжо адкрытымі для амерыканцаў, але разам з тым, аднак жа, прадставіў у вярхоўны савет пісьмовы выклад усіх нязручнасцей порта Сімода, паводле якіх ён павінен быць, і, відаць, у далейшым па агульным патрабаванні еўрапейскіх дзяржаў будзе пераменены. У гэтай самай запісцы я выказаў сваю думку, што цяпер было б зручней для японскага ўрада дапусціць такую перамену, бо ўжо распачатыя будаўніцтвам будынкі для губернатараў і іншых чыноўнікаў, прызначаных для зносін з іншаземцамі, знішчаны землетрасеннем.

Зрабіўшы гэту ўступку японцам, я пачаў цвёрда настойваць на неадкладным адвядзенні вышэй памянёных портаў і на вызначэнні ўмоў аб устанаўленні консулаў і правілаў адносна выканання мены тавараў і забеспячэння суднаў увогуле.

У падмацаванне маіх дамаганняў аб дапушчэнні нашых суднаў я, між іншым, выкарыстаў выказанае японскімі паўнамоцнымі жаданне, каб мяжа наша на поўначы асталася няпэўнаю. Прадстаўляючы нам сродак дамагацца большых уступак у адносінах умоў аб консулах, гэта акалічнасць была для нас выгадная і таму, што я не меў падрабязных звестак аб мясцовасці паўднёвай часткі Сахаліна і, вызначаючы тады памежную рысу, мог бы зрабіць якую-небудзь вольную памылку».

Тут мы вымушаны перарваць данясенне Пуцяціна і патлумачыць, чаму японскія паўнамоцныя аказаліся капрызнымі, дробязнымі і непаслядоўнымі ў перагаворах. Рускім дыпламатам у той час яшчэ не былі вядомыя многія закулісныя манеўры і таямніцы сёгуната Такугава. Праз паўстагоддзя барон Іашытане Санамія, галоўны цырымоніймайстар імператарскага двара, праліў святло на палітыку японскіх правіцеляў.

«Ва ўрадзе сёгуна, а таксама і ў астатнім палітычным свеце змагаліся дзве думкі адносна таго, як вырашыць гэта пытанне: адна на карысць закрыцця портаў ад дамаганняў іншаземцаў, што называлася «Сака», другая на карысць адкрыцця краіны для міжнародных зносін, што называлася «Кайкоку». Першая сцвярджала, што

нацыянальную небяспеку трэба адбіваць па прыкладу Іэясу[1], які замкнуў усе порты Японіі, каб перашкодзіць тайнаму пранікненню і шкодным спробам іспанскіх і партугальскіх місіянераў; другая думка гаварыла, што недатыкальнасць Японіі можа быць лепш забяспечана адкрыццём краіны для доступу іншаземцаў і што ізаляцыя яе ад усіх міжнародных зносін перашкаджае развіццю цывілізацыі і таму пярэчыць нацыянальным інтарэсам і поспехам краіны. Абедзве партыі, вядома, імкнуліся да адной мэты, але адна прапанавала адмоўныя, другая станоўчыя сродкі.

Імператар-нябожчык Камеі (1847—1867) і большасць прыдворных схіляліся да першай думкі, і, сапраўды, у краіне пераважыла перакананне ў неабходнасці закрыць порты».

«Японскі ўрад,— пісаў далей адмірал Пуцяцін,— відавочна, надаваў вялікую важнасць прызначэнню консулаў, і таму паўнамоцныя стараліся ўсімі сродкамі пераканаць нас у празмернасці гэтай меры і сваёй упартасцю вымусілі мяне некалькі разоў тлумачыць, што без консулаў трактат не можа быць заключаны.

Адносна размену тавараў на вырабы іншаземцаў або на грошы японскія паўнамоцныя рабілі не столькі пярэчанняў наконт сутнасці самой справы, як наконт выразаў, у якіх гэты дазвол мены павінен быць выказаны ў трактаце.

Пасля папярэдняга абмеркавання трох галоўных артыкулаў трактата, г. зн. аб адкрыцці портаў, аб увядзенні ў іх консулаў і аб размене тавараў з абодвух бакоў, быў складзены праект трактата, які і разглядаўся пры спатканнях па пунктах.

...Не маючы належнага паняцця пра тое, як павінны адбывацца зносіны ўвогуле, паўнамоцныя ў кожным выразе, у кожным слове імкнуліся знайсці які-небудзь схаваны сэнс і ператлумачвалі яго і так і сяк. Каб настойлівасцю ў дробязях не пашкодзіць нашым больш істотным дамаганням, я павінен быў уступаць многае ў выразах і таму заключаны намі трактат можа ў некаторых мясцінах здацца цьмяным і незразумелым».

...26 студзеня 1855 года. Дзень як дзень. Нічога асаблівага. А ў душы кожнага рускага свята. Дыпламатычная місія выканала свой доўг перад Расіяй.

---

[1]Іэясу — роданачальнік сёгуната Такугава, праіснаваўшага больш за два з паловаю стагоддзі (1603—1867). Японцы ўшаноўваюць культ Іэясу за тое, што ён спыніў ваенную смуту, якая доўга царавала ў імперыі, і падпарадкаваў сабе дайміёсаў (феадальных князёў). У сваёй знешняй палітыцы Іэясу прытрымліваўся поўнай ізаляцыі ад еўрапейскіх нацый і быў ярасным ворагам «імпарту» ў Японію хрысціянскай рэлігіі.

У поўдзень закончыліся перагаворы. Трактат падпісаны. І можна павіншаваць адзін аднаго з поспехам. Адмірал з гэтай нагоды наладзіў для паўнамоцных Цуцуі, Кавадзі, Макумоты, Качы, Накамуры і ўсіх баніёсаў парадны прыём.

Рускіх дыпламатаў можна было павіншаваць. Японскі гісторык Такутомі пісаў: «І метады дзеянняў, і адносіны да японцаў з боку камадора Перы і рускага пасла Пуцяціна былі абсалютна адрозныя. Рускі пасол, шануючы старыя законы Японіі, спрабаваў словамі пераканаць японцаў. Камадор Перы з самага пачатку імкнуўся пагрозамі і дэманстрацыямі напалохаць японцаў і быў гатовы выкарыстаць... узброеную сілу».

Перамога!

А якіх высілкаў Расіі запатрабавалася для яе! Не год, не два, а дзясяткі гадоў імкнуўся паўночны сусед Японіі да сяброўскіх сувязей.

## III

Ранкам маракі «Дыяны» ўрачыста ўздымалі рускі ваенна-марскі флаг, а вечарам спускалі яго. Каравульная служба, заняткі праходзілі ў час, устаноўлены марскім статутам. А статут — няўхільны закон для кожнага марака.

Сіла прывычкі, як вядома, вялікая, тым больш у людзей дысцыплінаваных, ім не трэба было ўцягвацца ў так знаёмы карабельны распарадак. Пачуўшы сігнал боцманскай дудкі, матросы па звонкай трэлі пазнавалі, што ад іх трэба, стрымгалоў выбягалі з храма на вуліцу, як нядаўна з кубрыкаў на палубу.

З газет «Нью-Ёрк трыбюн», «Таймс», «Чайн Мел» рускія маракі даведаліся, што ўрады заходніх дзяржаў абураны паражэннем пад Петрапаўлаўскам моцнай і выдатна ўзброенай паяднанай эскадры і патрабуюць самых энергічных мер для знішчэння гэтай крэпасці і рускіх караблёў на Ціхім акіяне.

Сярод афіцэраў «Дыяны» хадзілі плёткі — рэваншу не мінуць. Англічане не змірацца з паражэннем. Паводле слоў амерыканскага капітана Адамса, англа-французская эскадра залечвае раны на Гавайскіх астравах і вясною напэўна зробіць новую спробу блакіраваць Петрапаўлаўск. «І чым чорт не жартуе,— падумаў Лясоўскі,— могуць заглянуць і ў Сімоду. Шкіпер французскага кітабоя абавязкова паведаміць сваім суайчыннікам, што ў Японіі знаходзіцца каманда рускіх маракоў, а тыя паведамяць англічанам. Трэба спяшацца з пабудоваю шхуны — і як найхутчэй да родных берагоў».

Трывога капітана «Дыяны» не была дарэмнай. Неўзабаве на Сімодскім рэйдзе з'явіўся французскі параход «Кальбер». Непрыяцель яўна шукаў рускіх. На шчасце, у бухце ў той час не стаяла ніводнага замежнага судна, на якім можна было б атрымаць патрэбную інфармацыю, а японцы, маючы да рускіх маракоў прыязныя пачуцці, умелі трымаць язык за зубамі.

Аднойчы хтосьці з афіцэраў перабіраў каюткампанейскую бібліятэку і напароўся на часопіс «Морской сборник» за студзень 1849 года. У ім быў надрукаваны артыкул пра невялікі паруснік «Дослед» — яхту галоўнага камандзіра Кранштацкага порта і пададзена схема судна. Мічман Калакольцаў успамінаў: «Па гэтых дадзеных адразу прыступілі да складання чарцяжа, на чыстым паветры, выкарыстаўшы замест стала бочку. Такая чарцёжная хоць была не вельмі зручнай, але лепшай у нашым становішчы нельга было наладзіць». У праектаванні і падрыхтоўцы рабочых чарцяжоў будучай шхуны актыўны ўдзел прымаў лейтэнант Аляксандр Мажайскі. Вось калі спатрэбіліся веды і навуковыя доследы карабельнага «алхіміка», апантанага вынаходніцтвам.

Маракі пабудавалі кузню, слясарную майстэрню і крыты элінг. Японскія паўнамоцныя аднесліся да гэтага станоўча. Цуцуі і Кавадзі можна было зразумець: краіна, што знаходзілася ў самаізаляцыі, зусім не мела вопыту ў пабудове ваенных праснікаў. Як пісаў пра гэта пазней адзін з удзельнікаў будаўніцтва шхуны, японцы «вельмі добра ацанілі гэты шчаслівы выпадак, што даў мажлівасць на вопыце вывучыць наша караблебудаванне, чаго яны доўга не дасягнулі б сваімі сіламі».

2 лютага адбылася ўрачыстая цырымонія закладкі шхуны, на якой прысутнічала многа японскіх майстравых людзей і сакратар паўнамоцных Накамура. Было вырашана назваць судна па імені бухты «Хэда».

Святар Васіль Махаў акрапіў святою вадою стапель і матросаў, вылучаных для будаўніцтва парусніка. Зайграў аркестр. Маракі закрычалі «ўра». І шматгалосы хор на чатырыста чалавек зацягнуў «Коль славен наш Господь...». Пуцяцін ціха падпяваў матросам і дробна-дробна хрысціўся. Адказнасць за ўсе работы была ўскладзена на лейтэнанта Мажайскага і мічмана Калакольцава.

Будаўніцтва шхуны «Хэда» ішло хутка. Маракі працаваць умеюць. Хоць давялося сутыкнуцца і з вялікімі цяжкасцямі. Японцы выдатна рабілі джонкі і ахвотна памагалі б ім, але ж Лясоўскі са сваімі таварышамі задумаў пабудаваць судна, якое мясцовыя яшчэ не маглі асіліць. Рускія хацелі абавязкова шхуну з абшыўкаю ўнакрой.

Японцы з тыдзень прыглядваліся, а пасля вырашылі прысланы сваіх майстравых людзей.

«Увесь час будаўніцтва шхуны, — успамінаў Аляксандр Калакольцаў,— знаходзіліся пры ёй два чыноўнікі, якія сачылі за ўсімі работамі, запісвалі, што рабілася кожны дзень з дадаткам рысункаў і абазначаючы рускія назвы кожнай рэчы. Тое самае рабілі і майстравыя: у кожнага была кніжка, у якую ён зрысоўваў усё, што рабіў».

У час будаўніцтва шхуны японцы ўпершыню даведаліся, як выганяць смалу, спускаць тросы, шыць парусы. Асобую ўвагу прыцягнуў сканструяваны і зроблены рукамі матросаў найпрасцейшы такарны станок для выточвання шківаў і іншых дэталяў. Японцы паспрабавалі зрабіць копію станка, каб пасланы у Эда, але «дыянаўцы» адгаварылі, паабяцаўшы аддаць ім свой станок. Не везці ж, сапраўды, у Расію. Самім як бы выбрацца...

Агульная праца зблізіла людзей. Рускія афіцэры і японскія чыноўнікі сталі бываць адзін у аднаго без цырымоніі. У Гашкевіча наладжваліся добрыя адносіны з Кавадзі. Гэта не падабалася ўпартаму Накамуру, выводзіла яго з сябе. Іосіф Антонавіч меў зносіны і з другім японцам — доктарам паўнамоцных Міцукуры Гэмпа, партрэт якога намаляваў Мажайскі, але падарыць не мог — адзін экзэмпляр. Акварэльныя малюнкі і партрэты японцаў — гэта як дадатак да справаздачы Пуцяціна.

У саставе каманды «Дыяны» былі два юнкеры — Міхаіл Лазараў і Аляксей Карнілаў. Лазарава адмірал перавёў з «Паллады», а Карнілаў лічыўся старажылам фрэгата. Юнакі пабачылі шмат краін, замежных портаў, вынеслі багатыя ўражанні, выпрабавалі сябе ў марскіх штормах. Многія іх равеснікі задыхнуліся б ад шчасця, каб ім удалося пабываць у такім плаванні. Аляксей Карнілаў захапляўся рознымі заняткамі, але нічога не даводзіў да канца. З дапамогаю Іосіфа Антонавіча Гашкевіча пачаў складаць японскі лексікон — кінуў. Пачаў весці дзённік — не скончыў. Бадай што найболей яго дзіцячае ўяўленне ўражвала экзотыка чужой краіны. На адной са старонак дзённіка можна знайсці такі запіс:

«Сакавік. 3-га чысла. Чацвер.

...Сёння вечарам быў бонза ў п. Гашкевіча, які расказваў яму, як таму назад 25 гадоў пры ім рабілі катаванні над хрысціянамі, якія былі злоўлены ў наваколлях Эда... Ставілі каленьмі на вострыя калы і клалі на іх камяні, і акрамя гэтага, у іх яшчэ кідалі камяні. Пасля такога катавання пасадзілі на вострую жалезную дошку, якую рухалі, і такім чынам людзей распілавалі. Траіх распіналі на крыжы і праколвалі коп'ямі... Ужывалі розныя іншыя пакуты...

...Бонза кожны вечар ходзіць да п. Гашкевіча, каб вучыць яго японскай мове. І ў той самы час ён вучыцца рускай мове».

Юнкер Карнілаў запісваў у дзённіку падзеі кожнага дня, пачынаючы з 1 студзеня 1855 года. Ён стараўся выказаць свае пачуцці, настрой, кола яго зацікаўленняў зводзілася да штодзённых клопатаў. З запісаў відаць, што падлетак быў не ў ладах з правапісам. Ды сутнасць не ў гэтым. Далейшая размова будзе ісці вакол асобы бонзы, які «кожны вечар ходзіць да п. Гашкевіча, каб вучыць яго японскай мове». Пра яго ўспамінаў у сваіх запісах і Мікалай Густававіч Шылінг:

«Тут адбыўся даволі забаўны выпадак з адным японскім бонзам, які пажадаў адправіцца з намі ў Расію. Для вывучэння японскай мовы Гашкевіч завёў знаёмства з гэтым чалавекам, які наведваў нас толькі ноччу; паводле старога закону кожны японец падвяргаўся кары смерцю за зносіны з іншаземцамі.

Аднойчы ноччу пасля працяглай адсутнасці бонза зноў з'явіўся да Гашкевіча і папрасіў схаваць яго як можна хутчэй, таму што ён арыштаваны за кантакты з намі і збег з-пад каравула. Нядоўга думаючы, бонзу прыбралі ў матроскую кашулю і зрабілі яму парык з саламянай пянькі, старанна схаваўшы яго ад позіркаў суайчыннікаў...»

З успамінаў М. Г. Шылінга вынікае, што ён і юнкер Алёша Карнілаў сведчаць пра бонзу Масду Кумедзаймона.

Вось яшчэ некалькі вытрымак з дзённіка юнкера Карнілава[1]:

«4-га чысла. Пятніца.

...У 12 гадзін вечара прыйшоў з Сімоды князь Урусаў, які прывёз радасныя звесткі, што прыйшла шхуна[2] ў Сімоду з амерыканскім консулам[3] і якая прывезла звесткі, што Севастопаль вызвалены ад англічан і французаў. І што сюды прыйдуць англійскія і французскія судны, каб заключыць кантракт з японцамі, а пасля ісці зноў на Камчатку. Гэта шхуна ідзе з консулам у Хакадатэ, і прапануюць нам, што яна возьме з радасцю двух нашых афіцэраў і адвязе іх у Камчатку, і таксама, калі мы хочам, яна нам здасць сваю правізію і прыпасы. Адмірал і капітан вырашылі ісці заўтра ў Сімоду.

5-га чысла. Субота.

Сёння ўвесь дзень... праліўны дождж са свежымі парывамі ад S. Таму што як дождж, дык капітан і адмірал адлажылі ісці заўтра.

---

[1]Цытуюцца запісы за сакавік 1855 года.

[2]Шхуна «Carolina Foot», амерыканскае купецкае судна.

[3]Першым амерыканскім консулам у Японіі быў Таўнсенд Гарыс.

Пасля абеду я даведаўся: п. Лосеў і п. Гашкевіч едуць у Камчатку на гэтай шхуне... Капітан хацеў мяне адправіць на гэтай шхуне, але пасля раздумаў.

9-е чысло. Серада.

Сёння дзень быў хмурны і дзьмуў лёгкі ветрык. Амаль увесь дзень займаўся. Час правёў даволі весела. Сёння раўнадзенства і Свята 20 святых, таму сёння была ўсяночная. Сёння быў вялікі абед у кают-кампаніі. Абедаў губернатар[1] і некалькі чыноўнікаў і мы таксама абодва[2]. Амаль усе японцы напіліся п'яныя і нават двое да таго, што ім зрабілася дрэнна і іх палажылі ў каюты і вечарам адправілі дадому. Паказвалі ім стрэльбы і стралялі з іх у курэй, з якіх дзвюх забілі. (...Да сораму нашага ў нас некаторыя афіцэры напіліся п'яныя горш за ўсякага простага чалавека (неразборліва.— *В. Г.*) лейтэнант Энквіст.) Хутка чыноўнікі японскія ўсе пайшлі. К вечару пагода разгулялася. Японцы казалі, што Ніпон і Русу разам і Англікана, Француза і Турка не разам. Пілі за здароўе японцаў, іх імператара (мікада) і таксама за рускіх і нашага імператара. Відаць, што японцы вельмі весяліліся ў нас».

Адмірал Пуцяцін не меў вялікага задавальнення ад сустрэч з японскімі чыноўнікамі. Кожны раз, калі яны прыязджалі ў сяло Мія-Сіма або ў Сімоду, распачыналі з ім размову то па адных, то па другіх артыкулах трактата. Японцам заўсёды здавалася, што яны зрабілі нейкую непапраўную памылку і калі цяпер, пакуль рускія знаходзяцца ў Японіі, яе не выправіць, дык на іх абваліцца неба. Даходзіла нават да кур'ёзаў. Амерыканскае консульства, што прыбыло на шхуне «Караліна Фут», аказалася даволі-такі шматлікім. У кожнага супрацоўніка сям'я — жонка, дзеці, слугі. І ў гэтым нічога дзіўнага. Дыпламаты прыехалі працаваць не на дзень і не на два, а на некалькі гадоў. Японскі ж урад убачыў у гэтым факце падрыў асноў дзяржаўнага ладу Краіны ўзыходзячага сонца. Не, прымаць гэта за жарт было нельга. Японцы жылі паводле старых законаў культу сваіх продкаў. На іх погляд, еўрапейская жанчына — такая самая чума, як і хрысціянская вера. Таму да Пуцяціна неўзабаве пасля падпісання трактата прыехалі паўнамоцныя Кавадзі і ўжо ўпамянуты Мізна Чыкагано.

Вось што пісаў пра візіт высокіх саноўнікаў сам адмірал:

«Мэта прыбыцця гэтых паўнамоцных была дваякая: па-першае, яны патрабавалі нашага пасрэдніцтва ў выдаленні амерыканскіх жанчын і абяцання не карыстацца гэтым выпадкам як прыкладам

---

[1] Гаворка ідзе пра Мізна Чыкагано — нагасакскага губернатара.

[2] Маецца на ўвазе сам аўтар дзённіка і яго таварыш, юнкер Міхаіл Лазараў.

на будучае, а па-другое, патрабавалі ад мяне абяцання, што наш урад не будзе пашыраць у Японіі хрысціянскай рэлігіі.

Па першым пытанні я павінен быў зрабіць некаторыя ўмовы, г. зн. што мы не будзем прыводзіць гэтага выпадку, які быццам бы ўжо забяспечвае за намі права жыхарства на беразе, бо амерыканскія сем'і з'ехалі на бераг для таго толькі, каб даць сродкі пацярпеўшым крушэнне вярнуцца на радзіму. Прынамсі я і пры гэтым выпадку пацвердзіў японскім паўнамоцным, што як толькі якая-небудзь нацыя будзе дапушчана да свабоднага жыхарства на беразе, дык гэта права адразу ж і без ніякіх папярэдніх перагавораў распаўсюджваецца і на рускіх падданых.

Адносна прапаведавання хрысціянскай рэлігіі я абвясціў паўнамоцным, што пасля заключэння трактата ўжо не лічу сябе правамоцным уваходзіць у якія-небудзь яшчэ новыя абавязацельствы».

Амерыканскі консул Таўнсенд Гарыс падзякаваў Пуцяціну за яго цвёрдую пазіцыю і падтрымку. Адразу ж была дасягнута дамоўленасць, што шхуна «Караліна Фут» даставіць частку рускай каманды ў Расію. Шкіпера судна ўразіла дзёрзкасць маракоў «Дыяны», якія смела ўзяліся за будоўлю шхуны на голым месцы, разлічваючы толькі на кемлівасць і на свае рукі. 14 сакавіка амерыканец загадаў узняць парусы і накіраваўся ў бухту Хэда, яму вельмі хацелася паглядзець вопытным вокам на дзецішча рускіх маракоў.

— Гэта будзе выдатны хадок,— сказаў капітан «Караліны Фут»,— і я жадаў бы з ім сустрэцца ў моры.

30 сакавіка амерыканская шхуна ўзяла курс на Петрапаўлаўск, адвозячы на сваім борце 8 афіцэраў, у тым ліку лейтэнанта Мажайскага, і 150 чалавек каманды. Камандзірам Пуцяцін прызначыў Лясоўскага, капітана «Дыяны».

Прагноз юнкера Аляксея Карнілава не збыўся: Іосіф Антонавіч Гашкевіч не паехаў на Камчатку. Яму яшчэ трэба было выканаць шэраг даручэнняў начальніка экспедыцыі, напісаць падрабязную справаздачу ў Азіяцкі дэпартамент пра дзеянні генерал-ад'ютанта віцэ-адмірала Пуцяціна ў Японіі, грунтоўна заняцца японскай моваю — пакуль ёсць мажлівасць,— узбагаціць свае веды размоўнай практыкаю. Нарадзілася ў Іосіфа Антонавіча і мара — скласці слоўнік. Калі б яму болей вольнага часу! Тады ён зрабіў бы добрую паслугу калегам, якім выпадала ў будучым прадстаўляць Расію ў Японіі.

Праз пяць дзён у бухту Сімода прыйшло яшчэ адно амерыканскае судна «Янг Амерыка»[1]. Яўфімій Васілевіч Пуцяцін адразу ж

---

[1]Кліпер з эскадры камадора Перы.

паехаў на кліпер дамовіцца аб тым, каб амерыканцы ўзялі на борт частку каманды «Дыяны». Гэту місію ён кожны раз браў на сябе, як чалавек больш вопытны ў жыццёвых і камерцыйных справах, ды і чын віцэ-адмірала надаваў перагаворам саліднуюю вагу, аўтарытэт. Амерыканец доўга таргаваўся, спасылаўся на дагляд англа-французскімі караблямі, што пачасціўся ў моры, у рэшце рэшт збаяўся, і пагадненне не адбылося. Кліпер зняўся з якара і пайшоў у мора.

9 красавіка «Янг Амерыка» вярнулася зноў у Сімоду. Здавалася б, усё паварочвалася да лепшага: капітан Бабкок перадумаў, згадзіўся ўзяць рускіх маракоў за 3500 фунтаў стэрлінгаў. Да вечара 11 красавіка лейтэнант Мусін-Пушкін і частка матросаў перабраліся на судна, але амерыканскія маракі вельмі непрыязна сустрэлі сваіх марскіх сабратаў. Экіпаж кліпера ўзбунтаваўся і запатрабаваў ад шкіпера адправіць пасажыраў на бераг. У такой трагічнай сітуацыі капітан Бабкок аказаўся слабавольным, махнуў рукой на сваю годнасць, на гонар афіцэра. Рускім маракам давялося разгружацца і пешшу вяртацца ў сяло Мія-Сіма. Усю дарогу яны праклінаалі амерыканцаў за хамства і подласць, несумяшчальныя з міжнародным марскім кодэксам, абкладвалі салёнымі флоцкімі слоўцамі.

Чакаць новай аказіі не было сэнсу. Цяпер шхуна «Хэда» стала адзінай надзеяй і ратункам.

І вось настаў дзень, якога з такім нецярпеннем чакалі маракі з загінуўшай «Дыяны». Звернемся да запісаў удзельніка і відавочца гэтага гістарычнага дня — мічмана Аляксандра Калакольцава:

«14 красавіка была спушчана шхуна, і дзень гэты напэўна застанецца назаўсёды ў памяці рускіх, што былі тады ў Японіі...

Лёгка адгадаць пачуццё, з якім мы рабілі ўсе прыгатаванні да спуску шхуны. Японцы бачылі гэта першы раз і чакалі нейкага цуду; калі б, на наша няшчасце, шхуна не сышла са стапеля, мы страцілі б у іх вачах усякі да сябе давер як да караблебудаўнікоў. Пасля заканчэння ўсіх прыгатаванняў чакалі поўнай вады, што павінна была настаць каля 10 гадзін раніцы, а таксама аднаго з японскіх чыноўнікаў, менавіта сакратара ўпаўнаважаных Накамуру, без якога не хацелі спускаць шхуну. Як толькі апошні выйшаў на бераг, пачулася першая каманда. Пачалі выбіваць падпоры, і японцы, падпарадкоўваючыся пачуццю страху і недаверу, адсунуліся яшчэ далей ад шхуны. Пасля гэтага адсеклі найтовы, зрушылі вагі, і шхуна, спачатку ціха, пасля хутчэй і хутчэй, пры дружным «ура» каманды, слізгала па стапелі і вольна загойдалася на вадзе.

Два рускія флагі, нацыянальны і пасланніцкі, развяваліся на флагштоках першага пабудаванага на японскім беразе судна».

Праз некалькі дзён шхуну «Хэда» ўжо абжывала каманда.

21 красавіка на новым судне ўзнялі ваенна-марскі Андрэеўскі флаг. Адслужылі малебен. На гэтай урачыстай цырымоніі прысутнічалі і японскія карабелы. У гадзіну дня «Хэда» знялася з якара і пакінула бухту. Рускія маракі хацелі ўбачыць самі і паказаць гаспадарам хадавыя якасці шхуны. Выпрабаванне прайшло паспяхова. Усе былі задаволены. Пара ў дарогу, у Расію.

«Пакідаючы Японію,— пісаў Пуцяцін у сваёй справаздачы вялікаму князю Канстанціну Мікалаевічу,— я палічыў абавязкам дзякаваць ураду гэтай дзяржавы за ўсе аказаныя нам намаганні і разам з тым паведаміў яму, што частка каманды, якая застаецца, паступае пад начальства лейтэнанта Мусіна Пушкіна.

26 красавіка пры лёгкім ветры шхуна «Хэда», на якую я ўзяў акрамя капітана 2-га рангу Пасьета, падпалкоўніка Лосева і мічмана Пешчурава, што знаходзяцца пры мне, яшчэ лейтэнанта Калакольцава, прапаршчыка корпуса флоцкіх штурманаў Сямёнава, двух юнкераў і 40 чалавек ніжніх чыноў, уступіла пад парусы».

Калі падышлі да берагоў Камчаткі, свежы вецер, які суправаджаў шхуну амаль на ўсім пераходзе ад Японскіх астравоў, нечакана сціх і плаванне давялося прадаўжаць на вёслах.

«Рухаючыся пад гэтымі вёсламі,— успамінаў Аляксандр Калакольцаў,— мы ў 9 1/2 гадз. раніцы раптам убачылі на паўднёвым усходзе на адлегласці не больш за 8 міль два трохмачтавыя судны, якія ішлі проста на нас; па корпусу і рангоўту мы пераканаліся, што судны гэтыя былі ваенныя, непрыяцельскія...»

Становішча, прама скажам, крытычнае. Малалікая каманда «Хэды» ўжо гатова была абараняцца, каб не трапіць у палон. Аднак судны праціўніка павярнулі на норд. Ці то на англа-французскіх караблях не заўважылі шхуну, ці не палічылі патрэбным гнацца за такім маленькім судначкам. Цяжка сказаць.

Неўзабаве «Хэда» ўвайшла ў Авачынскую бухту і стала на якар на рэйдзе.

Цяпер звернемся да ўспамінаў Пуцяціна: «У Петрапаўлаўску я заспеў толькі адно кіталоўнае судна Расійска-амерыканскай кампаніі «Аян» і ад'ютанта генерал-губернатара Усходняй Сібіры есаула Мартынава, які паведаміў мне найвышэйшы загад пакінуць порт і ўсімі суднамі следаваць у Дэ-Кастры, куды таксама адправіўся капітан-лейтэнант Лясоўскі з першай партыяй каманды на амерыканскім брыгу «Віліям Пэн», што прыходзіў у Петрапаўлаўск з грузам».

Толькі «Хэда» выйшла з Авачы, як зноў паказаліся на гарызонце судны праціўніка. На гэты раз ужо было не два, а тры ваенныя

паруснікі, але найшоўшая нечакана паласа туману схавала «Хэду» ад праціўніка і дала шхуне мажлівасць пад прыкрыццём берага скрыцца.

Вытрымаўшы каля Курыльскіх астравоў 12-гадзінны жорсткі шторм, «Хэда» 5 чэрвеня падышла да праліва Лаперуза. Ззаду, як усе лічылі, засталася самая цяжкая частка плавання. Але небяспека падпільноўвае звычайна там, дзе яе найменш чакаеш. Увайшоўшы ў Татарскі праліў, шхуна ноччу цудам пазбегла сутыкнення з англійскім фрэгатам, які кінуўся за ёю ў пагоню. Думаецца, непрыяцель пагнаўся за «Хэдаю» не як за ваенным прызам. Узяць у палон такое судначка — не вельмі каб вялікая заслуга. Шхуна была патрэбна англічанам найхутчэй для атрымання разведвальных звестак аб месцы знаходжання караблёў рускай эскадры. Эх, ведаў бы капітан фрэгата, што на гэтай маленькай шхуне знаходзіцца начальнік рускай дыпламатычнай экспедыцыі ў чыне генерал-ад'ютанта!

Каля мыса Лазарава «Хэду» сустрэлі фрэгат «Аўрора», карвет «Алівуца», транспарт «Дзвіна» і тэндар «Камчадал», а 17 чэрвеня 1855 года шхуна прыбыла ў Нікалаеўск-на-Амуры. Нялёгкае саракадзённае плаванне ў Ціхім акіяне, Ахоцкім і Японскім морах скончылася шчасліва: частка каманды неўзабаве выехала праз Сібір у Пецярбург, а другая частка з капітан-лейтэнантам Лясоўскім засталася да канца вайны.

«Шхуна «Хэда»,— пісаў у справаздачы Пуцяцін,— была здадзена ў Нікалаеўскі порт з тым, каб, паводле зробленай мною з японскім урадам умовы, пры першай магчымасці яна была дастаўлена ў Хакадатэ або Сімоду; у іншым жа выпадку трэба будзе заплаціць японскаму ўраду яе кошт».

Такія імгненні ў гісторыі заўсёды дзівосныя. Вялікі ўчынак адной нацыі здзейсніўся для другой нацыі. У сілу нейкай празорлівасці Японія раптам спасцігла, што караблебудаўніцтва і мараплаўства адкрыюць ёй новыя краіны, новыя моры, новыя светы і яна выйдзе з адвечнага мораку і адзіноцтва. Таму можна зразумець палітычнага дзеяча Японіі барона Івазакі, які падкрэсліваў праз паўстагоддзя, што першы штуршок, які садзейнічаў развіццю караблебудаўнічага мастацтва яго краіны, далі рускія маракі:

«У першы год Ансеі (1854) марскія хвалі разбілі трум рускага ваеннага судна «Дыяна», якое затанула ў гавані Сімода ў правінцыі Іцу. Паколькі ў распараджэнні рускага ўрада не было адпаведнага судна для перавозкі на радзіму экіпажа, лікам больш за 500 чалавек[1], дык вырашана было пабудаваць дзве шхуны, прычым запатра-

[1] Барон Івазакі памыліўся: каманда «Дыяны» складалася з 399 чалавек.

бавалася дапамога японскіх рамеснікаў. Наступнай вясною, калі шхуны былі гатовы, яны пайшлі ва Уладзівасток[1].

Японскім цеслярам і слесарам, што памагалі рускім работам, пры гэтым надарыўся зручны выпадак вывучыць еўрапейскую сістэму караблебудавання. Гэта паслужыла ім на карысць. бо пасля толькі дзякуючы ім урад (Такугавы) меў магчымасць пабудаваць цэлы шэраг шхун такога ўзору, якія будавалі рускія».

## ПАЛОН

### I

Пасля адплыцця «Хэды» рускім, што засталіся ў Сімодзе, не шанцавала. Праз дзень-два каля ўваходу ў Сімодскую бухту паказаліся невядомыя караблі. Але, на шчасце, ніводнае судна не наблізілася да берага. А то непрыяцель мог бы заўважыць над храмам, дзе жылі маракі, расійскі ваенна-марскі флаг.

Расія яшчэ знаходзілася ў стане вайны з кааліцыяй чатырох дзяржаў: Турцыяй, Англіяй, Францыяй і Сардзініяй. У любы момант маракі з «Дыяны» маглі быць захоплены ў палон.

Японскія чыноўнікі запатрабавалі выдаць ім бонзу. Іосіф Антонавіч усяляк спрабаваў даказаць сакратару паўнамоцных Накамуру, што іх суайчынніка ў рускіх няма. У чыноўніка з'явілася лёгкая ўсмешка. Ён пагразіў пальцам Гашкевічу і сказаў: «Гашкевіч-сан, мы ведаем адзін аднаго ўжо два гады і можам быць шчырымі. Бонза парушыў закон бусідо. Ён павінен выканаць абрад сепуку (харакіры). У вучэнні бусідо сказана: «Я зрабіў благі ўчынак, мне сорамна перад сваім сумленнем, і я караю сябе сваімі рукамі, асуджаючы сябе»».

Гашкевіч не хацеў сварыцца з Накамурам. Лёс бонзы мог стаць завязкаю канфлікту. Гэта ўжо небяспечна. Трэба было выкручвацца.

— Накамура-сан, я нічога не магу дадаць да таго, што сказаў.

Накамура, вядома, не паверыў ні дыпламату, ні яго рускім сябрам, панам афіцэрам. Вярнуўшыся ў сваю часовую рэзідэнцыю — будыйскі храм, аддаў загад дазоршчыкам патаемна сачыць за казармамі рускіх маракоў.

18 мая 1855 года ў бухту Сімода прыйшла амерыканская шхуна «Караліна Фут», з капітанам якой быў раней заключаны кантракт аб перавозцы маракоў у Расію. Адмірал Пуцяцін разлічваў, што

[1] Тут таксама памылка: Уладзівасток на той момант яшчэ не існаваў — ён быў закладзены маракамі ваеннага транспарту «Маньчжур» у 1860 годзе. Шхуна «Хэда» прыйшла 17 чэрвеня 1855 года ў Нікалаеўск-на-Амуры.

следам за «Хэдаю» ў заліў Дэ-Кастры, прызначаны як месца збору ўсяго экіпажа «Дыяны», прыбудзе і трэцяя група маракоў пад камандаю Мусіна-Пушкіна.

Ноччу на 22 мая шкіпер шхуны пабудзіў каманду, аддаў загад падняць парусы, і «Караліна Фут» ганебна збегла ў мора, везучы ў капітанскім сейфе задатак у тысячу фунтаў стэрлінгаў.

Прайшло паўтара месяца. У гэты час японцы заклалі тры шхуны тыпу «Хэды», ад паслуг рускіх маракоў адмовіліся, вырашылі здзейсніць будову суднаў сіламі сваіх рамеснікаў. Работы на стапелях ішлі не вельмі, з вялікімі намаганнямі. Японцам патрэбны былі добрыя парады, вопытная рука майстроў-карабелаў. Накамура доўга хадзіў хмурны, ні з кім з рускіх не жадаў мець зносін, нарэшце не вытрымаў, прыйшоў да Гашкевіча.

— Хочаш уведаць дарогу, спытай тых, хто па ёй хадзіў,— сказаў чыноўнік. У вашых матросаў — залатыя рукі, памажыце Гашкевічсан.

Іосіф Антонавіч павёў яго да лейтэнанта Мусіна-Пушкіна, выконваючага абавязкі камандзіра пакінутай групы маракоў. Сакратар паўнамоцных рассыпаўся ў ласкавасцях, хваліў рускіх за спагадлівасць, абяцаў багатыя падарункі ад самога сёгуна.

У той жа дзень больш за сотню матросаў і унтэр-афіцэраў выйшлі на работу. Аднак пабудоваю японскіх шхун маракам давялося займацца нядоўга. 23 чэрвеня ў бухце Сімода кінула якар брэменская шхуна «Грэта». Лейтэнант Мусін-Пушкін адразу ж нанёс візіт капітану Таўлаву. Вярнуўся афіцэр у Хэда пад вечар у добрым настроі і незвычайна гаваркі.

— Панове, крычыце «ўра»! У першыя дні ліпеня мы пакідаем Японію. Праўда, шкіпер «Грэты» аказаўся прайдзісвет. Але Бог з ім. Няхай усё жыццё яго грызе сумленне!..

— А што здарылася? — зашумелі афіцэры.

— Заламаў, нягоднік, такую суму, што яго гнілая пасудзіна разам з бруднымі парусамі не варта гэтых грошай.

— Колькі ж?

— Дзве тысячы фунтаў.

— Ну і ну, сапраўды нягоднік! Карыстаецца нашым бядотным становішчам, сукін сын!

Вячэра была вясёлая. Усе надзвычайна ажыўленыя. Шмат гаварылі. Прасілі адзін у аднаго прабачэння за дробныя сваркі і непаразуменні, памянулі добрым словам таварышаў па службе з «Дыяны» матросаў Васіля Бакеева, Аляксея Паточкіна і Аляксея Собалева, што загінулі ў час крушэння фрэгата і пахаваны тут, у

Хэдзе. Пазайздросцілі тым маракам, якія пайшлі з Пуцяціным і Лясоўскім і напэўна ўжо былі ў Расіі.

— Не бяда,— сказаў Мікалай Шылінг.— Хутка і мы пакінем Японію. Чакаць засталося два тыдні. Дробязь. Чакалі болей.

У гэты момант нікому з афіцэраў не прыходзіла ў галаву, што хутка яны пачнуць адлічваць дні і кожныя суткі здадуцца ім бясконцымі. Пасля сталі гаварыць пра японцаў, пра бонзу Масду Кумедзаймона, што трапіў у далікатную сітуацыю, пра хітрага і ліслівага Накамуру...

— Паверце майму слову, панове, ён перашкодзіць нам выратаваць бонзу. Як я быў бы несправядлівы, пакінуўшы японца на разарванне. Трэба нешта прыдумаць.

— Іосіф Антонавіч, галубчык! — Размяклы пасля выпітага віна, лез абдымацца мічман Мікалай Кавалеўскі.— Іосіф Антонавіч, даручыце мне вашага бонзу. Богам прашу! Я пакажу Накамуру фігуру з трох пальцаў. Даручыце!

— Гэта залежыць ад Аляксандра Сяргеевіча, няхай ён вырашае,— сказаў Гашкевіч.

Мусін-Пушкін не пярэчыў.

З успамінаў Мікалая Густававіча Шылінга:

«...Яны (японскія чыноўнікі.— *В. Г.*) прасілі дазволу падрабязна агледзець нашы памяшканні пад маркай, што іх трэба рамантаваць. Яны шнырылі і заглядалі ва ўсе куткі, а нашага бонзу, акружанага натоўпам матросаў, пераводзілі з аднаго пакоя ў другі. Нам здавалася, што японцы пасля гэтых пільных пошукаў ужо забылі пра свайго прапаўшага бонзу, і мы не сумняваліся, што яго лёгка будзе перавесці на кліпер вечарам у натоўпе матросаў; але гэтая хітрасць нам другі раз не ўдалася. Калі частка нашай каманды ўжо перабралася на кліпер, прыбег унтэр-афіцэр і далажыў, што японцы каля асветленай ліхтарамі прыстані паставілі каравул, які падносіць ліхтар да твару кожнага матроса. Справа была дрэнь: відочна, шукалі бонзу, а японскія вочы і жаўтаваты колер твару выдаў бы яго, нягледзячы на парык і матроскую кашулю...»

Наступіла 2 ліпеня 1855 года.

Шасцёра матросаў на плячах неслі прадаўгаватую скрынку. Каравульныя не звярнулі на яе ўвагі, бо за дзень такіх скрынак з фрэгацкай маёмасцю пранеслі некалькі, некаторыя з іх забівалі проста на прыстані на вачах у меціукаў (дазоршчыкаў).

Задума мічмана Мікалая Кавалеўскага ўдалася.

— Мы ўсе ў зборы, капітан,— сказаў Мусін-Пушкін,— час падымаць парусы.

Шкіпер Таўлаў папрасіў рускага лейтэнанта самога выбраць шлях следавання «Грэты», дадаўшы пры гэтым, што 20 чэрвеня ён бачыў англійскія судны ў Сангарскім праліве каля Хакадатэ і што, на яго думку, яны маюць намер ісці ў заліў Дэ-Кастры, дзе знаходзіліся караблі атрада контр-адмірала Завойка. Мусін-Пушкін параіўся з афіцэрамі і прыняў рашэнне абысці востраў Сахалін з усходняга боку, павярнуць на поўдзень каля мыса Марыя і з поўначы ўвайсці ў вусце Амура. Порт высадкі апошняй групы «дыянаўцаў» — Пятроўскае зімоўе. На тым і сышліся. Таўлаў атрымаў па кантракту дзве тысячы фунтаў стэрлінгаў, заверыўшы Мусіна-Пушкіна, што той не нясе адказнасці за лёс шхуны.

Праз некаторы час гарыстыя берагі паўвострава Ідзу ахуталіся туманнай дымкаю, пасля ператварыліся ў шэрую бясформенную пляму і нарэшце зусім зніклі, быццам паглынутыя бяскрайняй воднай прастораю.

Шлях далёкі і даволі небяспечны. Толькі да Хакадатэ тысяча міль, а да Нікалаеўска-на-Амуры яшчэ трэба дадаць семсот. Плаванне абяцала быць бурным і цяжкім. Аляксандр Сяргеевіч не мог поўнасцю спадзявацца на капітана шхуны, ён даручыў сваім афіцэрам па чарзе несці вахту на хадавым мосціку. Матросы, якія так доўга былі ў бяздзеянні, з асаблівай ахвотаю дапамагалі рознаплямённай камандзе «Грэты». Тут былі іспанцы і негры, кітайцы і шведы. Шкіпер і боцман — немцы.

Практыка камплектавання экіпажаў камерцыйных суднаў у тыя гады не магла парадаваць сваёй бездакорнасцю. У Ліверпулі і Ганконгу, Капенгагене і Шанхаі заўсёды можна было набраць матросаў, «джэнтльменаў удачы», выкінутых на «карчомныя мелі» рознымі жыццёвымі абставінамі. Адны, даведзеныя да крайнасці пошукамі работы, наймаліся за капейкі, з-за кавалка хлеба; другія, не вытрымаўшы палачнай дысцыпліны, дэзерціравалі з ваенных суднаў; трэція ратаваліся на караблі ад праследавання закону; чацвёртыя — аматары прыгод — марылі знайсці таямнічы скарб капітана Флінта.

Састаў каманды шхуны «Грэта» аказаўся не такім ужо і дрэнным. Людзі былі працавітыя, звязаныя жалаваннем, а не прысягаю, і далёка не горшыя прадстаўнікі рамантыкаў, чым адважны Франсішка Серана або стывенсанаўскія героі з «Вострава скарбаў».

## II

Прайшло васямнаццаць сутак з часу адплыцця рускіх маракоў з бухты Сімода. Некалькі дзён назад мінулі праліў Фрыза, разме-

шчаны паміж астравамі Ітуруп і Уруп. Ціхі паўднёвы вецер дзьмуў у карму, шхуна развівала хуткасць найбольшую — сем-восем вузлоў. Пасля перасячэння пяцьдзясят другой паралелі да мыса Марыі заставалася каля 300 міль.

Раніца хмурная, шэрая. Ноччу ўзняўся страшны шторм з навальніцаю, але хутка заціх. Відаць, «Грэта» трапіла ў шквальную паласу тайфуну.

Афіцэры і каманда знаходзіліся на палубе, памагалі экіпажу шхуны рамантаваць парусы, снасці такелажу, пашкуматаныя штормам.

— Прама па носу — судна! — данёсся з мачты голасназіральніка.

На «Грэце» прабілі трывогу. Нехта здагадаўся ўдарыць у рынду. Мусін-Пушкін загадаў камандзе спусціцца ў трум і не паддавацца паніцы.

— У вас вока зоркае, маладое... Прачытайце,— шкіпер падаў лейтэнанту падзорную трубу.

— Англійскае судна «Баракота». Патрабуе легчы ў дрэйф.

— Гэтым разам мне не пашанцавала,— вымавіў з пачуццём горычы капітан.— Трохмачтавае, паравое... далёка не ўцячэш.

— А можа рызыкнём? — не вельмі ўпэўнена спытаў Мікалай Кавалеўскі.

— Не ўдасца. Час упушчаны. «Баракота» — выдатны хадок,— адказаў Мусін-Пушкін.

«Баракота» знаходзілася на адлегласці гарматнага стрэлу ад шхуны. За пяць кабельтавых дрэйфавала яшчэ адно невядомае судна, перагароджваючы «Грэце» зваротны шлях да берагоў Японіі.

Ад англійскага парахода адплыла шлюпка з афіцэрам і ўзброенымі матросамі. Дагляд камерцыйных суднаў у ваенны час — рэч звычайная: ці не вязе капітан забароненыя тавары, ці не займаецца кантрабандаю, ці не забяспечвае зброяй ваенныя пасты, берагавыя ўмацаванні, у канкрэтным выпадку — рускіх?

Шлюпка з непрыяцельскага парахода, зрабіўшы паварот, прыстала да борта «Грэты». Праз некалькі секунд англійскі афіцэр зухавата грымеў ботамі па трапу, лёгка і свабодна падымаючыся на мосцік.

— Гонар маю, панове, лейтэнант флоту яе вялікасці каралевы Вялікабрытаніі Джон Колет,— прагаварыў ён павольна, праз зубы.

Усе пaглядзелі на лейтэнанта непрыязна, а той-сёй і варожа. Ён стаяў перад рускімі афіцэрамі з напускной непарушнасцю, лагодны і прылізаны.

— Гаспадар шхуны «Грэта»,— прадставіўся шкіпер.— А гэта мае пасажыры... рускія маракі з загінуўшага фрэгата.

— О, рускія! — усклікнуў англічанін і агледзеў усіх пераможным поглядам.— Які сюрпрыз! Якая ўдача! Я аб'яўляю вас палоннымі, панове.

Сярод афіцэраў пайшоў гул. Пачуліся галасы:

— Якія ў вас на гэта паўнамоцтвы?!

— Сваім учынкам вы абражаеце нас!

— Гэта жорстка, не па-джэнтльменску!

— Хацеў бы я сустрэцца з вамі ў баі!

Апошнія словы былі вымаўлены мічманам Зялёным.

Іосіф Антонавіч зняў акуляры і злосна прамовіў, прыжмурваючы блізарукія вочы:

— Будзьце паблажлівымі, панове, да цялячага захаплення гэтага мілорда. Плыткая вада шумлівая. Мы павінны з Аляксандрам Сяргеевічам пабачыць капітана судна. Я спадзяюся, што ў яго хопіць гумару зразумець: маракі, што пацярпелі караблекрушэнне, не могуць уяўляць грозную сілу для англійскай эскадры.

— Вы маеце рацыю, Іосіф Антонавіч,— падтрымаў старшы ўрач Кралявецкі.— Паводле старых марскіх звычаяў, мы не можам лічыцца палоннымі. Гэта недарэчнасць!

— Хто камандуе параходам, на якім вы служыце, лейтэнант? — спытаў Мусін-Пушкін, у думках пасылаючы лаянку на адрас самаўпэўненага Джона Колета і яго капітана.

— Капітан Сцірлінг, сын адмірала Сцірлінга, камандуючага эскадры ў Кітайскім моры,— адказаў лейтэнант Колет.

— Правядзіце нас да яго.

Лейтэнант Мусін-Пушкін, Гашкевіч і капітан шхуны «Грэта» адразу ж паехалі на «Баракоту».

## III

Капітан Сцірлінг успрыняў з'яўленне рускіх як цуд, як доўгачаканую ўзнагароду за мінулыя цяжкія труды, якія за апошні час прыносілі яму адны расчараванні. Ці многа славы і гонару афіцэру, што праслужыў усю ваенную кампанію і ні разу не пабачыў, як бамбардзіры рыхтуюць картузы з порахам, падкочваюць падносы з ядрамі, распальваюць у жароўнях кноты? Яшчэ ўчора Сцірлінг думаў пра свой перавод на Чорнае мора, у Крым, дзе можна было твар у твар сустрэцца ў баі з рускімі, дзе па-сапраўднаму пахне порахам, гарам вайны. А сёння? Сёння яго напаткала ўдача. Прэч учарашнія думы! Цяпер пра сына адмірала Сцірлінга ніхто не скажа, што ён выскачка і пратэжэ славутага бацькі, не! Цяпер пра яго баявыя заслугі і камандзірскія здольнасці будуць гаварыць: узяць у палон рускіх у Ахоцкім моры — гэта таксама подзвіг.

Холадна абмяняўшыся з Мусіным-Пушкіным і Гашкевічам вітаннямі, капітан Сцірлінг выслухаў даклад лейтэнанта Колета, дзеля прыліку паспачуваў трагічнай гібелі фрэгата «Дыяна» і аб'явіў рускіх маракоў «ваеннапалоннымі каралеўскага флоту Вялікабрытаніі». На яго патрабаванне ўсе парусы «Грэты» былі адвязаны і брам-стэньгі апушчаны. Параход «Баракота» ўзяў на буксір шхуну і павёў яе ў Ахоцкі порт Аян, дзе знаходзіўся начальнік атрада англійскіх ваенных суднаў камандор Эліат.

22 ліпеня палоннікі прыбылі ў Аян. На загад Эліата рускіх маракоў знялі са шхуны «Грэта» і размясцілі на фрэгатах «Сібул», «Спартан» і на параходзе «Баракота».

«Карыстаючыся прапановаю п. Эліата,— пісаў у адным з рапартаў Мусін-Пушкін,— я хадайнічаў аб вызваленні з палону слабых, хворых, святара, доктара, п. Гашкевіча — перакладчыка і аб дазволе пакінутым у палоне адправіць лісты цераз Аян. П. Эліат быў згадзіўся на ўсё, але, на жаль, з-за нерашучасці свайго характару, бесперастанку мяняў сваё рашэнне...»

На наступны дзень вечарам атрад англійскіх караблёў падняў якары і лёг на зваротны курс да берагоў Японіі.

Лейтэнант Мусін-Пушкін са смуткам і трывогаю на душы думаў пра лёс каманды. Ён прыняў усе меры да таго, каб захаваць у людзей бадзёры дух, папрасіў паноў афіцэраў часцей бываць у вольныя часіны сярод матросаў. У доўгія і пакутлівыя дні палону Аляксандр Сяргеевіч не кідаў весці запісы, якія пасля былі апублікаваны ў «Морском сборнике».

«...Камандор Эліат, крэйсіруючы са сваім фрэгатам, вінтавым карветам «Карнет» і брыгам у Татарскім праліве, адкрыў на якары ў бухце Дэ-Кастры эскадру нашу, і, адлучыўшы брыг для паведамлення ў Хакадатэ, сам не рашыўся атакаваць яе і застаўся з карветам крэйсіраваць паўднёвей бухты Дэ-Кастры. Але, пакуль непрыяцель сканцэнтроўваў свае сілы, наша эскадра, карыстаючыся туманам, скрылася і гэтым дала падставу для розных здагадак і меркаванняў. Нарэшце прыйшлі да такога заключэння, не ведаю на чым грунтуючыся, што яна, прайшоўшы Лаперузаў праліў, хаваецца ў адным з портаў Ахоцкага мора або прарываецца паўночным праходам у Амур. З-за гэтага меркавання і паслана вялікая частка крэйсераў у Ахоцкае мора, на аднаго з якіх мы мелі няшчасце наткнуцца».

Гэтыя роздумы лейтэнанта Мусіна-Пушкіна пасля пацвердзіліся. Тактычны манеўр контр-адмірала Завойка быў менавіта такім. Адмірал Сцірлінг нерваваўся. Ён не прывык атрымліваць аплявухі. Упусціць атрад рускіх караблёў? Гэта ганьба, небывалы выпадак у англійскім флоце. Для англічаніна гонар флоту — гэта гонар нацыі.

16 жніўня параход «Баракота», фрэгаты «Пайк» і «Сібул» прыбылі ў нагасакскі рэйд.

Палон ад палону розніцца. Рускіх забяспечвалі правіянтам у адпаведнасці з палажэннямі, прадугледжанымі міжнародным законам. На фрэгатах камандзіры распарадзіліся перавесці ўсіх афіцэраў і матросаў на агульны кацёл са сваімі камандамі.

Роўна праз месяц на рэйд прыбылі астатнія караблі англійскай эскадры пад флагам адмірала Джэймса Сцірлінга.

Надзьмуты і зласлівы адмірал не ўдастоіў увагаю рускіх афіцэраў. Ён не захацеў ні з кім сустракацца, гаварыць. У яго ў душы кіпела злосць на адмірала Завойку, які лоўкім манеўрам здолеў вышмыгнуць са сваімі караблямі ад моцнага праціўніка, не даўшы мажлівасці Сцірлінгу пахваліцца ваеннай удачаю. Усе перагаворы адмірал даручыў Эліату.

Камандор прыняў лейтэнанта Мусіна-Пушкіна, як і раней, даволі пачціва і прапанаваў каву.

— Калі вы не супраць, сэр,— сказаў Аляксандр Сяргеевіч,— я папрасіў бы запрасіць надворнага саветніка Гашкевіча. Ён афіцыйны прадстаўнік Міністэрства замежных спраў.

— Не пярэчу. Але... у мяне пытанні чыста вайсковага характару,— адказаў Эліат.

— Я разумею. Але мы з панам Гашкевічам знаходзімся на аднолькавым становішчы.

Камандор выклікаў ад'ютанта і аддаў распараджэнне.

Іосіф Антонавіч з'явіўся хутка. Пэўны час англійскі афіцэр і рускія палонныя маўчалі, вывучалі адзін аднаго. Эліат у роздуме закурыў люльку, некалькі разоў прайшоўся па каюце. Відаць, ён яшчэ не ведаў, з якога боку распачынаць гаворку.

— Панове, у вас ёсць жаданне вярнуцца ў Расію? Я маю на ўвазе ў хуткім часе, як кажуць, не адкладваючы да святога ніколі.

— Вы задаяце дзіўнае пытанне, сэр,— адказаў Мусін-Пушкін.— Я ўпэўнены, што гэта мара не толькі мая, палоннага, але і ваша — пераможцы. Вы гэтак жа доўга не былі ў Лондане, як я і пан Гашкевіч — у Пецярбургу.

— О, вы маеце рацыю, лейтэнант! — усклікнуў Эліат.— Гэта ваенная кампанія закінула нас ледзь не на край свету. Тут нават сам Джэймс Кук не бываў.

— Так, гэта праўда. Кук не бываў, але затое рускія калумбы — былі.

— Каго вы маеце на ўвазе?

— Крузенштэрна, капітана Галаўніна, Лісянскага...

— О, так. Я чуў пра гэтых камандораў. Вы многа дасягнулі на Ціхім акіяне. Вашы судны плаваюць у Ахоцкім моры. Расія завалодала Камчаткаю, цяпер прэтэндуе на востраў Сахалін. Гэта робіць гонар рускім.

— Дзякую вам, сэр. І прашу мне дараваць, але мы, здаецца, адхіліліся ад тэмы. Я хацеў бы знаць, калі нас адправяць у Расію.

— Усё залежыць ад вас, лейтэнант. Адмірал Сцірлінг просіць аб невялікай паслузе.

— Якой?

— Дробязнай. Вы як вопытны марскі афіцэр павінны ўзяць на сябе абавязкі штурмана англійскай эскадры і правесці яе да вусця Амура. Мы паднімем парламенцёрскі флаг. Вы і вашы матросы будуць высаджаны ў любым рускім порце, які будзе вамі названы: Дэ-Кастры ці Аян.

— Гэта нязветліва з вашага боку, сэр. Мы ўзятыя ў палон бязбройнымі, пасля крушэння, і, хоць кожнаму з нас хочацца вярнуцца на радзіму, не толькі рускі афіцэр, а нават матрос не адважыцца атрымаць свабоду, паказаўшы непрыяцелю, дзе знаходзяцца нашы судны. Такім жа чынам ніхто з нас не дасць непрыяцелю магчымасць выгледзець пад парламенцёрскім флагам невядомую для яго мясцовасць і ўведаць фарватар да нашых умацаванняў.

— Іншага адказу я ад вас не чакаў. Яшчэ адна прапанова адмірала.

— Я слухаю.

— Адмірал просіць, каб вы далі слова афіцэра: не падбухторваць каманду да дзеянняў супраць нас і саюзнікаў, пакуль не будзе атрымана вестка ад урада пра абмен палоннымі.

— А калі я такога слова не дам? — спытаў Аляксандр Сяргеевіч.

— Давядзецца для афіцэраў і вашай каманды ўстанавіць жорсткі рэжым і трымаць пад вайсковаю вартаю.

— Добра. Я выклічу паноў афіцэраў і распараджуся. Гэта просьба адмірала будзе выканана. Што яшчэ? — Мусіну-Пушкіну не хацелася гаварыць мілыя рэчы з гэтым прытворна ветлівым камандорам, які разыгрываў з сябе пераможцу ў масцы дабрадзея.

— Нарэшце, адміралу пажадана было б ведаць вашы сустрэчныя прапановы.

— Перадайце адміралу, што пакуль не настала восень, ёсць магчымасць даставіць нас у порт Дэ-Кастры. Ісці ў Аян няма сэнсу. Усё ўзбярэжжа зацягнута лёдам.

— У Дэ-Кастры адмірал пойдзе, калі вы згодзіцеся быць яго штурманам.

— Гэта выключана. Дзейнічайце паводле законаў вайны.— Мусін-Пушкін устаў і пакланіўся.— Мы свабодныя?

Узняўся і Гашкевіч.

Эліат звярнуўся да яго:

— Вы дыпламат, чалавек цвярозага розуму, скажыце пану лейтэнанту, што яго ўпартасць не мае здаровага сэнсу.

— Памыляецеся, сэр. Гонар афіцэра не менш свяшчэнны, чым гонар жанчыны.

## IV

Дыпламат Гашкевіч, бонза Масда Кумедзаймон, якога ўнеслі ў спіс «дыянаўцаў» пад іменем Уладзіміра Прыбылова, з групай матросаў былі адпраўлены англічанамі ў Ганконг — іх заморскую калонію. Яны прыбылі туды 29 верасня 1855 года.

На брэменскай шхуне «Грэта» і на «Баракоце» ўчарашні бонза прыглядаўся да марацкага жыцця, прагна прыслухоўваўся да размоў рускіх матросаў — новых сяброў, з дапамогаю якіх яму ўдалося пакінуць Японію. Многія словы і фразы былі зразумелыя Масду Кумедзаймону, кантакты з Гашкевічам у Хэда не прайшлі марна: слоўнікавы запас рабіўся ўсё большы і большы, але дакладна выказаць думку, гэта значыць пісьменна пабудаваць сказ, ён яшчэ не мог. І акцэнт быў моцны. Напрыклад, прозвішча Гашкевіча бонза вымаўляў на японскі лад — Гасукэбіці. Патрэбен час і, відаць, больш спакойныя абставіны, чым сёння, калі ён і рускія знаходзяцца пад пільным наглядам англійскіх афіцэраў і матросаў.

Да Ганконга ішлі доўга. Судна часта спынялася, яго трэба было запраўляць вуглем і вадою. Незадоўга да прыходу ў порт Нагасакі ў жылую палубу спусціўся Гашкевіч і сказаў унтэр-афіцэру, які апекаваўся над бонзам, каб пры надглядзе судна ўсюдыіснымі японцамі ён паклаў Уладзіміра Прыбылова тварам да борта. Калі пацікавяцца, што з матросам, адказ адзін: хворы на заразную хваробу. Праўда, тлумачыцца не давялося, партовая варта не спусцілася ў матроскі кубрык. І на гэты раз пранесла.

На рэйдзе Ганконга было цесна ад ваенных і купецкіх суднаў. Фрэгат «Нанкін» стаў на якар насупраць кітайскага квартала. Бедны і самы тужлівы пейзаж. Невялікія дамкі, збітыя ў кучу, туліліся каля падножжа імшыстай гары. Ім не хапіла месца на беразе, таму давялося гняздзіцца на палях, проста над вадою. Было некалькі хатак, збудаваных проста на лодцы — фунэ.

Пасля адміральскай гадзіны Гашкевіч нанёс візіт камандзіру фрэгата. Трэба было сабе і мічману Кавалеўскаму атрымаць даз-

вол на бесперашкодны з'езд на бераг. Англійскі афіцэр спачатку пярэчыў, але пасля запатрабаваў ад рускага дыпламата гарантыю, што ён не паспрабуе ўцякаць.

— Містэр Гашкевіч,— сказаў капітан,— вы доўга жылі ў Кітаі, бывалі раней і ў Ганконгу, таму я не выключаю мажлівасці, што вы сумееце знайсці апякунства ў сваіх старых сяброў. Не рабіце мне лішніх клопатаў, прашу вас.

— Маю гонар вас запэўніць, пан капітан, вашай кар'еры нішто не пагражае.

Мяккі, дабрадушны позірк Іосіфа Антонавіча не пакідаў і кроплі сумнення ў тым, што ў яго словах магла б хавацца няпраўда. Афіцэр па-сяброўску працягнуў руку і сказаў:

— Дзякую вам, містэр Гашкевіч.

Не паспелі сысці на бераг, як былі сустрэтыя Бароўсам — амерыканскім негацыянтам, які, запрасіўшы іх да сябе, зрабіў так, што яны адчувалі сябе ў яго абсалютна як дома.

— Вы ні аб чым не будзеце шкадаваць, панове,— гаварыў Бароўс, частуючы гасцей манільскімі цыгарамі і ромам.— Маеце патрэбу ў грашах? Будзьце ласкавыя. Хочаце паслаць лісты ў Расію? Калі ласка. Адпраўку карэспандэнцыі бяру на сябе. Выканаю любыя вашы жаданні. Загадвайце. Я да вашых паслуг.

Містэр Бароўс быў крыху паўнаваты і гаваркі.

— Калі не будзеце пярэчыць, я пазнаёмлю вас з нашай ганконгскай грамадою. Гэта палегчыць вам ваша нявольніцкае становішча. Дарэчы, містэр Гашкевіч, на днях я бачыў доктара Лобшада, з якім вы пазнаёміліся ў Японіі. Вельмі забаўны джэнтльмен. Апантаны ідэяй усіх пацыентаў схіліць у Хрыстову веру. Ну, як?

— Не ведаю, як яму гэта ўдасца,— адказаў Іосіф Антонавіч.— Свабода хрысціянскага веравызнання пакуль што ў жалезных клешчах закону. Японскай натуры бліжэй вучэнне бусідо — дух рыцарства.

— Вы напісалі б кнігу, містэр Гашкевіч. Я вазьму на сябе прыемны абавязак выдаць яе ў Амерыцы,— сказаў негацыянт.

— Кіньце, містэр Бароўс, які з мяне пісьменнік!

Мічман Кавалеўскі, асушыўшы тры чаркі запар, засумаваў. Яго пацягнула на паветра, да мора. Ён устаў і ветліва раскланяўся з Бароўсам:

— Пан негацыянт, вы такі велікадушны да нас. У сябе дома, у заснежанай Расіі, мы будзем памятаць вашу гасціннасць.

— Што вы, малады друг. Ваша прысутнасць мне дастаўляе задавальненне. З містэрам Гашкевічам мы не бачыліся два гады. Я быў

у яго ў гасцях на фрэгаце «Палада». І мне не забыць шчодрасць рускай натуры. Глядзіце не ўздумайце абмяжоўваць сябе ў чым-небудзь.

— Дзякуй на добрым слове.

Сабраўся адыходзіць і Гашкевіч.

Бароўс працягваў:

— Я не развітваюся з вамі. Вечарам нечакана з'явімся з візітам да губернатара.

Гашкевіч спачатку не думаў ісці да губернатара, баючыся сутыкненняў з уладамі, але хутка пераканаўся, што сэр Джон Боўрын абсалютна не падобны на адмірала Сцірлінга, які за ўсю бытнасць іх у палоне не ўдастоіў нават позіркам ніводнага з рускіх афіцэраў.

## V

Сэр Джон Боўрын сядзеў на верандзе і ляніва адхлёбваў чай, папыхваючы тоўстай цыгараю. Увайшоў сакратар і працягнуў яму картачку. Картачка была руская: «Чыноўнік асобых даручэнняў пры Азіяцкім дэпартаменце І. Гашкевіч».

— Хто яшчэ з ім?

— Рускі афіцэр і негацыянт Бароўс.

— Прасі,— сказаў рассеяна губернатар.

Першы ўвайшоў Бароўс, ён быў у выдатным настроі і, прывітаўшыся з гаспадаром дома, вымавіў:

— Я прывёў да вас маіх рускіх сяброў, сэр. Ім трэба было б зараз знаходзіцца ў Расіі. Адсыпацца пасля доўгага плавання па морах і акіянах. Залечваць душэўныя раны, нанесеныя трагічнай гібеллю судна і бры... Між іншым, вы і самі добра ведаеце, што яны цяпер брытанскія палонныя.

Губернатар незадаволена скрывіўся, а негацыянт зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў.

Як толькі госці расселіся, Джон Боўрын стаў распытваць пра самаадчуванне, аб падрабязнасцях караблекрушэння, аб палоне і прэтэнзіях да англійскага марскога камандавання, але галоўнае пытанне, да якога ён паступова падбіраўся, было, вядома, пра мэты знаходжання рускіх у Японіі.

— Ходзяць чуткі,— сказаў губернатар,— што вы заключылі з урадам Такугавы трактат. Мы вам зайздросцім, містэр Гашкевіч.

— Ваша правасхадзіцельства,— адказаў Іосіф Антонавіч,— я не бяру на сябе смеласць давяраць чуткам. У кітайцаў ёсць прыказка: гандляр кветкамі гаворыць, што ўсе яны пахнуць; гандляр лекамі

кажа, што ўсе яны лечаць. Ці варта ім верыць? Можа трэба давяраць сабе, свайму пачуццю, сваім адносінам да кветак і да лекаў?

Сэр Джон Боўрын уважліва паглядзеў на Іосіфа Антонавіча, але загарэлы на сонцы твар нічога не выражаў, і толькі ў вачах блішчала ледзь прыкметная іранічная ўсмешка.

— Спрытна вы выкруціліся ад прамога адказу, містэр Гашкевіч. Пахвальна.

Бароўс ззяў. Ён быў у захапленні ад рускага сябра. Аднак у размову не ўмешваўся, а ўважліва слухаў. Гашкевічу гэта здалося крыху дзіўным. Давялося яго растармасіць.

Слугі-кітайцы прынеслі гасцям чай у фарфоравых філіжанках і пячэнне ў маленькіх плеценых карзіначках.

— Містэр Бароўс,— сказаў Іосіф Антонавіч,— вы падзяляеце мой пункт гледжання на веру ў сваё пачуццё, у пачуццё індывідуума?

— О так, калі я буду гандляваць віном, я ніколі не скажу, што яно слабое.

Усе весела рассмяяліся. Купец заставаўся купцом.

Са слоў Бароўса Гашкевіч ведаў, што Джон Боўрын славіўся ў Англіі як буйны лінгвіст, шмат падарожнічаў па Усходняй Азіі, нядаўна наведаў Бангкок — сталіцу Сіяма, куды ён ездзіў з місіяй па гандлёвых справах, і цяпер піша гісторыю Сіямскага каралеўства. Гутарка пацякла па іншым рэчышчы. Гаварылі пра жыццё-быццё, пра Расію, краіны, у якіх даводзілася бываць, пра «Дзённік падарожжа» Чарлза Дарвіна. Сэру Джону Боўрыну падабаліся геалагічныя тэорыі свайго суайчынніка, але меркаванні вялікага вучонага ў галіне біялогіі не сустрэлі ў яго спачування. Гашкевіч, наадварот, зачытваўся «Дзённікам», захапляўся многімі старонкамі, прысвечанымі вытлумачэнню паходжання каралавых рыфаў, свячэнню мора каля берагоў Вогненнай Зямлі, апісаннямі трапічнай прыроды, расказамі пра звычкі некаторых паўднёваамерыканскіх драпежных птушак, грызуна туку-тука, галапагоскіх яшчарак, чарапах, уюркоў, страусаў, гуанака, чылійскіх калібры, фалклендскай лісіцы, рыб і рэптылій.

— Вясною пяцьдзясят трэцяга года,— сказаў Іосіф Антонавіч,— мне давялося. падарожнічаць па рацэ Аранжавай у Паўднёвай Афрыцы. Кніга Чарлза Дарвіна была для мяне добрым другам і дарадчыкам. Я зрабіў шмат фатаграфічных відаў, запісаў, але сістэматызаваць матэрыял пакуль не маю вольнага часу.

— Я не збіраюся з вамі спрачацца, містэр Гашкевіч, але вы, рускія, залішне перабольшваеце вучэнне Дарвіна.

— Не ўсе, ваша правасхадзіцельства, не ўсе. Але мне ён блізкі яшчэ і духам супярэчнасці. Ён жа рыхтаваў сябе да духоўнай кар'еры. Быў час, калі і я не адчуваў ніякіх сумненняў у правільнасці біблейскай догмы.

Іосіф Антонавіч зразумеў, што сэр Джон Боўрын ад гэтага візіту адчуваў пэўную прыкрасць. «Прызнацца яму, што я святар,— падумаў Гашкевіч,— наклічаш бяду. Думкі ж — ерэтыка. Пакінем дом губернатара з мірам».

Час быў позні. Госці развіталіся. Сэр Джон Боўрын запрасіў рускіх палонных, наведаць мясцовы клуб, старшынёй якога ён з'яўляўся.

## VI

У ганконгскім клубе Гашкевіч быў у чэрвені 1853 года. Два гады назад клуб пуставаў. Яму пагражала банкруцтва. З выбраннем Джона Боўрына прэзідэнтам Лонданскага аддзялення Азіяцкага таварыства жыццё клуба ажыло: афіцэры 59-га палка, што кватараваў у Ганконгу, негацыянты, паненкі імкнуліся праводзіць свае вечары ў свецкім коле, а не ў казармах і сямейных гуртках, па сваіх кутках.

Іосіф Антонавіч спазніўся на пачатак пасяджэння таварыства, увайшоў у залу ў той час, калі прэзідэнт заканчваў аповяд пра сваю паездку ў Расію.

Дзівакаватыя людзі акружалі Гашкевіча, кожны з іх быў апантаны якой-небудзь моднай ідэяю. Адны ад нудоты рабіліся натуралістамі-аматарамі, другія, пазнаёміўшыся з навуковымі артыкуламі Х'ю Камінга, Джона Мітчэла і Уільяма Кірбі, усур'ёз вырашылі, што і яны здольныя ўнесці ўклад у навуку, як гэта зрабілі іх славутыя суайчыннікі. Доктар Горланд, высокі і мітуслівы джэнтльмен, гарэў жаданнем скласці поўнае апісанне фаўны Ганконга, яго прыяцель доктар Лоран сабраў у час падарожжа па Паўднёвай Амерыцы і па Індыі вялікую калекцыю ракавін. Сын губернатара Джона Боўрына ганарыўся тым, што ў яго самая унікальная калекцыя насякомых кітайскага поўдня. Сакратар каланіяльнага ўпраўлення містэр Вэд меў багатую кітайскую бібліятэку, займаўся вывучэннем гісторыі дынастыі, што правіла ў Кітаі. Акрамя гэтага, ён прыступіў да складання кітайскага слоўніка. Містэр Вэд паспяшаўся пазнаёміць Гашкевіча з чарнавікамі, але адабрэння не атрымаў. Накіды плана былі такія абшырныя, што аднаму чалавеку наўрад ці хапіла б жыцця для здзяйснення намечанай мэты. Доктар Лобшад, што жыў за пятнаццаць міль ад Ганконга, займаўся медыцынскай практыкай у раёне кітайскай граніцы. Хворыя, што праходзілі ў яго лячэнне, абавязкова выслухоўвалі Хрыстовую пропаведзь аб выратаванні душы.

Іосіф Антонавіч пазнаёміўся з ім у Японіі, куды той прыязджаў з «духоўнай місіяй» на амерыканскім параходзе «Паўхатан».

У гэты дзень у клубе Гашкевіч атрымаў ад доктара Лобшада падарунак: японскі пераклад некалькіх кніг Новага Запавету.

«Не ведаю, хто зрабіў пераклад,— падумаў Іосіф Антонавіч,— але ведаю, што яго не зразумеюць японцы. Толькі паспела Японія адкрыць для іншаземцаў некалькі сваіх портаў, як місіянеры паспелі ўжо падрыхтаваць для абарачэння іх патрэбныя дапаможнікі».

Вось з гэтымі цікавымі людзьмі ён праводзіў вечар у клубе і ўсміхаўся ім. У яго былі падставы ўсміхацца. Вайскоўцы дэманстравалі велікадушнасць пераможцаў, штацкія чыноўнікі разыгрывалі з сябе вучоных-практыкаў, што знаходзіліся на паўдарозе да найноўшых адкрыццяў. І кожны з іх прымаў пахвальбу са ціпласцю, уласцівай чалавеку з сапраўднымі заслугамі. А заслуг якраз і не было. «К чорту! — падумаў Гашкевіч.— Трэба знайсці зачэпку, каб адкланяцца».

— Што вы збіраецеся рабіць, калі вернецеся ў Расію? — спытаў доктар Горланд.

— Яшчэ не ведаю.— А сам падумаў: «Чаму я павінен з імі так шчыраваць? Мне вялікае задавальненне складаць «Японска-рускі слоўнік». Я напісаў ужо адну трэцюю, вярнуся з палону — закончу. Бонза мне паможа».

— Я чуў, што вы маеце цудоўную калекцыю кітайскіх матылькоў. Ці не маглі б прысланць мне падрабязны каталог? — пацікавіўся ў сваю чаргу Боўрын-малодшы.

— На жаль, сэр, вы далёкія ад праўды. Калекцыя, пра якую вы гаворыце, належыць Заалагічнаму музею.

— Вы, напэўна, добра зарабілі? Віншую.

— Не. Я падараваў яе,— суха адказаў Гашкевіч.

— Падаравалі? Вы дзівак, містэр Гашкевіч!—усклікнуў доктар Лоран.— Няўжо ў Расіі так многа вучоных-натуралістаў, што пабывалі ў Кітаі, Афрыцы, Японіі? Нашы газеты пішуць толькі пра вас.

— Панове, я не хачу, каб вы так доўга памыляліся, таму павінен сказаць,— Іосіф Антонавіч акінуў позіркам субяседнікаў,— мой уклад у рускую навуку настолькі малы, што нават не варта шукаць яго слядоў.

Гашкевіч распаліў люльку.

— А пасля... Я абраў сабе дыпламатычнае поле дзейнасці.

У зале з'явіўся містэр Бароўс. Гэта было вельмі дарэчы.

Толькі ён мог выручыць Іосіфа Антонавіча ад цікаўных англічан. І зрабіў ён гэта па-амерыканску дзелавіта і проста, з пачуццём гумару:

— Панове, калі містэр Гашкевіч знаходзіцца ў вас у палоне, дык гэта яшчэ не азначае, што вы можаце ўзурпаваць яго на цэлы вечар. Цяпер яму неабходна мая кампанія. Гонар маю.— Бароўс узяў за локаць Іосіфа Антонавіча і павёў на вуліцу.— Заўтра прыходзіць эскадра адмірала Сцірлінга.

Гашкевіч і афіцэры не часта сходзілі на бераг, службовы доўг абавязваў кожнага аставацца на непрыяцельскіх суднах са сваімі матросамі. Лейтэнант Мусін-Пушкін патрабаваў ад усіх строга прытрымлівацца распарадку дня, заведзенага на англійскім флоце. Матросы па-ранейшаму працягвалі несці службу. Раніцаю, як звычайна на сваёй «Дыяне», драілі палубу чужога карвета, памагалі англійскім матросам аснашчваць такелаж, абнаўляць парусы. У карабельных работах не прымалі ўдзелу веставыя, прымацаваныя да афіцэраў. Матрос Прыбылоў лічыўся веставым у Гашкевіча. Гэта давала японцу малую, але прывілею: як веставы ён вызваляўся ад каравульнай і днявальнай службаў, а таксама ад розных заняткаў, у тым ліку і ад шагістыкі. За паўгода знаходжання ў палоне не было выпадку, каб хто-небудзь з «дыянаўцаў» парушыў прысягу. Часамі ў душу закрадвалася туга. Не без гэтага. Аднастайнасць жыцця на судне, нават калі і не ў палоне, заўсёды была матросу цяжарам. А што ж гаварыць пра былога бонзу, для якога марацкая служба — горш за катаргу.

Лэйтэнант Мусін-Пушкін пісаў у Пецярбург:

«Лічу доўгам засведчыць аб высакародных паводзінах каманды ў палоне, а таксама і афіцэраў, якія сваімі паводзінамі заслужылі не толькі агульную ўвагу і павагу. З ліку нашых афіцэраў у цяперашні час у Ганконгу лейтэнант Шылінг, мічманы Кавалеўскі і Міхайлаў і чыноўнік Азіяцкага дэпартамента І. А. Гашкевіч».

Прамінуў кастрычнік. Лёс палонных нікога не хваляваў. Адмірал Сцірлінг зноў адмовіў Мусіну-Пушкіну і Гашкевічу ў аўдыенцыі. Камандор Эліат вёў сябе па-джэнтльменску, але быў не ў моцы штонебудзь памагчы. Усе чакалі вестак з Лондана.

Аднойчы Іосіф Антонавіч прагульваўся па галоўнай вуліцы Ганконга — Каралеўскім шляху. Было душна. Сонца смаліла ў ценю. Дрэвы, пасаджаныя ўздоўж галоўнай вуліцы — Каралеўскага шляху, не маглі пахваліцца зеленню густых, галінастых крон, яны былі залішне мізэрныя і вартыя жалю на выгляд. Куды схавацца ад палкіх промняў? Дзе знайсці сапраўдны, прахалодны цень? «Загляну да расіяніна»,— вырашыў Гашкевіч.

Расіянінам рускія афіцэры называлі паляка, які трымаў у еўрапескім квартале Ганконга гатэль і магазін адзення. Паляк любіў расказваць усім, што ён два гады жыў у Маскве, калі яму было чатыр-

наццаць гадоў. З Гашкевічам ён гаварыў па-польску. У «расіяніна» можна было выпіць содавай з дамешкам брэндзі, набыць касцюм еўрапейскага крою, даведацца пра мясцовыя навіны.

Мінуўшы рэзідэнцыю губернатара, раскошны асабняк англійскага клуба, Гашкевіч збочыў да гатэля і ўбачыў ажыўлены натоўп. За шумам рознамоўных галасоў цяжка было разабраць, якая здарылася бяда. Ён падышоў бліжэй.

— Выбірайся к чорту са сваімі тухлымі бананамі! — крычаў малады чалавек, п'яна размахваючы рукамі.

«Які знаёмы голас — падумаў Іосіф Антонавіч і прыглядзеўся да дэбашыра.— Глянь, ды гэта ж лейтэнант з англійскага карвета «Нанкін»!»

Кітаец, разносчык садавіны, не разумеючы чужой мовы, тупа ўтаропіўся на афіцэра, паўтараючы адно слова:

— Талер... талер... талер...

Лейтэнант працягваў куражыцца, нахіліўся да карзіны, узяў яшчэ звязку бананаў і перадаў сваім вельмі вясёлым дружкам.

Разносчык не прымаў жартаў. Ён стаяў на сваім — патрабаваў плату.

Англічанін зноў пацягнуўся да карзіны. Раззлаваны паводзінамі афіцэра, кітаец схапіў яго за куртку і віскліва крыкнуў:

— Талер!

Лейтэнант выхапіў з рук стаяўшага побач афіцэра палку і ўдарыў кітайца па твары.

Натоўп зашумеў, асуджаючы ўчынак маладога чалавека.

— Нягоднік!

— Як жорстка! Пойдзем.

— Ударыць чалавека за талер? Якое свінства!

— Арыштаваць яго!

— Не ўмешвайцеся, пан Гашкевіч,— Іосіф Антонавіч пачуў за сваёй спінай голас «расіяніна».— Вы ж самі на становішчы няшчаснага кулі — палонны... Будзьце разважныя.

«На наступную раніцу,— пісаў Іосіф Антонавіч,— справа прадстаўлена на суд нашага асвечанага памочніка наглядчыка... які з уласцівай яму разважнасцю і пачуццём справядлівасці замест таго, каб пасадзіць вінаватага на дзесяць дзён на хлеб і ваду, параіў уладзіць справу палюбоўна і намякнуў на пяць талераў, як на прыстойную ўзнагароду пакрыўджанаму; але ці пасупіў падсудны ў адпаведнасці з гэтай парадаю ці не — да мяне не дайшло».

## VII

Знаходжанне ў палоне не магло быць бясконцым. У сярэдзіне лістапада 1855 года з Лондана паступіла распараджэнне адправіць

рускіх у Англію. Іосіф Антонавіч прапанаваў афіцэрам зрабіць развітальную прагулку па Ганконгу. Яны нанялі два экіпажы і паехалі ў Шчаслівую даліну.

«Гэта, кажуць, адзіная мясціна, якая была заселеная да заняцця вострава англічанамі,— пісаў Гашкевіч.— Кітаец, што меў тут ферму і апрацоўваў даліну, даў ёй назву Шчаслівай даліны, якая засталася за ёю да гэтага часу. Цяпер побач з выдатна апрацаванымі палямі мала-памалу засяваюцца іншыя палі для будучага вялікага жніва, дзе і мы закапалі некалькі зернятак, занесеных сюды здалёку.

Удзельнікі экспедыцыі, а цяпер палонныя вярталіся ў Еўропу пасля трохгадовага плавання. Іх намаганні не былі бясплённымі: яны дамагліся сваёй мэты — заключылі з японскім урадам трактат, абследавалі гавані на ўсходнім беразе Карэі, Татарскага праліва і пацвердзілі адкрыццё Г. І. Невяльскога, што Сахалін не паўвостраў, а востраў і рака Амур не губляецца ў пясках, як меркаваў І. Ф. Крузенштэрн, які аглядаў яе ліман. Аднак гэта падарожжа не было шчаслівым. Недзе на дне Імператарскай гавані ляжыць патопленая «Палада», а ў заліве Сурута фрэгат «Дыяна».

Іван Аляксандравіч Ганчароў, аддаючы належнае мужнасці сваіх суайчыннікаў, старых сяброў па службе, якія былі пераведзены з «Палады» на фрэгат «Дыяна», пісаў:

«Так закончылася гэта экспедыцыя, у якую ўкладваецца ўся Адысея і Энеіда — і ні Эней, з бацькам на плячах, ні Адысей не перанеслі і дзясятай долі гэтых ліхіх прыгод, якія зазналі нашы арганаўты, з якіх «иных уж нет, а те далече!».

## VIII

У Пецярбургу пра ўзятых у палон маракоў з «Дыяны» зналі вельмі мала і то па чутках. Пра Гашкевіча і японца Масду Кумедзаймона наогул не было ніякіх звестак, а калі і былі, то настолькі недакладныя і супярэчлівыя, што Міністэрства замежных спраў вымушана было неаднаразова запытваць свае пасольствы ў Парыжы і Лондане.

У кастрычніку 1856 года з Амура вярнуўся капітан-лейтэнант Чыхачоў. У сваім рапарце дырэктару Інспектарскага дэпартамента Марскога міністэрства ён даносіў: «13 ліпеня ў Дэ-Кастры з Ганконга прыбыў англійскі фрэгат «Пайк» пад камандаваннем капітана Нікальсана. На борце гэтага судна знаходзіліся маракі з «Дыяны». Іх перасадзілі на рускі транспарт «Дзвіна» і адправілі ў Расію». Прозвішчы афіцэраў, цывільных чыноўнікаў і матросаў Мікалай Мацвеевіч Чыхачоў не называў. У другім паведамленні гаварылася: рускія палонныя пакінулі Ганконг на французскім судне «Канстанцін».

У канцылярыі Інспектарскага дэпартамента была поўная неразбярыха. Нават праз паўгода пасля вяртання Іосіфа Антонавіча ў Пецярбург яго працягвалі шукаць. Стваралася такое ўражанне, што ніхто з маракоў, якія вярнуліся на радзіму, толкам не ведаў пра лёс драгамана Гашкевіча і яго японскага сябра Масду Кумедзаймона — Уладзіміра Прыбылова. Адны лічылі, што яны прабраліся ў Кітай. Такая мажлівасць не выключалася, бо Іосіф Антонавіч добра ведаў гэту краіну, яе мову і звычаі. Другія пярэчылі: англічане не такія прастакі, каб адпусціць рускага перакладчыка, які прысутнічаў на ўсіх перагаворах генерал-ад'ютанта Пуцяціна з японцамі. Гашкевіч ведаў нямала, таму цікавасць да яго асобы магла быць павышанай. Англічане дорага заплацілі б за разумную параду: як знайсці рэальныя шляхі збліжэння з Краінай узыходзячага сонца. Трэція думалі, што абодва яны, відаць, ужо ў Расіі. Калі верыць лістам амерыканскага негацыянта Бароўса, дык некаторая частка ваеннапалонных маракоў адправілася на англійскіх фрэгатах у Сінгапур і на мыс Добрай Надзеі.

Вось адзін з апошніх лістоў Бароўса, датаваны 14 снежня 1855 года:

«...Афіцэры і каманда з пацярпеўшага крушэння фрэгата «Дыяна» пакінулі Ганконг і знаходзяцца па дарозе ў Англію; з іх лейтэнанты Мусін-Пушкін і Шылінг з 36 ніжнімі чынамі адправіліся адсюль 7 снежня на англійскім параходзе «Rattler» проста ў Англію і зойдуць толькі на мыс Добрай Надзеі.

П. Гашкевіч з 60 ніжнімі чынамі адправіўся на параходзе «Siyx». Па дарозе ў Англію параход зойдзе ў Сінгапур».

28 кастрычніка 1856 года віцэ-дырэктар Інспектарскага дэпартамента Марскога міністэрства запрошваў у лейтэнанта Мусіна-Пушкіна «...звесткі, якія яму вядомы, пра ўзятых разам з ім у палон мічманаў Мікалая Кавалеўскага, Сяргея Міхайлава, перакладчыка Гашкевіча, японца, прыняўшага прозвішча Прыбылова, і 128 ніжніх чыноў...»

Аляксандр Сяргеевіч Мусін-Пушкін адказваў:

«Пры адпраўленні маім з Ганконга мічманаў, Кавалеўскі і Міхайлаў з астаткам каманды 91 чалавек знаходзіліся на двух англійскіх фрэгатах «Пайк» і «Нанкін». Да гэтага часу яны яшчэ не вернуты з палону, і ніякіх да гэтага часу не маю пра іх станоўчых звестак, а таксама і партыкулярных; перакладчык жа Гашкевіч і японец Прыбылоў дастаўлены ў Расію разам са мною ў апошніх днях красавіка месяца гэтага года і знаходзяцца ў цяперашні час у распараджэнні Міністэрства замежных спраў».

Нарэшце была ўнесена яснасць. Пошукі чыноўніка Азіяцкага дэпартамента Гашкевіча спыніліся.

## САМУРАЙ У РАСІІ

### I

Гашкевіч і яго веставы Прыбылоў пакінулі туманны Альбіён на параходзе «Імператрыца». З заходам у Капенгаген яны прыбылі ў Лібаву на перадвелікодным тыдні і былі сустрэты палкоўнікам Сурковым. Той з'яўляўся дырэктарам мясцовага пяхотнага вучылішча прынца Карла Прускага, на яго ж ускладаліся абавязкі начальніка Лібаўскага ваеннага гарнізона.

З Лібавы да Санкт-Пецярбурга былы японскі бонза спасцігаў расійскую дарожную навуку. Добра, што Мусін-Пушкін і Гашкевіч мелі на руках праязныя паперы, на якіх было два казённыя штэмпелі — гэта давала права імчаць у нанятай кібітцы, запрэжанай цугам, ад станцыі да станцыі, дзе ім хутка мянялі коней.

У сталіцу прыехалі пад вечар.

Развітаўшыся са спадарожнікамі, Гашкевіч і Прыбылоў накіраваліся на Пражку ў дом, дзе жыў надворны саветнік Пётр Лопаў, з якім Іосіф Антонавіч пасябраваў пасля вяртання з Кітая. Свайго кута ў Пецярбургу ў Гашкевіча ніколі не было.

Блукаючы ў цёмных завулках, Іосіф Антонавіч растлумачыў японцу, што з грошам у кішэні зняць у гасцініцы нумар ім не пад сілу, а пан Лопаў, да якога яны зараз нечакана з'явяцца, дасць ім прытулак. Часова, вядома, пакуль не падшукаюць прыдатнае жытло.

Адпраўляючыся восенню 1852 года на фрэгаце «Палада» ў далёкае плаванне, Гашкевіч пакінуў Лопаву даручэнне на атрыманне жалавання ў казначэя Дэпартамента гаспадарчых і падліковых спраў Міністэрства замежных спраў.

Няма патрэбы падрабязна апісваць сустрэчу старых прыяцеляў пасля стольніх гадоў разлукі, і без таго зразумела чытачу, што не абышлося без уздыхаў і охаў, без на скорую руку сабранага стала, без пячатнага штофа. І доўгай-доўгай размовы-споведзі пры чаднай лямпе. На пытанне гаспадара дома: «Чым зоймешся? Ці будзеш за прыкладам Івана Ганчарова пісаць кнігу падарожжаў?» быў адказ: «Не, у мяне адна мара — слоўнік. І вось мой памочнік у гэтым няпростым занятку — Масда Кумедзаймон, адукаваны будыйскі бонза... і мой малодшы таварыш».

Масда Кумедзаймон нарадзіўся ў 1820 годзе ў збяднелай дваранскай сям'і, якая поўнасцю залежала ад васалаў клана Какэгава, што ў правінцыі Татомі. Яшчэ падлеткам ён заахвоціўся вайсковым рамяством, яго не задавальняла земляробства, якім займаліся яго прадзеды і дзяды. Рана сышоў з дому і бадзяўся, пакуль не стаў

больш дарослым і сапраўдным самураем, навучыўшыся па-майстэрску валодаць усімі відамі зброі[1].

Акрамя самурайскага жыцця ва ўцекача было яшчэ манаскае, якое, трэба думаць, для яго мела вельмі важнае значэнне. Няма ніякіх сумненняў у тым, што ён многа чытаў, даследуючы пісьмовыя помнікі старажытнаяпонскай філасофіі і перыяду будызму, а таксама вывучаючы ўплыў кітайскай прававой сістэмы на феадальны лад Японіі. Манахі храма Хонмандзі, дзе Масда Кумедзаймон служыў упраўляючым, за вочы называлі яго «Гікэн» — мудрэц. Рамантык у душы, ён не шукаў улады над людзьмі і багацця. Ён ірваўся пабачыць свет, чужыя краіны.

Масда Кумедзаймон шукаў шляхоў да ўцёкаў. І такая мажлівасць надарылася з паяўленнем у Сімодзе і Хэдзе рускіх маракоў. А галоўнае, знайшоўся чалавек, што паверыў у яго вялікае жаданне вывучаць рускую мову. Прыходзіў Масда ўпотай вечарамі і, на здзіўленне Гашкевіча, рабіў фенаменальныя поспехі ў асваенні размоўнага маўлення, горш было з правапісам, але гэта, як кажуць, рэч нажыўная. А пасля ўзяліся за лексікон, не здагадваючыся, што за гэтым з'явіцца мара — стварыць японска-рускі слоўнік.

Гашкевіч гнаў ад сябе жорсткую думку, што яго ўчынак, які пацягнуў за сабой укрыццё бонзы, а пасля і ўцёкі, у Азіяцкім дэпартаменце могуць палічыць за легкадумнасць. Уся надзея на афіцэраў фрэгата «Дыяна», што прынялі жывы ўдзел у гэтай справе. Яны-та, напэўна, не падвядуць, людзі гонару?

Вось з такімі, мажліва, роздумамі адправіўся ў Міністэрства калежскі саветнік Гашкевіч з японцам. Іх прыняў сам дырэктар Азіяцкага дэпартамента Ягор Пятровіч Кавалеўскі. Ад свайго сына Мікалая («дыянаўскага» мічмана, які разам з Гашкевічам знаходзіўся ў палоне ў англічан), генерал-маёр Кавалеўскі ведаў гісторыю японскага бонзы, таму даў свайму падначаленаму Гашкевічу дзелавую параду: напісаць падрабязны рапарт на імя новага міністра замежных спраў А. М. Гарчакова, а ён, Кавалеўскі, дасць дакументу законны ход. І прасочыць, каб не было бюракратычных затрымак.

На вялікі жаль, рапарт Іосіфа Антонавіча Гашкевіча я не знайшоў, але вось які доказ мне пашчасціла трымаць у руках і нават зняць копію. Прывяду гэты дакумент цалкам. У японскай гістарыяграфіі ён пралье святло на многае.

У левым кутку дакумента: «Аб калежскім саветніку Гашкевічу і прыбылым сюды японцу».

---

[1] У «Вялікім японскім біяграфічным слоўніку» пра Масду Кумедзаймона сказана: «Будучы паводле свайго характару сумленным, адкрытым, вялікадушным, рана палюбіў ваеннае мастацтва і больш за ўсё цікавіўся артылерыяй».

Сам дакумент:

«Сярод афіцэраў і матросаў фрэгата «Дыяна», узятых у палон англічанамі ў час пераезду іх з Японіі да нашых берагоў, знаходзіліся калежскі саветнік Гашкевіч, камандзіраваны з Міністэрства замежных спраў у якасці перакладчыка да генерал-ад'ютанта Пуцяціна, і яшчэ адзін вучоны японец, які ў бытнасць графа Пуцяціна ў Японіі дапамагаў Гашкевічу ў вывучэнні японскай мовы і ў складанні расійска-японскага слоўніка і пасля пажадаў выехаць у Расію.

Асобы гэтыя па прыездзе з іншымі нашымі палоннымі ў Англію адпраўлены былі ў Расію і цяпер прыбылі ў Пецярбург.

Прымаючы да пашаны працу і нягоды, якія зазнаў калежскі саветнік Гашкевіч у час экспедыцыі ў Японію, я лічыў бы справядлівым выдаць яму ў аднаразовую дапамогу з каштарысных сум Міністэрства замежных спраў пяцьсот рублёў срэбрам, тым больш што пры крушэнні фрэгата «Дыяна» ён страціў усё, што пры ім знаходзілася ў гэтай экспедыцыі. Прыбыламу ж разам з ім японцу, які пры ўстаноўленых у нас зносінах з Японіяй можа быць вельмі карысны, я меркаваў бы выдаць таксама ў дапамогу, на абзавядзенне сябе адзеннем, аднаразова сто пяцьдзясят рублёў срэбрам і звыш таго прызначыць яму па пяцьсот рублёў срэбрам на год утрымання, лічачы з дня прыбыцця ў С.-Пецярбург, і з аднясеннем гэтых апошніх выдаткаў на належную Міністэрству замежных спраў суму на азіяцкіх пасланцаў; успомненага тут японца прылічыць да ведамства Аз-га д-та.

Даносячы аб гэтым Вашай Імператарскай Вялікасці бяру смеласць прасіць найвышэйшага пажадання».

Аляксандр II сваёй рукою напісаў «Выканаць. У С.-Пецярбургу 5 мая 1856 г.»

У гэтым дакуменце гасудару імператару не называецца імя вучонага японца, што прыбыў з Гашкевічам у Расію. Але ўжо праз два тыдні з'явіўся новы дакумент, які меў хаджэнне ў межах будынка МЗС. Дэпартамент гаспадарчых і падліковых спраў прадпісваў казначэю «адпусціць... японцу Масду Кумедзаймону: 1-е 150 руб. срэбрам у аднаразовую дапамогу, на абзавядзенне яго адзеннем; і 2-е 12 руб. 50 кап., што належаць яму з прызначанага ўтрымання па 500 руб. срэбрам у год, з 22-га красавіка, г. зн. з дня прыбыцця яго сюды да 1 мая гэтага года, а ўсяго: сто шэсцьдзясят два рублі пяцьдзясят капеек срэбрам».

Цяпер мы дакладна ведаем і японскія гісторыкі могуць адзначыць у біяграфіі Масды Кумедзаймона, што ён прыбыў у Санкт-Пецярбург 22 красавіка 1856 года. І з гэтага моманту ні ў якіх дакументах ён больш не згадваецца як Уладзімір Прыбылоў, а толькі — Масда Ку-

медзаймон. Акрамя таго, «залічыўшы да ведамства Азіяцкага дэпартамента», міністр А. М. Гарчакоў даў «вучонаму японцу» магчымасць заняць пасаду перакладчыка, не маючы чына. Кажучы сучаснаю моваю, Масду Кумедзаймону далі выпрабавальны тэрмін. Патрэбен быў час, каб ён праявіў сябе. На мой погляд, у той момант не было больш важнай работы, чым складанне японска-рускага слоўніка.

Усе доўгія месяцы, калі Іосіф Антонавіч Гашкевіч знаходзіўся ў Хэдзе, пасля ў палоне, ён працягваў займацца японскай мовай, рабіў чарнавыя накіды будучага слоўніка, а вярнуўшыся ў Расію, узяўся за справу з патроенай энергіяй. Дырэктар Азіяцкага дэпартамента Я. П. Кавалеўскі ўсяляк падтрымліваў свайго падначаленага. Аднойчы Гашкевіч, даючы справаздачу пра зробленую работу, як бы незнарок сказаў, што хацеў бы мець вучняў: не студэнтаў з факультэта ўсходніх моў Санкт-Пецярбургскага або Казанскага ўніверсітэтаў, а звычайных хлопчыкаў узростам 13—15 гадоў, старанных да навукі. І сам жа прапанаваў звярнуцца да ўпраўляючага Марскога міністэрства адмірала Ф. П. Врангеля. Гашкевіч ведаў, што ў Кранштаце ёсць кантаністы, прымацаваныя да 1-га вучэбнага марскога экіпажа. Генерал-маёр Кавалеўскі не палічыў ідэю Гашкевіча утопіяй, яго, як усякага начальніка, турбавала адно: на якія сродкі ўтрымліваць вучняў?

Да пісьма дырэктара Азіяцкага дэпартамента адмірал Ф. П. Врангель аднёсся з разуменнем, Кожную восень з Кранштата да берагоў Рускага Прымор'я адпраўляліся адзін або два фрэгаты. Аднак абсталяванай гавані для стаянкі суднаў у тых мясцінах яшчэ не было. Заключыўшы дагаворы з Расіяй і ЗША, Японія адкрыла для замежных суднаў тры порты — Сімоду, Нагасакі і Хакадатэ. Знаходзячыся ў чужых портах, даводзілася мець зносіны на мове жыхароў гэтай краіны. Без талковых перакладчыкаў капітанам і камандам не абысціся.

...Хлопчыкі ў матроскіх бушлатах прыйшлі на кватэру да Гашкевіча, але яго дома не аказалася. Іх прыняў хударлявага целаскладу чыноўнік у віцмундзіры, на ламанай рускай мове прапанаваў прысесці, а сам працягваў нешта чараваць над чайнікам. На ўсю моц кіпеў самавар. Юнгі не маглі адарвацца ад твару чыноўніка: ён быў жаўтлявы і гладкі, вочы вузкія з прыжмурам, вусны выцягнутыя ў нітачку, лоб высокі, валасы чорныя з залысінамі. У галовах юнгаў варушыліся здагадкі: хто ён? Кітаец? Мангол? Японец? Відаць, той самы японец, пра якога гаварылі матросы з загінуўшай «Дыяны».

Чыноўнік у віцмундзіры аказаўся маўклівым, але гасцінным. Ці ж можна пакінуць юных гасцей без пачастунку? А адным з рэдкіх пачастункаў быў японскі чай. Не ўсе яго пілі, не ўсе ўмелі завар-

ваць. Чыноўнік з азіяцкім тварам — умеў. Ён гатаваў яго па-свойму і ганарыўся тым, што чай у яго асаблівы.

— Прашу да стала, будзем чаё-ёўні-ічаць. Так па-руску?

Юнгі моўчкі кіўнулі. І ад чаю не адмовіліся. Час ішоў, але калежскі саветнік Гашкевіч не прыходзіў. Выпрашылі ветліва адкланяцца.

Раптам дзверы адчыніліся, у пакой увайшоў высокі моцны пан у крылатцы. Ён вымавіў:

— Даруйце, хлопчыкі, крыху прыпазніўся.

Увайшоўшы назваў сябе, па-сяброўску павітаўся з кожным за руку. Адзін з юнгаў, відаць, быў за старшага, прадставіўся:

— Альфрэд Малендра, юнга першага марскога экіпажа,— і падаў паперу Гашкевічу.

У дакуменце на бланку Інспектарскага дэпартамента паведамлялася, што да яго адкамандзіравалі траіх юнакоў, каб вучыцца японскай мове. І тут жа, крыху ніжэй, што на ўсіх траіх Марское ведамства выдзяляе 55 з паловай капеек кармавых і правіянцкіх. І нічога не гаварылася пра тое, дзе хлопчыкі павінны жыць увесь гэты час. Давялося пакінуць у сябе. Пацясніцца. Адзін з пакояў ператварыўся ў матроскі кубрык.

На наступны ж дзень пачаліся ўрокі. Цікавасць у юнгаў да японскай мовы была настолькі вялікая, што за першы ж тыдзень перапісалі ад рукі азбуку з дапамогаю японца, які папрасіў юнгаў, каб звалі яго Уладзімірам Іосіфавічам. Кожны склаў для сябе слоўнічак. Хлопчыкі ўважліва слухалі настаўніка-японца, паўтараючы мудрагелістыя назвы і незнаёмыя словы. У доўгія зімовыя вечары юныя і дарослыя мужчыны збіраліся за агульным сталом. Усе яны былі, як вялікая сям'я,— беларус Гашкевіч, японец Масда Кумедзаймон, паляк Альфрэд Малендра, Фёдар Карліёні — грэк, Карл Юганаў — з абруселай нямецкай сям'і.

Забягаючы наперад, скажу: пройдуць гады, лёс гэтай тройцы юнгаў будзе цесна звязаны з Японіяй. Найперш яны прымуць праваслаўе. Малендра Альфрэд стане Малендай Аляксандрам Станіслававічам; Карліёні Фёдар — Карліёніным Фёдарам Якаўлевічам, Юганаў Карл — Юганавым Аляксандрам Аляксандравічам. Пачнуць службу тлумачамі на караблях эскадры Ціхага акіяна пад камандаваннем контр-адмірала А. А. Папова. 12 снежня 1862 года па прадстаўленні расійскага імператарскага консула ў Хакадатэ І. А. Гашкевіча ім нададуць чын унтэр-афіцэраў. Яны застануцца на вольнанаёмнай службе пры консульстве. След А. А. Юганава губіцца ў 1863 годзе. Ф. Я. Карліёнін будзе пераведзены ў Расійскае імператарскае консульства ў Нагасакі. Там і памрэ ў 1875 годзе на трыццатым годзе жыцця. Яго пахаваюць у японскім горадзе на

Рускіх могілках. Надмагільны помнік збярогся, але ў жахлівым стане. А. С. Маленда да 1875 года будзе знаходзіцца ў Хакадатэ, пасля яму прапануюць службу перакладчыка ў Расійскім пасольстве ў Токіа. Самыя апошнія звесткі пра яго, якія ёсць у аўтара, адносяцца да 1881 года.

Іосіф Антонавіч Гашкевіч і Масда Кумедзаймон узялі на сябе нялёгкую задачу — навучаць японскай мове юнгаў і паралельна складаць слоўнік. Шэсць месяцаў, з дня ў дзень, яны перапісвалі, удакладнялі іерогліфы слоўніка, пачатага, як ужо гаварылася, яшчэ ў вёсцы Хэдзе.

Калі работа падыходзіла да канца, Гашкевіч пачаў адчуваць пачуццё страху перад першымі суддзямі, незнаёмымі яму маладымі людзьмі, якім у будучыні давядзецца вывучаць японскую мову. Быў яшчэ клопат: дзе друкаваць слоўнік? На ўсю сталіцу знайшлася адна друкарня Я. Ёнсена на Вялікай Садовай у доме Ільіна, дзе браліся за гэту справу. Натуральна, арандатар друкарні Р. Голіке паставіў умову: выпісаць з Кітая і Японіі ідэаграмы — пісьмовыя знакі. Лёгка сказаць: выпісаць! На гэта можа пайсці не год і не два, ды і абыдзецца ў некалькі тысяч рублёў.

Пасля доўгіх пошукаў Гашкевічу пашанцавала. Ён знайшоў у друкарні Пецярбургскай акадэміі навук японскія іерогліфы, але не мелася кітайскіх знакаў, неабходных, як сцвярджаў Гашкевіч, «для адлюстравання слоў, якія ўвайшлі ў японскую мову з кітайскай».

У Іосіфа Антонавіча быў сякі-такі вопыт і перакладчыка, і ўкладальніка, і выдаўца. Яшчэ будучы студэнтам апошняга курса Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, ён займаўся падрыхтоўкай да выдання першага перакладу старазапаветных кніг протаіерэя Паўскага з яўрэйскай мовы на рускую. Разам з таварышам па курсу Іванам Захаравым ён адбіраў і рэдагаваў лепшыя спісы перакладу, што збераглся ў рукапісах у студэнтаў акадэміі на працягу многіх гадоў і пераходзілі па спадчыне з курса на курс. Як толькі Біблія была гатова да друку, Іосіф Антонавіч дамовіўся з літаграфшчыкам, і неўзабаве яна ўбачыла свет. На гэтай кнізе ў адрозненні ад другога і трэцяга яе выданняў стаіць прозвішча Гашкевіча і год выдання — 1839-ы.

Арандатару друкарні Р. Голіке Гашкевіч прапанаваў «паяднаць дзеянні друкарні і літаграфіі такім чынам: набраўшы ў друкарні рускі тэкст, адбіць на пераводнай паперы і пасля ўпісаць у пакінутыя для гэтага прабелы японскія і кітайскія словы, перавесці на камень і канчаткова друкаваць у літаграфіі».

17 снежня 1856 года Гашкевіч напісаў данясенне на імя дырэктара Азіяцкага дэпартамента генерал-маёра Я. П. Кавалеўскага. Прыводжу толькі вытрымку:

«З дазволу Вашага правасхадзіцельства я ўмовіўся з трымальнікам прыватнай друкарні і літографам аб цане: па васямнаццаць рублёў кожнаму з іх; першаму — за набор друкаванага аркуша і адбітка на пераводнай паперы, а апошняму — за літаграфаванне гэтага аркуша ў ліку 300 экзэмпляраў на добрай белай паперы вялікага фармату.

Карэктуру ж рускага тэксту і пісанне японскіх і кітайскіх слоў я буду рабіць сам з дапамогаю японца, што знаходзіцца пры мне».

Перад тым як адправіць рукапіс слоўніка ў друкарню, названы японец Масда Кумедзаймон папрасіў Гашкевіча паставіць на тытульным лісце яго ранейшае і самае першае прозвішча, што адносілася да дваранскага роду,— Тацібана но Каасай. Гашкевіч выканаў просьбу. Слоўнік быў выдадзены меней чым праз год. На тытуле «Японска-рускага слоўніка», складзенага І. А. Гашкевічам, стаяў дадатак: «Пры дапамозе японца Тацібана но Каасай» — на рускай і японскай мовах. А ўнізе: «Санктпецярбург 1857».

У чытача, трэба думаць, узнікла пытанне: колькі ж імёнаў і прозвішчаў у японца? У нейкі момант аўтар называў яго Уладзімірам Прыбыловым, пасля — Масдам Кумедзаймонам, цяпер Тацібана но Каасай. Можа, з'явіцца яшчэ адно імя? Так, абавязкова. Але пра гэта крыху пазней.

На жаль, нашы ўсходазнаўцы сур'ёзна не вывучалі гэту асобу. І на сённяшні дзень я не маю дакладных звестак, як з'явілася імя Тацібана но Каасай. Японскія ж крыніцы, з якімі я знаёмы, супярэчлівыя. Напрыклад, Нагасэ Ёсімота, чыноўнік з дэпартамента сельскагаспадарчага гандлю, які пазнаёміўся з Масдам Кумедзаймонам у апошнія гады яго жыцця ў Японіі, заключае: першапачатковае імя ў майго героя было Тацібана Кумэдзо. Другі японскі аўтар па імені Моры ў сваіх «Падарожных нататках пра плаванне ў Расію» сцвярджаў, што Каасай да таго, як пакінуць радзіму, меў два прозвішчы — Тацібана і Масуда, і два імені — Каасай і Кумэдзо. Упамінаецца ён і ў такім спалучэнні, як Масуда Каасай.

Вось, паспрабуй разбярыся. Я не збіраюся аспрэчваць пункт погляду ўспомненых японцаў, я пішу аповесць пра самурая ў Расіі, а не пра самурая ў Японіі. Адно мне незразумела: чаму, жывучы ў Расіі болей як паўтара года, на ўсіх дакументах і распісках былы бонза ставіў уласнаручна «Масда Кумедзаймон».

З'яўленне «Японска-рускага слоўніка» стала буйнейшай падзеей ў навуковым свеце Санкт-Пецярбурга. Аднымі з першых адгукнуліся Імператарская Санкт-Пецярбургская акадэмія навук, Міністэрства народнай асветы, Міністэрства марскога флоту, Імператарская публічная бібліятэка і Румянцаўскі музей.

Вось што гаварылася ў разгорнутай рэцэнзіі Імператарскай Санкт-Пецярбургскай акадэміі навук:

«Уся вучоная Еўропа не мела такога японскага слоўніка, які складзены п-м Гашкевічам. Японскія слоўнікі, еўрапейцамі складзеныя ў XV і XVI стагоддзях, з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю, і ў іх усе японскія словы напісаны лацінскімі літарамі з захаваннем партугальскага вымаўлення. Толькі ў 1830 годзе з'явіўся невялікі японскі слоўнік з англійскім перакладам Медгарста, але гэтая кніга, з-за малога свайго аб'ёму, зусім не можа быць карыснай для заняткаў. Больш за тое, складальнік гэтага слоўніка быў знаток кітайскай, які не ведаў зусім японскай мовы, і таму не мог у сваім маленькім слоўніку пазбегнуць самых грубых памылак. Зіблд напісаў два лексіконы, з якіх у адным кітайскі лексікон з японскім вымаўленнем, а ў другім, з-за няпэўнасці дакладных значэнняў, японскія словы без усякага тлумачэння на якую-небудзь еўрапейскую мову, з прадастаўленнем самому еўрапейцу, які займаецца японскай моваю, вызначаць значэнне кітайскага слова, і таму недаступны для еўрапейцаў, якія не ведаюць кітайскай мовы. Такім чынам п-ну Гашкевічу належыць поўны гонар, таму што ён пераўзышоў усіх еўрапейцаў у дастаўленні нам такога слоўніка...»

Тут я спынюся. Паверце, чытач, мне на слова, што далей сказана многа добрых слоў пра Іосіфа Антонавіча Гашкевіча.

Але ў той самы час, калі рыхтавалася гэта рэцэнзія, Акадэмія навук паслала «Японска-рускі слоўнік» у Парыж знаўцу японскай мовы, члену савета парыжскага азіяцкага таварыства, вядомаму сінолагу Ляону дэ Рані. Вось які водгук даслаў у Санкт-Пецярбург французскі вучоны:

«Увогуле ж японска-рускі слоўнік п. Гашкевіча ёсць выдатная праца, за якую нельга не аддаць адпаведнай пахвалы працавітасці і вялікім ведам, якія патрэбны былі для яе выканання. Хуткае з'яўленне гэтай кнігі ў друку, чым п. Гашкевіч апярэдзіў падобныя ж выданні, пачатыя раней за яго, тым больш павялічваюць яе значэнне, што яна ў цяперашні час аказвае вялікую паслугу Еўропе і асабліва Расіі, якая, вядома, зразумела, што Японія ёсць краіна, апярэдзіўшая іншыя краіны Усходняй Азіі і да якой павінны больш і больш скіроўвацца позіркі марскіх дзяржаў Захаду».

Пасля будуць яшчэ рэцэнзіі ў часопісах «Отечественные записки», «Известия Императорского Русского географического общества», у розных бібліяграфічных даведніках па гісторыі рускага японазнаўства.

Апынуцца на вяршыні поспеху Гашкевічу і Масду Кумедзаймону памаглі таварышы па службе, знаўцы японскай мовы Захараў і

Лявонцьеўскі, але, бадай што, найперш Ягор Пятровіч Кавалеўскі, дырэктар Азіяцкага дэпартамента, які паверыў у іх працу, праявіў асаблівы, што выходзіў за службовыя рамкі, клопат. Міністр замежных спраў Аляксандр Міхайлавіч Гарчакоў паслаў у Царскае Сяло данясенне Аляксандру II. Ён знайшоў пераканаўчыя словы, каб ахарактарызаваць работу свайго чыноўніка калежскага саветніка Гашкевіча і японца Кумедзаймона (Тацібана но Каасай), якія столькі ведаў, сіл і энергіі ўлажылі ў складанне «Японска-рускага слоўніка».

Міністр пісаў: «Кладучы на найвысачэйшы Вашай Імператарскай Вялікасці погляд экзэмпляр азначанага слоўніка, прымаю смеласць хадайнічаць аб усеміласцівай узнагародзе кал. сав. Гашкевіча за гэту працу знакам ордэна св. Ганны 2-ой ступені, імператарскай каронаю ўпрыгожаным, а японцу Кумедзаймону, які знаходзіцца пры Азіяцкім дэпартаменце, чына калежскага рэгістратара з прызначэннем яго на абавязковую службу па ведамству Аз. дэп. Праца абодвух такая вялікая і пахвальная, звыш таго, як увагу да асаблівай цяжкасці складання, я меркаваў бы магчымым выдаць, як прыклад для іншых, з сумы па штату Міністэрства замежных спраў на азіяцкіх пасланцоў, належны кал. сав. Гашкевічу — гадавы аклад жалавання, якое ён атрымлівае па званню перакладчыка, г. зн. 600 р. срэбр., а японцу Кумедзаймону — 250 р. срэбр., што складзе палавіну гадавога яго ўтрымання».

На арыгінале рукою імператара напісана: «Выканаць. У Царскім Сяле, Кастр. 16-га дня 1857 года».

Тут я хацеў бы нагадаць чытачу: раней у дакументах, якія праходзілі па Азіяцкім дэпартаменце, Масда Кумедзаймон упамінаўся як «японец», «вучоны японец», «японец, вывезены Гашкевічам» і гэтак далей. У працытаваным данясенні А. М. Гарчакова гасудару імператару ён упершыню называецца поўным уласным імем. На той час гэта вялікі гонар. Вядома, Аляксандр II, можа, і не запомніць імя Кумедзаймон, як ён мог не ведаць і Гашкевіча, але тое, што імя японца фігуруе ў дакуменце, прадстаўленым цару, гэта многа азначала для іншаземца.

Было зразумела, што Масда Кумедзаймон вытрымаў выпрабаванне. Паўтара года, пражытыя ў Пецярбургу, не прайшлі марна. Раней ён не смеў і думаць пра тое, каб на сваёй радзіме атрымаць нейкае права на ўвагу з боку імператара або сёгуна, а тут, у халодным дзяржаўным Пецярбургу, яго імя Тацібана но Каасай — на тытульным лісце «Японска-рускага слоўніка», царскай міласцю выдана аднаразовая грашовая ўзнагарода, у адпаведнасці з пасадаю прысвоены чын калежскага рэгістратара. Цяпер ён афіцыйна прыняты на дзяржаўную службу.

## II

Юнгі з'ехалі з кватэры яшчэ на пачатку верасня. А ў канцы месяца яны адплывалі на Далёкі Усход. Іосіф Антонавіч лічыў, што надышоў тэрмін Маленду, Карліёніну і Юганаву пусціцца «ў самастойнае плаванне». У рапарце на імя дырэктара Азіяцкага дэпартамента дакладваў:

«Паміж іншым яны вывучылі абедзве японскія азбукі, бегла чытаюць і пішуць і вывучылі некалькі напісаных для іх размоў з падрабязным разборам кожнага слова, так што ў звычайных выпадках могуць зразумець і перагаварыць па-японску. Далейшае ўдасканаленне іх у мове будзе залежаць ад практыкі, якую яны маглі б мець на месцы, калі будуць адпраўлены на суднах, што цяпер адыходзяць...»

Такім суднам аказаўся вінтавы фрэгат «Аскольд». Гашкевіч і Кумедзаймон абяцалі сваім вучням прыйсці на праводзіны. Апрача гэтага, Іосіф Антонавіч павінен быў перадаць капітану фрэгата Івану Сямёнавічу Ункоўскаму свой аўтарскі экзэмпляр слоўніка з аўтографам.

Збіраючыся ў Кранштат, Гашкевіч сутыкнуўся з пэўнымі фармальнасцямі. Масду Кумедзаймону трэба было мець пашпарт і праязныя паперы. Тое, што ён з'яўляецца чыноўнікам Азіяцкага дэпартамента МЗС, павінен засведчыць Санкт-Пецярбургскі паліцмайстар. У Кранштаце было асобае ваеннае губернатарства ў межах Санкт-Пецярбургскай губерні. Кранштат — стаянка Балтыйскага флоту. Вось чаму такія строгасці. Клопаты Гашкевіча закончыліся поспехам, на яго руках была папера з казённай рэзалюцыяй: «Аб адсутнасці перашкод на выезд з Санкт-Пецярбурга». Вярнуўшыся дамоў ад паліцмайстра, Гашкевіч сказаў Кумедзаймону:

— Вас трэба перахрысціць у праваслаўную веру. Гэта дасць права быць рускім падданым. Падумайце ў вольны час.

У Кранштат з'ехаліся саноўныя асобы, што мелі адносіны да флоту. Усе ведалі — вось-вось з'явіцца вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч, брат гасудара імператара. З нядаўняга часу ён — шэф флоту, мае чын генерал-адмірала. Чакала вялікага князя і каманда «Аскольда», дзеля якой ён уласна і прыехаў у Кранштат.

Наспех пабачыўшыся з Ункоўскім і перагаварыўшы пра сваіх вучняў юнгаў, Гашкевіч спусціўся ў жылую палубу, у якой адвялі месца юным перакладчыкам. Масда Кумедзаймон неадлучна следаваў за сваім патронам. Іосіф Антонавіч не збіраўся доўга затрымлівацца на фрэгаце, шчыра кажучы, яму хацелася завяршыць візіт да з'яўлення вялікага князя. Ён не любіў круціцца на вачах у начальства, якое б высокае яно ні было.

Удосталь нагаварыўшыся з юнгамі і развітаўшыся, госці пачалі падымацца на верхнюю палубу. Фрэгацкая каманда ўжо стаяла ў страі. Масда Кумедзаймон застыў: за дзясятак крокаў ад яго і Гашкевіча, акружаны світаю, знаходзіўся генерал-адмірал. Прывітаўшыся з «аскольдаўцамі», Канстанцін Мікалаевіч з Ункоўскім адышлі ў адміральскую каюту. Гашкевіч здагадаўся, што час ісці. На палубе пасля таго, як распусцілі каманду, ім сустрэўся старшы афіцэр лейтэнант Павел Аляксеевіч Зялёны. У бытнасць на «Паладзе» і «Дыяне» ён быў у сяброўскіх адносінах з Гашкевічам.

— Спяшаецеся, панове, у сталіцу? Дарэмна. Капітан і я будзем рады бачыць вас у кают-кампаніі на развітальным абедзе,— сказаў ён, пасля звярнуўся да японца:

— Вам падабаецца ў нас у Расіі?

— Такога прытулку... каб усе былі бессмяротныя... няма ні ў вас, ні ў нас... у старажытнай Ямата,— падбіраючы словы, павольна адказаў Масда Кумедзаймон.

Лейтэнант Зялёны неяк сумна ўсміхнуўся і ўздыхнуў. І былы бонза заўсміхаўся, гледзячы ў маладжавы твар афіцэра...

Князь Аляксандр Міхайлавіч Гарчакоў, які атрымаў выхаванне ў Царскасельскім ліцэі, быў таленавітым дыпламатам. Гэта заўважылі ў Еўропе па першых кроках яго дзейнасці, асабліва Бісмарк. Пройдуць гады, і гісторыкі Расіі высока ацэняць практычную дзейнасць міністра замежных спраў. У 1871 годзе на Лонданскім кангрэсе ён загладзіць ганьбу Парыжскага міру 1856 года. Артыкулы трактата, што абмяжоўвалі правы Расіі на Чорным моры, будуць адменены. Але адвечная барацьба за Канстанцінопаль на гэтым не астыне. Аляксандр II прымусіць свайго вернага канцлера выкручвацца, «апошнімі спробамі ратаваць мір», а ён, цар, стане рыхтавацца да вайны.

Усё гэта адбудзецца пазней. Іосіф Антонавіч Гашкевіч к гэтаму часу пойдзе ў адстаўку і зоймецца навукаю. Але цяпер, гэта значыць халодным снежаньскім ранкам 1857 года, князю Гарчакову цікава было даведацца, што яго падначалены, калежскі саветнік Гашкевіч, не проста чыноўнік VI класа, але і падарожнік, які пабываў у Японіі, Кітаі і Афрыцы, у ліку першых з Расіі. Праўда, міністр тое-сёе ведаў пра гэта з фармулярнага спіса Гашкевіча, тое-сёе чуў ад графа Пуцяціна, але не надаваў гэтаму вялікага значэння. Для яго Гашкевіч — звычайны чыноўнік Азіяцкага дэпартамента. Чыноўнікамі Міністэрства замежных спраў былі ў свой час Аляксандр Пушкін — ліцэйскі сябар князя Гарчакова і Аляксандр Грыбаедаў. Адносіўся ж да іх граф Несельродэ, былы міністр, як да простых чыноўнікаў, а

не як да вялікіх рускіх паэтаў. А як загадаеце паступаць яму, цяперашняму міністру? Не, князь не гэтакі: пара лібералізму яшчэ не наступіла. Чаго добрага, міне час, і гэты калежскі саветнік зойме яго міністэрскі пост! Быў жа выпадак з самім Гарчаковым, калі Несельродэ ўбачыў у ім свайго наступніка. У 20-х гадах, праз пяць гадоў пасля заканчэння Царскасельскага ліцэя, дзядзька Аляксандра Гарчакова — князь Андрэй Іванавіч, чалавек даволі храбры і багаты, прыехаў аднойчы да графа Несельродэ з просьбаю прызначыць пляменніка ў камер-юнкеры.

— Як?! Яго, вашага пляменніка, Аляксандра Гарчакова? Ды ні за што! — усклікнуў Несельродэ.— Паглядзіце, ён ужо цяпер меціць на маё месца.

З таго часу ў міністра нарадзілася непрыязнасць да Гарчакова. Пры ўсякім зручным выпадку ён спрабаваў прынізіць маладога дыпламата. Неяк Аляксандр Гарчакоў пісаў ноту французскаму ўраду, якая пачыналася словамі: «Гасудар і Расія». Граф Несельродэ, вырваўшы з рук падначаленага ліст, закрычаў:

— Мы знаем толькі аднаго цара, нам справы няма да Расіі!

І ўсё-такі Несельродэ аказаўся пракрокам: 16 красавіка 1856 года яму давялося аддаць міністэрскі партфель князю Гарчакову.

...У вялікай прыёмнай чакаць давялося нядоўга.

У Гарчакова настрой быў урачыста-прыўзняты, ён ззяў, як абраз Мікалая-цудатворцы, працёрты лампадным алеем.

— Што вы збіраецеся рабіць пасля такога трыумфу? Ваш слоўнік мы будзем прадстаўляць у Акадэмію навук на Дзямідаўскую прэмію. Вы заслужылі такога гонару, Іосіф Антонавіч.

Гашкевіч насцярожыўся. Гэта яго здзівіла. Прызнацца, ён болей сціпла ацэньваў сваю працу.

— Але я не для гэтага запрасіў вас,— працягваў міністр.— Мне ўчора падалі цудоўную думку. Угадайце хто? — Гарчакоў зрабіў паўзу.

Іосіф Антонавіч пацiснуў плячыма.

— Вы ўзбуджаеце ў мне цікавасць, ваша высокаправасхадзіцельства.

— Хацеў заінтрыгаваць, прызнаюся — хацеў. Вяртаецца з Японіі капітан 1-га рангу Пасьет.

— Канстанцін Мікалаевіч? — абрадаваўся Гашкевіч.— Ратыфікаваў трактат? Гэта ашаламляльная навіна. Я вас віншую, ваша правасхадзіцельства. Гэта перамога рускай дыпламатыі.

Вярнуўшыся з палону, Гашкевіч не змог пабачыцца з Пасьетам. 5 мая 1856 года былы флаг-афіцэр адмірала Я. В. Пуцяціна адбыў зноў у Японію для ратыфікацыі трактата. І вось навіна — Пасьет хутка прыбудзе ў Пецярбург.

Міністр замежных спраў усё яшчэ вывучаў настрой Гашкевіча:

— Дык вось, васпан, мне ўчора падалі цудоўную думку... Граф Пуцяцін лічыць...— Гарчакоў зрабіў паўзу, ад якой Іосіфу Антонавічу зрабілася вусцішна.— Так, менавіта граф Пуцяцін лічыць, што вам трэба ехаць консулам у Японію. Прызнаюся, мы атэставалі гасудару імператару яшчэ аднаго чыноўніка, але канчатковы выбар прыпаў на вас, васпане Іосіф Антонавіч.

У першае імгненне Гашкевіч глядзеў на міністра з недаверам, а потым з цяжкім пачуццём безнадзейнасці, адчаю.

— Я бачу, вам не да душы царская ласка? — кажа Гарчакоў, быццам адгадваючы думкі чыноўніка.— Вам аказваецца давер быць першым расійскім імператарскім консулам. Першым, васпан! У вашы сорак гадоў я быў гатовы паехаць да чорта на рогі.— Міністр лена пацягнуўся ў крэсле.— Заўтра апоўдні з'явіцеся да мяне з дырэктарам дэпартамента.

Аўдыенцыя скончылася. Гашкевіч выйшаў ад міністра. Што рабіць? Што рабіць? Сваёй будучыні вучонага-сінолага цяпер ён не мог бачыць, яна знікла ў шчыльным воблаку туману.

Але найбольш, відаць, пачуўшы навіну, бедаваў Масда Кумедзаймон. Гэта ж без свайго апекуна ён заставаўся адзін-адзінюткі. У дэпартаменце настрой быў іншы. Гашкевіч ці не кожны дзень прымаў віншаванні з нагоды прызначэння консулам. Больш вопытныя, што прарабілі па шмат гадоў за мяжою, давалі парады. А калі гаворка заходзіла пра японца, усе сыходзіліся на тым, што яго трэба хрысціць.

Непадалёку ад дома, дзе жыла сям'я Гашкевічаў, знаходзілася царква Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы. Іосіф Антонавіч з жонкаю Лізаветай Сцяпанаўнай Бахштэйн-Гашкевіч і пасынкам Уладзімірам хадзілі туды па вялікіх святах. Ён ведаў настаяцеля храма протаіерэя Мікалая Садальскага, з якім вучыўся ў Духоўнай акадэміі. Святар выслухаў, якія жыццёвыя клопаты адольвалі прыхаджаніна, падказаў шлях. Паколькі японец дарослы чалавек, да таго ж былы будыйскі бонза, недарэчна было б абставіць хрышчэнне будзённа. Трэба, каб прысутнічала высокапастаўленая асоба, пажадана, каб з акружэння царскага двара. Гэта надасць аўтарытэт прыходу і эмацыянальна паўплывае на хроснага сына. У святым Пісанні сказана: «Чалавек памірае для жыцця плоцевага, грэшнага і адраджаецца ў жыццё духоўнае, святое».

Пра з'яўленне японскага бонзы ў Пецярбургу ў свецкім грамадстве было вядома. Той-сёй з саноўных асоб пажадаў паглядзець на заморскага госця.

Міністр А. М. Гарчакоў сябраваў калісьці з паэтам Іванам Пятровічам Мятлевым, які на час апісваемых падзей ужо памёр. Іх некалі пазнаёміў ліцэйскі таварыш Гарчакова Аляксандр Пушкін. У асабняку Мятлевых, што на Ісакіеўскай плошчы, часта праходзілі літаратурныя вечары, канцэрты, балі. Гасцінная гаспадыня Праскоўя Іванаўна, удава паэта, была багатая і знатная, сярод яе продкаў сустракаліся генералы і адміралы, губернатары і героі сувораўскіх паходаў. Вось у гэтым шыкоўным асабняку ў Праскоўі Іванаўны і быў прыняты Гашкевіч з японцам. Іх прадставіў сам князь Гарчакоў. Вечар удаўся. Масда Кумедзаймон аказаўся добрым апавядальнікам, Гашкевіч ледзь паспяваў перакладаць. І адкрыў для сябе многа новага ў біяграфіі былога самурая (японскія сучаснікі Масды Кумедзаймона сцвярджалі, што былы самурай і бонза часта, у залежнасці ад часу і суразмоўніка, змяняў звесткі пра сябе). Карацей кажучы, Гашкевіч вырашыў прасіць Праскоўю Іванаўну Мятлеву быць хроснай маці Масды Кумедзаймона.

Цяпер я хачу абнародаваць поўнасцю дакумент, які не быў вядомы японскім гісторыкам.

«ПАСВЕДЧАННЕ

Паводле метрычнай кнігі царквы Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы, што на Васільеўскім востраве, за тысяча восемсот пяцьдзясят восьмы год у частцы першай пад № 12-ым значыцца: месяца студзеня дваццаць першага чысла, паводле ўказа С.-Пецярбургскай духоўнай кансісторыі, у адпаведнасці з уласным прашэннем, калежскі рэгістратар Масда Кумедзаймон, што знаходзіцца пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў, з язычніцкай веры Буды, асвечаны св. хрышчэннем, з наданнем яму імені Уладзімір і з прыняццем, паводле яго жадання, прозвішча Яматаў, трыццаці васьмі гадоў, протаіерэем Мікалаем Садальскім. Пры гэтым таінстве пераемнікамі былі: калежскі саветнік Іосіф Антонавіч Гашкевіч і Двара Яго Імператарскай Вялікасці статс-дама, жонка памерлага тайнага саветніка Мятлева ўдава Праскоўя Іванаўна Мятлева, народжаная графіня Салтыкова. У чым і сведчым, з прыкладаннем царкоўнай пячаткі, сталічнага горада С.-Пецярбурга, Дабравешчанскай, на Васільеўскім востраве, царквы:

*Протаіерэй МІКАЛАЙ САДАЛЬСКІ*
*Святар СЯМЁН РУМЯНЦАЎ*
*Святар МІКАЛАЙ ДЭЛІЦВІН*
*Дыякан ВАСІЛЬ ЛАМАНАЎ*
*Студзеня 25-га дня 1858-га года.*
*Даведку чыніў дзячок СЯРГЕЙ РУДАКОЎ».*

З Дабравешчанскага храма паехалі на Ісакіеўскую плошчу ў асабняк хрышчонай маці Праскоўі Іванаўны, дзе добра адабедалі. На развітанне ўдава паэта Мятлева падаравала Уладзіміру Ятатаву зборнік вершаў мужа-нябожчыка. «Яго песня «Ліхтарыкі», спадзяюся, вам спадабаецца. Помніцца, калі я вучыла французскую,— сказала прыдворная статс-дама,— я спявала французскія песенькі, каб лепш ведаць мову». Будучы жанчынаю спагадліваю, Праскоўя Іванаўна абяцала Гашкевічу, які ад'язджаў у Японію, не забываць свайго хрэсніка. Але ёсць падставы думаць, што Яматаў наўрад ці звяртаўся з якой-небудзь справаю да тытулаванай апякункі, у японца яшчэ не зусім выветрыўся горды самурайскі дух.

Напярэдадні ад'езду Іосіф Антонавіч памог Уладзіміру Іосіфавічу напісаць рапарт наступнага зместу ў Азіяцкі дэпартамент:

«Дваццаць першага чысла гэтага месяца я атрымаў св. хрышчэнне, і з прыняццем хрыстовага імені Уладзімір палічыў неабходным перамяніць і японскае прозвішча, як такое, што ўтрымлівае ў сабе сляды будызму, на рускае: Яматаў, ад старажытнай назвы Японіі «Ямата». Як сцверджанне гэтага гонар маю прадставіць у Азіяцкі дэпартамент метрычнае пасведчанне за подпісам прычту і пячаткаю Дабравешчанскай царквы.

*Студзень 28 дня, 1858.*
*УЛАДЗІМІР ЯМАТАЎ».*

Праз тры дні Яматаву было выдана пасведчанне: «Дадзена гэта пасведчанне з Азіяцкага дэпартамента, з прылажэннем казённай пячаткі, калежскаму рэгістратару Уладзіміру Іосіфавічу Яматаву, што знаходзіцца ў ведамстве, для вольнага пражывання на кватэрах у С.-Пецярбургу».

Цяпер Гашкевіч быў спакойны за свайго хрэсніка, якога апякаў, пачынаючы з таго дня, як толькі бонза аказаўся сярод рускіх. Прыняўшы расійскае грамадзянства, праз два з паловаю гады пасля ўцёкаў Уладзімір Яматаў адрэзаў сабе шлях вяртання на радзіму. Для яго найлепшае выйсце — выкарыстаць прадстаўленыя пасады і чын на карысць самому сабе. Дамагчыся добразычлівай увагі таварышаў па службе, як было пры Гашкевічы, і начальства — тады кар'ера забяспечана. Увогуле ж, так яно і будзе. Пройдуць гады, Яматаў дaслужыцца да чыноўніка VIII класа, стане калежскім асэсарам.

Праводзячы на Мікалаеўскім вакзале Іосіфа Антонавіча з сям'ёю ў Японію, Уладзімір Яматаў адчуваў, як яго ахоплівае пачуццё тугі і самоты. Але што ён мог зрабіць? Яго сябар і апякун быў такім самым паднявольным і службовым чалавекам, як і ён сам. Будзь што будзе! Яго лёс — у ягоных руках.

«Міністэрства замежных спраў
ДЭПАРТАМЕНТ АЗІЯЦКІ

Лістапад 11 дня 1857 года
№ 42294

ПАНУ ЎПРАЎЛЯЮЧАМУ МАРСКОГА МІНІСТЭРСТВА

*У мэтах выканання высачэйшай волі Міністэрства замежных спраў прыступае да заснавання консульстваў Хакадатэ, выбрала ўжо чыноўніка, якому гэта консульства будзе даручана, і заклапочана складаннем яму інструкцыі.*

*Лічу доўгам паведаміць пра тое Вашаму правасхадзіцельству, мяркуючы, што Марское міністэрства верагодна таксама прызнае патрэбным забяспечыць консула настаўленнямі.*

*Разам з тым звяртаюся да Вашага правасхадзіцельства з пакорлівейшай просьбаю ўшанаваць мяне паведамленнем, ці не мог бы консул са сваім сямействам зрабіць пераезд адсюль у Японію на казённым судне, якое, як вядома Міністэрству замежных спраў, будзе адпраўлена вясною ў Ціхі акіян.*

Таварыш міністра І. ТАЛСТОЙ».

# ВЫСАЧЭЙШАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ

## I

Міністэрства замежных спраў знаходзілася за два крокі ад Дварцовай плошчы, недалёка ад будынка Адміралцейства. І ўсё роўна, нягледзячы на малую адлегласць, пісаліся паперы. Упраўляючыя міністэрстваў, дырэктары дэпартаментаў, чыноўнікі ўсялякіх рангаў не любілі сустракацца адзін з адным у службовых кабінетах, пагарджалі дзелавымі размовамі за канцылярскім сталом. Яны страчылі паперы. Кур'еры адносілі. І так з дня ў дзень. Аўтарытэт паперкі быў такі вялікі, што словы амаль нічога не значылі. Словы не цаніліся, як і ногі кур'ера. Калі перачытаць перапіску двух міністэрстваў — замежных спраў і марскога — аб стварэнні консульства ў Японіі і аб прызначэнні чыноўнікаў, дык недасведчанага чалавека можа ахапіць жах: консул са сваёй світай даўно ўжо быў у Краіне ўзыходзячага сонца, а перапіска пра яго, пра склад консульства, ваенна-марскога агента, доктара, святара, пра грошы, пра судны, якія павінны перавезці сям'ю консула і світу ў Хакадатэ, цягнулася яшчэ паўтара года. У гэтым сіла і моц паперы!

Казённае судна так і не было адпраўлена ў Ціхі акіян, таму расійскаму імператарскаму консулу, калежскаму саветніку Іосіфу Антонавічу Гашкевічу, давялося браць падарожную і прагонныя грошы на шасцёрку коней[1].

Жонцы Гашкевіча Лізавеце Сцяпанаўне і пасынку Уладзіміру ўсё было ў навіну. Старая сталіца Масква, славуты купецкі Ніжні Ноўгарад, казачнае Заўралле і таёжная Сібір, светлыя сподачкі азёраў і бурныя разлівы рэк. І вёрсты без канца і краю... Раней ім не даводзілася падарожнічаць, калі не лічыць паездкі з Якімавай Слабады ў Пецярбург і назад.

Дзявочае прозвішча Лізаветы Сцяпанаўны, дачкі чыноўніка, калежскага асэсара,— Захарэвіч, а ў першым замужжы — Бахштэйн.

---

[1] Паводле табелю аб рангах, І. А. Гашкевіч належаў да чыноўнікаў VI класа і прыраўноўваўся да палкоўнікаў, капітанаў 1-га рангу, обер-сакратароў сінода і сената — ім па чыну належала шэсць коней.

Яе муж-нябожчык быў маёрам. Цяпер разам з сынам Уладзімірам яны ехалі ў далёкую дзяржаву, пра якую яшчэ мала ведалі ў Расіі, у Краіну ўзыходзячага сонца.

Перад самым ад'ездам з Пецярбурга Іосіф Антонавіч завёў дзённік. У яго ён заносіў чарнавыя запісы пісем, што адпраўляліся ў Азіяцкі дэпартамент. Няма сэнсу прыводзіць іх поўнасцю, каб не стамляць чытача. Вось некалькі вытрымак, якія прасвятляюць, чаму Гашкевіч затрымліваўся ў дарозе.

Ліст дырэктару Азіяцкага дэпартамента Я. П. Кавалеўскаму:

«Міласцівы пане Ягор Пятровіч!

Прыбыў разам з п. Авандарам у Маскву 9-га чысла. Мы ў гэтыя дні поўнасцю падрыхтаваліся да прадаўжэння свайго шляху і адправіліся сёння а 10 г. раніцы; хвароба маёй жонкі ў апошнія дні значна ўзмацнілася, і я баюся, каб яна не была прычынаю нашай затрымкі... Я буду мець гонар даводзіць пра ўсё да Вашага правасхадзіцельства.

*Масква. 12 лют. 1858 г. № 3*».

Яшчэ адзін ліст у Азіяцкі дэпартамент:

«Хвароба маёй жонкі пасля мая была прычынаю затрымкі мяне ў Пярмі дваццаць дзён, а да таго ж абсалютнае бездарожжа. Праехаўшы адну станцыю ад Ішыма, я вымушаны быў вярнуцца з-за немажлівасці ехаць па рыхлым снезе, у якім вязлі коні і экіпаж...»

Уздоўж Сібірскага тракту, ад Томска да Іркуцка, мала сустракалася буйных паселішчаў і павятовых гарадкоў, усё больш сёлы ды заімкі, расцягнутыя адзін ад аднаго на 20—40 кіламетраў. Дарога сумная, аднастайная. Бездараж.

З кожным днём адчувалася пацяпленне. Вясна ішла насустрач. На сырых лугах здалёк відны былі чорна-белыя птушкі. Яны скакалі, гулялі, куляліся ў паветры і моцна крычалі: «чые-вы, чые-вы». Гэта кані. Часамі сярод знешняй цішыні раздаваўся добра знаёмы паляўнічым гук: «хоррр-хоррр-хоррр». Пачыналіся вясельныя гульні ў слонак. У прыдарожным беразняку заўзята шумелі вераб'і і стагналі нейкія невядомыя птушкі.

Вечарамі зямля прамярзала, рабілася па-зімоваму холадна. Тарантас скакаў і грукатаў на калдобінах. Ночы цёмныя, хоць вока выкалі. Навокал ні жытла, ні сустрэчных...

Іосіф Антонавіч накінуў на ногі шчыльны, з вярблюджае шэрсці плед і стомлена прыкрыў вочы. Як часта бывае з людзьмі, што прывыклі многа і доўга падарожнічаць, звычайна першую палавіну шляху яны варушаць у памяці мінулае, пражыты ўчарашні дзень, а

другую — раздумваюць аб розных дарожных ліхіх прыгодах, якія могуць напаткаць на кожнай вярсце Сібірскага тракту. Ці мала што здараецца: то коней на станцыі няма, то рысора лопне...

Гашкевіч ўжо перадумаў пра ўсё. Быццам у калейдаскопе, прамільгнулі краіны і партовыя гарады: туманны і панылы Лондан, берагі вострава Хакайда, спякотныя сонечныя дні ў тропіках, маляўнічыя і экзатычныя Сінгапур і Ганконг, напалоханы еўрапейцамі Нагасакі, дажджлівы і ветраны Дэ-Кастры. Тры з паловаю гады праляцелі ў вандраваннях па свеце. Цяпер успаміны пра плаванне, пра Японію, пра побыт у палоне ў англічан адыходзілі на другі план, Наперадзе — ён гэта цвёрда ведаў — чакала работа над слоўнікам. Іосіф Антонавіч успомніў, як на кароткі час паехаў на Беларусь — у Якімаву Слабаду.

Перад ім з усёй настойлівасцю паўстала пытанне: ці аставацца яму чыноўнікам Міністэрства замежных спраў? Жыць, як жыў бацька і цяпер жыве ў Кіеве старэйшы брат Іван, ён не збіраўся. Хоць у Пецярбургу вось-вось павінна быць апублікавана багаслоўская кніга «Кіраўніцтва да логікі», напісаная Іванам Антонавічам, які пасля гэтага можа прэтэндаваць на прафесарскую пасаду ў духоўнай семінарыі. Але Іосіфа Антонавіча духоўная кар'ера не задавальняла, яна для яго — нібы леташняе лісце. Гашкевіча-малодшага нястрымна цягнула да вялікай навукі, асабліва да лінгвістыкі, да вывучэння ўсходнеазіяцкіх моў. А сябры ўсялялі думку, што адзінай вартай увагі справай для яго павінна стаць дыпламатыя. Паддаючыся настойлівым угаворам таварышаў па службе ў Азіяцкім дэпартаменце, Іосіф Антонавіч пагадзіўся не кідаць міністэрства.

1857 год стаў годам прызнання Гашкевіча як вучонага-сінолага і як дыпламата. Пайшлі ўшанаванні, ордэны, грашовыя ўзнагароды. На падставе маніфеста ад 26 жніўня 1856 года ён атрымаў медаль цёмнай бронзы на Андрэеўскай стужцы ў памяць Крымскай вайны 1853—1856 гадоў; у рэскрыпце яго імператарскай вялікасці ад 16 кастрычніка 1857 года было аб'яўлена аб узнагароджанні Гашкевіча ордэнам св. Ганны 2-ой ступені з каронаю і адначасова пажалавана 500 рублёў срэбрам. А незадоўга перад гэтым Іосіф Антонавіч атрымаў «знак адзнакі бездакорнай службы за 15 гадоў». Імператарскі Казанскі ўніверсітэт прыслаў яму запрашэнне заняць пасаду прафесара кафедры японскай мовы, якую намерваліся стварыць.

У 20—40-х гадах мінулага стагоддзя рускае ўсходазнаўства набыло трывалую навуковую базу для свайго паспяховага развіцця. Казань стала цэнтрам дзейнасці многіх рускіх вучоных-усхода-

знаўцаў. Даволі сказаць, што ў 1830-х гадах у мясцовым універсітэце былі створаны кафедры мангольскай (1833), кітайскай (1837) і крыху пазней (1844) маньчжурскай моў. «Усім вядома,— пісалі «Отечественные записки»,— што ўсходняе аддзяленне філасофскага факультэта ў Казані ёсць не толькі першае пасярод рускіх навучальных устаноў... але нават займае адно з ганаровых месцаў у коле падобных устаноў і вучоных азіяцкіх таварыстваў усёй Еўропы».

Паездка ў Казань не адбылася, хоць, прызнацца, там была такая-сякая зачэпка, акрамя афіцыйнага запрашэння. Ва ўніверсітэце выкладаў Васіль Паўлавіч Васільеў, з якім Гашкевіч дзесяць гадоў прабыў у Кітаі. Васільеў, можна сказаць, быў старажылам у гэтым волжскім горадзе. Тут ён скончыў універсітэт са ступенню магістра татарскай славеснасці, адсюль паехаў у Пекін і зноў вярнуўся на прафесарскую вакансію. Удваіх было б лягчэй. Але, як ужо вядома чытачу, пасля размовы з міністрам князем Гарчаковым, становішча Гашкевіча ў дэпартаменце крута змянілася: учарашні драгаман рабіўся даверанай асобаю Расіі ў Японіі.

## II

Ямшчык трапіўся мясцовы, дарогу ведаў як свае пяць пальцаў, пацяшаў рознымі гісторыямі, а часамі выліваў душу. Што рабіць у дарозе, калі брудныя, мокрыя, змучаныя доўгаю і маруднаю яздою людзі пакутуюць ад сумоты? Іншага выйсця няма, як шукаць ратунку ў ямшчыцкіх размовах.

— Вось вы многа ўсялякага пабачылі на сваім вяку, ваша высокаблагароддзе, сёння да японцаў шлях трымаеце, а я, сібірак, далей за сваю акругу нікуды не пранік.— Ямшчык гаварыў няспешна, крыху ахрыплым голасам.— Важу паноў чыноўнікаў, кур'ераў з важнымі паперамі. Па чутках ведаю многа. Не ў сілах толькі перадаць усяго. Паводле нашай, сібірскай, думкі ў вас у Расіі не ўсё гладка-соладка. Кажуць, быццам губернатар наш Мураўёў з царом не ў ладах. Брэшуць, мусіць, га? Адпісваў, быццам, губернатар цару: «Зрабіце боскую літасць. Дайце рускаму мужыку падарожную ў Сібір і на Амур», а цар бытта сказаў: «Рана». Не чулі часам? Не. Значыць, брэшуць. Пляменнік у мяне на Амуры. У сплаўшчыках ходзіць. Надоечы перадаваў з землякамі, што магутней зямлі, чым там, і не знайсці. Зверыны ўсялякае лясное, дзічыны — страх божы. Не збяднець, маўляў, мясцінам тым гадоў сто, а можа, і болей. Эх, далі б волю мужыку! Махнуў бы ён рукою на сваю Маларосію ці Арлоўшчыну якую — падаўся б да нас. А то хто цяпер у Сібір бяжыць? Чалавек па неабходнасці, ад голаду, пабораў ды бізуна, а найбольш — калод-

нікі. Бяжыць, як дзікі, зацкаваны звяруга. Няхай даруе мне Бог, а гэта ж самая праўда і ёсць: вінаваты люд засяляе пакуль нашу матухну-Сібір. Вінаваты... Да слова, Божых людзей, малаканаў, этапам прыгналі. Таксама вінаватыя — раскольнікі. Ядры яго корань. Но-о, рушай!..

Ехаць цяжка, пакутліва цяжка. Калі паглядзець збоку на тарантас, дык здаецца, што ён валюхаецца з боку на бок, як рыбацкі баркас у штармавую пагоду. З цяжкасцю верылася, што гэта чорнае вадкае месіва зямлі ў калдобінах і ўхабах яднала Еўропу з Сібір'ю. Наўрад ці можна было знайсці яшчэ такую паганую дарогу на ўсім свеце, як гэты Сібірскі тракт.

«Барані Божа пускацца ў дарогу вясною»,— падумаў Гашкевіч.

— Нешта сказалі, ваша высокаблагароддзе? — спытаў ямшчык.

— Не, нічога.

Вазніца гарэў жаданнем пазбавіцца ад думак, якія прыгняталі яго, відаць, яны былі дасканала ім прадуманы і не першы раз ён выказваў іх сваім седакам. Яму хацелася паказаць сябе: мы, маўляў, сібірскія ямшчыкі, не лыкам шытыя.

— Краёў неабжытых да ліха многа. Мне неяк расказваў купец праезджы. Гандлем займаўся ў гілякоў. За Амурам-ракою ёсць зямля Сахалін — востравам завецца. І ніхто, маўляў, не ведаў да яе ні шляху, ні дарогі. Невядома як, але адзін афіцэр марскога звання без якога-небудзь на тое ўказа праклаў туды дарогу. І ўзлаваўся быццам гасудар на яго вельмі. А Мураўёў наш быў тут як тут і ў ногі цару імператару: «Ці ж можна спускаць рускі флаг, калі ён падняты?» — «Не!» — гаворыць цар і загадаў узнагароду даць таму афіцэру. Брахаў, мусіць, купец? Няўжо генерал будзе чалом біць за простага афіцэра? А можа, і будзе, калі ёсць карысць якая...

Ён перапыніў расказ, спытаўшы:

— А што, можа знаёмства мелі з гэтым афіцэрам? Не звёў лёс?

Лёс то звёў, але шчыра гаварыць з ямшчыком Іосіфу Антонавічу не хацелася. Празмерна цікаўны і гаварун. З такім лёгка ўпрасак трапіць. Сёння спаслаўся на купца, быццам ён расказаў гэту гісторыю, а заўтра скажа: вёз консула ў Японію — ад яго і чуў. Часамі з ямшчыкамі трэба трымаць вуха востра. А як з гэтым паступіць? Даверам абысці нельга. Мужык — не назола. Пакладзісты. Праехалі з ім не адну сотню вёрстаў — гэта частка жыцця, праведзенага ў тарантасе; і гора, і радасць, і прыгоды, і розныя нягоды — усё дзялілі. Як кажуць, разам моклі, разам сохлі.

«Добра,— падумаў Гашкевіч, адчаплюся якой-небудзь дробязнай фразаю».

— Знаю я гэтага афіцэра. Невяльской па прозвішчы. Табе не даводзілася вазіць генерала Зарына?

— Нашага, іркуцкага? Як жа, як жа... Бравы кавалер, аматар запрагаць коней цугам.

— А пляменніцу генерала, Кацярыну Ельчанінаву, не знаў?

— Паненак у іхнім доме не прыпомню. У суседзяў Трубяцкіх — былі. Вечарамі — цэлы садом. Ігрышчы ўсялякія, гулянні. Гэта нам вядома.

— Жылі і паненкі: Кацярына і Аляксандра. Кацярына, праўда, нядоўга там пражыла, выйшла замуж за Невяльскога і паехала з ім дзяліць лёс на Амур. А Аляксандру я сам, прызнацца, ніколі ў вочы не бачыў.

— У тым вось і рэч, ваша высокаблагароддзе, а дзе ж мне ўжо ведаць, уся жысць мая ў працяжнай пуціне. Дастаўлю вас — і гайда назад!..

— Ты зразумеў, да чаго я размову хіліў?

— Разумею, ваша благароддзе. Выходзіць, той афіцэр сваяк генерала Зарына?

— Вось-вось.

— Значыць, Мураўёў не за простага афіцэра чалом біў, а за генеральскага...— зрабіў для сябе выснову ямшчык.

Іосіф Антонавіч нічога яму не адказаў. А мог бы расказаць пра сваю апошнюю сустрэчу з Невяльскім. Мог.

З Генадзем Іванавічам ён спаткаўся напярэдадні ад'езду з Пецярбурга. Невяльской гуляў з Кацярынай Іванаўнай у скверы Адміралцейства.

— Іосіф Антонавіч, мілы, а мы ўжо думалі, што вы ў Японіі! — усклікнула, абрадаваўшыся, Невяльская.— Ну, дзень добры, пане консул.

Яе добры, адкрыты погляд быў поўны пяшчоты.

Генадзь Іванавіч, як заўсёды, стрыманы, задумлівы, у меру ветлівы.

— Не забылі нашу размову на «Паладзе»? Вось бачыце, збылося. Шкода, што я не пайшоў з вамі ў заклад.

— Вы аказаліся прарокам, Генадзь Іванавіч.

— З лёгкім сэрцам едзеце? — спытаў Невяльской, быццам угадваючы думкі Іосіфа Антонавіча.

— Не па душы мне гэта місія, Генадзь Іванавіч. Прадбачу вялікія непрыемнасці па службе. А адмовіцца не магу. Д'ябальскі слабы характар. Як хлапчука цягне да салодкага, так і мяне —да новага, нязведанага...

— Для сябе вы ўжо адкрылі Японію?

— Для сябе адкрыў. Цяпер для Расіі трэба.

— Зайздросціць не даводзіцца вам, Іосіф Антонавіч. Цяжкую ўзялі ношу. Спачуваю. Нялёгка вам будзе з Мураўёвым. Чалавек вы самастойны, а ўпартыя з генерал-губернатарам не ідуць па адным фарватары. Не пазбегнуць канфлікту. Па сабе ведаю. З таго часу як гасудар даў яму найвышэйшы дазвол мець кантакты з кітайскім урадам, ён уявіў сябе яшчэ і дыпламатам. Ахвотнік да гучнай славы. У Пецярбургу чуткі ходзяць: вось-вось заключыць у Айгуне дагавор з кітайцамі. Вам, думаю, вядома з першых рук.

— Чуткі правільныя, Генадзь Іванавіч. Трэцяга дня князь Гарчакоў ліст ад яго атрымаў. Цырыманіял падпісання дагавору прызначаны пасля Вялікадня. Мураўёў чакае мяне.

— Дык да Вялікадня мы дажывем, нядоўга асталося. А ці дажывем да таго часу, калі Мураўёва асудзяць за грэшныя справы? Лішне позна падумалі пра ролю Расіі на Ціхім акіяне. Так-так, позна.

Гашкевіч разумеў, адкуль такая заклапочанасць Невяльскога ўсходнім пытаннем. Славутаму даследчыку не раз даводзілася сутыкацца з Мураўёвым, ён ведаў яго ўпартасць, ведаў яго нецярпімасць да чужых планаў і намераў. Рыхтуючыся да сустрэчы з караблямі англа-французскай эскадры, Невяльской адважыўся паставіць артбатарэю не там, дзе рэкамендаваў Мураўёў. Даведаўшыся пра гэта, генерал-губернатар напісаў свайму сваяку М. С. Карсакаву: «Ён аказваецца таксама шкодны: вось да чаго вядзе сумленных людзей залішняе самалюбства і эгаізм».

Мураўёў не любіў дзяліць з кім-небудзь лаўры. 21 сакавіка 1857 года ў Іркуцк прыехаў граф Я. В. Пуцяцін, упаўнаважаны весці перагаворы з Кітаем. Генерал-губернатар хоць і жадаў яму поспеху, але ў душы застаўся незадаволены тым, што прыслалі некага закончыць тое, што распачаў ён. Дакладваючы ў Пецярбург пра дзеянні — свае і Пуцяціна, Мураўёў рэзка, у адпаведнасці са сваім характарам, выказаў шмат негатыўнага. Не абышлося і без перабольшванняў, каб паказаць сябе ў лепшым святле.

Калі генерал-губернатар бачыў, што падначалены меў рацыю і мог кінуць цень на яго славу, то рабіў усё, каб спрвадзіць працаўніка з пашанаю ў адстаўку. Так абышоўся Мураўёў і з Генадзем Іванавічам Невяльскім.

— Не падумайце што-небудзь благое, Іосіф Антонавіч, я не маю зла на Мураўёва. Сустрэнецеся з яго правасхадзіцельствам — не падавайце выгляду, што мелі са мною гутарку.

— Для мяне, Генадзь Іванавіч, вашы словы саслужаць немалую карысць. Дзякую.

— Ну што вы, гэта я так — да слова прыйшлося. Будзеце ў Нікалаеўску, перадайце паклон Пятру Васілевічу Казакевічу.

— Абавязкова,— паабяцаў Гашкевіч.— Уверх пайшоў наш старшы афіцэр з «Байкала». Цяпер ваенны губернатар Прыамур'я і камандзір Сібірскай флатыліі.

— Чуў, чуў пра яго поспехі.

Яны развіталіся цёпла, па-сяброўску.

## III

Буйныя кроплі дажджу хвасталі па спінах коней і брызентавым даху экіпажа, разбягаючыся ў розныя бакі, як расцякаецца вада па незлічоных горных ручайках. Даймаў пасажыраў не толькі дождж, але і рэзкі ўсходні вецер. «Яшчэ некалькі гадзін дарогі, і мы адагрэемся,— раздумваў Гашкевіч.— Сям'ю давядзецца аддаць пад апякунства іркуцкім знаёмым, а сам з Мікалаем Мікалаевічам адпраўлюся ў Айгунь. Пабачуся са старымі сябрамі. Цікава, каго ж пашле багдыхан на падпісанне дагавора? Каго-небудзь са сваякоў? У кітайцаў так прынята».

Дарэмна спяшаўся калежскі саветнік Гашкевіч: гістарычны акт ужо адбыўся. 17 мая, у дзень прыезду Іосіфа Антонавіча ў Іркуцк, генерал-губернатар ужо пакінуў Айгунь і на царкоўным парадзе ў Благавешчанску зачытаў лаканічны загад: «Панове! Віншую вас! Не дарэмна працавалі мы! Амур зрабіўся ўласнасцю Расіі! Расія дзякуе. Ура!»

Генерал-губернатар Усходняй Сібіры Мураўёў выехаў у Айгунь для падпісання дагавора з кітайскімі паўнамоцнымі, не дачакаўшыся прыезду Гашкевіча ў Іркуцк. У дарозе жонка Іосіфа Антонавіча часта хварэла. Даводзілася рабіць частыя прыпынкі ў губернскіх гарадах. У Пярмі пайшло на папраўку жонкі больш за тры тыдні і ў Омску — дзён шэсць. Да пачатку мая, як меркавалі ў Пецярбургу і жадаў гэтага Мураўёў, Гашкевіч прыбыць у Іркуцк ніяк не мог. А губернатар яго чакаў. Чакаў як вопытнага дыпламата і драгамана, уключанага ў склад світы самім міністрам Гарчаковым.

У адным з пісем дырэктару Азіяцкага дэпартамента Я. П. Кавалеўскаму генерал-губернатар пісаў: «Гашкевіч да гэтага часу сюды не прыехаў, а бездараж пачалася па ўсёй дарозе, і Байкал пагражае распусціцца; чакаць яго я не магу, мне трэба рана быць на вусці Зеі, а пасля і на вусці Амура; шкада будзе, калі ён і там мяне не заспее».

Дабрацца да Іркуцка у тыя часы лічылася ўсё роўна, што здзейсніць подзвіг. Чыноўнікам з Пецярбурга, перапоўненым дабротамі жыцця, Сібір здавалася ледзяным мяшком, катаргаю, Богам пра-

клятаю зямлёй. А выхадцаў з простага народа не палохала вандроўнае і таежнае жыццё... І няхай шмат пралітых слёз і гора прынесла ім дарога, яны адчувалі сябе героямі, калі, убачыўшы залатыя купалы іркуцкіх цэркваў, хутка-хутка хрысціліся і пераставалі скардзіцца на свой лёс.

Акрамя Гашкевіча і яго сям'і ў Японію ехалі сакратар консульства У. Д. Авандар — зласлівы малады чалавек і доктар Міхаіл Альбрэхт з жонкаю і дзецьмі. Ваенна-марскі агент лейтэнант Назімаў[1] выехаў з Пецярбурга на некалькі дзён пазней і дагнаў консула са спадарожнікамі ў самым Іркуцку. У сваім пісьме на імя дырэктара Інспектарскага дэпартамента контр-адмірала М. К. Крабэ Павел Назімаў даносіў:

«...я паспеў у маім абяцанні, 19-га мая я быў ужо ў Іркуцку; заспеў там консула, які толькі што прыбыў 17 мая...

Прабыўшы ў Іркуцку толькі 7 гадзін, выехаў на перакладных да пераходнай прыстані на Байкале. На другі дзень раніцаю прыбыў консул з сямействам, пераправіўшыся цераз Байкал на параходзе. Пакінуў консула, а сам адправіўся з кур'ерам далей, для падрыхтоўкі консулу коней і наогул для больш паспяховага следавання.

Прыбыў у Шылкаўскі завод, заняўся падрыхтоўкай катара для спуску па Амуры... У гэты час консул ужо праплыў на катары, падрыхтаваным для яго ў Чыце. Праз два дні адправіўся ў дарогу ў невядомую...

Даволі нацярпеўся, спускаючыся па рацэ Шылка да Усць-Стрэлачнага каравула, дзе зусім не далі ніводнага сплаўшчыка, і таму павінен спусціцца ў шлях уніз па рэчцы па волі Боскай. Прыняўшы вёслы і руль, аддаўся цячэнню; становячыся некалькі разоў на мель, павінны былі самі ісці ў ваду, каб сапхнуць катар з мелі...

Прыплылі да адной са станцый на Амуры — становішча не аблегчылася. Далі траіх сплаўшчыкаў: старэйшаму было 15 гадоў. Ён жа і лоцман, але лоцман такі, што завёў у трушчобу, дзе і туземцы не плаваюць, трапіў на мель... У час работ вольнанаёмны чалавек быў знесены цячэннем Амура і ўтапіўся.

На мелі прастаялі трое сутак, былі зняты грабцамі плыўшага чыноўніка асобых даручэнняў.

Так працягвалася наша плаванне да заімка Благавешчанска. Наказны атаман генерал-маёр Карсакаў злітаваўся над намі і даў

[1] Лейтэнант Назімаў — малодшы брат капітан-лейтэнанта Мікалая Мікалаевіча Назімава, камандзіра карвета «Алівуца», што прымаў удзел у экспедыцыі адмірала Я. В. Пуцяціна. У 1870-ыя гады ў чыне капітана 2-га рангу Павел Мікалаевіч Назімаў будзе камандаваць карветам «Віцязь» і даставіць у заліў Астралябіі на Новай Гвінеі славутага падарожніка М. М. Міклуху-Маклая.

сплаўшчыкаў ажно да Нікалаеўска, з якімі мы прыбылі ў Нікалаеўск 17 ліпеня. Тут былі прынятыя контр-адміралам Пятром Васілевічам Казакевічам як не трэба лепей і змешчаны ў кватэры на беразе...

21 ліпеня прыбыў консул, якога мы дзесьці абагналі на Амуры, разышоўшыся рознымі пратокамі.

У Нікалаеўску мы павінны былі застацца да верасня месяца, бо не было ніякіх сродкаў адправіць консульства па прызначэнні».

Іосіф Антонавіч засмуціўся, яму хацелася да лютых асенніх штормаў быць ужо ў Хакадатэ.

— Становішча цяжкае, я сказаў бы, катастрафічнае, Іосіф Антонавіч. Ну чым, чым я магу вам дапамагчы? Розуму не дабяру.— Контр-адмірал Казакевіч, моцны, каржакаваты, са светлымі запарожскімі вусамі і стомленым позіркам, расхаджваў па святліцы і скардзіўся на тысячу розных бед.— Увайдзіце ў маё становішча, Іосіф Антонавіч. У мяне адзінае судна на ўвесь Прыамурскі край — параход «Амерыка». На рэйдзе вы яго не ўбачыце... Няшчасны бадзяга. Дзень пры дні шнуруе па моры. Чаго грэх таіць: 3 лютага, амаль паўгода, у порце Аян ляжыць пошта... Так, пане мой, з лютага. І мы не можам перавезці яе ў Нікалаеўск. Мой ад'ютант кожную раніцу дакладвае, што на многія паперы з Санкт-Пецярбурга ідуць другія запыты. А што я магу зрабіць? Ну, памяркуйце самі, Іосіф Антонавіч. Крыўда ваша законная, але... і несправядлівая.— Казакевіч развёў рукамі, выказваючы гэтым жэстам як бы працяг сваёй думкі: нічога, маўляў, не паробіш, вашэць, такое жыццё ў нашых краях, ля далёкіх берагоў Ціхага акіяна.

«У пачатку верасня прыбыў амурскі атрад карветаў і кліпер «Джыгіт»,— даносіў у рапарце Назімаў.— Апошні, як не меўшы ніякіх пашкоджанняў ні ў корпусе, ні ў машыне, быў прызначаны знаходзіцца пры консуле ў Японіі. З-за адсутнасці ж на ім памяшкання для пасажыраў для апошніх быў прызначаны параход «Амерыка».

17 верасня зняўся з якара з Нікалаеўска.

23-га прыйшлі ў Дэ-Кастры і да 5 кастрычніка не ў стане былі пагрузіцца вугалем ні параход «Амерыка», ні кліпер «Джыгіт» з выпадку асенняга часу; таму адбылося перамяшчэнне консульства на карабель Расійска-амерыканскай кампаніі «Нахімаў». «Амерыка» адправілася на зімоўку ў Нікалаеўск».

У шэсць гадзін вечара 22 кастрычніка параход «Нахімаў» і кліпер «Джыгіт» зняліся з якараў і пакінулі берагі Расіі.

Праз двое сутак рускія караблі ўжо былі каля паўднёвага краю японскага вострава Хакайда.

# ЗНОЎ ЯПОНІЯ

## I

Уладзівастока яшчэ ў паміне не было, а ваенныя судны з Кранштата пускаліся ў дарогу да берагоў Рускага Прымор'я і Рускай Амерыкі, пераадольваючы многія тысячы міль. Фрэгатам, кліперам, карветам, вінтавым шхунам, што былі ў «разгоне» і без роднага прыстанішча, заўсёды хацелася мець порт прыпіскі на перасячэнні ўсходніх марскіх дарог. Петрапаўлаўск-Камчацкі, Сітха, Нікалаеўск-на-Амуры — даступныя гавані, але залішне аддаленыя ад пракладзеных курсаў у Ганконг і Сінгапур, Шанхай і Нагасакі, Ганалулу і Сідней. Бліжэй быў стацыянар (так у мінулым стагоддзі называлі месцы якарных стаянак для караблёў), японскі порт Хакадатэ, адкрыты для замежных суднаў і дзе павінна знаходзіцца Расійскае імператарскае консульства.

Восенню 1858 года кліпер «Джыгіт» і судна Расійска-амерыканскай кампаніі «Нахімаў» кінулі якары на рэйдзе Хакадатэ. Вось што пісаў у сваім данясенні камандзір кліпера Карнілаў контр-адміралу Казакевічу:

«...24 кастрычніка ў 10 гадзін раніцы консул перасеў на давераны мне кліпер, і ў поўдзень я ўвайшоў пад парай на хакадацкі рэйд, дзе стаў на якар насупраць горада за чвэрць мілі ад берага. Пры ад'ездзе консула ў той самы дзень для першага спаткання з хакадацкім губернатарам з кліпера быў зроблены салют сямю стрэламі, у адпаведнасці са статутам...»

Японскія чыноўнікі з'явіліся на кліперы адразу. Яны павіталіся з афіцэрамі, кожнаму сказалі камплімент, павіншавалі са шчаслівым прыбыццём у порт. Гасцей запрасілі прайсці ў кают-кампанію, дзе ўжо быў накрыты стол. Японцы былі здзіўлены шчодрасцю рускіх. Камандзір «Джыгіта» лейтэнант Аляксей Карнілаў папрасіў чыноўнікаў, якія прыбылі, прадставіцца па ўсёй форме дыпламатычнага рытуалу. Адзін з іх назваўся старшым баніёсам губернатара, другі — шпіён-афіцэрам (была і такая пасада ў японцаў), трэці — таможным чыноўнікам. Пасля гэтага японцам было сказана, што на караблях прыбыў консул Расійскай імперыі, калежскі саветнік Гашкевіч.

«Неўзабаве гэтыя паны,— успамінаў Павел Назімаў,— пазналі ў консуле старога знаёмага. Размова ішла па-англійску, але чыноўнікі не забыліся тут жа аб'явіць, што як суседзі яны маюць намер навучыцца па-руску. Доўга з імі разважаць не было калі, а таму консул аб'явіў, што жадае бачыць губернатара абавязкова ў гэты ж

дзень. Яны ж са свайго боку палічылі абавязковым доўгам сказаць, што губернатар прыняць не можа, таму што гэта час яго адпачынку — другая гадзіна па абедзе. Неадступныя патрабаванні з боку консула прымусілі іх пагадзіцца далажыць губернатару аб прыездзе п. Гашкевіча».

Праз гадзіну калежскі саветнік Гашкевіч на капітанскім вельбоце ў суправаджэнні супрацоўнікаў консульства і афіцэраў кліпера «Джыгіт» адправіўся на бераг.

Хакадатэ...

Уздоўж вуліцы цягнуліся маленькія домікі, бакалейныя і мануфактурныя магазінчыкі. Паміж іх на невялікіх узвышэннях размясціліся будыйскія храмы. Каля дамоў развяваліся на лёгкім ветрыку рознакаляровыя стужкі і папяровыя кветкі. У храмы ішлі людзі, адзетыя па-святочнаму. Ва ўсіх урачыстыя твары.

— Чаму яны так напамаджаныя? — спытаў Гашкевіча лейтэнант Назімаў.

— Сапраўды, што за дзіўны абрад? — пацікавіўся і доктар Альбрэхт.

— На гэтым тыдні свята памерлых душ. Паводле падання, яны з'яўляюцца на спатканне да жывых. Тыдзень знаходзяцца сярод іх, а пасля адпраўляюцца назад на той свет,— адказаў Гашкевіч.

— Добра прыдумалі,— сказаў сакратар консульства Авандар.

Губернатар Мурагамі Авадзіно-камі сустрэў консула, як ганаровага гасця,— ля самых варотаў свайго дома. Світа прайшла праз невялікі дворык, упрыгожаны карлікавымі раслінамі ў нізкіх цэбрыках. Лісты ўжо пабляклі, але яшчэ трымаліся на мудрагеліста выгнутых галінах.

Пакой, куды правёў губернатар Гашкевіча і супрацоўнікаў консульства, абаграваўся ўжо па-зімоваму. У жароўні-хібачы жарка гарэла вугалле.

Іосіф Антонавіч прадставіў сваіх спадарожнікаў. Мурагамі кожнаму пакланіўся і запрасіў прысесці на татамі. Сам гаспадар, падкурчыўшы ногі, усеўся бліжэй да агню. Японцы не пачнуць дзелавой размовы, перш чым не распытаюць у гасцей пра здароўе, пра тое, як падарожнічалася па моры. Консул адказваў жыва, сыпаў жартамі. Мурагамі адабральна ківаў галавою, строячы на твары падабенства ўсмешкі.

— Я прыехаў у Японію,— сказаў Гашкевіч,— каб падтрымліваць у хібачы полымя. Агонь дружбы. І мне прыемна бачыць у вашым доме старых знаёмых, з якімі я сустракаўся ў Сімодзе.

Японцы заўсміхаліся.

Губернатар падумаў і павольна, старанна падбіраючы выразы, сказаў:

— Правільней за ўсё дзейнічаць, лічачыся з фактычным становішчам спраў. Я ўсяляк буду садзейнічаць супрацоўніцтву дзвюх нацый: рускай і японскай. Шкодна і неразумна ісці супраць хуткіх крокаў гісторыі.

Мурагамі гаварыў не толькі для консула, але і для сваіх чыноўнікаў, сярод якіх былі фіскалы феадальных князёў, што не падзялялі думку сёгуна і яго прыхільнікаў.

Іосіф Антонавіч падзякаваў губернатару за дакладнасць і яснасць пазіцыі, пацвердзіўшы, што яна ў найбліжэйшы час можа прывесці да разумных вынікаў.

Авадзіно-камі нізка пакланіўся.

— Мае саветнікі паклапоцяцца пра тое, каб рускае консульства не адчувала нястач у нашым бедным горадзе.

Губернатар кіўнуў камусьці са сваіх чыноўнікаў, і ў пакоі з'явіліся слугі ў квяцістых адзеннях, яны бясшумна падносілі маленькія кубачкі са стравамі.

«...Чай без цукру, два сподачкі — адзін з грушаю, другі з вараным гузікавым ракам, дзве люлькі, тытунь, маленькая жароўня, попельніца і кубак з японскім віном — сакэ.

...Мы, якія да таго часу не бачылі гузікавага рака, паспыталі яго і пасля не ведалі, як пазбавіцца ад непрыемнага моцнага смаку; вінаград і грушы нам крыху памаглі...» — апісваў прыём у губернатара лейтэнант Назімаў.

Хакадацкія ўлады паклапаціліся і пра памяшканне для консульства, праўда, яно аказалася настолькі цесным, што ў ім нельга было размясціць нават адну сям'ю. Японскія чыноўнікі на пярэчанне консула апраўдваліся тым, што яны, маўляў, не ведалі пра колькасць асоб, што складаюць консульства. Па распараджэнні губернатара Мурагамі консулу Гашкевічу і доктару Альбрэхту як сямейным вызвалілі два пакоі ў будыйскім храме. Лейтэнант Назімаў і сакратар консульства Авандар засталіся жыць на кліперы «Джыгіт».

— Мне не прывыкаць,— жартуючы і смеючыся сказаў Іосіф Антонавіч.— Усё жыццё пражыў побач з Богам. Рос у вёсцы ў сям'і святара... быў бурсаком у Мінскай семінарыі... вучыўся ў духоўнай акадэміі... быў у духоўнай місіі ў Пекіне... пасля крушэння «Дыяны» жыў у храме Сімоды. Цяпер зноў у храме пасяліўся. Трэба ж, нейкая фатальная пячаць.

...Халодныя восеньскія дні хутка наблізілі наступленне зімы.

Снег зацярушыў дашчаныя стрэхі японскіх дамкоў, заляпіў папяровыя вокны, лёг на драўляныя маставыя, якія там-сям пераходзілі ў лесвіцы.

Вечарамі ў пакоі Іосіфа Антонавіча збіраліся супрацоўнікі консульства «на кубак чаю». Размова пачыналася з успамінаў аб Расіі. Для кожнага з іх усё гэта было ўжо ў мінулым. Быццам бы за краем свету згубілася яна, мілая сэрцу радзіма, засталося толькі жыццё, цяжкае, незнаёмае, будзённае.

Аднойчы лейтэнант Карнілаў сказаў:

— Афранцузіцца, зрабіцца з рускага англічанінам, немцам, мне здаецца, не так лёгка, як, пражыўшы некалькі гадоў у Кітаі або Японіі, зрабіцца кітайцам або японцам. Па крайняй меры, у першым выпадку пераход не такі рэзкі; у другім жа адыгрываюць ролю не адны блізкія зносіны з той нацыяй, сярод якой вы жывяце, а поўнае адчужэнне ад усяго роднага, усяго жывога, ад усіх інтарэсаў адукаванага свету...

У словах камандзіра кліпера «Джыгіт» было нямала здаровага сэнсу. Жыццё ў Хакадатэ не праходзіла па ўсыпаным ружамі шляху, болей за тое, яно часта перамяжоўвалася не радасцямі, а нягодамі. Да таго ж яшчэ моўны бар'ер перашкаджаў цесным кантактам з японцамі. Як тут не задумацца пра свой лёс? Добра, што работы па горла — будаўніцтва консульскіх будынкаў. А то чорны сум высушыў бы ўсю душу. З усіх супрацоўнікаў консульства, відаць, толькі доктар Альбрэхт быў у сваёй стыхіі, а астатнія знаходзілі справу па жаданні, да чаго ляжала душа.

Консул па доўгу службы штодзённа меў стасункі з японцамі, заклапочаны справамі, звязанымі са знаходжаннем расійскіх суднаў у Хакадатэ. Часамі ў гавані іх скоплівалася многа: фрэгаты, карветы, кліперы, вінтавыя шхуны, параходы. Усім хацелася спешна запасціся вугалем, вадой, соллю, цукрам, сухарамі, рыбаю, саланінаю, свірэпавым алеем. І каб цэны не кусаліся, бо суднавая казна ў рускіх была мізэрнай. Камандзіры караблёў маглі, вядома, пазычыць у консула, але прадстаўнік Расіі ў Хакадатэ не мог пахваліцца шчодрасцю царскага ўрада. Консульства, як сведчаць дакументы, зводзіла выдаткі да самага неабходнага.

## II

Паводле Парыжскага мірнага дагавора 1856 года Расійская імперыя пазбаўлялася права мець ваенны флот на Чорным моры. Але ў дагаворы не было артыкула, які забараняў бы мець эскадру на Балтыцы або ў водах Ціхага акіяна. У саноўным Пецярбургу сталі

ўрэшце рэшт разумець, якое значэнне для Расіі мае Усходняя Сібір і Прымор'е. Намечаная раней праграма будаўніцтва пара-вінтавых суднаў рэалізоўвалася адкрыта. Фрэгаты, карветы і кліперы сыходзілі са стапеляў верфяў у Кранштаце, Турку, Архангельску. Гэтыя караблі працягвалі плаваць ва ўсіх морах, акрамя Чорнага.

7 верасня 1857 года з Кранштата на Далёкі Усход выйшаў атрад новых і быстраходных на той час суднаў пад брэйд-вымпелам капітана 1-га рангу Д. І. Кузняцова, вопытнага марака і баявога афіцэра-севастопальца. Пасля яго эскадраю Ціхага акіяна камандавалі капітан 1-га рангу І. Ф. Ліхачоў, контр-адміралы А. А. Папоў і І. А. Ендагураў — таксама чарнаморцы.

Сярод камандзіраў караблёў былі афіцэры, з якімі Іосіф Антонавіч раней плаваў на фрэгатах «Палада» і «Дыяна». З імі Гашкевічу было лёгка мець стасункі і вырашаць пытанні, звязаныя з мараплаўствам і забеспячэннем у японскіх портах Хакадатэ, Нагасакі і Сімода. Гэта найперш капітан 1-га рангу Іван Сямёнавіч Ункоўскі, камандзір фрэгата «Аскольд», капітан 2-га рангу Іван Іванавіч Бутакоў, камандзір фрэгата «Святлана», капітан-лейтэнант Аляксандр Сяргеевіч Мусін-Пушкін, флаг-афіцэр начальніка эскадры Ціхага акіяна, капітан-лейтэнант Аляксей Аляксеевіч Пешчураў, камандзір кліпера «Гайдамак», капітан 2-га рангу Аляксандр Арсенцевіч Болцін, камандзір парахода-карвета «Амерыка» і іншыя...

А напрыклад, каманду карвета «Калевала», як сцвярджаў у сваіх успамінах мічман Андрэй дэ Ліўрон, укамплектавалі ў Кранштаце з матросаў і унтэр-афіцэраў, якія да таго служылі на фрэгатах «Аўрора», «Дыяна» і карвеце «Алівуца». Не цяжка сабе ўявіць, што гэта былі за маракі. Пра кожнага з гонарам можна сказаць: мараплавец.

У сваёй дзейнасці Іосіф Антонавіч Гашкевіч цесна сутыкаўся з флоцкімі людзьмі. Караблі прыходзілі і адыходзілі з Хакадатэ, а расійскі консул са сваім маленькім штатам сустракаў і праводзіў іх. Мясцовыя ўлады з разуменнем адносіліся да патрэб рускіх. Праз паўгода вырас асабнячок з вокнамі на сонечны бок, парадным уваходам і высокімі вялікімі вокнамі.

Гардэмарын Канстанцін Зялёны, які служыў на карвеце «Рында», успамінаў: «З рэйда яно (консульства.— *В. Г.*) адно толькі ўяўляецца як бы будынкам маленькага горада, горад жа, быццам вёсачка, акружае яго. Шпіталь ужо закончаны, царква таксама».

Аднойчы ў час верхавой прагулкі консул аблюбаваў у прадмесці Хакадатэ вёсачку Каміда, хаткі якой прыціскаліся да рэчкі з той самаю назваю. Бераг спадзісты і зялёны, побач лес. Маляўнічая мясціна, магчыма, нагадала Іосіфу Антонавічу беларускую вёсачку,

дзе жылі яго сваякі. Ён пайшоў да губернатара Мурагамі Авадзінокамі з просьбаю адвесці ў арэнду ўчастак зямлі каля Каміда. Навошта Гашкевічу спатрэбілася зямля? Што, іншых клопатаў мала?

У распараджэнні консула знаходзіўся кліпер «Джыгіт». Ён, як і іншыя судны эскадры, меў вялікі запас парусоў і снасцяў, рознага такелажнага рыштунку, шкіперскай маёмасці. Усё гэта заграмаджала палубу, псавалася ў сырых трумах, праветрыванне і сушка наверсе мала чым памагалі. У Хакадатэ дзякуючы клопатам консула на зямлі вёскі Каміда каманда «Джыгіта» пабудавала два хлявы пад такелаж і шкіперскую маёмасць, двор для жывёлы і сялянскую лазню. У рускіх маракоў з'явілася свая паша і было куды адпраўляць з караблёў купленую ў заморскіх портах жыўнасць: кароў, быкоў, свіней, гусей. Паводле загаду начальніка эскадры Ціхага акіяна ў распараджэнне консула адкамандзіроўваліся для работ ніжнія чыны на чале з афіцэрам, але найчасцей у Каміда пасылаліся матросы і унтэр-афіцэры, выпісаныя са шпіталя на папраўку. Аказаўшыся на сельскім падвор'і, яны адчувалі сябе як дома.

Японскія сяляне, назіраючы за рускімі, усё болей пераконваліся, што адзеты ў матроскі бушлат ратнік такі самы рабацяга, як і яны. У матросаў можна было многаму навучыцца, і як адразу зразумелі японцы, рускія за гэта нічога не патрабавалі ўзамен. Прыходзілі здалёку, пачуўшы, што маракі, акрамя ўмення хадзіць за сахою, пасвіць жывёлу і даіць кароў, майстры на ўсе рукі, могуць збіць масла, зрабіць тварог, сыр, пра якія японцы вострава Хакайда не мелі найменшага ўяўлення.

У Хакадатэ спрадвеку традыцыйным быў рыбны промысел, а жывёлагадоўля атрымала распаўсюджанне крыху пазней, і штуршком да развядзення буйной рагатай жывёлы паслужыла шматгадовае знаходжанне рускіх маракоў ў вёсцы Каміда. Гэта яны навучылі японскіх сялян, як абыходзіцца з каровамі і як іх даіць. Мясцовыя жыхары да сярэдзіны мінулага стагоддзя не ўжывалі малочных прадуктаў, а тут з лёгкай рукі рускіх адчулі смак да іх.

У бытавых кантактах паміж рускімі і японцамі варажнечы не было. Дзесяцігоддзямі доўжыўся ўзаемавыгадны гандаль, мацнела супрацоўніцтва, паглыбляліся сяброўскія сувязі. Знаёмячыся з дакументамі таго часу, дзённікамі і лістамі рускіх маракоў, я прыйшоў да высновы, што консул Іосіф Антонавіч Гашкевіч першы з замежных дыпламатаў працягнуў руку дружбы японцам, хоць некаторым суайчыннікам яго хрысціянскія адносіны да навакольных здаваліся залішне прасцецкімі, парушэннем дыпламатычнага этыкету. Гашкевіч мог папросту загаварыць на вуліцы з японскім селянінам, ра-

меснікам або гандляром. У гутарках з хакадацкім губернатарам ён заўсёды шукаў кампраміс, і ніколі ў яго словах і ўчынках не было хітрыкаў. Мана і фанабэрыя, лічыў консул, заганы, якія перашкаджаюць дыпламату. Яму было ўласціва разуменне ўкладу жыцця японцаў.

Пачатак 1859 года консул вырашыў адсвяткаваць шырока і ўрачыста, як гэта магло быць у Расіі.

У адным з лістоў Іосіф Антонавіч Гашкевіч дзяліўся:

«Для збліжэння з тутэйшым чыноўным светам мы прыдумалі на Калядных святах розныя забавы і, здаецца, дасягнулі мэты. Напярэдадні Калядаў наладжана была ў мяне для дзяцей іх ёлка, на якую з'явіліся не толькі ўсе дзеці, але і амаль усе чыноўнікі, і адзін са старшых саветнікаў праўлення прынёс ад губернатара невялікі падарунак... Дамы нашыя раздавалі цукеркі, малюнкі і дзіцячыя кніжкі і асабліва ўразілі японцаў рускім нацыянальным уборам. Новы год таксама сустракалі ў мяне многія японскія чыноўнікі, і з гэтага выпадку быў маскарад, у якім удзельнічалі афіцэры кліпера «Пластун», назвы ўсіх танцаў запісаны японцамі.

Нарэшце, 1 студзеня раніцаю прысланыя былі да мяне тутэйшыя кадэты, з якіх ужо многія вучацца па-англійску, а некаторыя пасля свят пачнуць браць урокі рускай мовы...»

Тут я хачу перапыніць ліст консула, каб падкрэсліць — школа рускай мовы ў Хакадатэ была яго дзецішчам. Консульскі служачы Іван Махаў аформіў рукапісную кніжачку «Руская азбука» — падарунак японскім дзецям. Крыху пазней да школы праявілі цікавасць і дарослыя японцы. Прыводжу вытрымку з ліста начальніка эскадры капітана 1-га рангу І. Ф. Ліхачова да нагасакскага губернатара ад 7 лютага 1861 года: «П. консул Гашкевіч, будучы ў Нагасакі, прасіў Вас, каб Вы дазволілі Сіга Уратору адправіцца з ім у Хакадатэ для навучання рускай мове. Я са свайго боку думаю, што гэта было б вельмі карысна для аблягчэння сяброўскіх адносін рускіх з японцамі...»

За Сіга Уратору пацягнуліся і іншыя. Пачалі вывучаць рускую мову Касуя Цукуюно-камі — чыноўнік пры хакадацкім губернатары, звернуты ў праваслаўную веру былы бонза Павел Савабэ і будучы дырэктар хакадацкай школы Арытокі.

У архіве я знайшоў цікавы дакумент. К таму часу, якім ён датаваны, школа рускай мовы разраслася, дырэктарам яе стаў мясцовы жыхар пан Арытокі, а адным з настаўнікаў — Вісарыён Сартаў, консульскі служачы. Рускі настаўнік японскіх дзяцей меркаваў, што перад пачаткам заняткаў яны павінны добра адпачыць і лічыў сваім абавязкам падзяліцца вопытам:

«Стомленасць вучняў асабліва прыкметна ў летнія дні,— пісаў ён пану Арытокі.— Таму я пакорна прашу Вас даць вучням канікулы на тыдзень-два, пачынаючы з 15-га гэтага месяца і да 1-га будучага верасня, у гэты час пакорна прашу ўладкаваць як найзручней памяшканне рускай школы».

Існаванне школы рускай мовы ў Хакадатэ не міф, а рэальнасць. І не магу зразумець, чаму гэта прайшло міма гісторыкаў, якія да гэтага часу сцвярджаюць першынство такійскай Школы замежных моў, хоць яна была адкрыта на дзесяць гадоў пазней.

Дні беглі за днямі.

У Хакадатэ акрамя рускага консула з'явіўся англійскі, яму ж было даручана прадстаўляць яшчэ тры дзяржавы: Францыю, Партугалію і Галандыю. Сакратаром у консула стаў езуіт Мермэ, вельмі дзіўны і падазроны манах, які ўсім казаў, што ён француз. Хаваючы сваё паходжанне, Мермэ меў рацыю. Японцы яшчэ прадаўжалі адчуваць пякучую нянавісць да партугальцаў, і калі б даведаліся пра яго праўду — маглі б забіць. Пасля Новага года ў горадзе пасяліўся яшчэ адзін еўрапеец. Гашкевічу ён адрэкамендаваўся консулам, а на самой справе гэта быў амерыканскі агент Райс. Іосіф Антонавіч не стаў «падмочваць рэпутацыю» містэру Райсу, бо той лічыўся добра дасведчаным чалавекам, ведаў з нейкіх таемных крыніц аб расстаноўцы палітычных сіл у Японіі, часам інфармаваў рускага консула. Сапраўднай дружбы з пасламі Гашкевіч не вадзіў, але і не быў у нацягнутых адносінах.

З надыходам вясны консул паслаў лейтэнанта Назімава абследаваць бухту Ніігата, што ляжала на заходнім беразе вострава Ніпон. Паводле трактата 1858 года японскі ўрад абавязаўся адкрыць там марскі порт з 1 студзеня будучага года. Кліпер «Джыгіт» пакінуў на некалькі дзён Хакадатэ. Павел Назімаў і лейтэнант Карнілаў на шлюпках абышлі шэраг бухтаў і вусці рэк, але паўсюль ім траплялася мелкаводдзе. Зрабіўшы прамеры рэйду порта Ніігата, бара і ракі, афіцэры пераканаліся, што вада падымаецца толькі на 8 футаў, гавань адкрыта паўночным і паўночна-ўсходнім вятрам, самым моцным з усіх вятроў, што дзьмулі ў Японскім моры. Порт Ніігата для стаянкі караблёў быў непрыгодны.

Лейтэнант Карнілаў запісаў у сваім дзённіку:

«...праз 10 дзён лавіравання мы, замерзлыя, з карою лёду на борце і палубе ўвайшлі ў Хакадатэ. Сумна было глядзець на яго. На рэйдзе адзін «Пластун» са спушчаным рангоўтам, берагі і горы пакрытыя пушыстай белай коўдраю. Адзін вечназялёны кедравы гай над горадам бяжыць на горы, і дрэвы, чым бліжэй да вяршыні гары,

тым радзей і радзей. Але мы прынеслі з сабою добрае надвор'е, снег пачаў раставаць... Усё пачало ажываць і вясніцца, як кажуць вельмі ўдала японцы, а мы ў чаканні вясновых прагулак падрыхтаваліся да бліскучага заканчэння зімы. Рыхтавалі «Рэвізора», маскарад, дамскі пікнік у лазарэце і выдавалі «Сілетнік», штотыднёвы суднавы часопіс. Пры консульстве будавалася царква. Дамы ўпрыгожвалі яе, а нашыя жывапісцы пісалі абразы. Усе прымалі ўдзел у пабудове царкоўнага храма ў Японіі, праз 221 год пасля выгнання хрысціян.

...К маю месяцу Хакадатэ прыняў новы, яшчэ незнаёмы нам выгляд. Горы пакрыліся свежай зеленню... У каюткампаніі з'явіліся кветкі.

...У гэты час мне ўдалося з'ездзіць на свінцовыя руднікі. Наш консул і амерыканскі пан Райс даўно збіраліся агледзець іх. Галандскі капітан фон-дэр-Капелен, я і два японскія чыноўнікі далучыліся да іх».

Лейтэнант Карнілаў разглядваў прахожых. Яны здаваліся яму не такімі, як зімою. Ён не пазнаваў звычайна паспешлівых, апранутых у рагожу і амаль абыякавых да ўсяго японцаў. Цяпер на тварах людзей можна прачытаць вясновы настрой. Дзяўчаты з анёльскімі тварыкамі, прыбраныя ў квяцістыя кімано з велізарным бантам на спіне і ў драўляных гета, паволі прагульваюцца па ціхай вулачцы Хакадатэ.

Вясна...

Вярнуўшыся з паездкі, лейтэнант Карнілаў сказаў Іосіфу Антонавічу:

— Шкада, што трактаты вяліся не з прыгожым полам. Тады ўсе порты Японіі былі б адкрытыя.

## III

Як развівалася палітычнае становішча ў краіне?

Да вясны 1859 года еўрапейскія краіны заключылі другія трактаты з японскім урадам. Тайкун (дзяржаўны савет), або, дакладней, рэгент Іі Каманно-камі, не хацеў браць на сябе адказнасць за гэтыя дагаворы. Яшчэ да падпісання трактата з амерыканцамі ён сабраў князёў, што знаходзіліся ў Эда, і вырашыў параіцца. Нарада была бурная. Рэгент выказаўся на карысць цеснага саюза з Амерыкай і Расіяй. Яго словы не ўсіх схілілі на бок іншаземцаў. Князь Міто, як і раней, узначаліў апазіцыю, горача абараняў старыя законы аб замкнутасці краіны. Ён асыпаў урад самымі з'едлівымі папрокамі і аб'явіў, што лічыць за лепшае памерці пры абароне айчыны, чым

падпарадкавацца патрабаванням прыхадняў. У хвіліну гневу князь Міто сказаў Кавадзі, старому сябру рускіх: «Гарысу[1] трэба адсекчы галаву...» У гэтыя ж дні памёр галава тайкуна Іэсада. Ураду трэба было выбраць новага сёгуна, бо ў апошняга не было сына або ўзаконенага нашчадка. Становішча ў краіне абвастрылася. Палітычныя партыі змагаліся за гэту высокую пасаду. Князь Вакізаку Накацкасано-камі, як старшыня ўрадавага савета, настойваў, каб выбраць сёгунам сына князя Міто, а Іі Каманно — сына князя Кісіу.

Хоць малады Кісіу не дасягнуў яшчэ паўналецця, але яго ўсё ж пасля доўгіх спрэчак дайміёсаў вырашылі ўзвесці ў званне сёгуна. Рэгентам зноў астаўся Іі Каманно і выцесніў з савета пяці свайго ворага Вакізаку. Мікада зацвердзіў Кісіу сёгунам, а стары князь Міто, затаіўшы злосць, пакінуў Эда.

У гэты час у Эда на параходзе «Амерыка» прыбыў генерал-губернатар Усходняй Сібіры М. М. Мураўёў, світу яго пасольства суправаджала эскадра рускіх караблёў пад камандаваннем капітана 1-га рангу І. Ф. Ліхачова. Пра кожны свой крок Мураўёў даводзіў да ведама дырэктара Азіяцкага дэпартамента Я. П. Кавалеўскага.

«З Хакадатэ я паведаміў, паводле парады Гашкевіча, японскаму Вярхоўнаму савету, што буду 20-га ліпеня ў Іеда для канчатковага меркавання пра мяжу, з прычыны дадзенага мне гасударом паўнамоцтва,— пісаў генерал-губернатар.— 15-га ліпеня я абяцаў вярнуцца ў Хакадатэ, вазьму там Гашкевіча і пайду ў Іеда з эскадраю, але наўрад ці паспею туды 20-га, а буду хіба што 25-га ліпеня, бо рух суднаў намнога маруднейшы, чым я чакаў, выключаючы параход «Амерыка», на якім я скрозь паспяваю раней за ўсіх».

У Эда ў Іосіфа Антонавіча былі свае справы. Ён паехаў бы ў сталіцу, не звязваючы сябе візітам графа Мураўёва. Міністэрства замежных спраў даручыла яму ратыфікаваць другі руска-японскі дагавор, падпісаны ў жніўні 1858 года. Але консулу давялося быць у світе генерал-губернатара і дапамагаць яму парадамі. Даведаўшыся ад японцаў аб прыходзе рускай эскадры, англійскі пасол Рутэфорд Алькок і амерыканскі генеральны консул Таўнсенд Гарыс тэрмінова пакінулі свае рэзідэнцыі ў Канагаве і паявіліся ў японскай сталіцы. Гашкевічу не давялося прадстаўляць сваіх калегаў высокаму саноўніку, у кожнага з іх знайшлася падстава для сустрэч і шчырых размоў з графам Мураўёвым, пра якога пісалі ўсе замежныя газеты, характарызуючы яго як чалавека «геніяльнага розуму», і што ўвесь гонар далучэння Амурскага краю да Расіі належыць толькі яму.

[1]Таўнсенд Гарыс — амерыканскі консул у Эда.

Цяжка сказаць, наколькі сустрэчы з замежнымі дыпламатамі былі шчырымі, але калі меркаваць па тым, якую закулісную гульню павялі гэтыя крывадушнікі і падбухторшчыкі, дык яны ведалі, дзеля чаго прыехаў такі вяльможа ў Эда. І сэр Алькок, і містэр Гарыс, і галандскі пасол Д. Курцыус на працягу шэрагу гадоў усяляк узбуджалі сёгунаў і феадальных князёў распаўсюджаннем брудных, правакацыйных слухаў аб «агрэсіўных намерах» рускіх супраць Японіі.

Іосіф Антонавіч Гашкевіч падрыхтаваў Мураўёву матэрыял па Сахалінскім пытанні, у пераканальнасці якога сумнявацца не даводзілася.

З даўніх часоў гэты востраў вабіў да сябе мужных і дапытлівых людзей. У 1644 годзе «пісьменны галава» Васіль Паяркаў з таварышамі дасягае вусця Амура. Тут ад ніўхаў (гілякоў) ён даведваецца, што насупраць мацерыка ляжаць невядомыя «Чорныя скалы», а мясцовую раку гілякі называюць «Сах-алін-ула», што азначае — Чорная рака. Вярнуўшыся ў Якуцк, землепраходзец Паяркаў паведаміў свету, што далёка на ўсходзе, «на краі зямлі», ляжыць «востраў вялікі» — «Сах-алін-анга-хельта», іншымі словамі — «Чорныя скалы ў вусці ракі». З таго часу, на працягу паўтары сотні гадоў, рускія і замежныя судны сталі наведваць гэты востраў з таямнічаю назваю. Расіянін лейтэнант Шэльцінг пабываў каля Сахаліна на дубель-шлюпе «Надзея» ў 1742 годзе. Ён прайшоў уздоўж усходняга боку вострава і ледзь не стаў першаадкрывальнікам заліва, які раздзяляе берагі Сахаліна і вострава Хакайда. Мараплаўцу перашкодзіла белая заслона туману. Шэльцінгу здалося, што хрыбты гор, якія маячылі на гарызонце,— прадаўжэнне нейкай зямлі. І толькі праз сорак пяць гадоў французскаму капітану Лаперузу ўдалося ўпершыню выявіць праліў паміж Сахалінам і японскім вострвам. У 1805 годзе да берагоў Сахаліна набліжаецца экспедыцыя адважнага марапла́ўца адмірала І. Ф. Крузенштэрна. Яго карабель «Нява», прайшоўшы пралівам Лаперуза, падыходзіць да паўднёвага краю Сахаліна — мыса Крыльён. Адсюль Іван Фёдаравіч Крузенштэрн накіроўваецца ў Аніўскі заліў і тут у бухце Ласосяў упершыню ўздымае рускі флаг.

«Нява» абагнула востраў Сахалін з усходу. Крузенштэрн апісаў, нанёс на карту залівы, берагі, мысы, вусці рэкаў ажно да самага паўночнага краю вострава — мыса Лізаветы. Пасля ён вырашыў плысці на поўдзень, рухаючыся ўздоўж заходняга берага. Шлюп марапла́ўца ўваходзіць у Сахалінскі заліў. І тут яго сустракае злашчаснае мелкаводдзе. Крузенштэрн робіць выснову: Сахалін — паўвостраў, злучаны пясчанаю касою і дробнымі водмелямі

з усходнім берагам Расіі. У гэтым самым годзе ў бухту Аніва ўваходзяць тэндэры «Авось» і «Юнона» пад камандаваннем маладых лейтэнантаў Гаўрылы Давыдава і Мікалая Хвастова. Рускія маракі высаджваюцца на бераг і сустракаюць мясцовых жыхароў. Аказваецца, яны трапілі ў сялібу айнаў, адвечных жыхароў паўднёвага Сахаліна. Тут жа знаходзіліся і японцы, якія паводзілі сябе як гаспадары і ператварылі айнаў у сваіх рабоў. Лейтэнант Хвастоў загадвае японцам неадкладна выбрацца з чужой зямлі. Ён раздае абарыгенам харчаванне, нарабаванае самураямі, «за заслугі перад рускім царом» узнагароджвае старшыну айнаў срэбраным медалём і выдае яму ахоўную грамату. У ёй «расійскага флоту лейтэнант Хвастоў» аб'яўляе Сахалін і яго жыхароў пад аховаю Расіі. Адплываючы з бухты Аніва, лейтэнант Хвастоў пакідае на беразе пяць сваіх матросаў, якім дае строгі загад падтрымліваць на востраве парадак і берагчы яго як рускую зямлю.

Трэба сказаць, што лейтэнант Хвастоў не меў паўнамоцтваў Пецярбурга, дзейнічаў, як пасля высветлілася, паводле ўказкі М. П. Разанава, галоўнага рэвізора Расійска-амерыканскай гандлёвай кампаніі, таму ні гасудар імператар, ні яго прыбліжаныя не ведалі пра самаўпраўства марскога афіцэра. Неўзабаве Хвастоў і Давыдаў паўсталі перад судом і былі пакараныя, а ўраду давялося прасіць прабачэння ў усходняга суседа.

Праз сорак тры гады да берагоў Сахаліна прыдзе транспарт «Байкал», на якім Генадзь Іванавіч Невяльской зробіць выдатнае адкрыццё: Сахалін — востраў, а не паўвостраў, як лічылі ранейшыя мараплаўцы, у тым ліку і адмірал І. Ф. Крузенштэрн. У 1850 годзе Невяльской адкамандзіруе ў глыб вострава невялікую экспедыцыю на чале з лейтэнантам Башняком. У сялібе айнаў Віяхту рускі афіцэр выявіць сляды прабывання матросаў з тэндэра «Юнона». Жыхары раскажуць Мікалаю Башняку, што адзін з рускіх, Васіль, памёр нядаўна. Лейтэнант купіць у нейкай бабулі чатыры лісты са старой кнігі, дзе нязграбнымі літарамі былі напісаны скупыя радкі: «Мы, Іван, Даніла, Пётр, Сяргей і Васіль, высаджаны ў айнскай сялібе Тамары-Аніва Хвастовым 17 жніўня 1805 года; перайшлі на раку Тымі ў 1810 годзе...». Як не падумаць з тугою пра лёс рускіх маракоў, занесеных у такую далеч ад родных мясцін, у суровы і далёкі край зямлі. Мікалай Башняк нізка пакланіцца невядомым землякам і выстраліць з ружжа над іх закінутымі магіламі.

У верасні 1853 года каля паселішча Тамары-Аніва будзе высаджана другая экспедыцыя, начальнікам якой Г. І. Невяльской прызначыць маёра Бусэ. У той час японцаў на востраве было не

так многа. Рыбныя промыслы знаходзіліся пад наглядам японскага афіцэра, які прыязджаў на Сахалін кожную вясну і ад'язджаў з апошнімі джонкамі восенню. Зімаваць жа на востраве заставалася 20—25 японцаў, каб назіраць за хлеўчукамі і рознымі прыладамі лову. Акрамя рыбнага промыслу японцы займаліся выварваннем солі з марской вады. Вайсковых пастоў і пасяленняў не было. У маі 1854 года адмірал Пуцяцін паслаў на Сахалін капітан-лейтэнанта Пасьета, а з ім і прадпісанне маёру Бусэ. «Паводле звестак, атрыманых мною з апошняй поштаю, Расія знаходзіцца ў вайне з Англіяй і Францыяй. Начальнікам крэйсіруючых у тутэйшых морах атрадаў гэтых дзвюх дзяржаў вядома пра зносіны нашы з японцамі і ў Нагасакі ім паведамяць пра наш Аніўскі пост. Давераныя вашаму высокаблагароддзю ўмацаванні ні ў якім разе не ў стане супрацьстаяць цэлай эскадры суднаў, і таму я меркаваў бы, што цяпер не варта трымаць суднаў нашых у Аніўскім заліве, і само ўмацаванне палічыў бы за лепшае на час зліквідаваць і перавесці ў Імператарскую гавань.

Але так як мне не зусім вядомыя распараджэнні і атрыманыя вамі інструкцыі ад генерал-губернатара Усходняй Сібіры, дык я не абцяжару вас зробленай мною вам прапановаю, але даю магчымасць дзейнічаць у гэтым выпадку на ўласны ваш погляд».

Апошнія словы Пуцяціна былі на руку маёру Бусэ. Доўга не раздумваючы, ён баязліва пакінуў пост, тым самым адкрыў японцам шырокія мажлівасці гаспадарыць на паўднёвай частцы Сахаліна.

Лейтэнант Мікалай Руданоўскі, былы памочнік Бусэ ў гэтай экспедыцыі, пасля ўспамінаў, што Невяльской выказваў незадаволенасць такім учынкам маёра. «Мураўёўскі пост ні пад якім выглядам з Анівы здымаць нельга было, у крайнім жа выпадку трэба было аддаліць яго ад берага ўнутр вострава».

Японцы не драмалі. Пасля ад'езду рускай экспедыцыі губернатар Хакайда Мурагамі Авадзіно-камі паслаў на Сахалін некалькі дзясяткаў салдат і 22 афіцэры, не лічачы сезонных рыбакоў. Старшым над паўднёваю часткаю вострава быў прызначаны джанчын[1] Сумедзі-сама.

Да моманту перагавораў Мураўёва з сёгунам пра Сахалін японцы ўжо стварылі там сваю калонію. Пры першай сустрэчы з Іі Каманно, калі Мікалай Мікалаевіч пачаў даказваць няслушнасць прэтэнзій японцаў на востраў Сахалін, рэгент не прамовіў ні аднаго слова ў адказ. Непранікальная сцяна маўчання. Мураўёў ка-

[1] Джанчын — афіцэр-камендант гарнізона.

роткімі залпамі фраз пачаў знішчаць сваіх субяседнікаў, але яны па-ўсходняму не спяшаліся яму адказваць. Як быць? І генерал-губернатар вырашыў прыпалохаць, ягоны пункт погляду пасля быў адлюстраваны ў пісьме міністру замежных спраў князю Гарчакову: «У заключэнне неабходным лічу прасіць вашу яснавяльможнасць выклапатаць найвышэйшы загад аб заняцці, з адкрыццём навігацыі 1860 года, нашымі войскамі паўднёвай ускраіны Сахаліна і пабудове там умацавання для пристанішча суднам нашым, якія будуць праходзіць Лаперузавым пралівам, і, паводле літаральнага сэнсу трактата 1855 года, па якім востраў Сахалін астаецца паміж Расіяй і Японіяй непадзеленым».

Іосіфа Антонавіча раздражняла палітычная слепата Мураўёва, яго лютая злосць на сёгуна і цвёрдакаменная перакананасць, што адным вокрыкам можна паставіць японскі ўрад на калені. Трэба ж захоўваць аб'ектыўнасць суджэнняў! Асабліва цяпер, калі Японію раздзірае міжусобіца. Генерал-губернатар Усходняй Сібіры праводзіў дыпламатыю эфекту, а не дыпламатыю палітычнага рэалізму. Яго планы запазніліся на цэлыя тры гады. Трэба было слухацца парадаў Генадзя Іванавіча Невяльскога, а не браць пад абарону палахліўца і кар'ерыста маёра Бусэ.

У гэтым самым лісце Мураўёў прызнаваўся:

«...аб перагаворах маіх у Японіі, якія ў адносінах Сахаліна не мелі жаданага поспеху (імператар Аляксандр ІІ уласнаручна падкрэсліў гэтыя словы і напісаў: «Вельмі шкода».— *В. Г.*)... але цяперашняе наведанне маё сталіцы Японіі з прыстойнаю эскадраю будзе, вядома, мець карысны для нас уплыў на розумы японцаў, а прадстаўнікі там Англіі і Амерыканскіх Злучаных Штатаў, без сумнення, будуць задаволены за тыя сяброўскія парады, якія я ўнушыў японскаму ўраду ў час прабывання ў Іеда».

Гэта ўжо было выхвалянне Мураўёва.

Пакідаючы Японію, генерал-губернатар не ведаў, на кім спагнаць злосць за няўдачу сваёй дыпламатычнай місіі. На гэты раз ён чамусьці застаўся незадаволены маракамі. У пісьме да свайго будучага пераемніка і сваяка генерал-маёра Карсакава саноўны вяльможа скардзіўся: «Наогул марское ведамства паводзіць сябе тут вельмі пагана, і трэба раптам усё перамяніць, пра што, калі можаш, перагавары з Крабэ. Я пакінуў свае заўвагі пра некаторых афіцэраў, ды толькі маю дадаць, што пра каго я быў пасрэднай думкі, цяпер стаў думкі дрэннай. Грэх будзе вялікаму князю за флатылію і порты Усходняга акіяна, калі ён замарудзіць высылку сюды Папова».

# ПАДВОДНЫЯ КАМЯНІ

## I

Капітан 1-га рангу Папоў выйшаў з Кранштата, камандуючы атрадам з двух карветаў і кліпера, вясною 1859 года. Па дарозе ён зайшоў на часовую стаянку ў амерыканскі порт Сан-Францыска, дзе яго дагнала сумная вестка пра тое, што яшчэ ў маі памёр любімы ім бацька — генерал-маёр корпуса карабельных інжынераў Аляксандр Андрэевіч Папоў. Папоў-малодшы заўсёды лічыў бацьку першым сваім настаўнікам і лепшым сябрам. Трэба было распарадзіцца яго спадчынаю і вучонымі працамі. Андрэй Аляксандравіч здаў камандаванне атрадам капітану 1-га рангу І. Ліхачову, а сам вярнуўся ў Пецярбург.

У японскіх водах рускія караблі з'явіліся ў студзені 1860 года. Іван Фёдаравіч Ліхачоў паслаў на востраў Цусіма карвет «Пасаднік», аддаўшы загад камандзіру флігель-ад'ютанту Бірылёву высадзіць на востраве маракоў і прыступіць да грунтоўнага рамонту судна. Аб гэтай акцыі ён не паставіў да ведама консула Гашкевіча, а паведаміў яму толькі ў Хакадатэ, калі ўжо спыніць марскога афіцэра ад неразважлівага кроку было позна.

...На досвітку фрэгат «Святлана» і два рускія кліперы кінулі якары на хакадацкім рэйдзе. Лейтэнант Назімаў адразу ж нанёс візіт флагману Ліхачову і паскардзіўся на сваю бесталковую службу. Паўтара года, як консульства атайбавалася ў Хакадатэ, яму, ваеннамарскому агенту, амаль не даводзіцца бываць у японскіх портах. Праўда, у маі 1859 года Павел Назімаў аглядаў на кліперы «Джыгіт» норд-веставыя берагі Ніхону, але гэта было адзін раз і, відаць, недастаткова для добрасумленнага выканання інструкцыі Галоўнага марскога штаба. Увесь гэты час лейтэнант Назімаў, паводле даручэння Гашкевіча, займаўся будаўніцтвам консульскіх будынкаў. Па яго праектах да красавіка 1860 года былі пабудаваны двухпавярховы дом для консула і аднапавярховы для доктара Альбрэхта. Будаўніцтва лазарэта і царквы часова прыпынена ў сувязі з дарагавізнаю матэрыялаў.

Капітан 1-га рангу Ліхачоў, выслухаўшы лейтэнанта Назімава, паабяцаў яму больш дзейснае поле дзейнасці.

— Добра, Павел Мікалаевіч, у гэтыя дні ў мяне будуць спатканні з консулам, пры выпадку я закіну слоўца за вас,— сказаў камандуючы атрадам.

Прайшло некалькі дзён.

За вокнамі згушчаўся змрок. Апошнія дні вясны, але зіме, здавалася, не будзе канца. На шыбах марозныя ўзоры. У кабінеце Іосіфа Антонавіча чадна гарэлі свечкі. Ён сядзеў за сталом і знаёміўся з дакументамі Азіяцкага дэпартамента, а пасля падышоў час прымаць наведвальнікаў. Такі сёння быў дзень.

Хакадацкі бонза Савабэ бавіў час у прыёмнай консула, чакаючы, калі Гашкевіч-сан запросіць яго на гутарку. Тут жа знаходзіліся і афіцэры з рускіх суднаў. На самым краі лаўкі, амаль каля ўваходных дзвярэй, сядзеў малады чалавек у чорным манаскім адзенні, падпяразаны простай вяроўкаю. Ён быў гожы. Твар худы з густымі светлымі бровамі, такая самая светлая рэдкая барода і доўгія, да плячэй, валасы. А яшчэ прыкмеціў Савабэ, што наведвальнік быў падобны да святога з рускага абраза, што вісеў на покуці ў рабочым кабінеце консула. І хоць на іконе намаляваны стары, а наведвальнік яшчэ малады чалавек, усё роўна іх нешта радніла.

Нарэшце дайшла чарга і да Савабэ. Веставы матрос, адкамандзіраваны з карабля на службу ў консульства, запрасіў яго ў кабінет.

Японскі бонза ад доўгага чакання ў прыёмнай крыху упаў духам і не ведаў, з чаго пачаць размову. Кабінет консула, у якім Савабэ бываў не раз, не прыгнятаў яго раскошаю, якой мог пахваліцца толькі мясцовы губернатар, у ім, акрамя вялікага стала, мноства кніг і фатаграфічнага апарата «дагератып»,— нічога не было. І ўсё ж, сам консул, высокі ростам і кавалер рускіх ордэнаў, выглядаў даволі прадстаўніча і непрыступна.

Пасля традыцыйных паклонаў у японскім духу, Гашкевіч пацікавіўся:

— Што вас прывяло да мяне, Савабэ-сан?

Бонзе падабалася, што з ім гаварылі на чыстай японскай мове.

— Я... даруйце, Гашкевіч-сан, хвалююся... Вы знаеце, я служу ў старажытнейшай кумірні і даўно ўжо, Гашкевіч-сан...

— Ведаю, ведаю, як жа. Бываў у вас.

— Вось-вось,— ужо больш асмялеўшы, Савабэ вырашыў адкрыцца,— я хачу прыняць Хрыстова хрышчэнне...

— Ці ўсё вы абдумалі, Савабэ-сан. У вас стан свяшчэннаслужыцеля і, як мне вядома, прыхаджане паважаюць вас. Я не кажу ўжо пра тое, што ў вас маладая жонка і маленькі сын... Як на гэта паглядзяць людзі, саслоўе самураяў?.. Вы станеце ізгоем. Вам, відаць, вядома пра ўцёкі Масды Кумедзаймона, што служыў у хэдскім храме?

— Гэта той, што з вамі з'ехаў у Расію? Вядома, Гашкевіч-сан.

— Так, ён у Расіі. Ён пазбегнуў смерці. А вы?

— Я ўсё абдумаў, Гашкевіч-сан. Я гатовы несці цяжкі крыж праваслаўя.

— Добра. Не будзем спяшацца. Зробім пакуль так. Вы звернецеся да губернатара на дазвол наведваць школу рускай мовы, каб бліжэй быць да нас... Час пакажа, можа, вы і перадумаеце. І давайце дамовімся, каб пра нашу гаворку ніхто не ведаў.

— Так, Гашкевіч-сан,— адказаў з паклонам Савабэ і пачаў спіною аддаляцца да дзвярэй.

Наступны матрос папрасіў прайсці да консула дзіўнага наведвальніка, на якога Савабэ звярнуў увагу.

— Іосіф Антонавіч чакае вас, айцец Мікалай.

«Мікалай» — зразумеў толькі гэтае слова Савабэ. Значыць — імя. Японскі бонза тады яшчэ не ведаў, што чалавек, падобны з вобліку на абраз стане той самай даверанай асобай, якой Савабэ будзе спавядацца і ўрэшце рэшт прыме рускую праваслаўную веру.

Гашкевіч, даўно марачы пра сталага служыцеля царквы, не чакаў, што з Пецярбурга прышлюць іераманаха. У расійскім консульстве на святароў сапраўды не вельмі шанцавала. Хто толькі не выконваў гэту службу. Спачатку карабельны свяшчэннік Васіль Махаў, пасля яго цёзка па прозвішчы Іван Махаў, пэўны час — псаломшчыкамі пры царкве былі кантаністы Аляксандр Маленда і Фёдар Карліёнін, былыя вучні Гашкевіча. Цяпер на месяц-другі прыслалі з Нікалаеўска-на-Амуры іераманаха Філарэта. Іосіф Антонавіч пазнаёміўся з дакументам, прысланым з найсвяцейшага сінода, у якім іераманах Мікалай характарызаваўся з добрага боку, але дзеля прыстойнасці трэба задаць некалькі пытанняў. Што Гашкевіч і зрабіў:

— Вы часам не князь Касаткін-Растоўскі[1], род якога ідзе ад Рурыка?

— Не, ваша правасхадзіцельства, з сялян я, смаленскі... З тых сялян, што разам з баярынам Нашчокіным у Смаленскім крамлі абарону трымалі.

— Цудоўны адказ, айцец Мікалай.

Будучы консульскі святар стаяў каля кніжнай паліцы, чытаючы залатыя цісненні на спінках кніг гаспадара кабінета. Іераманах, як паспеў заўважыць Гашкевіч, быў худы і бледны, знясілены частымі пастамі, на галаве — камілаўка і крэп.

— Калі вы прынялі манаства? — спытаў Гашкевіч.

— Летась на Тройцу.

— Калі не сакрэт: чаму вы зрабілі гэты крок?

---

[1]Айцец Мікалай — свецкае імя Іван Дзмітрыевіч Касаткін (1836—1912) — заснавальнік рускай праваслаўнай місіі ў Японіі, аўтар нарысаў «Пісьмы з Японіі», «Японія і Расія», «Японія з пункту погляду хрысціянскай місіі» і інш.

— У імя спрэчкі жыцця духоўнага і жыцця свецкага.

— Гэта мне знаёма. Але ці ў белым духавенстве вам не знайшлося б справы?

— Паводле маіх перакананняў, ваша міласць, прыходскія свяшчэннікі стаяць бліжэй да свецкага жыцця. Жыццё свецкае павінна саступіць месца жыццю першынствуючаму.

Гашкевіч зразумеў, што перад ім шчыры служка царквы.

— Пакуль будзеце жыць у будыйскім храме,— сказаў консул,— у келлі іераманаха Філарэта. Ён чалавек слаўны, з адкрытай марскою душою. Кажа: бераг яму надакучыў. Просіцца зноў на карвет. Хоць айцец Філарэт і настаяцель, але сэрца яго перапоўнена марацкай зухаватасцю. Пазнаёміцеся з ім, і ён увядзе вас у нашы свецкія справы.

Айцец Мікалай нахмурыўся, яму не спадабаліся словы Іосіфа Антонавіча. У іх манах убачыў недапушчальную вольнасць для праваслаўнага хрысціяніна, да таго ж яшчэ былога выхаванца духоўнай акадэміі.

Пачуўся кароткі стук у дзверы.

— Ваша высокая благародзь, з карвета прыбылі паны афіцэры фрэгата «Святлана».

— Прасі.— Консул узняўся з-за стала і сказаў манаху: — Заўтра раніцаю я рады буду бачыць вас разам з айцом Філарэтам.

Манах зрабіў паклон і, горбячыся, з апушчанай галавою, выйшаў з кабінета.

Капітан 1-га рангу Ліхачоў прыйшоў да консула не адзін, з ім быў капітан-лейтэнант Мусін-Пушкін, стары прыяцель Іосіфа Антонавіча.

Консул паважаў гэтага афіцэра. Мусін-Пушкін па натуры сваёй не прагны да славы, не кар'ерыст. Ён ніколі не думаў і не марыў пра тое, каб здзейсніць вялікія ўчынкі ў марской справе. Пра яго таксама нельга было сказаць, што ён мае выдатныя здольнасці. Затое ён быў настойлівы і выдатна ведаў службу. Чыны яму даставаліся нялёгка, хоць ён здзіўляў таварышаў па службе незвычайнай працаздольнасцю. Некаторыя маладыя афіцэры з «Дыяны» — Пешчураў, Зялёны, Калакольцаў — за нейкія дзесяць-дванаццаць гадоў вырастуць да адміралаў, а ён закончыць службу ўсяго толькі ў званні капітана 2-га рангу.

Івана Фёдаравіча Ліхачова Іосіф Антонавіч ведаў мала. Казалі, што ён храбра ваяваў у Крымскую кампанію, вызначаўся незвычайнай стараннасцю ў марской службе, часам уяўляў з сябе палітыка, знаўцу ўсходніх спраў, асабліва ахвотна гаварыў на гэту тэму ў пе-

цярбургскіх салонах, калі не было каму абарваць яго. Ліхачоў ганарыўся радавітасцю, якая ў спалучэнні з выдатнымі здольнасцямі адкрыла яму шлях у світу вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча.

У камандуючага атрадам былі свае, складзеныя паводле чутак адносіны да консула Гашкевіча. Са слоў генерал-губернатара Мураўёва рускі дыпламат у Японіі быў чымсьці накшталт вучонага кітайца: яго месца ў Азіяцкім дэпартаменце абазначана мелам, які можна сцерці мокрай анучкаю ў любы момант. Гашкевіч — дыпламат без сувязей, дыпламат, якога можна ставіць пад удар, не думаючы пра вынікі. На Дварцовай, 6, што каля Пеўчага маста, яму не знайсці абароны нават у міністэрскага швейцара. Усё гэта праўда. Але Ліхачоў не мог бы пахваліцца сваім веданнем людзей, калі б недаацаніў розум, такт, абаянне, нарэшце веданне ўсходніх моў расійскім консулам.

Госці прынялі запрашэнне гаспадара, апусціліся ў крэслы.

Капітан 1-га рангу ўсміхнуўся, прыўзняліся кончыкі вусоў, карэктна спытаў:

— Пан консул, вам не даводзілася лавіць сябе на думцы, што вы павінны накіраваць усю сваю дыпламатыю на абарону акцыі флігель-ад'ютанта Бірылёва?

— Няма чаго мудраваць, усю вашу задуму я лічу...

— Авантурнай? — перабіў Ліхачоў субяседніка.

У пэўнай ступені так яно і ёсць.

Афіцэр, сціснуўшы тонкія губы, ледзь стрымліваўся ад рэзкіх выказванняў.

— Вялікі князь Канстанцін даручыў мне зрабіць на востраве Цусіма стаянку для рамонту нашых караблёў. І я выканаю яго волю. А вы, шаноўны спадар, будзеце дапамагаць мне ў гэтым.

У Іосіфа Антонавіча былі вопыт, вытрымка, нарэшце прафесійная гібкасць, ён сказаў:

— Усё, што я думаю наконт гэтага пытання, я выкладу міністру Гарчакову.

Ліхачоў зразумеў, што пазіцыя консула астаецца цвёрдай. Відаць, для гісторыі, мяркуючы, што з часам дыпламатычную дзейнасць Гашкевіча асудзіць уся прагрэсіўная Расія, ён выклаў размову ў сваім дзённіку:

«6 красавіка. Гашкевіч не падзяляе маіх поглядаў на в. Цусіма. Ён прыняў той лад дзеянняў, які, вядома, мог перасцерагаць японцаў ад англічан і ўгаворваў іх, каб яны толькі трымалі яго ў курсе ўсіх дзеянняў і спроб англічан. Калі яны гэта зробяць, дык ён спадзяецца дыпламатычным шляхам дапамагаць ім. Але наўрад ці

можна на гэта спадзявацца. Трэба толькі знайсці зачэпку або выпадак, каб, як можна менш кампраметуючы сябе, папярэдзіць тут англічан і тым вырашыць пытанне назаўсёды. Японцы самі першыя яму ў гэтым даверыліся».

Як паказаў час, консул Гашкевіч у многім меў рацыю. У сваім палітычным курсе царскі ўрад часам збіваўся на ваенныя авантуры. На пачатку 1860 года сёгун атрымаў ад сваіх агентаў паведамленне, што англійскі флот намераны захапіць Цусіму. Японія баялася таксама акупацыі Цусімы і Францыяй. Вялікі князь Канстанцін вырашыў апярэдзіць Англію, і паводле яго прадпісання камандуючы атрадам караблёў капітан 1-га рангу Ліхачоў паслаў камандзіра карвета «Пасаднік» Бірылёва на Цусіму. Брытанскі адмірал Гоўн прад'явіў пратэст, і ўзнікла пагроза канфлікту з Англіяй, якая пагражала захопамі ў адказ у рускіх далёкаўсходніх водах. Паводле патрабавання Гашкевіча, царскі ўрад вырашыў адклікаць карвет «Пасаднік» з вострава Цусіма, але калі міністр Гарчакоў папрасіў англійскага пасла ў Пецярбургу Нэпіра заявіць, што Англія ніколі не завалодае Цусімаю, дык той ухіліўся ад такога абяцання. Японія заявіла свой пратэст пасля таго, як «Пасаднік» пакінуў востраў. Выкарыстоўваючы англа-рускія супярэчнасці, японскаму ўраду ўдалося ўтрымаць яго за сабою.

Усё гэта адбудзецца пасля, а 6 красавіка 1860 года, калі Ліхачоў зрабіў запіс у сваім дзённіку, у консула з марскім афіцэрам адбылася сур'ёзная размова, дзе была высветлена дакладная пазіцыя рускага дыпламата ў Японіі. Не знайшоўшы ў Гашкевіча аднадумца, госць павярнуў гутарку:

— Іосіф Антонавіч, у такім разе зрабіце мне маленькую паслугу. У гэтым плаванні я збіраюся абысці берагі Карэі... па тым самым шляху, які быў пракладзены «Паладаю». Вядома, не выключана мажлівасць, што мне давядзецца перамаўляцца з туземнымі ўладамі. Ці не маглі б вы ўзяць на сябе місію драгамана?

— Прызнаюся, ваша прапанова для мяне нечаканая. Ні сёння, ні заўтра я не гатовы да гэтага. Мая адлучка з Хакадатэ, хоць бы на кароткі час, пакуль непажаданая.

Ліхачоў з задавальненнем адзначыў сам сабе паважлівы тон, якім адказаў консул.

— Гэта ідэя належыць мне,— сказаў Мусін-Пушкін, які ўвесь час назіраў за паядынкам паміж Ліхачовым і Гашкевічам.— Спадзяюся, вы не крыўдуеце на мяне, Іосіф Антонавіч?

— Я заўсёды рады дапамагчы... Але ў гэтыя дні — выключана.

— Раніцаю пазаўчора ў мяне быў лейтэнант Назімаў,— сказаў Іван Фёдаравіч.— Марскі афіцэр мучыцца без справы...

— Скажыце прасцей: ён вам патрэбен?

— Так,— адказаў Ліхачоў.

— Мне таксама. Як доўга прабудзе ён у вашым распараджэнні? — спытаў Гашкевіч.— Павел Мікалаевіч у нас дойлід. Будоўля консульскіх дамоў на яго плячах.

— У гэтай якасці ён нам і патрэбен. У вярхоўях ракі Усуры генерал-губернатар загадаў ставіць ваенны пост.

— Даруйце, Іван Фёдаравіч, а хіба ў бухце Пасьета ў нас няма паста?

— Не. А што гэта вас так зацікавіла? — з пэўнай насцярожанасцю спытаў Ліхачоў.

— Ды так, нічога.

— Ну што вы, калі гаварыць шчыра — дык да канца.

— Калі ласка. Я не хацеў бы ставіць пад сумненне дзеянні яго правасхадзіцельства, але... Генадзь Іванавіч Невяльской яшчэ шэсць гадоў таму назад, як мне помніцца, прасіў генерал-губернатара ўстанавіць на Усуры пост. Не ж, не пайшоў на гэта Мураўёў. Як усё ж начальства часам бывае моцнае заднім розумам. Вы іншай думкі?

Капітан 1-га рангу Ліхачоў не знайшоўся адразу, што адказаць свайму субяседніку, паспяшыў пайсці ў глухую абарону.

— Ваша міласць Іосіф Антонавіч, нам, людзям вайсковым, падобны лад думак не да твару.

— Прашу дараваць,— перабіў Гашкевіч афіцэра.— Вы ж самі выклікалі мяне на шчырасць.

— Так, але я не мог прадбачыць, што вы...

— Зойдзеце так далёка?

— Так, так.

Мусін-Пушкін вырашыў прымірыць:

— Панове, мне здаецца, у вас няма прычыны для сваркі. Я ведаю, як Іосіф Антонавіч стаіць на абароне нашых далёкаўсходніх інтарэсаў. Ён жыве паводле прынцыпу: «Добрая дыпламатыя не павялічвае колькасці сваіх ворагаў». Навошта ж яму не быць з намі па-свойску шчырым?

— Так, так,— сказаў Ліхачоў. Яго вусы ваяўніча ўзняліся ўгару. Госці яшчэ крыху пагаварылі і неўзабаве паехалі на фрэгат «Святлана», падзякаваўшы гаспадару за цёплы прыём.

У гэты вечар Іосіф Антонавіч не заплюшчыў вачэй.

«Дзіўна. Вельмі дзіўна,— разважаў консул.— Мне гаварылі столькі многа пахвальнага пра Івана Фёдаравіча, што ён разваж-

ліві, удумлівы чалавек, а ён... Яму — і баяцца. Навошта? Паслухаў бы нашу гутарку Генадзь Іванавіч, вось бы дзіву даўся».

Іосіф Антонавіч меў усе падставы здзіўляцца паводзінам Ліхачова. Некалькі гадоў таму назад, калі Іван Фёдаравіч яшчэ не насіў пышны тытул флігель-ад'ютанта яго імператарскай вялікасці і не быў камандуючым атрада кліпераў у Кітайскім і Японскім морах, ён падзяляў многія смелыя гіпотэзы Невяльскога і рады быў пры выпадку яму памагчы.

У ліпені 1852 года лейтэнант Ліхачоў, будучы камандзірам карвета «Алівуца», насуперак загаду контр-адмірала Завойкі вярнуцца з Пятроўскага зімоўя на Камчатку і не заходзіць у Аян, не паслухаў, павёў свой карвет у галоўны порт Расійска-амерыканскай кампаніі і прыняў там муку, крупы, соль і тым часткова ўратаваў Невяльскога і ўсю Амурскую экспедыцыю ад напаўгалоднага існавання. Лейтэнант Ліхачоў ва ўсім слухаўся Невяльскога, хоць і не быў яму падначалены, і не пярэчыў, калі Генадзь Іванавіч забраў у яго з карвета двух мічманаў Разградскага і Пятрова, а таксама дзесяць матросаў-цесляроў.

Сапраўды, час і чыны рэдка ўплываюць на людзей станоўча, тым больш вайсковых. Ад іх патрабаваць велічы душы трэба па магчымасці, а не па жаданні.

Раніцай 7 красавіка на мачтах усіх рускіх караблёў затрапятаў сігнал па ветры: «Шчасліва аставацца». Консул Гашкевіч загадаў каравульнаму матросу ўзняць у адказ — «Шчаслівага плавання». Фрэгат «Святлана», адвозячы на борце флагмана Ліхачова, накіроўваўся да далёкаўсходніх берагоў у бухту Пасьета, дзе намячалася высадка атрада лейтэнанта Назімава, пасля судна павінна праследаваць уздоўж берагоў Карэі з заходам на Цусіму.

13 красавіка Іосіф Антонавіч паслаў ліст Ліхачову.

«...Другая навіна датычыцца асабіста нас з вамі,— пісаў консул.— Гідсан, англ. консул, разгневаўшыся за тое, што Вы не зрабілі яму візіту, уздумаў спагнаць гнеў свой на мне і адразу пасля Вашага адыходу запатрабаваў, каб я неадкладна вярнуў яму 5000, пазычаных у яго і якіх вяртання абяцаў раней чакаць да вяртання кліпера з Шанхая. Я адразу заплаціў яму, узяўшы гэту суму ў губернатара[1], якому таксама абяцаў вярнуць не пазней за два месяцы. Гнеў п. Гідсана, вядома, лухта, але, як бачыце, я ўвесь у даўгах, хоць (маю тысяч на дзесяць золата, якое не ходзіць ні тут, ні ў Кітаі) у Ролсія[2] ёсць на маё імя крэдытыў на тысячу з нечым фунтаў, аб

---

[1]Губернатар — Мурагамі Авадзіно-камі, губернатар Хакадатэ.

[2]Ролсія — шанхайскі банкір.

размене якіх я прасіў Аляксея Аляксандравіча[1]. Яму ж даручыў я размяняць тры пуды зліткаў, што меліся ў мяне. Але ўсяго гэтага аднак жа недастаткова. І я прашу Вас пакорна дастаць мне тысяч дзесяць звыш таго, каб мне расплаціцца з даўгамі, якія назапасіліся ад леташняй эскадры. А калі і сёлета наведае Хакадатэ такая ж, дык і грошай запатрабуецца паболей. Спадзяюся таксама, што Вы паможаце стрымаць дадзенае губернатару слова і раней за два месяцы прышлеце кліпер або іншае судна са сродкамі».

Прамінулі тры месяцы.

Іван Фёдаравіч Ліхачоў выканаў просьбу Гашкевіча, ён прыслаў суму, якую прасілі, праўда, з невялікім спазненнем, але прыслаў. У канцы ліпеня ў Хакадатэ прыйшоў транспарт «Японец», на яго борце знаходзіўся лейтэнант Кураедаў, якому было даручана даставіць грошы ў рускае консульства. Іосіф Антонавіч вярнуў доўг губернатару Хакадатэ, разлічыўся з цеслярамі, што будавалі дом, і ўсё ж грошай не хапала нават на закладку фундамента пад бальніцу і праваслаўны храм. Бедная казна ўрада — адно-адзінае консульства і то ўтрымліваць не пад сілу. Англічане, амерыканцы і французы не скупіліся, яны адкрылі консульствы ва ўсіх значных портах Японіі: Нагасакі, Хакадатэ, Канагаве, а месца прабывання пасланнікаў устанавілі ў самой сталіцы сёгуна Эда.

Жыццё ў Хакадатэ працякала сумна. На рэйдзе рускіх караблёў не было. Над акіянам пачынаўся дзень, мутны і шэры, У такія хвіліны тужліва бывае на душы. Іосіф Антонавіч сеў за пісьмо. Ён дзяліўся з Ліхачовым скупымі навінамі, няскладным і безнадзейным жыццём-быццём.

«Вельмі шкадую, што не мог быць вам карысным настолькі, колькі быць самому хацелася. У Вашу адсутнасць у нас усё было ціха і мірна, так што адсутнасць мая з Хакадатэ, відаць, была мажліваю; але хто ж мог наперад прадбачыць. Праўда, прыходзілі два рускія, або правільней фінляндскія, кітабоі, якіх я забяспечыў бульбаю.

Судна Амурскай кампаніі, якое ішло з Гамбурга, прайшло міма нас. Калі капітану раілі зайсці і ўзяць пакінутыя «японцамі»[2] катлы, якія належалі той самай кампаніі, дык ён адказаў, што не мае на гэта загаду! Але галоўны мой поспех у Вашу адсутнасць — пабудова дома; без мяне ён астаўся б у тым самым стане, у якім быў пры Вас. І то работнікі кідалі два разы з-за недахопу грошай. Цяпер не

[1] Аляксей Аляксандравіч — лейтэнант Карнілаў, камандзір кліпера «Джыгіт».

[2] Каманда транспарта «Японец» пакінула якары, ланцугі, катлы, якія прызначаліся для порта Нікалаеўск-на-Амуры.

ведаю, што рабіць з будаўніцтвам іншых дамоў і бальніцы: грошай няма.

...Навінаў надзвычайных у нас зусім няма. Мір наш з губернатарам не ўсім падабаецца. Англ. консул сказаў віцэ-губернатару, што яны гатовыя бадай што аддаць рускаму консулу і ўсё Хакадатэ...»

«Аддаць» — мажліва, моцна сказана. Але аўтарытэт Гашкевіча сапраўды быў высокі. І не толькі сярод японскіх улад, але і сярод англійскіх купцоў, якія жылі ў Хакадатэ. Вядомы, напрыклад, такі выпадак, калі купцы прыйшлі да рускага консула са скаргаю на свайго суайчынніка пана Годсана, што сваімі высакамернымі паводзінамі з японцамі заслужыў усеагульную нелюбоў. Выслухаўшы англічан, Іосіф Антонавіч згадзіўся паслаць асабісты ліст паўнамоцнаму міністру ў Эда пану Алькоку. Цяжка сказаць, наколькі паўплывала пісьмо, але становішча ў паўднёвай частцы Японіі было такое, што сам Алькок не мог выйсці з варот свайго дома без узброенай аховы, якая дасягала часам ад 20 да 30 чалавек. Таму ён не хацеў сваркі з хакадацкім губернатарам і настояў на водкліку консула Годсана.

Але вернемся да ліста консула, у якім ён расказваў пра навіны ў Хакадатэ.

«...У мінулым месяцы тут каралі злачынца... спалілі яго жывога. Але як толькі ён памёр, дык агонь быў патушаны. Цела на просьбу тутэйшых японскіх дактароў дазволена было ўскрыць нашаму доктару, каб паказаць ім будову цела чалавечага. Такім чынам, прачытана была лекцыя па анатоміі.

У доктара Альбрэхта цяпер тры вучні медыцыны сталыя, але на гэтай лекцыі было каля 15...»[1].

Цікавасць, праяўленая японскімі дактарамі да лекцыі, прыбавіла сілы Міхаілу Альбрэхту. У яго не было фельчара, але ён ні на хвіліну не паслабляў работы ў лабараторыі, сам рыхтаваў лекі, займаўся рознымі службовымі, арганізацыйнымі справамі на суднах эскадры і ў шпіталі пры консульстве. Яго пацыентамі былі не толькі матросы і афіцэры, але і японцы, нягледзячы на тое, што мясцовыя ізаляцыяністы палохалі тутэйшых жыхароў: «Усе хваробы ад варвараў-чужаземцаў». Гэта абвінавачанне, праўда, не спыняла многіх

---

[1] За ўсю гісторыю Японіі гэта быў другі выпадак анатаміравання трупа. Японцы, строга пільнуючыся культу продкаў, лічылі, што калі чалавек дакранецца да трупа, дык ён ужо нечысць, а калі будзе рэзаць — агідная істота, а не чалавек. У 1859 годзе галандскі ўрач Помп ван Мержэрвоарт прэпараваў труп пакаранага злачынцы. Улады загадалі пахаваць цела з ушанаваннем «з увагі на карысць, прынесеную ім ведам».

хворых, якія не мелі іншай мажлівасці атрымаць кваліфікаваную медыцынскую дапамогу, як у рускага докатара. Таму губернатар Хакадатэ Мурагамі вымушаны быў дазволіць хворым японцам хадзіць на прыёмы да консульскага ўрача, але пад кантролем. Вось што пісаў з гэтай нагоды Міхаіл Альбрэхт:

«З першым прыходам хворых японцаў заяўляўся да мяне японскі лекар, на жаданне хакадацкага губернатара, каб сачыць за маёй амбулаторнаю і палiклiнiчнаю практыкаю, пасля далучыўшы яшчэ двух японскiх дактароў, якiя гасцюююць у мяне штодзённа...»

Наўрад ці гэты кантроль успрымаўся Альбрэхтам спакойна. I без яго ён з прычыны свайго характару старанна займаўся б з кожным хворым, каб быў відаць вынік лячэння. Ён не сумняваўся: усё, што робіцца,— усё гэта неабходнае для людзей. Хворыя паважалі і любілі яго і не крыўдавалі, калі ён сварыўся з выпадку парушэння пацыентамі бальнічнага рэжыму.

Калі ўжо я загаварыў пра доктара Міхаіла Альбрэхта, трэба расказаць і аб іншых рускіх медыках. Пераемнікам надворнага саветніка Альбрэхта стаў калежскі асэсар Ілья Залескі, адкамандзіраваны ў консульства з карвета «Калевала», на якім ён служыў малодшым доктарам.

У 1866 годзе на змену Залескаму прыбыў лекар Уладзімір Вестлі, пра якога ў Хакадатэ склалася думка як пра чараўніка, што прыехаў «у эпоху Мейдзі, аказаўшага медыцынскую дапамогу насельніцтву». Гэтыя словы напісаны на маляўнічым шчыце, пастаўленым каля ўваходу на рускія праваслаўныя могілкі ў Хакадатэ.

Вясною 1862 года, яшчэ пры доктары Альбрэхце, у штатным раскладзе консульства з'явілася пасада фельчара. У жніўні яе заняў прысланы з кранштацкага марскога шпіталя Аляксандр Лоцкер. Праз тры гады на змену Лоцкеру прыехаў старшы фельчар 27-га флоцкага экіпажа Пётр Мацвееў — дзед Мікалая Мікалаевіча Мацвеева-Бодрага, вядомага ў 1920-я гады на Далёкім Усходзе журналіста, прадзед рускай паэтэсы Навелы Мацвеевай, песні якой спявае да гэтага часу наша моладзь.

Калі да гэтых мужчын-фельчараў дадаць імёны сясцёр міласэрнасці: маладую жонку Лоцкера Соф'ю, дачку калежскага сакратара Чарнова з Нікалаеўска-на-Амуры, а таксама Вольгу Аляксандраўну Дарафееўскую з павятовага гарадка Тоцьма Валагодскай губерні,— гэта і будзе той невялікі калектыў медыкаў, пра самаадданую і падзвіжніцкую дзейнасць якога мала хто ведае. Лічу справядлівым назваць усіх паіменна, сказаць добрае слова.

У сваім пісьме консул Гашкевіч упамянуў, што «ў доктара Альбрэхта цяпер тры вучні медыцыны сталыя...» Хто яны? Што мы ведаем пра іх? Амаль нічога. Займаючыся пошукам, я аднойчы звярнуў увагу на прозвішча японскага лекара — Фукасэ. Ці не ён быў у сяброўскіх адносінах з рускімі медыкамі? Ці не ён вучань Міхаіла Альбрэхта? Пацвярджэнне сваёй здагадцы я атрымаў у Хакадатэ, куды ў жніўні 1985 года прыляцеў з панам Судзукавам. Мы ўжо наведалі Токіа, Осаку, Амагасакі, Сендай, Сапара, трэба было «прайсці маршрутам І. А. Гашкевіча». У аэрапорце Хакадатэ нас сустрэў з чароўнаю ўсмешкаю Ціё Хадзімэ, гісторык і археолаг, старшы навуковы супрацоўнік Хакадацкага краязнаўчага музея. Па характары яго можна аднесці да тых людзей, з якімі не бывае сумна. І да таго ж ён бліскуча ведаў усё пра свой горад, яго гісторыю і выдатных людзей, якія пакінулі след у навуцы і культуры вострава Хакайда. Ёсць у яго і некалькі артыкулаў пра І. А. Гашкевіча.

Пакінуўшы рэчы ў гасцініцы «Сіена», адправіліся аглядаць старую частку горада, яго славутасці: будынак Рускага консульства, вёску Каміда (сёння гэта гарадскі квартал), могілкі, дзе пахаваныя маракі з эскадры Ціхага акіяна... Каля рускай праваслаўнай царквы, дзе заўсёды можна сустрэць турыстаў, Ціё-сан пазнаёміў мяне з пажылым японцам, падобным на еўрапейца. Што мне адразу кінулася ў вочы — гэта белая-белая галава, правільныя рысы твару і блакітнаватыя вочы.

— Вось мой сюрпрыз,— сказаў, усміхнуўшыся, Ціё-сан,— гэта доктар Канціра Фукасэ.

Мы пакланіліся адзін аднаму, абмяняліся візіткамі. У нязмушанай гутарцы высветлілася, што доктар Фукасэ чытаў «Адысея з Белай Русі» на японскай мове і жадае праз Ціё-сан выказаць удзячнасць за тое, што я адвёў некалькі старонак доктару Альбрэхту, пра якога ў родзе Фукасэ ўспамінаюць як аб хрышчоным бацьку. Бо ён, доктар Альбрэхт, падзяліўся сваім багатым вопытам з Сюндоу Фукасэ — прадзедам.

— У нашай сям'і — культ консула Гашкевіча і доктара Альбрэхта,— з гордасцю дадаў Канціра Фукасэ.— Па сямейнай традыцыі ўсе мужчыны — дактары. І я не выключэнне.

Энергічны, поўны сіл, нягледзячы на тое, што яму пераваліла за семдзясят, Фукасэ збіраецца напісаць кніжку пра свайго прадзеда — вучня рускага доктара Міхаіла Альбрэхта.

Я спадзяюся, што чытач даруе мне за такое адступленне. Яно, як кажуць, дарэчы. Калі памятаць пра тое, што непарыўная сувязь часоў.

...Пісьмо сваё консул Гашкевіч адправіў флагману караблёў з капітанам парахода «Амерыка». На гэтым судне вярнуўся лейтэнант Назімаў. У консульстве яго чакаў загад. Упраўляючы марскім міністэрствам адмірал М. К. Крабэ адклікаў афіцэра ў Пецярбург.

З адыходам «Амерыкі» у Хакадатэ не было ніводнага рускага ваеннага карабля. Пошта прыходзіла з аказіяй, праз Шанхай, і не так часта. Раз у два месяцы. Адсутнасць суднаў пад расійскім флагам звязвала службовыя дзеянні консула. Паездкі ў Нагасакі і Эда не па яго волі адкладваліся на няпэўны час.

## II

У канцы снежня 1860 года камандуючы атрадам кліпераў зноў наведаў Хакадатэ. Ліхачову нялёгка было змірыцца з «пасіўнай пазіцыяй» консула ў адносінах вострава Цусімы. Ён настояў на сваім: Гашкевіч ідзе на карвеце «Ваявода» ў Нагасакі, дзе яго чакае Ліхачоў, пасля накіроўваецца на карвеце «Пасаднік» у Эда. У сталіцы сёгуна дыпламатычны прадстаўнік Расіі павінен дамагчыся аўдыенцыі ў міністра Андо Цусімано-камі і запатрабаваць ад яго адмовы ад прэтэнзій Японіі на востраў. Такое катэгарычнае патрабаванне прадыктавана жаданнем Ліхачова выслужыцца перад генерал-адміралам вялікім князем Канстанцінам.

У сваім дзённіку Іван Фёдаравіч Ліхачоў адлюстроўваў кожны крок консула Гашкевіча.

«28 студзеня. Каля 1 гадзіны прыехаў Гашкевіч, якому вытлумачыў, чаму яму трэба быць у Еда...

30 студзеня. Паслаў Бірылёва прасіць Гашкевіча паспяшацца з ад'ездам і зрабіць сёння ж развітальны візіт губернатару... Прыйшоў з Еда параход «Кадзіс» з весткаю, што Амер(ыканскі) сакр(этны) пас(ланнік) забіты і ўсе пасланнікі, за выключэннем Гарыса, пераехалі ў Канагаву, аб'явіўшы ўраду, што яны не вернуцца, пакуль не будуць прыняты лепшыя меры для бяспекі еўрапейцаў наогул і асабліва пасольстваў. З-за гэтага Гашкевіч не рашаецца везці туды сваіх дам[1] і просіць дазволу вярнуцца ў Хакадатэ.

31 студзеня. Раніцаю быў Гашкевіч і вырашылі, каб ён ішоў на «Пасадніку» ў Хакадатэ, куды да яго будзе следам за гэтым прысланы адзін з кліпераў, на якім ён пойдзе ў Еда.

1 лютага. Быў зноў Гашкевіч. Перагаварылі аб падрабязнасцях. Заклікаў Бірылёва і аб'явіў яму аб назначэнні, загадаўшы трымаць у

[1] У паездцы ў Канагаву і ў Эда Гашкевіча суправаджалі жонка Лізавета Сцяпанаўна, жонка доктара Альбрэхта і дзве служанкі.

таямніцы. Гашкевіч перабраўся на карвет, дзе быў абед... Я прыехаў вечарам развітацца з дамамі».

На пачатку 1861 года ў Эда сабраўся ўрадавы савет, каб абмеркаваць — які ўжо раз — сваю палітыку да іншаземных дзяржаў. Адзін з міністраў, Хоры Арыбэно-камі, чалавек прадбачлівы і моцны характарам, настойліва патрабаваў, каб савет вынес рашэнне аб неадкладным выдаленні з Японіі англійскага пасланніка Рутэфорда Алькока і сакратара амерыканскага консульства Хейскена, як людзей, што дрэнна ўплываюць на пэўных чыноўнікаў сёгуна, у руках у якіх улада. Другі міністр Андо Цусімано-камі, які адказваў за вядзенне замежных спраў у савеце, рэзка крытыкаваў пазіцыю Хоры. Андо лічыў, што ўсялякае імкненне ўступіць у канфлікт з іншаземцамі да дабра не прывядзе. Гэта пэўная вайна, і людзі, якія штурхаюць краіну на няправільны крок, не любяць свае айчыны, яны заклятыя ворагі Японіі. Міністр Хоры не вынес такой цяжкай крыўды. Прыйшоўшы дамоў, ён аб'явіў сям'і і сябрам, што мае намер пазбавіць сябе жыцця. 10 студзеня Хоры ўрачыста выканаў абрад харакіры.

Сябры і прыхільнікі міністра-нябожчыка вырашылі расквітацца з ворагамі нацыі. Ноччу 19 студзеня яны забілі амерыканца Хейскена, які выходзіў з дому нямецкага консульства.

Сэр Алькок, напалохаўшыся тэрору, на наступны дзень пакінуў сталіцу сёгуна, з'ехаўшы ў Йакагаму. Пайшлі чуткі, што англійскі пасланнік не з'явіцца ў Эда да таго часу, пакуль тайкун не запросіць яго вярнуцца ў сваю рэзідэнцыю ў храм Тадзэнзе і не гарантуе мір і спакой усім замежным місіям. Следам за Алькокам з Эда выехалі дыпламатычны агент Францыі Шэнь дэ Белакур і Галандыі — дэ Віт. Толькі амерыканскі консул Гарыс не праявіў маладушнасці, хоць, здавалася, ён павінен першым прыняць выклік, бо гібель суайчынніка — гэта падрыў прэстыжу самога консула. Але Гарыс астаўся ў Эда, каб быць бліжэй да японскіх міністраў і па-ранейшаму праводзіць сваю палітыку. Консулы еўрапейскіх дзяржаў, і найперш сэр Алькок, затаілі на Гарыса злосць.

Рускі консул Гашкевіч быў збянтэжаны.

Капітан 1-га рангу І. Ліхачоў выбраў самы неадпаведны час для гаворкі з японскімі міністрамі пра лёс вострава Цусіма. Нават дзіцяці і то зразумела, што ў цяжкі момант крызісу ўрадавага савета выключана не толькі прызнанне правоў на востраў, але выключаны або амаль выключаны нават жэст, які мог быць вытлумачаны як выяўленне лаяльнасці да блізкага суседа Японіі. Толькі б утрымаць прэстыж Расіі, а што да палітыкі ваенных авантур, дык на гэты конт

Гашкевіч не меў ілюзій. У консула была больш сціплая мэта: пераканаць японцаў у тым, што Расія не мае намеру патакаць ні Амерыцы, ні Англіі. Яна будзе стаяць асобна. А цяпер трэба вяртацца ў Хакадатэ, калі можна — як найхутчэй. З гэтымі думкамі Гашкевіч выехаў на кліперы «Наезнік» з Нагасакі ў Эда.

Пані Альбрэхт у лісце да сваіх сваякоў дзялілася ўспамінамі пра дні, праведзеныя ў свіце консула ў сталіцы сёгуна:

«Я, здаецца, ужо пісала вам, што консул наш адразу пасля прыбыцця ў Іеда аб'явіў тром міністрам, якія прыйшлі павіншаваць нас са шчаслівым прыбыццём, свой намер вярнуцца ў Хакадатэ сухою дарогаю і як найхутчэй. Яны, здавалася, былі азадачаны, але абяцалі прадставіць гэта ў савет міністраў і даць праз некалькі дзён які б там ні было адказ. Хоць адны генеральныя консулы маюць права сухой дарогаю падарожнічаць па Японіі, але ўсё ж з боку японскага ўрада нельга было чакаць ніякіх перашкод, таму што тут усяго адзін рускі консул, які на гэтай падставе карыстаецца правамі генеральнага консула. З нецярпеннем чакалі мы адказу; вельмі хацелася нам праехацца па зусім невядомай частцы Японіі, куды не заглядваў яшчэ ні адзін іншаземец. Нямала палохала нас таксама думка адправіцца зноў морам у Хакадатэ, гайданка, марская хвароба, агідныя вятры і штормы аднялі ў нас назаўсёды ахвоту рабіць марскія падарожжы. Але следуючы сваёй звычайнай марудлівасці, японцы не раней як праз тыдзень прынеслі нам амаль станоўчы адказ; амаль, бо запэўнівалі, што раней як праз 8 дзён мы ніяк не можам адправіцца з Іеда, што трэба зараней пасдаць перадавога, падрыхтаваць усё на станцыях для нашага прыёму, нарыхтаваць насільшчыкаў і ўючных коней (у Японіі з прычыны гарыстага месцазнаходжання інакш не падарожнічаюць, як вярхом або пешшу, арыстакратыя ж японская і большая частка чыноўнікаў — у насілках)... Але пасля рашучага адказу консула, што ён не можа чакаць так доўга... згадзіліся адправіць нас праз 5 дзён. Няма чаго рабіць, давялося чакаць».

...Ажыўленая частка горада Эда — яго ўсходняя ўскраіна, названая Сота-Сіра, гэта раён гандляроў і лодараў. Каго толькі там нельга было сустрэць! Вандроўныя купцы з пераноснымі крамкамі, якія гучна зазываюць пакупнікоў; гандляркі з паходнай жароўняй, на якой падаграваюцца салодкія піражкі; прадаўцы кветак і вучоных птушак, фокуснікі, барцы, вулічныя гаваруны-акцёры, какетлівыя жанчыны, нарумяненыя, як лялькі, манахі, багамольцы ў рагожынах. Зрэдку пранясецца на пары маленькіх коней шарабан з панамізамежнікамі або пройдзе сляпы манах, апіраючыся на сукаваты кій і пазвоньваючы званочкам, каб звярнуць на сябе ўвагу публікі.

К вечару вулічны шум сціхаў. З пачаткам змроку на гэтым бойкім месцы запальваліся шматлікія агні папяровых ліхтароў усіх колераў вясёлкі. Музыка і ярка нафарбаваныя гейшы, што тоўпіліся каля дзвярэй чайных дамоў, адкрыта зазывалі мужчын. Японцы, аматары начных уцех, звычайна прыходзілі ў чайныя дамы інкогніта. Каб не быць пазнанымі, яны абвязвалі галаву хусткаю, пакідаючы шчыліну для вачэй. Правая рука ляжала на рукаятцы кінжала. Гэта на ўсякі выпадак. Начныя прыгажуні забаўлялі наведвальнікаў ігрою на самісене (гітары), спевамі і танцамі.

Японцы, багата надораныя ў многіх відах мастацтва, як гэта ні дзіўна, амаль не былі знаёмыя з музыкаю і, галоўным чынам, з інструментальнаю... Музычныя інструменты завезены ў Японію з розных краін. Самізо, або баньё, вельмі падобныя на прадаўгаватыя цытры, паявіліся з вострава Лусон. Будысты прывезлі некалькі разнавіднасцей скрыпак. У вандроўных музыкантаў былі флейта і барабан, на апошнім іграюць толькі адной палачкай. У асноўным музыкай захапляліся жанчыны. Мужчыны — рэдкае выключэнне. Меліся маленькія аркестры, у якіх сольныя партыі выконвалі гейшы. Яны ігралі на самізо, часам на флейтах, мужчыны (сляпыя і жабракі) — на барабанах. У Японіі можна было сустрэць яшчэ арыгінальны тып музыкантаў — вандроўных жрацоў... Наігрываючы на флейце або гулкім барабане, яны прадавалі пры гэтым розныя свяшчэнныя прадметы, сімвалічныя знакі, амулеты і спевам благаслаўлялі веруючых. Храмавая музыка і гімны ў вялікай пашане ў японцаў. Музыканты-жрацы гатовыя спяваць і барабаніць да непрытомнага стану, толькі б заслужыць міласць у Буды.

Больш за два тыдні прабыў у Эда Іосіф Антонавіч Гашкевіч са сваёй світаю. Кожны дзень выязджаў на прагулку па горадзе, назіраючы з пільнай увагаю за жыццём бедных і багатых японцаў. Яго здзіўляла не столькі экзотыка краіны, колькі старыя звычаі, якія пусцілі глыбокія карані ў побыт і псіхалогію людзей. Жыццё японца, такое неспакойнае і стракатае, часам здзіўляла рускага консула дзіцячым асэнсаваннем свету, хоць на ўсім Усходзе наўрад ці знойдуцца такія ўмелыя ліцейшчыкі і чаканшчыкі, майстры абпальвання фарфоравых вырабаў, як у Краіне ўзыходзячага сонца.

Нарэшце 24 лютага 1861 года саноўныя чыноўнікі сёгуна сказалі: «Сёння можна выязджаць».

«Надвор'е было хмурнае,— успамінала пані Альбрэхт,— халоднае і даждлівае. Але падобнае надвор'е не магло нас затрымаць, таму што нашы экіпажы складаліся з крытых японскіх карэт або насілак (па-японску канга, г. зн. клетка). Гэтыя экіпажы, абкла-

дзеныя для большага камфорту ўнутры падушкамі, чакалі нас у прызначаны дзень каля ганку нашага іедскага замка (так называлі мы дом, у які нас змясцілі ў Іеда; ён незадоўга перад тым пабудаваны японскім урадам для прыязджаючых іншаземцаў, змяшчае ў сабе больш за 100 пакояў і абведзены некалькімі платамі, відаць, для большай бяспекі)».

...Усё гатова ў дарогу. Пададзены коні. Наўючаныя цяжкаю пакламою, яны стаялі прывязаныя да плоту замка і дробна дрыжалі ад холаду. Але світа консула Гашкевіча не паедзе на конях, ёй падрыхтаваныя канга. Выдзелена па восем насільшчыкаў на кожны экіпаж. Чацвёра нясуць, чацвёра адпачываюць. Змена і падзменшчыкі. Японскія слугі таксама гатовыя ў дарогу. Іх неверагодная колькасць. Адны з манаткамі, з нейкімі скрыпачкамі, з дажджавымі плашчамі афіцэраў-самураяў, другія — проста ўлегцы. Прыйшлі паліцэйскія. Ахоўнікі парадку ў дарожным адзенні і з бразготкамі. Паводле старой традыцыі іншаземцаў, якія прыязджаюць або ад'язджаюць, па горадзе суправаджаюць паліцэйскія з доўгімі жалезнымі кіямі, на вяршыні якіх прымацаваныя медныя кольцы; пры ўдары кія аб зямлю кольцы, якія целяпаюцца свабодна, звонка бразгацяць. Калі адзін паліцэйскі грыміць сваім «жэзлам улады» — гэта яшчэ так-сяк. Можна сказаць, балаўство! А калі іх дзясяткі два, тры, чатыры, дык гэта ўжо кайданны звон. І не кожнаму чалавеку па душы. Раздражняе. А японцам хоць бы што, зачуўшы бразгаценне, збіраюцца натоўпамі і вытрэшчваюць вочы на еўрапейцаў.

З'явіўся важны саноўнік, нешта сказаў малодшым чыноўнікам, і ўсё пачало рухацца: забегалі насільшчыкі, замітусіліся слугі...

Нашы падарожнікі сканфузіліся. Яны з цяжкасцю ўсаджваліся ў канга. Не было спрыту. Кожнаму давялося сагнуцца ў тры пагібелі, каб улезці ў нізкія дзверцы, што чымсьці нагадваюць адтуліну сабачае будкі. Хочаш ехаць — перамагай перашкоды. Аказваецца, усё не так ужо і складана: спачатку заносіцца ў насілкі левая нага, за ёю галава, а пасля астатнія часткі тленнага цела. Проста, ці не так? Шлях далёкі — навучацца.

Спераду ішоў экіпаж старшага чыноўніка, за ім крочыў салдат і нёс трохметровую піку. Так трэба. У Японіі ранг саноўніка пазнаваўся па знаках, якія неслі за ім або перад ім. Пасля рухаліся канга консула Гашкевіча і яго світы, насілкі ж іншых саноўнікаў пляліся недзе ў хвасце.

Прайшоўшы некалькі вёрст ад сталіцы, паводле загаду старшага чыноўніка зрабілі прыпынак. У гэтым была неабходнасць — падарожнікі змерзлі. Дрыжучы ад холаду, яны вылезлі з насілак,

заскакалі, размінаючы ацёкшыя ногі, і з нецярпеннем сталі чакаць, калі і якім чынам японцы акажуць гасціннасць. Жонка доктара Альбрэхта, прызнацца, падумала, што іх запросяць адаграваацца ў дымную і чадную японскую хату. Дарэчы, японцы не мелі ўяўлення пра печы і коміны. З восені пакоі іх дамоў абаграваюцца жароўнямі, у якіх пастаянна тлее драўнінны вугаль. Не дагараючы да канца, ён запаўняе дом едкім чадам. Прагноз пані Альбрэхт не спраўдзіўся. Рускія госці былі прыемна здзіўлены, калі іх паклікалі ў спецыяльна падрыхтаваную гасцёўню, даволі прасторную і абклееную яркімі шпалерамі. Ёсць дзе пагрэцца, адпачыць і прысесці з дарогі. Праўда, была адна невялікая нязручнасць — мэбля малая. Яна складалася з некалькіх лавак і стала, відаць, наскора збітых і для ўтульнасці пакрытых чырвоным лямцам. Сустракаючы пасля на іншых станцыях аднолькавую мэблю — і паўсюль зараней падрыхтаваную — Іосіф Антонавіч болей не спрабаваў задаваць сабе пытанне: чаму саноўнікам сёгуна запатрабавалася больш за два тыдні для адтэрміноўкі іх падарожжа. Дыпламатычнай інтрыгі японцаў у затрымцы не бачылася. Проста яны хацелі стварыць консулу Расійскай імперыі ўсе ўмовы і выгоды для цікавага ваяжу па краіне.

Хоць на вуліцы поўдзень і сонечнае надвор'е, унутры хаціны-станцыі ўсё роўна цёмна. Праз вокны, заклееныя вошчанай паперай, дзённае святло пранікала з цяжкасцю. Падарожнікі знялі абутак і ўселіся на лавачкі, японскія чыноўнікі побач з імі — на цыноўкі. Для пачатку, як водзіцца, гасцей напаілі чаем, пасля пачалі падаваць абед. Повара ўзялі ў Эда. Ён усяляк стараўся прыстасавацца да густу рускіх, але толкам у яго нічога не атрымлівалася. Повару чамусьці здавалася, што іншаземцы любяць салодкае. Ён заўважыў, што белыя паны п'юць чай з цукрам, японцы ж, як правіла, без цукру. Імкнучыся дагадзіць, японскі кулінар падмешваў цукар усюды: у суп, у смажаніну, у рыбу. Супы з ракавінак або з дробна нарэзанай салёнай рэдзькі абрыдлі на першай сотні кіламетраў падарожжа. Рэдзьку японцы любяць, як землякі Гашкевіча бульбу. Увосень на стрэхах хацін можна было бачыць вялікія пучкі рэдзькі, што віселі на скручаным мачале, быццам вінаградныя гронкі. Яе сушаць і соляць, яна ідзе амаль у кожную страву. Часам рускім падавалі юшку або суп з дробна накрышанай зайчацінай, нярэдка кармілі поліўкай з локшыны, заскваранай кавалачкамі смажанага дзіка. Самі японцы дзікова мяса елі сырым. Сушаная каракаціца або гузікавы рак былі ў іх за другія стравы. Больш лёгкая яда — гэта кісель « і сырыя, узбітыя на пену яйкі, што нагадваюць гогаль-могаль, але толькі

без цукру. Харчавацца ўсю дарогу кісла-горка-салодкімі японскімі стравамі было пакутаю.

Японцы, знаёмячы рускіх са сваёй нацыянальнай кухняю, часта гаварылі, што яны «стараюцца прыгатаваць здаровыя лекавыя стравы».

Сапраўды, гаспадары мелі рацыю: уся іх ежа і на смак, і пахам нагадвала лекі.

Дарэчы, пра лекі. Калі каму-небудзь з падарожнікаў нездаровілася, дык суправаджаўшыя чыноўнікі адкрывалі свае дарожныя аптэкі і прапаноўвалі пазалочаныя пілюлі з мядзведжае жоўці. Японцы казалі:

— Гэтыя пілюлі здольныя ўваскрасіць паміраючага.

Да лекаў японцы адносіліся з павагаю, як да гаючай сілы, эліксіру бадзёрасці. Яны ніколі не адпраўляліся ў дарогу без дарожнай аптэчкі або, у крайнім выпадку, без скрыначкі з пілюлямі.

Станцыі на працягу ўсяго шляху былі казённыя, прызначаныя толькі для губернатараў і чыноўнікаў. У пакоях сюжэты карцін пераважна з жыцця і побыту кітайцаў. Нярэдка сустракалася акварэль, на якой была выява старога з доўгаю белаю барадою верхам на велізарнай рыбіне. Рыба імкліва плыла, пераадольваючы аграмадныя хвалі. У руцэ старога папера, скручаная трубачкаю. Відаць, гэтая карціна была напісана паводле старажытнай японскай легенды.

Падарожнікі рухаліся па шырокай гладкай дарозе паміж рысавых палёў, крыху прыцярушаных снегам, і лясных угоддзяў. Уздоўж абодвух бакоў тракта пасаджаны высокія дрэвы, галінастыя кроны якіх утвараюць цяністую алею. Трыста вёрст, быццам суцэльная стужка, цягнуўся шлях да горада Сендая, што значыць «Боская крыніца», які ляжыць на паўдарозе паміж Эда і Хакадатэ.

Паліцэйскія мяняліся ў кожным горадзе. Яны былі ў дзіўных кароткіх каптанах з вытканымі на спіне кругамі чырвонага і жоўтага колеру, у чорных лакіраваных капелюшах, падобных на рускія салдацкія трохвуголкі. Сустракаючы каля гарадскіх варотаў світу рускага консула, японскія стражнікі шчыльнай сцяною акружалі экіпажы, два-тры чалавекі выбягалі наперад і дружна, у такт скандзіравалі: «Свару! Свару!» Гэта значыць: «Сядай! Сядай!» Падпарадкоўваючыся гэтаму ўсясільнаму слову, жыхары гарадоў і вёсак падалі на калені і не ўставалі да таго часу, пакуль не канчалася шэсце апошняга канга. У тых гарадах, дзе знаходзіліся рэзідэнцыі ўдзельных князёў, паліцэйскія не крычалі «свару».

У кожным горадзе, вялікім ці малым, у кожнай вёсцы падарожнікаў сустракалі з ушанаваннямі, строга прытрымліваючыся традыцыйнага японскага рытуалу.

Стараста вёскі першы падаваў прыклад сваім землякам, ён апускаўся на калені і нізка кланяўся перад канга, у якой неслі консула. Мясцовыя чыноўнікі ў парадных мундзірах усаджваліся па абодва бакі вуліцы, ззаду ў іх стаялі слугі з пікамі і голымі шаблямі на плячах. У вялікіх гарадах акрамя паліцэйскіх выстройваліся салдаты, узброеныя стрэльбамі, лукамі і стрэламі. Жонкі чыноўнікаў, моцна набеленыя і нарумяненыя, быццам какетлівыя гейшы з Сота-Сіра, разглядалі рускіх з вокан дамоў. Ім, дамаседкам, месца каля ачага, а не ў кампаніі мужоў. На кожнай станцыі, у час кароткага адпачынку консула і яго спадарожнікаў, збіралася па некалькі соцень сялян або гараджан. Усім хацелася глянуць на еўрапейцаў, пра якіх хадзіла людская пагалоска як аб прышэльцах з іншых светаў. Найбольш смелыя абмацвалі адзенне, каб даведацца, з чаго яно пашыта, некаторыя, смеючыся і саромеючыся, прасілі дакрануцца да валасоў, да дамскіх боцікаў... Амаль дзевяць месяцаў на год японцы хадзілі босыя, восенню надзявалі саламяныя сандалі, а зімою — папяровыя панчохі. Вошчаная папера замяняла шкло ў вокнах дамоў. У дождж і нягоду яна ратавала сялян ад прастуды. Хтосьці калісьці сказаў: «На вялікім балі прыроды беднаму чалавеку няма месца». Японскі селянін не можа лічыць беднасць прыкметаю благога тону. Ён яшчэ патрыярхальны. Ён не ведае нічога пра культ золата, грошай. Англійскія і амерыканскія купцы пакуль не разбэсцілі селяніна. Далей за Нагасакі і Канагаву японскія ўлады іх не пускаюць. Але гэта ненадоўга. Кола гісторыі крута паверне знешнюю і ўнутраную палітыку ў дзяржаве «сына неба» мікада. Лёгка зразумець, якая збянтэжанасць народзіцца ў душы селяніна, калі яго родная зямля будзе ахоплена полымем міжусобнай вайны і яму, земляробу, давядзецца развітацца з апошнім малюпасенькім участкам рысавага поля.

Другая палова падарожжа па Японіі, пачынаючы ад горада Сендая, была стамляючай і доўгай. Дарога праходзіла па схілах гор. Глыбокія снягі, крутыя перавалы і моцныя вятры перашкаджалі хутка рухацца шматлюднаму картэжу.

Пані Альбрэхт запісала ў сваім дзённіку:

«Прабіраючыся па вузенькай сцяжынцы, пракладзенай па самых краях высокіх гор, я міжвольна кідала палахлівы позірк з вышыні на прадонне, над якім віселі мае насілкі... Цудоўны быў выгляд з гэтых гор, нягледзячы на снег і мёртвасць прыроды. Толькі нязмаўкальны шум вадаспадаў парушаў цішыню.

У цёмныя, бязмесячныя вечары наш шлях асвятляўся яркімі факеламі (з драўніннай кары) і featureнакаляровымі ліхтарамі (з масля-

най паперы). Кожны са світы, што нас праводзіла і даходзіла, як мы даведаліся потым, да 1000 чалавек, меў па ліхтару. Гэтыя тысячы агнёў, што то ўздымаліся, то апускаліся з гары, надавалі фантастычны, дзівосны выгляд нашай працэсіі».

Недзе там, ззаду, засталіся старажытныя гарадкі і старыя вёскі. Часта маленькія, бедныя і вартыя жалю хаціны гарманічна ўпісваліся ў незабыўны сваёй прыгажосцю пейзаж. І ўсе вёсачкі мелі яркія паэтычныя назвы: «Востраў асалоды» або «Шчаслівая кветка лотаса». Японцы любілі прыгожыя назвы.

На дваццаць чацвёрты дзень, 20 сакавіка 1861 года, падарожнікі былі каля бухты Сай, якая знаходзілася амаль насупраць Хакадатэ. Консула Гашкевіча і яго спадарожнікаў чакаў кліпер «Апрычнік». Праз тры з паловаю гадзіны судна пад камандаваннем капітан-лейтэнанта Бакалягіна перасекла Сангарскі праліў і даставіла рускага дыпламата ў рэзідэнцыю[1].

Камандзір кліпера «Апрычнік» пазнаёміў консула з прадпісаннем капітана 1-га рангу Ліхачова. Камандуючы атрадам кліпераў пісаў Бакалягіну:

«Прызначаючы давераны вам кліпер быць у распараджэнні п. консула Гашкевіча, я ўскладаю на вашу адказнасць звярнуць асаблівую ўвагу вашу на тыя меры асцярогі, якія неабходны для папярэджання няшчасных выпадкаў, што вельмі часта паўтараюцца ў Іеда, Канагаве, Йакагаме.

Без усякага сумнення давераны вам кліпер павінен утрымлівацца ў пастаяннай гатоўнасці выканаць усе даручэнні, якія п. консул Гашкевіч знойдзе патрэбным даць вам, роўна як распараджэнні, якія вы можаце атрымаць ад мяне».

У гэты самы дзень Іосіф Антонавіч даведаўся пра яшчэ дзве навіны: Іван Фёдаравіч Ліхачоў адклікаецца Галоўным марскім штабам у Пецярбург з прызначэннем быць пры генерал-адмірале. Контр-адмірал Папоў нядаўна ўзведзены ў гэта званне, знаходзіцца ў Нікалаеўску-на-Амуры і хутка прыбудзе ў Хакадатэ.

---

[1] Рускі географ-гісторык М. Венюкоў у сваёй кнізе «Агляд японскага архіпелага» сцвярджае, што першы іншаземец, якому японскі ўрад дазволіў «свабодна пранікнуць унутр краіны», быў англійскі пасланнік Р. Алькок. Аўтар кнігі глыбока памыляецца. Працуючы над «Аглядам», М. Венюкоў у асноўным карыстаўся замежнымі крыніцамі, у тым ліку і двухтомнай працай Р. Алькока «Сталіца Тайкуна». За паўгода да падарожжа сэра Алькока (чэрвень — ліпень 1861 года) з Нагасакі ў Эда І. А. Гашкевіч зрабіў паездку са сталіцы сёгуна да бухты Сай, якая ляжыць на поўначы вострава Хонсю, у лютым — сакавіку 1861 года.

Кажуць, добрымі намерамі дарога ў пекла вымашчана. Між тым дні былі запоўнены да краёў, палітычныя падзеі ў Японіі развіваліся напружана і імкліва. І для самога Гашкевіча перажыванні, звязаныя з няўдалым візітам у Эда, усё яшчэ стаялі на першым плане. Можна вывучыць акіянскія прылівы і адлівы, каб не сесці днішчам свайго судна на камяні ў час мелкаводдзя, але ўгадаць наперад прылівы і адлівы дыпламатычнай гульні японскіх міністраў нашмат цяжэй, а часамі і немагчыма. Да такіх нялёгкіх роздумаў прыходзіў усё часцей і часцей Іосіф Антонавіч у сваім консульскім прыстанішчы.

На стале чакалі паперы з Пецярбурга. На адно пісьмо консул адразу звярнуў увагу. Напісана на афіцыйным бланку Міністэрства народнай адукацыі, і звяртаўся да Гашкевіча не нейкі там чыноўнік або столаначальнік, а сам міністр граф Яўфімій Васілевіч Пуцяцін. Іосіф Антонавіч ведаў з англійскіх газет, якія прыходзілі сюды часцей, чым рускія, што былы кіраўнік дыпламатычнай экспедыцыі ў Японію пакінуў Лондан у сувязі з прызначэннем міністрам. Першае ўражанне Гашкевіча: поўны адмірал — і міністр! Гэта крыху дзіўна. І галоўнае — не марскога ведамства, што блізкае прафесійнаму мараку Пуцяціну, а народнай асветы. Змест пісьма зацікавіў консула.

«Ваша міласць Іосіф Антонавіч.

Вам вядома, што стасункі нашы з Японіяю павінны дасягаць вялікага развіцця і што такім чынам патрэба ў асобах, якія ведаюць японскую мову, павінна рабіцца болей і болей адчувальнаю.

Жадаючы спосабамі, што ад мяне залежаць, садзейнічаць задавальненню такой патрэбы дзяржавы, я маю на мэце зрабіць такія з гэтай мэтаю захады, якія на першым часе маглі б звесці да больш блізкіх і хутчэйшых вынікаў, дастаўляючы мажлівасць практычнага вывучэння мовы і ў гэтым выпадку звяртаюся да Вашага, Ваша міласць, садзеяння, якое Вы можаце на гэты раз аказаць Міністэрству народнай асветы высылкаю гэтаму японскіх кніг, у прыкладзеным пры гэтым рэестры.

Пасля Вашага паведамлення, у што абыдзецца пакупка і пасылка кніг, я з удзячнасцю зраблю распараджэнне аб аплаце Вам зрасходаваных грошай такім спосабам, які Вы прызнаеце зручнейшым.

Заключаю пісьмо маё пакорнейшаю просьбаю паскорыць, па мажлівасці, высылку ўспомненых кніг і прыняць запэўненне ў праўдзівай маёй павазе і адданасці.

*Граф ПУЦЯЦІН*».

Калі б пісьмо прыйшло крыху раней, Гашкевіч мог бы заглянуць у сталічныя крамкі перад ад'ездам у Хакадатэ і такія-сякія кнігі набыць. Тут жа, у далёкім паўночным горадзе, адшукаць патрэбныя

кнігі наўрад ці магчыма — выбар малы. У Гашкевіча мільганула думка пагаварыць з Мурагамі Авадзіно-камі, падказаць яму ідэю. Будучы ў Эда, сустракаючыся з саноўнікамі ў міністэрскіх калідорах, Іосіф Антонавіч пачуў, што, магчыма, у Еўропу адправіцца надзвычайнае японскае пасольства. План Гашкевіча быў такі: пераканаць губернатара паслаць пісьмо сёгуну, каб той згадзіўся адправіць разам з японскімі традыцыйнымі падарункамі і... кнігі. Прычым, спецыяльна для ведамства Пуцяціна. У Японіі адмірала не забылі, не-не, ды ўспомняць добрым словам, як адмысловага дыпламата.

Губернатар Мурагамі Авадзіно-камі зацікавіўся прапановаю рускага консула і нават развіў яго ідэю далей:

— А як вы пагледзіце на тое, Гашкевіч-сан, каб пасля вяртання нашага пасольства з Еўропы паслаць для навучання ў Расію японскіх юнакоў? Думаю, адмірал Пуцяцін, па старой дружбе, не адмовіць?

— Будзем спадзявацца.

Пасля візіту да губернатара Гашкевіч напісаў у Азіяцкі дэпартамент пісьмо, выклаўшы ідэю пра пасылку на вучобу ў Расію маладых японцаў.

## III

Ціхаакіянская эскадра складалася з сямі-васьмі карветаў, дзевяці кліпераў, у розны час трох фрэгатаў «Аскольд», «Святлана», «Арол» і некалькіх вінтавых транспартаў. У летнія месяцы рускія караблі крэйсіравалі паміж Дэ-Кастры, Камчаткаю, Шанхаем, Нагасакі, Ганконгам і Хакадатэ. Некаторыя судны зрабілі плаванне да берагоў Амерыкі з заходам у порт Сан-Францыска. На хакадацкім рэйдзе ў распараджэнні консула заўсёды быў які-небудзь ваенны карабель. Найчасцей — кліпер «Джыгіт» і карвет «Пасаднік». З прызначэннем контр-адмірала Папова камандуючым эскадраю служба і баявая вучоба пайшлі на караблях прыкметна лепш. Цяпер генерал-губернатар Мураўёў не паскардзіўся б на паноў афіцэраў. Андрэй Аляксандравіч Папоў сваю адміральскую дзейнасць пачаў з «рэформ». Як кажуць, новая мятла па-новаму і мяце. Сваёй уладаю, без ведама Марскога міністэрства, ён адразу ж змяніў траіх састарэлых камандзіраў, якія, на яго думку, «мышэй не лавілі», адправіў іх у Расію і, быццам у насмешку, даў ім станоўчыя атэстацыі. Анархічныя выхадкі Папова кожны раз раздражнялі дырэктара Інспектарскага дэпартамента віцэ-адмірала М. К. Крабэ. Ён сыпаў перуны, называючы камандуючага эскадраю «ўдзельным князем Ціхага акіяна». Папоў, акрамя ўсяго, быў славалюбівы, імкнуўся

праявіць свае здольнасці і ў дыпламатыі. У лістах да вялікага князя Канстанціна Андрэй Аляксандравіч спрабаваў павучаць Азіяцкі дэпартамент Міністэрства замежных спраў, як трэба праводзіць палітыку Расіі ў краінах Усходняй Азіі — Кітаі і Японіі. Адміралу Папову вечна здавалася, што на гэтым свеце ўсё робіцца не паводле яго асабістага катэхізісу. Нездарма ён з'явіўся прататыпам адмірала Карнеева ў аповесці «Турботны адмірал» пісьменніка-марыніста К. М. Станюковіча, які праходзіў марскую службу ў эскадры контрадмірала Папова на карвеце «Калевала». Адмірал часта пасылаў гардэмарына з даручэннямі да консула Іосіфа Антонавіча Гашкевіча, які ветліва дазваляў карыстацца сваёй бібліятэкай. У кабінеце консула Станюковіч праседжваў гадзіны, часам чытаючы, часам праглядваючы ілюстраваныя выданні па гісторыі Кітая і Японіі. Магчыма, гардэмарын Станюковіч прысутнічаў на гутарках адмірала з консулам.

Аднойчы контр-адмірал Папоў прыйшоў у консульства, каб даць бой Гашкевічу.

А было гэта так. Два гады таму назад, пачынаючы з красавіка 1860 года, камандзір карвета «Пасаднік» капітан-лейтэнант Бірылёў зачасціў на востраў Цусіма. Японцы не надалі гэтым ваяжам вялікага значэння. Яны нават не былі супраць, калі маракі з экіпажа карвета пачалі ўзводзіць на беразе гаспадарчыя пабудовы. Не маючы паўнамоцтваў, флігель-ад'ютант Бірылёў перавысіў сваю ўладу. Ён пачаў дамагацца ў мясцовага губернатара экстэрытарыяльнасці. Дзейнасць рускага афіцэра можна было расцаніць як процізаконную, якая мяжуе з канкістадорствам. Консул Гашкевіч неаднаразова папярэджваў начальніка эскадры капітана 1-га рангу Ліхачова, што самадзейнасць Бірылёва дабром не скончыцца. Так яно і атрымалася. У японскай сталіцы забілі ў набат. Англійскі пасол сэр Алькок шчодра падліваў масла ў агонь. У Хакадатэ прыйшло запытанне сёгуна. Японскі ўрад мае права чакаць ад рускага консула справядлівага, непрадузятага рашэння. Тым больш, інструкцыя, дадзеная консулу міністрам Гарчаковым, не супярэчыла па духу і літары патрабаванням сёгуна. «Мы хочам,— гаварылася ў інструкцыі,— адзіна ўмацавання і пашырэння нашага гандлю з Японіяй. Усякія іншыя намеры, усякая думка аб умяшанні ва ўнутраныя справы — далёкія нашай палітыцы. Імкніцеся пераканаць у гэтым японскі ўрад і назірайце, каб варожыя намовы не далі яму скажонага ўяўлення пра нашы намеры».

Консул далажыў пра гэты інцыдэнт у Пецярбург. Між тым капітана 1-га рангу Ліхачова назначылі на іншую пасаду, і ён пакінуў

берагі Японіі. Камандавапь эскадраю стаў контр-адмірал Папоў, які не хаваў сваёй прыхільнасці да флігель-ад'ютанта Бірылёва і ўсяляк бараніў яго ўчынак перад міністэрствамі замежных спраў і марскім.

— Значыць, вы не адабраеце дзеянні капітан-лейтэнанта Бірылёва? — рэзка спытаў Папоў.

— Я ўжо выказаў сваю думку Азіяцкаму дэпартаменту,— адказаў Гашкевіч, не спалохаўшыся грамавога баса адмірала.

— Паглядзіце на яго, праведнік які знайшоўся!

— Ваша правасхадзіцельства, выбірайце словы. Інакш вам будзе прадастаўлена магчымасць гутарыць з самім сабою.

Папоў глядзеў на Гашкевіча спадылба, быццам збіраўся абрынуць свой гнеў на субяседніка. Контр-адмірал не памятаў выпадку, каб нехта яму пярэчыў або размаўляў з ім як роўны з роўным. З-за чынашанавання звычайна афіцэры і матросы глядзелі на яго са страхам. А тут — консул. Як-ніяк — стацкі саветнік, амаль аднолькавы з ім у рангах.

— Вы збіраецеся пісаць у Пецярбург? — спытаў адмірал прымірэнча.— На днях я адсылаю кур'ера.

— Пошту я пашлю звычайным парадкам.

— Надзьмуліся? Даруйце. Я пагарачыўся. Паслухайце, ваша міласць, а што вы думаеце пра Сахалін? Га?..

— Пытанне старое і набіўшае ўжо аскоміну. Мне заўсёды здавалася, што вы добра паінфармаваны пра маю перапіску з дэпартаментам.

— Так, вядома. Ці патрэбен нам зараз Сахалін? Патрэбен. Не адмаўляю.— Адмірал вырашыў распачаць палемічную спрэчку з консулам, гаварыў ён суха, але з запалам.— Але цяпер, я думаю, для нас даражэй за ўсё быць у баку ад беспарадкаў у Японіі. Так, у баку. У англічан вока не дрэмле. Падумаўшы ў вольную хвіліну, я прыйшоў да заключэння: не ўся частка паўднёвага Сахаліна нам патрэбна. Не ўся... Паслухайце, не перабівайце. На Сахаліне мы рыбнай лоўляй займацца не станем, таму што няма чым і няма для каго. У нашых уладаннях у Татарскім праліве такое багацце рыбы, што хопіць на мільённае насельніцтва. Што яшчэ нам трэба ад Сахаліна? Вугаль. Так? Вугальныя фармацыі не дасягаюць далей Касуная на поўдні, а такім чынам, і з гэтага боку нам няма прычыны не скончыць з гэтым пытаннем. Дарэчы, я думаю, што не сорак дзявяты градус, а Касунай павінен быць нашай мяжою, так як у гэтым месцы самая вузкая частка вострава і вугальныя фармацыі даходзяць да яе. Апошняе яшчэ важнае і таму, што калі японцы зробяцца нашымі канкурэнтамі, то, пры таннасці ў іх рабочай сілы, яны адаб'юць гэту каштоўную крыніцу даходаў.

— Та-ак,— працяжна вымавіў Гашкевіч,— вы яўна, ваша правасхадзіцельства, салідарызуецеся з пазіцыяй тайкуна. Вы даруйце мне, але англічане павучаюць японцаў гэтаму самаму... такім самым думкам.

— Па-вашаму, я дурань, ваша міласць?—зноў успыліў Папоў.

— Навошта такія крайнасці, Андрэй Аляксандравіч,— сказаў Гашкевіч. У спакоі консула адчувалася большая сіла, чым у гарачнасці адмірала.— Лёс вострава Сахаліна быў у нас у руках. Я таму сведка. Пры мне адмірал Пуцяцін пісаў распараджэнне маёру Бусэ. Вось калі была зроблена памылка. Вясною 54-га года. Сем гадоў назад. Цяпер пры ўсіх маіх стараннях зрабіць амаль нічога не магчыма. Трэба ўсё пачынаць спачатку. Перавезці рэзідэнцыю консула ў сталіцу Іеда. Раз! Надзяліць консула правамі пасла. Два!.. Паспрабуйце на такой адлегласці праводзіць у жыццё палітыку свайго ўрада!.. Паспрабуйце весці якія-небудзь перагаворы, калі генерал-губернатар Мураўёў зрабіў неразважлівы крок у час свайго візіту ў Іеда!.. Вам гэта нябось вядома? Паспрабуйце пераканаць сёгуна ў сваёй мірнай палітыцы, калі флігель-ад'ютант Бірылёў пірацкімі дзеяннямі падмачыў рэпутацыю нашай дыпламатыі. Усё не так проста, ваша правасхадзіцельства!

Контр-адмірал Папоў не вымавіў ніводнага слова. Гашкевіч з засмучэннем заўважыў, што яго субяседнік не збіраецца лёгка расставацца са сваёй ілжывай думкаю, для гэтага яму патрэбен час і толькі час.

Шчырай размоваю з адміралам Паповым консул застаўся задаволены. Нарэшце ўнесена яснасць. Абвінавачанні былі абвергнуты. У сваім майстэрстве палітыка Гашкевіч назапасіў вялікі вопыт. Ён дамогся гэтага доўгімі гадамі, працалюбівасцю, стратаю здароўя і прыхільнасцю да прафесіі дыпламатычнага агента.

Неўзабаве ў Пецярбург пайшлі данясенні. Адно напісаў Папоў, другое — консул. Два дакументы. Два розныя пункты погляду на становішча спраў у Японіі.

Гашкевіч паведамляў:

«Цусімская справа, як ужо вядомая дэпартаменту, вырашана, і вырашана амаль тым спосабам, які ўказаны гэтым прадпісаннем. Японцы засталіся не зусім пэўныя ў тым, што камандзір карвета «Пасаднік» зайшоў на в. Цусіму па неабходнасці для выпраўлення пашкоджанняў, хоць і выказваюць гэта сумненне аднымі намёкамі. Наогул жа гэты ўчынак не адносяць нікольк да распараджэнняў нашага ўрада, але галоўную ідэю прыпісваюць начальніку эскадры, а падрабязнасці, асабліва гвалтоўныя меры, падаюць на камандзіра

карвета, які таму і празваны Цусімскім героем і параўноўваецца з Хвастовым і Давыдавым. Я гавару не толькі ад імя ўрада, але і пра меркаванні ў народзе. Узведзеныя збудаванні ў Цусіме ф(лігель)-а(д'ютантам) Бірылёвым, цяпер усе зламаныя і хоць у бытнасць тут генерал-губернатара Усходняй Сібіры, ваеннага губернатара Прыморскай вобласці і начальніка эскадры ў размове паміж іх правасхадзіцельствам была выяўлена думка, каб спытаць мне губернатара, паводле чыйго распараджэння гэта зроблена, хоць світы яго вялікасці контр-адмірал Папоў у апошні свой прыезд сюды зноў паўтарыў мне тое самае жаданне, але я да гэтага часу нічога не гаварыў аб гэтым прадмеце, грунтуючыся на прадпісанні дэпартамента ад 20-га студзеня гэтага года № 268 не ўваходзіць у якія-небудзь новыя перагаворы, іначай як ці самі японцы звернуцца з якім-небудзь пытаннем па гэтым прадмеце. Прытым жа можна зараней прадбачыць адказ японцаў, мясцовае начальства павінна было выдаць квітанцыі ў прыняцці пабудоў, але яно не магло ўзяць на сябе вырашэнне пытання аб законнасці іх. Урад жа глядзіць на гэту справу як супраціўную існуючым трактатам і падтрымліваецца ў сваім меркаванні прадстаўнікамі іншых нацый. Таму я мяркую пакінуць гэта пытанне да паездкі маёй у Еда, дзе можа надарыцца выпадак пры перагаворах аб паперах, прысланых дэпартаментам на імя японскага ўрада.

Другое пытанне, што да паўднёвай часткі вострава Сахаліна, знаходзіцца ў наступным выглядзе: японцы мала-памалу ўзмацняюць на Сахаліне сваё народанасельніцтва, даючы князям права рыбнай лоўлі на берагах яго з умоваю абароны іх — сістэма агульная ва ўсёй Японіі. Прыродных жыхароў вострава айнаў трымаюць у поўным прыгнёце (абсалютна так, як і на востраве Іеда) і забараняюць ім уваходзіць у якія-небудзь зносіны з рускімі. На прадстаўленне маё тутэйшаму губернатару аб незаконнасці падобных дзеянняў, што прыпісваюцца мною асабістаму распараджэнню тамтэйшых дробных чыноўнікаў, якія не ведаюць існуючых паміж намі трактатаў, губернатар адказваў, што мясцовыя чыноўнікі паслугоўваюцца ў гэтым выпадку загадамі, якія атрымліваюць ад хакадацкіх губернатараў, і ён мяркуе, што айны такія самыя японскія падданыя, як і чыстыя японцы. На другое маё пярэчанне, што калі зямля не належыць Японіі па трактату, дык і прыродныя жыхары яе, як не заваяваныя імі, якія не падпарадкоўваліся добраахвотна, не могуць лічыцца за ёй належных, я яшчэ не атрымаў адказу. Цяпер накіроўваецца ў Аніву кліпер «Разбойнік» з мэтаю сабраць на месцы звесткі пра дзеянні японцаў. Я даручыў між іншым ка-

мандзіру спытаць у мясцовых чыноўнікаў, да каго нам звярнуцца з пытаннем аб рускіх пабудовах, перададзеных ім у 1854 г. у выпадку, калі яны нам спатрэбяцца, аб выніках сваёй экспедыцыі капітан Папоў[1] данясе неадкладна з Дэ-Кастры п. ваеннаму губернатару Прыморскай вобласці і пасля ўжо вернецца сюды. Я са свайго боку не праміну прадставіць дэпартаменту будучы ход гэтай справы».

Але ў жыцці нічога вечнага няма, усё мяняецца. Праз трынаццаць гадоў, у красавіку 1875 года, калі Іосіфа Антонавіча Гашкевіча — першага рускага консула ў Японіі — не будзе ўжо ў гэтай краіне, царскі ўрад падпіша з паўнамоцным мікада віцэ-адміралам Энамота дагавор, паводле якога востраў Сахалін пяройдзе на вечнае карыстанне да Расіі. Выкарыстоўваючы слабасць і блізарукасць царскай дыпламатыі, Японія ў якасці «кампенсацыі» за адмову ад сваіх прэтэнзій на паўднёвую частку вострава Сахаліна атрымае васямнаццаць астравоў Курыльскай грады, якія здавён былі ўладаннямі Расіі. Акрамя таго, у некаторых артыкулах дагавора Японіі прадастаўляліся перавагі, у прыватнасці, яе судны, што прыбываюць у Карсакаўскі порт, вызваляліся ад таможных і партовых пошлін на дзесяць гадоў. Што да рыбнай лоўлі і мараплавання ў Ахоцкім моры і ўздоўж Камчацкага ўзбярэжжа, японцам таксама даваліся прывілеі. Як відаць з выказванняў японскіх дыпламатаў, мікада і яго ўрад не шкадавалі аб страце Сахаліна, яны суцяшалі сябе тым, «што дагавор 1875 года быў складзены ў духу поўнай роўнасці і ў выразах, зусім ганаровых для годнасці Японіі». Якраз штосьці падобнае не мог сказаць князь Гарчакоў, тагачасны міністр замежных спраў. Царская дыпламатыя атрымала нагляды ўрок ад маладой японскай дыпламатыі, праўда, не без дапамогі і не без падказкі Амерыкі.

## НЕЧАКАНАЯ СУСТРЭЧА

### I

З вокнаў консульскага дома адкрывалася панарама на шырокі рукаў Сангарскага праліва. Рэйд і караблі, што стаяць на ім, відаць як на далоні. Адыдзе ад борта судна шлюпка або баркас — за імі можна сачыць доўга-доўга, пакуль не знікнуць у моры за гарызонтам. Бераг высокі, круты — відаць далёка.

4 жніўня 1861 года на хакадацкім рэйдзе паявіўся амерыканскі барк «Вікерс». Купецкае судна прыйшло з Нікалаеўска-на-Амуры.

[1] Папоў — капітан-лейтэнант, камандзір кліпера «Разбойнік».

Да мыса Лазарава барк вёў на буксіры вінтавы кліпер «Стралок», які кіраваўся ў Дэ-Кастры. «Вікерс» жа трымаў курс у Японію з заходам у рускую гавань Святой Вольгі, куды павінен быў даставіць правіянт для пагранічнага паста. Нічога надзвычайнага ў гэтым факце не было. Амерыканскія судны часта бралі фрахт на перавозку грузаў у далёкаўсходнія пасты і гавані. Расія адчувала крайнюю патрэбу ў камерцыйных караблях, таму шкіперы замежных суднаў не ўпускалі найменшай мажлівасці, каб зарабіць прыстойныя грошы.

Вельбот з барка «Вікерс» падплыў да прычала. І незаўбаве Іосіф Антонавіч убачыў знаёмую фігуру амерыканскага шкіпера. Ён ішоў крыху валюхаючыся, уразвалку, як усе сапраўдныя маракі, многа дзён не пабыўшыя на беразе. Шкіпер кіраваўся да консульскага дома. Гэта быў візіт ветлівасці, прыняты ў маракоў. А пасля консул нанясе візіт у адказ, каб павіншаваць капітана са шчаслівым прыходам у порт. Такі міжнародны марскі звычай.

У Хакадатэ знаходзіліся два консульствы — рускае і англійскае. Амерыканскае — паблізу Эда, у Канагаве. Ні гандлёвых фірмаў, ні агенцтваў параходных таварыстваў пакуль не існавала. Усе дыпламатычныя, гандлёвыя, ваенныя і іншыя сувязі з японскім урадам і дзелавым светам пачыналіся і замыкаліся ў консульстве.

Гутарка з амерыканскім шкіперам была кароткай — а-ля-фуршэт, яму трэба было яшчэ наведаць англійскага консула.

— У мяне на судне ваш суайчыннік, спадар Бакунін, — сказаў шкіпер.

— Бакунін?.. Бакунін... Пачакайце, ад каго я чуў гэта прозвішча? Ага!.. Успомніў. Шлісельбургскі вязень. Мне пра яго гаварыў лейтэнант Збышэўскі з «Аскольда».

— Вы хочаце нешта спытаць? — не зразумеў шкіпер.

— Не, гэта проста думкі ўслых. Якім чынам аказаўся містар Бакунін на вашым судне?

— Названы мною містар Бакунін перасеў на маё судна з рускага кліпера «Стралок». Лішніх пытанняў я яму не задаваў. Ён мне добра заплаціў.

— Дзякую за паведамленне і за запрашэнне паабедаць. Гадзіны ў тры я ў вас буду,— Гашкевіч паціснуў шкіперу руку і праводзіў да ганка.

Думкі консула былі заняты Бакуніным. Іосіф Антонавіч, не чакаючы, пакуль сакратар разбярэ пошту, прывезеную на «Вікерсе», сам пачаў ускрываць пакеты. Пра паездку Бакуніна ў Японію ніякіх

інструкцый не было. «Ох, Іван Пятровіч![1] Якую вы зрабілі памылку! Замежнае судна — тэрыторыя чужой дзяржавы» — раздумваў Гашкевіч.

Бываюць жа людзі шчаслівыя: ім шанцуе ва ўсім — у справах, палітыцы, каханні, кар'еры. Хочуць яны гэтага ці не хочуць, але абставіны складваюцца так удала, што нават дзівішся. І, як заведзена, пра лёс такіх шчасліўцаў, выклікаючы зайздрасць, туманам сцелецца людская пагалоска: «Ён у дружбе з самою чартоўкаю фартунай!»

Пра Міхаіла Бакуніна казалі: «Ён нарадзіўся ў кашулі». Аляксандр Герцэн пісаў: «Гэта натура гераічная, пакінутая гісторыяй у баку».

Рэвалюцыянер-бунтар, адзін з заснавальнікаў анархізму, Міхаіл Бакунін быў чалавекам складанай і супярэчлівай натуры, чалавекам палкага розуму, кіпучай, сапраўды невычарпальнай страсці і энергіі.

Бакунін!

І зноў хочацца звярнуцца да слоў Герцэна, бо ў іх адлюстравана самая трапная і поўная характарыстыка першага анархіста.

«У гэтым чалавеку ляжаў зародак каласальнай дзейнасці, на якую не было запыту. Бакунін насіў у сабе магчымасць зрабіцца агітатарам, трыбунам, прапаведнікам, кіраўніком партыі, секты, ерасіархам, байцом. Пастаўце яго куды хочаце, толькі ў крайні край, — анабаптыстам, якабінцам, таварышам Анахарсіса Клоца, сябрам Гракха Бабёфа, і ён вёў бы масы і патрасаў бы лёсамі народаў, —

Но, здесь под гнетом власти царской...

Калумб без Амерыкі і карабля, ён, праслужыўшы супраць волі гады два ў артылерыі ды гады два ў маскоўскім гегелізме, спяшаўся пакінуць край, у якім думка праследавалася, як дрэнны намер і незалежнае слова — як абраза грамадскай маралі».

## II

...І вось гэты «Калумб» стаяў перад Іосіфам Антонавічам і са страхам чакаў сваёй долі. Расійскі імператарскі консул у Хакадатэ надзелены вялікай уладаю над рускімі падданымі. Гэта вядома кожнаму, тым больш Бакуніну, аднойчы ўжо прывезенаму ў кайданах на рускую мяжу.

---

[1] Іван Пятровіч Сухамлін, капітан-лейтэнант, камандзір кліпера «Стралок».

Дзесяць гадоў назад, 5 мая 1851 года, каля Кракава спыніўся закрыты экіпаж. Аўстрыйскія драгуны адчынілі бакавыя дзверцы і вывелі барадатага чалавека, закаванага ў ланцугі.

— На роднай старане і паміраць прыемна! — абрадавана ўсклікнуў вязень, убачыўшы рускіх салдат, якія яго чакалі.

— Размаўляць забаронена! — абарваў арыштаванага жандарскі афіцэр.

Аўстрыйскія драгуны знялі з рускага барадача кайданы — усё-такі дзяржаўная маёмасць! — і тут жа ўзамен чужаземных былі надзеты айчынныя. Праз шэсць дзён, 11 мая, узмоцнены канвой жандараў даставіў небяспечнага злачынца ў Пецярбург. У казематах Петрапаўлаўскай крэпасці знайшлося месца яшчэ для адной ахвяры расійскага самаўладства.

— Нарэшце! — з палёгкаю ўздыхнуў Мікалай I і падзякаваў за старанную службу генералу Л. В. Дубельту — упраўляючаму Трэцім аддзяленнем Уласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі.

Гэтым вязнем быў Міхаіл Аляксандравіч Бакунін.

...Гашкевіч назіраў за Бакуніным. У ім нешта нагадвала сібірака-старавера: чорная кучаравая барада, лахматая шапка нястрыжаных валасоў, твар смуглы, пад вачамі ацёкі-мяшкі, нос буйны з уздутымі ноздрамі, як у рэзвага племяннога рысака.

— Мне гаварыў пра вас Мікалай Мікалаевіч Мураўёў. Вы мелі добрую рэпутацыю ў генерал-губернатара.

Консул насцярожыўся. Падазроная пахвальба. Іосіф Антонавіч ніколі не меў вернападданніцкіх пачуццяў да Мураўёва. Унікаў яго, калі не сказаць болей: пазбягаў з ім сустракацца. А пасля прыезду генерал-губернатара ў Эда, калі ён сваімі дыктатарскімі замашкамі зрабіў непрыемнае ўражанне на вышэйшых японскіх саноўнікаў, у Гашкевіча склалася пэўная думка: Мураўёва дапусціць да дзяржаўнай палітыкі — загубіць справу. Дыпламат ён быў нікудышны.

— Вы служылі ў канцылярыі яго правасхадзіцельства? — спытаў Іосіф Антонавіч.

— Што вы, Бог з вамі. Ніколі. Ён мой дзядзька,— з пэўным гонарам адказаў Бакунін.

«Дык вось яно што,— падумаў Гашкевіч.— Ну, тады, шаноўны Міхаіл Аляксандравіч, у нас з вамі шчырай размовы не атрымаецца».

Бакунін уважліва паглядзеў на консула.

— Вам не па душы маё сваяўства з Мураўёвым?

— Калі чалавек нараджаецца, ён не вольны выбіраць ні нацыю, ні маці з бацькам, ні сваякоў,— унікліва адказаў Іосіф Антонавіч.

Гашкевіч, трэба думаць, не ведаў, што за паўгода да гэтай сустрэчы Міхаіл Бакунін вёў перапіску з Аляксандрам Герцэнам з нагоды

свайго артыкула «Тыранства сібірскага Мураўёва», апублікаванага ў 82-м нумары «Колокола».

Консул Гашкевіч і Бакунін гутарылі доўга. Высветлілася, што ў іх многа агульных знаёмых. Яны шмат гаварылі пра Ганчарова, пра купца Васіля Мікітавіча Сабашнікава, з якім Гашкевіч пазнаёміўся ў Кяхце дванаццаць гадоў назад, пра чыноўнікаў Бадзіска, Хітраво, Філіпеуса... Апошнія трое наведалі «Паладу», калі фрэгат плаваў ва Усходне-Кітайскім моры. Адпраўляючыся на Далёкі Усход па службовых справах, яны ўзялі на сябе абавязак кур'ераў даставіць віцэ-адміралу Пуцяціну ўрадавую пошту.

— Вы паляк? — спытаў падчас размовы Бакунін.

— Карэнны беларус.

— Трэба ж надарыцца такому супадзенню! — усклікнуў Міхаіл Аляксандравіч. Мая жонка з Беларусі.

— Зямлячка. Чыя родам?

— Я пазнаёміўся з ёю ў Томску. А бацька Антаніны — так завуць маю жонку — Ксавэры Васілевіч Квяткоўскі. Магілёўскі дваранін.

— Ксавэры Квяткоўскі, кажаце? Служачы ў адкупшчыка золата Бенардакі? Як жа — памятаю. Тры гады назад, калі я дабіраўся Сібірам да месца службы, спыняўся ў яго доме.

У краях, далёкіх ад родных мясцін, зямляк земляку заўсёды вельмі рады. Ён і сват, ён і брат.

Шкіпер барка «Вікерс» у гутарку не ўмешваўся і толькі пасміхаўся, шырока і дружалюбна. Яму падабаліся абодва субяседнікі. Глядзіш, усё скончыцца мірам. У яго будзе цэлы задатак, а лёс пасажыра пасля прыходу ў Сан-Францыска яго не цікавіў.

Час быў позні, консул пачаў развітвацца.

— Наша сённяшняя сустрэча пазбаўлена сэнсу ў адным выпадку — калі я памыліўся наконт вашых сапраўдных намераў,— сказаў Іосіф Антонавіч. — Не спяшайцеся з адказам. Можа быць, я памыліўся, і вам зусім не хочацца пакідаць Расію? Тады скажыце адразу, і я ніколькі...

— Іосіф Антонавіч, я буду памятаць вашу дабрыню да мяне! — не вытрымаў, перабіў Бакунін.

Гашкевіч сумеўся.

— Будзем лічыць, што я нічога не ведаю. Вы вяртаецеся ў Расію: з Нагасакі ў Шанхай, пасля ў Пекін і праз Кяхту ў Іркуцк. Як кажуць маракі, тры футы пад кілем вам, Міхаіл Аляксандравіч!

Іосіф Антонавіч вярнуў Бакуніну «адкрыты ліст», у якім былому прапаршчыку Бакуніну Міхаілу дазвалялася «рабіць падарожжа па Сібіры па прыватнай справе, як даверанаму ўпаўнаважанаму

купцом Сабашнікавым», і што яму дазваляецца «бесперашкодна зрабіць паездку на казённых параходах без абазначэння мэты яго падарожжа».

Бакунін па-мядзведжы абняў консула і па-сяброўску расцалаваў.

Герцэн пра гэтыя ўцёкі напісаў так:

«Уцёкі Бакуніна прыкметныя прасторамі, гэта самыя доўгія ўцёкі ў геаграфічным сэнсе. Прабраўшыся на Амур пад маркаю гандлёвых спраў, ён угаварыў нейкага амерыканскага шкіпера ўзяць яго з сабою да японскага берага. У Хакадатэ другі амерыканскі капітан узяўся давезці яго да С.-Францыска. Бакунін накіраваўся да яго на карабель і застаў марака, які вельмі клапаціўся пра абед: ён чакаў нейкага ганаровага госця і запрасіў Бакуніна. Бакунін прыняў запрашэнне і, толькі калі госць прыехаў, даведаўся, што гэта генеральны рускі консул.

Хавацца было позна, небяспечна, смешна... ён проста распачаў з ім гаворку, сказаў, што адправіўся зрабіць прагулку. Невялікая руская эскадра, помніцца адмірала Папова, стаяла ў моры і збіралася плысці да Нікалаева.

— Ці вы не з нашымі вяртаецеся? — спытаў консул.

— Я толькі што прыехаў,— адказаў Бакунін,— і хачу яшчэ пагля-дзець край.

Разам паабедаўшы, яны разышліся en bons amis[1].

Праз дзень ён праплыў на амерыканскім параходзе міма рускай эскадры... Акрамя акіяна, небяспекі больш не было».

## III

Так, для Бакуніна небяспекі больш не было. Але яна навісла над тымі, хто яму дапамагаў ва ўцёках.

Аляксандр II дзяліўся сваімі думкамі з вялікім князем Канстанцінам Мікалаевічам:

«...з перахопленых французскай паліцыяй лістоў Бакуніна ты бачыў, што ён усімі сродкамі імкнецца зблізіцца з палякамі і нават абяцае сам з'явіцца ў Варшаву пры першай звестцы пра хваляванне, спадзеючыся пры гэтым на здраду нашых войскаў, асабліва ў войсках цяперашняга Варшаўскага гарнізона. Калі ж ён сапраўды вырашыць прыбыць у Варшаву, дык сорамна будзе, калі яго не возьмуць. Падрабязнасці пра ўцёкі яго з Сібіры даказваюць такую нядбаласць, калі не злы намер з боку тамтэйшых улад, у тым ліку і марскіх, што я загадаў зрабіць самае строгае даследаванне...»

---

[1] Добрымі сябрамі (франц.).

На гэты раз пошта з Нікалаеўска-на-Амуры прыйшла вельмі хутка. Раней месяцы два, а то і цэлых тры даводзілася чакаць службовых пісьмаў, а тут такі выпадак: расшукваецца дзяржаўны злачынец нумар адзін!

Пяць сургучных пячатак. Грыф — «Сакрэтна». Адпраўлена 21 жніўня. Сёння 14 верасня 1861 года. Пісьмо ішло менш за месяц.

Ваенны губернатар світы яго вялікасці контр-адмірал Казакевіч запытваў:

«Былы прапаршчык Міхаіл Бакунін адправіўся ў Хакадатэ; цяпер, атрымаўшы паведамленне, што п. Бакунін павінен знаходзіцца пад наглядам паліцыі, я маю гонар пакорна прасіць ваша высакароддзе аказаць садзеянне да адпраўкі п. Бакуніна ў Нікалаеўск на адным з нашых ваенных суднаў, якое адыходзіць, не абмяжоўваючы прытым нікольні яго свабоды...»

На гэтай фразе Гашкевіч спыніўся.

— Як вам падабаецца? — спытаў консул доктара Альбрэхта, які сядзеў у яго кабінеце.— Зладзі злачынцу, але нікольні не абмяжоўвай яго свабоды.

— Пра каго ідзе гаворка?

— Ёсць такі якабінец — Бакунін. Чулі? Вось пісьмо, прачытайце.

Міхаіл Альбрэхт прабег вачамі дакумент, усміхнуўся.

— Дзе вы будзеце яго лавіць?

— І не збіраюся,— адказаў Гашкевіч.— Пан Бакунін даўно ўжо ў Расіі.

Консул адвёў вочы. Яму не хацелася гаварыць праўду доктару, з якім быў у дружбе і якому многае давяраў. Ён яшчэ не ведаў, чым закончыцца ўся гэтая гісторыя. Няхай гэта таямніца будзе толькі яго. Не абавязкова ж, будучы сумленным, яшчэ і віць для сябе вяроўку; не абавязкова, будучы сумным, яшчэ і галадаць; не абавязкова, будучы няшчасным, яшчэ і мёрзнуць; не абавязкова, раздумваючы аб філасофіі быцця, марыць пра Аляксееўскі равелін. Калі-небудзь Гашкевіч скажа пра гэта Альбрэхту, але толькі не зараз, не сёння.

Іосіф Антонавіч, доўга не раздумваючы, сеў пісаць адказ. Ён атрымаўся кароткі і ў духу тых абнадзейваючых слоў, якія выкарыстаў Пётр Васілевіч Казакевіч: «...не абмяжоўваючы прытым нікольні яго свабоды...»

Гашкевіч паведамляў:

«...маю гонар паведаміць, што п. Бакунін прабыў у Хакадатэ толькі адзін дзень і 5 жніўня адправіўся ў Канагаву на тым жа амерыканскім барку «Вікерс», на якім і прыбыў сюды з Нікалаеў-

ска. Перад ад'ездам п. Бакунін паведаміў мне, што ён мае намер праехаць з Канагавы ў Нагасакі, Шанхай, Пекін і назад у Іркуцк, так што, відаць, неўзабаве ён зноў будзе ў межах Расіі».

*Консул, стацкі саветнік І. ГАШКЕВІЧ*».

Трэба сказаць, што не толькі адзін Іосіф Антонавіч паверыў «адкрытаму лісту» за подпісам світы яго вялікасці генерал-маёра М. С. Карсакава, у якім было сказана «без усялякіх перашкод і ў будучым». Паверыў у Нікалаеўску-на-Амуры і лейтэнант Афанасьеў, які выконваў абавязкі начальніка штаба портаў Усходняга акіяна. Калі б не было яго дазволу следаваць далей на ваенным судне, Бакунін ніяк не мог бы трапіць у Японію.

Вядома, што граф Мураўёў-Амурскі, пакінуўшы на пачатку 1861 года пасаду генерал-губернатара Усходняй Сібіры і знаходзячыся ў Пецярбургу, прадаўжаў старацца за Бакуніна, але беспаспяхова. Гасудар імператар не паверыў уціхамiранню рэвалюцыянера, і тады адбыліся ўцёкі Бакуніна з сібірскай глыбінкі ў Японію, адкуль было прасцей за ўсё дабрацца да Сан-Францыска. Многія абставіны гэтых уцёкаў застаюцца таямніцаю, але, безумоўна, не абышлося без саліднай дапамогі, у тым ліку, трэба думаць, не ў апошнюю чаргу з боку марскіх афіцэраў, якія нябачнымі для жандараў 3-га аддзялення ніцямі былі звязаны з А. І. Герцэнам, з яго газетаю «Колокол».

Амаль у гэты самы час Міхаіл Бакунін пісаў у Лондан Герцэну і Агарову: «Сябры, мне ўдалося ўцячы з Сібіры, і, пасля доўгага вандравання па Амуры, па берагах Татарскага праліва і праз Японію, сёння прыбыў я ў Сан-Францыска. Сябры, усёй істотаю імкнуся я да вас і, як толькі прыеду, вазьмуся за справу: буду ў вас служыць па польска-славянскім пытанні, якое было маёй ідэяй з 1846 і маёй практычнай спецыяльнасцю ў 48 і 49 гадах...»

Міхаіл Бакунін набыў свабоду і зноў гатовы быў ахвяраваць усім у імя святое справы — справы барацьбы «за прышэсце народнага царства», у якое ён цвёрда верыў.

А ў расійскага імператарскага консула Іосіфа Антонавіча Гашкевіча адны клопаты змяняліся другімі. Ён жадаў звычайнага простага чалавечага шчасця, для гэтага яму патрэбна была не Японія, а Радзіма і спакой. Ніколі ў яго не было такога жадання, як цяпер, сесці за пісьмовы стол у цішыні кабінета і працаваць. Працаваць старанна над даследаваннямі з усходняй лінгвістыкі. Лёгка сказаць — працаваць. А ці ёсць у консула час на любімы занятак? Консул — гэта не ганаровае званне, якое калісьці давалася ў Рымскай імперыі за выключныя заслугі, консул — службовая асоба, упаў-

наважаны дзяржавы. Спраў і абавязкаў у такой асобы — заўсёды па вушы. Гашкевіч не быў прыхільнікам вядомага выказвання рускага пасла ў Лондане барона Брунова, што «кожная просьба суайчынніка вырашаецца адмоваю». Ён ведаў сваю справу і адносіўся да яе добрасумленна. Ён быў дыпламатам дзелавога аналізу палітычнага становішча і ніколі не лгаў. У народаў Усходняй Азіі такія якасці са старых часоў у цане. У Японіі — асабліва. Дзякуючы прыстойнасці і сумленнасці консула — рускіх любілі. Доказам гэтаму — многа прыкладаў. Але аднойчы прыйшла бяда...

## ГНЕЎ САМУРАЯЎ

### I

Консул купляў свечкі ў маскатэльнай краме японца Хіросі, маленькага жвавага гандляра з шахрайскімі вачамі і дурной ухмылкаю на твары. Свечкі не былі падобныя на нашы. Японцы рабілі іх з кітовага тлушчу, а часам проста з марскіх рыб. Жоўтыя, з тоўстымі кноцікамі, яны мала нагаралі. Ніжні канец, які звычайна ўстаўляецца ў падсвечнік, быў тонкі, з жалезным шпілем. Гэта стварала пэўную зручнасць: свечку можна ўстаўляць у любую дзірку або шчыліну.

Іосіф Антонавіч любіў карыстацца японскімі свечкамі, але з цяжкасцю пераносіў пах ворвані.

У пакой ціха пастукалі. Увайшоў слуга з лучынаю.

— Ваша высакароддзе, час кноты падпаліць.

Гашкевіч нічога не адказаў. Ён быў заняты сваімі думкамі.

— Доктар вас пытаўся, можна яму ўвайсці?

— Справа якая? — спытаў консул.

— Кажа, важная,— адказаў слуга.

— Прасі.

Доктар Альбрэхт часты госць у доме консула. Яны сябравалі. Іх аб'ядноўваў не толькі агульны лёс — прадстаўляць у Хакадатэ інтарэсы Расійскай дзяржавы,— але і захопленасць прыродазнаўчымі навукамі. Доктар ведаў, што ў Гашкевіча ўжо ёсць друкаваныя працы. Вялікая калекцыя жывёльнага свету, сабраная ім у Афрыцы, на востраве Бонін-Сіма, на Лусоне і ў Кітаі, зараз зберагаецца ў Заалагічным музеі Імператарскай акадэміі навук. У застольных гутарках яны хутка знаходзілі агульную мову. Розніца ў чынах не перашкаджала ім быць шчырымі і даверлівымі адзін да аднаго.

Іосіф Антонавіч узняўся з крэсла, падсунуў другое, такое ж лёгкае, плеценае з маладой лазы, запрасіў прысесці.

— Вы чымсьці ўсхваляваныя, доктар? На вас гэта не падобна.

— Непрыемная навіна, Іосіф Антонавіч,— стрымліваючы хваляванне, пачаў расказваць Альбрэхт.— Губернатар Нагасакі зрабіў сабе харакіры, і што галоўнае — прычынаю самазабойства стаў дзёрзкі ўчынак нашага суайчынніка. І зноў — Бірылёў! Так, так. Мне гэту гісторыю перадаў купец Хіросі, да якога я зайшоў купіць тытуню. Ён вечна скаліць зубы, і чорт яго зразумееш, дзе праўда, а дзе мана. Але калі праўда, дык нам не пазбегнуць дыпламатычнага скандалу.

— Супакойцеся, доктар,— з далікатнай чуласцю сказаў гаспадар дома.— Да мяне таксама даляцела гэтая чутка. Гісторыя! Дурней не прыдумаеш. Што праўда тое праўда. У крамцы Хіросі да вас пабывалі нашы кантаністы. Яны адразу прыбеглі да мяне, але... мне давялося іх прыпалохаць, каб дарэмна не балбаталі. Шмат размоў — недалёка да бяды.

— Вы зрабілі якія-небудзь захады?

— Пакуль нічога. Тыдзень назад, калі я быў у Йакагаме, мне давялося гутарыць з Мурагамі Авадзіно-камі. Старая, хітрая ліса — ён зрабіў выгляд, што нічога не ведае. Лічыць нас за прасцякоў.

— Значыць, у Йакагаме таксама ходзяць чуткі?

— Так, і ў Йакагаме, і ў Іеда, і ў Канагаве...

— А вы да гэтага часу маўчалі...— сказаў Альбрэхт, і консул уловіў у яго голасе нотку крыўды.

— Так трэба было, доктар. Прабачце. Цяпер перада мною дылема: паведамляць у Пецярбург ці не. Як бы вы паступілі?

— Не ведаю.

Гашкевіч устаў, прайшоўся па пакоі.

— Я таксама. Пытанне не з лёгкіх.

Іосіф Антонавіч паклікаў слугу і загадаў прынесці чай. Размова пайшла весялей. Яны доўга сядзелі пры свечках, з сумнай пяшчотаю ўспаміналі Расію, знаёмых і сяброў, марылі пра хуткае вяртанне ў Пецярбург. І неяк сама сабою скандальная гісторыя ў Нагасакі пачала размывацца, аддаляцца на другі план. Але гэта толькі здавалася. З адыходам доктара настрой у консула пагоршыўся, ён не мог адкараскацца ад думкі, што ўся адказнасць за ўчынак флігель-ад'ютанта Бірылёва ў рэшце рэшт зваліцца на яго галаву. І справа можа абярнуцца так, што Расійскае консульства акажацца персонай нон грата.

Не адразу вырашыў Іосіф Антонавіч пісаць данясенне князю А. М. Гарчакову. У яго быў час абдумаць. Паразважаць. Ён не жадаў

пашкодзіць кар'еры Бірылёва, гатоў быў даць яму станоўчую атэстацыю, калі б ад гэтага палепшылася справа. А галоўнае — нельга было прадбачыць, чым закончыцца ўся гэта скандальная гісторыя.

Гашкевіч падышоў да стала, падрэзаў нажніцамі абвуглены кончык свечкі, стомлена апусціўся ў крэсла. Потым узяў чысты аркуш і пачаў пісаць — як афіцыйная дыпламатычная асоба, ён не мог не паведаміць у Азіяцкі дэпартамент аб тым, што здарылася: «...у Йакагаме ходзяць нядобрыя чуткі пра камандзіра карвета «Пасаднік» флігель-ад'ютанта Бірылёва. Кажуць, быццам бы ён патрабаваў лоцмана ад нагасакскага губернатара, і калі той паставіў умову не хадзіць у парты, не адкрытыя для еўрапейцаў, дык Бірылёў прыйшоў да яго з узброенымі матросамі і пагражаў звезці яго ў Сібір. Губернатар уступіў, але на другі дзень памёр; адны кажуць ад халеры, а другія — ад самазабойства. Пры размове з Мурагамі Авадзіно-камі я намякнуў пра чуткі ў агульных словах, «быццам капітан Бірылёў меў сварку з нагасакскім губернатарам». Але ён запэўніваў мяне, што нічога падобнага не чуў, што губернатар даўно пазбаўлены пасады і што пракурор, які часова займаў яго месца, нядаўна памёр. Не магу сказаць пэўна, ці сапраўды да яго не дайшлі чуткі, ці фальшывыя яны або ён скрывае і абсалютна так, як скрываў ад мяне ўсе весткі пра насільныя ўчынкі Бірылёва на Цусіме.

Рускія да гэтага часу, можна сказаць не выхваляючыся, карысталіся ў Японіі народнай любоўю болей, чым усе другія іншаземцы. На гэта шмат прычын і галоўнае — прыроджанае ў нашага народа лагоднае абыходжанне. Дасюль японцы мелі дачыненне пераважна з нашымі матросамі, паводзіны якіх рэзка адрозніваюцца ад іх сабратаў з другіх нацый: яны нават у нецвярозым выглядзе рэдка распачынаюць бойку і схільныя хутчэй да выяўлення дружбы. Пажадана было б, каб пп. камандзіры са свайго боку імкнуліся падтрымліваць у японцаў добрыя адносіны да нас».

Што ж уяўляў з сябе Бірылёў? Было б дзіўным бачыць у ім чалавека, не здольнага да марской службы. Наадварот, Бірылёў увесь ва ўладзе мора. Ён ім захоплены, вопытны афіцэр. Службовым балаўнікам яго не назавеш, баязліўцам і мямляю — таксама. Удзельнічаў у Сінопскім баі. Біўся на севастопальскіх бастыёнах. Быў кантужаны. Узнагароджаны залатою шабляю з надпісам: «За храбрасць». Меў ласку ад яго вялікасці — узведзены ў званне флігель-ад'ютанта. Карветам «Пасаднік» камандуе ўжо чатыры гады — тэрмін немалы. У Расію не просіцца. У начальства — у пашане. Такому паслужнаму спісу маглі б пазайздросціць многія. Але быў ён раўнівы да ўлады і,

даўно да яе прывыкшы, час ад часу любіў фарсануць вытанчанымі велікасвецкімі манерамі. Матросаў не мілаваў.

Абставіны складваліся так, што менавіта пра гэтага афіцэра найчасцей даводзілася ўспамінаць і консулу, і хакадацкаму губернатару. Не ва ўсім Бірылёў быў асабіста вінаваты — у выпадку на Цусіме ён як камандзір не мог не паслухаць загадаў старшых начальнікаў, якімі з'яўляліся Ліхачоў і Папоў. Але існавалі акалічнасці, што адносіліся да яго самога як асобы, адказнай на карвеце. Напрыклад, на «Пасадніку» была самая вялікая смяротнасць у параўнанні з іншымі суднамі эскадры. За тры гады плавання ля берагоў Японіі (1860—1863) у Хакадатэ знайшлі сваё апошняе прыстанішча восем матросаў і адзін гардэмарын, у Нагасакі пахавана чатыры чалавекі. Контр-адмірал Папоў выказаў незадаволенасць пачашчэннем захворванняў на караблях, запатрабаваў ад камандзіраў і суднавых дактароў даносіць аб здароўі каманды і смяротнасці ніжніх чыноў. Павальнаю хваробаю была дызентэрыя. Пакутавалі маракі і ад трапічнай малярыі.

Консул Гашкевіч выклапатаў у хакадацкага губернатара ўчастак зямлі пад могілкі, якія захаваліся дасюль, але, на жаль, запушчаныя... Для таго каб абарудаваць воінскі некропаль, Іосіф Антонавіч звярнуўся да камандзіраў суднаў. Мікалай Аляксеевіч Бірылёў адгукнуўся першы. На яго карвеце па падпісным лісце было сабрана 180 рублёў серабром. Калі ж яшчэ ўлічыць, што ў Хакадатэ часам было ад сямі да дзесяці рускіх суднаў, дык сума па тых часах набіралася значная.

Аднойчы Гашкевіч атрымаў ліст з канцэлярыі губернатара, у якім выказвалася просьба памагчы ў абучэнні японскіх матросаў марской справе, практыцы хаджэння пад ветразямі і кіравання суднам. Аказалася, што мясцовыя ўлады набылі барк «Алтэя», а набраная з добраахвотнікаў каманда не здольная выйсці на ім у мора.

У гэты час на рэйдзе Хакадатэ стаяў карвет «Пасаднік». Консул запрасіў да сябе камандзіра Бірылёва, і паміж імі адбылася гутарка. Пачалася яна здалёку. Не было нічога ненатуральнага ў тым, што Мікалай Аляксеевіч расказаў пра свае сувязі з дыпламатам Фёдарам Іванавічам Цютчавым, пра яго дачку Марыю ад другога шлюбу, з якою быў заручаны. Жаніцьба — не за гарамі. Усё залежыць ад таго, калі ён вернецца ў Расію. Гашкевіч сустракаў Цютчава ў калідорах міністэрства і на нарадах у міністра Гарчакова. Аднойчы нават абедалі разам у княгіні Салтыковай, удавы паэта Мятлева.

Але гэта ўсё былі выпадковыя сустрэчы, якія не спрыялі цесным зносінам.

Далей гаворка зайшла аб тых здарэннях на востраве Цусіма, у якіх быў замешаны Бірылёў. Іосіф Антонавіч сказаў афіцэру, што ён не можа апраўдаць авантурызм з боку рускіх, якія столькі гадоў дамагаліся дружбы з Японіяй.

— Краіна, дзе мы з вамі знаходзімся, на мяжы міжусобнай вайны. Навошта ж падліваць масла ў агонь?

Гашкевіч расказаў камандзіру карвета, з чым яму, дыпламату, даводзіцца сутыкацца. Абстаноўка стала абвастрацца недзе з сярэдзіны 1859 года. Прыход еўрапейцаў быў успрыняты ў штыкі і найперш дайміёсамі. Больш уплывовыя з іх ткалі павуціну навокал імператарскага двара, імкнуліся варожа настроіць чыноўнікаў, якім было даручана весці перагаворы з замежнымі дзяржавамі і ўсяляк тармазіць заключэнне дагавораў. Ультыматыўныя патрабаванні Амерыкі японцы расцэньвалі як агрэсіўны акт, як спробу ўварвання чужаземцаў у іх краіну. Іграючы на рэлігійных і нацыянальных пачуццях народа, князі заклікалі сваіх падданых да барацьбы з іншаземцамі:

«Глянь у глыбіню свае душы,— заклікалі дайміёсы.— Спазнай сваё сэрца, у якім жыве бажаство, што ўказвае табе і кіруе табою. Слухайся яго наказаў, і ты не будзеш мець патрэбы ў іншым бажастве». Пад «іншым бажаством» японцы падразумявалі хрысціянства.

Ваяўнічы заклік князёў быў падхоплены самураямі, і яны вырашылі крывёю здабываць свабоду і незалежнасць сваёй краіне.

Гашкевіч добра памятаў, як аднойчы ў Эда да яго і амерыканскага консула Таўнсенда Гарыса падышоў дайміёс Хіджэна і сказаў:

— Пакуль люстра маёй душы не затуманена вашым гнілым дыханнем, да таго часу ўсё добра.

Гэта была перасцярога фанатыка. Самураі пачалі з тэрору.

Зімой 1861 года яны наладзілі замах на сакратара амерыканскага пасольства і суправаджаючых яго асоб. За выключэннем генеральнага консула Гарыса, які ў гэты час знаходзіўся ў сёгуна, у жывых не засталося ніводнага чалавека.

На год раней самураі забілі прынца-рэгента. Вядома, справа не абышлася без бойкі, і 15 чалавек са світы яго былі часткова забітыя, часткова параненыя. Забойцы — слугі князя Міто, — вярнуўшыся дадому, паводле звычаю, распаролі сабе жываты. Гэта той самы Міто, які даўно знаходзіўся ў сваім палацы пад арыштам за спробу звергнуць галаву тайкуна з прастола.

Князь Міто і яго саўдзельнікі — дайміёсы Нагата, Сацумі, Тосі і Хіджэна — некалькі гадоў запар дамагаюцца ад імператара ўказа, якім сёгуну загадваецца разарваць дагаворы і выгнаць з Японіі іншаземцаў. Феадальная раздробленасць у краіне магла ў любы момант прывесці да вайны. Але пакуль што слугі дайміёсаў абмяжоўваліся замахамі на іншаземцаў, ствараючы грамадскую думку, што ўлада імператара не павінна распаўсюджвацца далей «духоўных спраў», бо мікада з'яўляецца «сынам неба», а не «панам зямлі».

Лютасці самураяў не было мяжы. Вось яшчэ адзін жудасны выпадак, які здарыўся ў Эда. 23 чэрвеня позна вечарам натоўп узброеных людзёй уварваўся ў дом Англійскага пасольства і паспеў забіць двух часавых, пастаўленых ад японскага ўрада, і двух служыцеляў пасольства — японцаў. На шум стрэлаў, зробленых членамі пасольства, выбеглі каравульныя, і завязалася бойка, у якой атрымалі раненні два англічаніны і да шасці чалавек каравульных. З нападаўшых трое былі забітыя і чацвёра параненыя; з апошніх двое паспелі пазбавіць сябе жыцця, а двое трапілі ў рукі паліцыі.

Звяртаючыся да Бірылёва, Гашкевіч сказаў:

— Мой абавязак — не даваць ніякай зачэпкі для канфлікту. Наадварот, дапамагаць японцам. Не парадаю, як уладкаваць дзяржаву, а добрымі ўчынкамі, маральнымі паводзінамі, хрысціянскаю мараллю... І, дзякуй Божа, пакуль мне гэта ўдаецца ў Хакадатэ. І вас прашу — памажыце, не разбурайце пачатае. Вось ліст ад губернатара. Звяртаецца не да англічан, а да нас, расіян. Значыць, верыць і давярае. Просіць памагчы абучаць каманду барка «Алтэя». Што на гэта скажаце?

— Я гатоў, Іосіф Антонавіч, але мне патрэбен загад начальніка эскадры.

— Вось усе вы так. Ён жа ў моры. Колькі часу пройдзе.

— Сапраўды, такая наша служба. Я марскі афіцэр і падпарадкоўваюся тут толькі флагману.

— Добра. Я звяжуся з контр-адміралам Паповым.

Праз некалькі дзён Іосіф Антонавіч атрымаў ад флігель-ад'ютанта Бірылёва данясенне.

«У Расійскае імператарскае консульства ў Хакадатэ.

З прычыны адносіны нашага консульства ад 4-га гэтага кастрычніка № 78 маю гонар паведаміць, што распараджэнне яго правасхадзіцельства п. начальніка эскадры ў Кітайскім моры з нагоды прызначэння каманды для навучання японцаў марской справе ў час следавання барка «Алтэя» адсюль у Іеда і назад мне вядома і

мною прызначаны для выканання вашага даручэння 28-га флоцкага экіпажа лейтэнант фон Шанц з 6 вопытнымі матросамі, якім ужо дадзены загад адправіцца на памянуты барк; к часу ж адыходу яны будуць забяспечаны ўсім неабходным...»

Неўзабаве Гашкевіч атрымаў яшчэ адзін рапарт ад Бірылёва, у якім гаварылася:

«Пасля канчатковай падрыхтоўкі да паходу японскага барка «Алтэя» ясна відаць, што японскія марскія афіцэры і каманда, прызначаныя за 2 або 3 дні да адыходу барка, зусім не знаёмыя з кіраваннем ім, і, знаходзячы, што п. лейтэнант фон Шанц не ў сілах будзе адзін выканаць ускладзенае на яго даручэнне, я прызначыў у дапамогу яму гардэмарына Вячаслава Генбачова.

Пра што з пашанаю даносячы Вашаму высокаблагароддзю, маю гонар дадаць, што акрамя пп. Шанца і Генбачова на ўспомнены барк назначаны: рулявы Еакім Сакалоў і марсавыя Афанасій Фёдараў, Навум Красноў, Макар Соцкі, Андрэй Пятроў і Герасім Аляксандраў.

Каманда гэта забяспечана ўсім патрэбным наперад на 4 месяцы».

Прыцягваючы Бірылёва да ўдзелу ў навучанні японскіх маракоў, Іосіф Антонавіч браў на сябе свяшчэнны абавязак перад урадам у Эда даказаць, што рускія маракі не дапускалі і не дапусцяць самавольства. Каманда карвета «Пасаднік» ніколі не з'яўлялася пудзілам для японцаў. Цяпер ад Хакадатэ да Эда ўсе будуць ведаць, што трывога за Цусіму была дарэмнаю. Ніхто, акрамя расійскага імператарскага консула, не можа выставіць абвінавачанне супраць флігель-ад'ютанта Бірылёва. Тут, у Японіі, ён суддзя. Можа, таму Гашкевіча ўсё больш і больш паглыналі думкі і пачуцці стаць на абарону камандзіра карвета.

...Іосіф Антонавіч працёр замшавай анучкай акуляры, падсунуў да сябе ліст паперы і зноў задумаўся: «Стаміўся я. Пара б у Расію. Служба консула ў Японіі вельмі падобная на лёс часавога, якога забыліся змяніць».

Пісаць больш няма чаго. Як кажуць японцы: «Доўгія размовы губяць справу». Данясенне кароткае, даходлівае паводле выкладу. У ім не адчуеш ганьбы або надзвычайнай завостранасці да ўчынку Бірылёва. Адчуваецца, што консул кіраваўся добрымі намерамі. Стрыманы тон. Сухая канстатацыя выпадку.

«Ці варта дражніць гусей, якія жадаюць выратаваць Рым?» — падумаў ён.

Пытанні, пастаўленыя сабе напрамую, заўсёды ўздымалі ў ім баявы дух. Яго падтрымлівала здаровая і непарушная воля да жыцця,

нейкая невычэрпная энергія, якая траціцца толькі на мэтанакіраваныя, неабходныя дзеянні. І ў гэтыя хвіліны не было пачуцця большага задавальнення ад таго, што зноў з'явілася цвёрдая рашучасць не паддавацца слабасцям.

Цяпер заставалася чакаць, што адкажа Пецярбург. Ва ўсякім разе Міністэрства замежных спраў будзе на яго баку. Але з маракамі... Флоцкае начальства, вядома, пачне абараняць гонар мундзіра. Не пазбегнуць сваркі.

— Значна лепш, калі ведаеш, з якога боку чакаць стрэлу,— вымавіў услых Гашкевіч.

Свечка на стале дагарала. У пакоі ўжо не прадыхнуць ад чаднага паху кітовага тлушчу. Спаць не хацелася. Балела галава. Ён выйшаў на вуліцу і прысеў на лаўку ў маленькім садочку.

На рэйдзе ціха пагойдваліся судны. Чорныя крыжы голых мачтаў злавесна вырысоўваліся на шэрым небе. Зрэдку да берага даносіліся галасы вахтавых. І зноў усё замірала. А на гарызонце, за мысам Ома, ужо пачало падымацца сонца, рассейваючы бялёсы туман над Ціхім акіянам.

У апошні час думкі аб радзіме ўсё часцей і часцей прыходзілі ў галаву Іосіфу Антонавічу, і ён усё больш і больш разгараўся жаданнем назаўсёды расстацца з Японіяй. Гэта не жарты: дзесяць гадоў! Так, дзесяць гадоў назад ён узняўся на палубу фрэгата «Палада», і з таго часу нялёгкі лёс носіць яго па белым свеце.

Дзесяць гадоў жыцця, дзесяць гадоў вандраванняў.

З гэтых дзесяці гадоў ён мог бы аддаць любы год — і чалавеку хапіла б успамінаў на цэлае жыццё.

## ГОНАР МАЮ

### I

Афіцэрскі састаў на суднах эскадры Ціхага акіяна не з'яўляўся аднародным. Былі франтавікі — удзельнікі абароны Севастопаля,— і былі юныя мічманы, якія яшчэ не нюхалі пораху, але больш начытаныя, чым «старыя». Праўда, трымаючыся чынашанавання, яны не лезлі ў гутаркі старэйшых, чагосьці чакалі. Нагледзеўшыся ў Ганконгу, Шанхаі, Нагасакі і Хакадатэ, як жывецца простаму люду, афіцэры наўрад ці задумваліся, што ў сваёй краіне існавала сацыяльная бездань, якая раздзяляла іх, паноў, і, скажам, марсавага матроса. Не гаворачы ўжо аб непераадольных бар'ерах у вёсцы паміж памешчыкамі і сялянамі. А кажучы праўду, служба — не чароў-

ная казка, таму падабалася не ўсім афіцэрам. Добра, вядома, схадзіць у кругасветнае плаванне, паглядзець свет... Добра. Але трэба дзень пры дні несці вахту, кіраваць суднавымі работамі, вучыць матросаў. Тут ужо не да марскога хараства, не да экзотыкі. Напрыклад, афіцэр, які шмат гадоў праплаваў на Далёкім Усходзе, мог дазволіць сказаць у коле сяброў: «Панове, няма нічога лепшага за Японію. Тут нас любяць і Расія блізка». Іншы ж афіцэр задумаецца: «А ці так гэта? І чакае, калі скончыцца тэрмін, чакае вяртання ў Кранштат, каб канчаткова вырашыць свой лёс: астацца на флоце або выйсці ў адстаўку?»

Успомнены мічман Андрэй Дэ-Ліўрон з «Калевалы» сведчыць: «Гардэмарыны, якія вытрымалі яшчэ вясною[1] свой афіцэрскі экзамен, былі ўзведзены ў мічманы. Акрамя гардэмарынаў у нас на эскадры было 6 юнкераў: Данаураў, Бірылёў А. А., Камоўскі, Купфер, Папоў (утапіўся ў Хакадатэ) і Рачынскі (пасля ўпраўляючы казённай палаты ў Гродзенскай губерні) і тры кадэты: Станюковіч К. М., Стогаў і Макараў С. В. З іх Бірылёў, Камоўскі і Макараў асталіся на службе і пад канец плавання былі гардэмарынамі... У Хакадатэ я трапляў ужо пяты раз і ўсяго разам правёў там больш за чатыры месяцы; на беразе мне ўсё было знаёма. На гэты раз карвет прыйшоў туды ў сезон вінаграду і так званых дубовых груш, якія з-за ўласцівай ім моцы гадзіліся толькі на варку варэння. Зноў паявілася на стале нязменна смачнае пячэнне кастара, пасля наладжваліся тыя ж паездкі ў Каміду, наведванне чыноў нашага консульства, сустрэчы з высокашаноўным а. Мікалаем і спатканні з доктарам Залескім, які тады загадваў нашым берагавым шпіталем... Консул большую частку свайго часу праводзіў за фатаграфіяй...»

У Гашкевіча, як ужо гаварылася, быў фотаапарат «дагератып», з якім ён не разлучаўся з таго часу, як плаваў на фрэгаце «Палада». Найбольш цікаўныя японцы ў час здымкаў хадзілі следам за консулам. Ён выбраў дваіх — Мацусабура Ёкаяму і Кідзу Каміці — і не памыліўся ў вучнях. Адданыя юнакі асвоілі мокры каладыйны спосаб атрымання фатаграфічных пласцін-негатываў, дзякуючы якому экспазіцыя пры партрэтных здымках скарацілася ад 12 мінут да 10 секунд. Я бачыў зберажоны негатыў, які зафіксаваў партрэт японца з Хакадатэ. Гэта, можна сказаць, рэлікт сярэдзіны мінулага стагоддзя. Яго мне паказаў выдатны японскі фатограф Ёіці Кувадзіма з газеты «Хакайда сімбун». Не бяруся меркаваць за ўсю Японію, але на востраў Хакайда мастацтва фатаграфіі прыйшло з Расіі, а калі

[1] Гаворка ідзе пра вясну 1864 года.

быць ужо зусім дакладным, дзякуючы консулу Гашкевічу. Ён пакінуў пасля сябе школу — хакадацкую школу фатаграфіі[1]. Пра гэта можна прачытаць у кнізе Сінтара Накамуры «Японцы і рускія», а таксама ў японскім часопісе «Рэкісі такухон» («Кніга для чытання па гісторыі»).

Не так сабе, відаць, фатаграфія стала хобі Гашкевіча. Па сутнасці, як мне здаецца, гэта быў выхад творчай асобы з цяснoты будняў, выхад на прастор жыцця, калі чалавек дае сабе кароткую перадышку, каб не знемагала душа.

## II

Лейтэнант Збышэўскі з'явіўся ў консульстве адразу ж пасля падняцця флага. Гэты рытуал на флоце адбываўся роўна а восьмай гадзіне раніцы.

Зусім нядаўна контр-адмірал Папоў павысіў Збышэўскага па службе: даручыў часова камандаваць параходам «Амерыка».

— Чаму часова? — пыталіся афіцэры.

Збышэўскі паціскаў плячыма, хоць і здагадваўся пра даўнюю непрыязнасць адмірала да яго.

Збышэўскага ведалі на эскадры як адукаванага і здольнага маладога афіцэра, які не ўмее падлашчвацца да начальства, сумленнага і прамога ў суджэннях, што часта было не па нутры камандзіру «Рынды» капітан-лейтэнанту Андрэеву, праслаўленаму жорсткім абыходжаннем з матросамі. Адмірал Папоў — чалавек запальчывы, які ўспыхваў, быццам порах, не заўсёды падтрымліваў высакародныя памкненні маладога афіцэра. Збышэўскі падумваў пайсці ў адстаўку, пакінуўшы флот, але штосьці стрымлівала яго; можа быць, незвычайная любоў да мора, далёкіх падарожжаў, а можа быць, напрыклад, адданасць сябрам, з якімі давялося дзяліць цяжар ранейшай службы на фрэгаце «Аскольд» і карвеце «Рында». Наогул, ён не спяшаўся прымаць якое-небудзь рашэнне і не падаў духам: на ўсялякія абуральныя замахі начальства, якія закраналі яго афіцэрскі гонар, адказваў дзёрзкасцю. Гэта ўлічвалася. Усе адзнакі і чыны прыпадалі іншым, а ён — бездакорны служака — заставаўся ў ценю.

Іосіф Антонавіч Гашкевіч, відаць, адзін з тых, хто разумеў, што Збышэўскі не лодар, што ён не пазбягаў чорнай работы і не разлічваў на пратэкцыю дзядзькі-адмірала. Іншымі словамі: кар'еру бабка

[1] У Японіі існуе дзве школы фатаграфіі — хакадацкая і нагасакская. Да гэтага часу ідзе спрэчка, якая з іх старэйшая.

яму не варажыла. Консул адносіўся да Збышэўскага як да пары, адрынутаму вышэйшаю флоцкаю кастай.

— Вы — ранняя птушка, лейтэнант. Праходзьце. Сядайце.

Гашкевіч выйшаў з кабінета, каб аддаць нейкія распараджэнні слузе. У прыадчыненыя дзверы была відаць яго сутулая спіна і крыху схіленая сівая галава. У абліччы гэтага чалавека, у рухах рук, у паходцы, у спакойнай гаворцы не цяжка было ўгадаць, што давядзецца мець справу з незвычайнай асобаю. Белая барада, запалыя вочы, усыпаны маршчынамі твар — сляды пražытага, сляды вынесеных выпрабаванняў у доўгіх блуканнях па марскіх шляхах-дарогах.

— Спакою няма ад японцаў,— уваходзячы сказаў Іосіф Антонавіч,— сёння ноччу швэндаліся вакол консульства і нешта надумвалі... Папрасіць ахову з караблёў?

— Гэта нейкае непаразуменне,— заспакоіў Збышэўскі.— У вас у Хакадатэ столькі сяброў... Не варта надаваць значэння.

— Вы ўпэўнены?

Лейтэнант кіўнуў. Гашкевіч прысеў побач.

— З чым завіталі, граф? — спытаў па-польску гаспадар дома.

— Вы абяцалі напісаць рэкамендацыйныя лісты рускаму консулу ў Шанхай. Па гэта я і прыйшоў.

— Добра. Лісты гатовы.

Іосіф Антонавіч, не падымаючыся, працягнуў руку да стала, узяў папку і дастаў два запячатаныя канверты.

— Калі ласка. Чаму вы сёння хмуры?

Збышэўскі напхаў люльку. Твар яго быў цёмны і задумлівы.

— Вы ведалі юнкера Трувелера з фрэгата «Алег»?

— Не, а што?

— Вы павінны памятаць гэтага юнака,— з цвёрдай перакананасцю сказаў Збышэўскі.— Ён быў такі нервовы, затузаны; адным словам — студэнцік. Часта заходзіў у консульства па пошту...

— На эскадры, граф, больш за сотню гардэмарынаў і юнкераў — ці ж усіх запомніш? Дык што ж здарылася?

— Трувелер арыштаваны і асуджаны ў Кранштаце. У яго знойдзены забароненыя кнігі. Аказваецца, ён двойчы сустракаўся з Герцэнам, а апошні раз і з Бакуніным. Ніколі не паверыў бы, што ў грудзях гэтага кволага юнака б'ецца сэрца льва.

— Вы малады, і хто можа здагадвацца, што заўтра ўзбрыдзе вам у галаву. Не крыўдуйце, граф. Мне па-бацькоўску шкода юнкера, хоць ён у некаторай ступені і мае рацыю. Гэта яго артыкул «Ці патрэбны розгі на флоце?»

— Не ведаю. Але факты ўзятыя з фрэгата «Алег».

— Так. Урок камандзіра «Пластуна» не на карысць, значыць?

Гамонячы, яны ўспомнілі гэтую трагічную гісторыю. Амаль тры гады назад, жнівеньскім днём, у Балтыйскім моры быў узарваны кліпер «Пластун». Трэцяе аддзяленне Уласнай яго імператарскай вялікасці канцылярыі ўстанавіла, што ў гібелі карабля вінаватыя матросы, даведзеныя да адчаю жахлівай жорсткасцю і бесчалавечнымі пакараннямі. Яны, помсцячы афіцэрам і камандзіру капітан-лейтэнанту барону Дзістэрло, узарвалі кліпер.

...Лейтэнант Збышэўскі рэдка бываў гаваркім, але часамі на яго находзіла красамоўства, і тады ён мог гадзінамі сядзець у кают-кампаніі, расказваць гардэмарынам пра гарачыя тропікі, пра штормы, што гуляюць ля мыса Горн, пра чарнавокіх дзяўчат з Санта-Крус. Палітычных тэм Збышэўскі не закранаў. Але калі сыходзіў на бераг, з'яўляўся ў гасцях у Іосіфа Антонавіча, яму хацелася адвесці душу.

Я пачаў з вамі гаворку пра Трувелера, таму што бачу ў ім свайго аднадумца,— сказаў Збышэўскі. Тытунёвы дым ахутаў яго твар, але Іосіф Антонавіч разглядзеў неспакойныя і нечым напалоханыя вочы афіцэра.— Весткі з Польшчы ўмацоўваюць ува мне веру: біцца... Я яшчэ не ведаю як... Але я павінен быць побач са сваімі.

— Ці не здаецца вам, што польскі канфлікт нагадвае бунт тутэйшых самураяў?

— Я слаба разбіраюся ў палітыцы, але сэрцам магу зразумець...

— Тэрор зразумець сэрцам? Гэта забаўна. Я не хачу параўноўваць самураяў з польскай шляхтаю, але даруйце, граф, вы імкнецеся трапіць у прадонне.

— Дзеля свабоды Польшчы — гатоў!..— разгарачона адказаў Збышэўскі.

— Вы падмяняеце свяшчэнныя пачуцці нянавісці...— Гашкевіч не дагаварыў, але лейтэнант зразумеў.

— Я — паляк. Пакрыўджанаму даруюць.

Гашкевіч не думаў, што іх гутарка набудзе такі кірунак. З французскіх і англійскіх газет ён ведаў, што ў Польшчы ў студзені 1863 года ўспыхнула паўстанне. Цяпер ужо быў май. Паводле скупых звестак з Расіі, атрады касінераў і стральцоў, ухіляючыся ад сутычак з рэгулярнымі войскамі, распаліся на дробныя групкі: адышлі на Палессе, схаваліся ў Белавежскай пушчы і вялі партызанскую вайну. Шанцаў на перамогу не было, ды і сілы няроўныя. Царскі ўрад кінуў супраць паўстанцаў цэлую армію — амаль трыста тысяч

салдат. На што ж спадзяецца Збышэўскі? Гацікевічу хацелася дашукацца ісціны.

— Граф, вы разважаеце як хворы чалавек. Даруйце.— Іосіф Антонавіч узняўся, падышоў да дзвярэй і шчыльней прычыніў іх.— Я магу зразумець пана Бакуніна. Ён мужыцкі заступнік. Ён волат і прапаведнік рэвалюцыйных ідэй!.. Мне здаецца, кроў застыне ў жылах у Бакуніна, калі без яго ў Еўропе пачнецца бунт. Яму можна паверыць, за ім можна пайсці ў любое пекла!.. Праўда, прызнаюся: не з маім характарам. Я пасіўны паўстанец...

— Адсюль нам не відаць, чыя праўда: ваша або мая. Мы за тысячы міль ад Польшчы, і спрэчку нашу вырашыць можам толькі дома... на роднай зямлі. Раніца ўваскрэсення надыходзіць. Я яе бачу...

— Рабіце, як кажа сумленне. Мая прыхільнасць да вас ранейшая.— Іосіф Антонавіч адкрыта паглядзеў у твар субяседніку.

У Збышэўскага пад вачамі, у рэдкіх складках маршчын ляжалі шэрыя цені. Лейтэнанту можна было зараз даць на выгляд усе сорак, хоць было яму не больш за дваццаць восем.

Збышэўскі не адвёў погляду. У яго сціснула горла. Што ён скажа консулу? Што ён скажа чалавеку, якога паважаў? А нічога. Позна. Усё ўжо думана-перадумана: ні кроку назад. Але як растлумачыць яму свае душэўныя пакуты?

«Адкуль Гашкевічу набрацца сіл, калі ўсе лепшыя гады аддадзены дыпламатыі, заваяванню прызнання Кітаем і Японіяй Расіі? Консул ужо даўно страціў сваяцкія сувязі са сваім краем, з беларускай зямлёю»,— падумаў Збышэўскі перад тым, як развітацца з гаспадаром дома. Лейтэнант горка ўсміхнуўся і сказаў:

— За маімі плячамі золкая хакадацкая зіма, японскія тайфуны і мёртвы зыб Жоўтага мора — можа быць, пашанцуе.

Ні Збышэўскі, ні Гашкевіч не ведалі аб расстаноўцы рэвалюцыйных сіл і аб ходзе падзей. Іх размова магла насіць адцягнены характар.

## III

У сярэдзіне чэрвеня 1863 года ў Хакадатэ прыбыў карвет «Асілак». Камандзір гэтага судна капітан 2-га рангу Чэбышаў даносіў у Пецярбург:

«На прыбылым з Шанхая да карвета параходзе «Амерыка» я атрымаў вестку, што часова камандуючы гэтым параходам лейтэнант

Збышэўскі, зрабіўшы распараджэнне к адыходу парахода, загадаў разводзіць пар і да 8 гадзін раніцы быць поўнасцю гатовым зняцца з якара; сам жа на вольнай шлюпцы з'ехаў на бераг для канчатковых разлікаў.

Да прызначанага тэрміну п. Збышэўскі на параход не прыбыў. Прастаяўшы яшчэ некалькі гадзін у чаканні, пакінуты старшым па камандзе лейтэнант Нелідзінскі, бачачы ў гэтай затрымцы незвычайны выпадак, паслаў афіцэра ў горад даведацца аб прычыне, якая затрымала камандзіра, і атрымаць ад яго далейшыя загады. Пасланы афіцэр, які вярнуўся вечарам, аб'явіў, што не мог знайсці Збышэўскага. Адразу ж паведамлена ў консульства і ва ўсе паліцыі, але пасля двухдзённых бескарысных пошукаў лейтэнант Нелідзінскі зняўся з якара і прыбыў да карвета, які стаіць у групе астравоў.

Атрымаўшы гэту вестку, я знайшоў неабходным адправіцца ў Шанхай як для даследавання гэтага выпадку, так і для карвецкіх патрэб. Па прыбыцці ў Шанхай, я атрымаў ад п. Збышэўскага ліст, копію з якога маю гонар прадставіць...»

Вось што пісаў Збышэўскі свайму старэйшаму таварышу, капітану Чэбышаву:

«Шаноўны спадар, Пётр Афанасьевіч! Вы, вядома, дагадваецеся, што выдуманае мною даручэнне ў Нінгпо, пра якое я пішу на параход,— лухта; я гэта прыдумаў для таго, каб каманда парахода «Амерыка» не пайшла б адразу за маім прыкладам, гэта значыць не ўцякла б.

...Я ўжо даўно быў прасякнуты перакананнем, што працягнуць службу мне не варта, але немажлівасць атрымаць адстаўку прыводзіла мяне да адчаю; цяпер жа, калі я, можа быць памылкова, перакананы, што трэба чакаць вайны з абаронцамі маёй змардаванай айчыны, заставацца тут з Вамі было б двойчы подла: супраць Вас усіх і супраць майго свяшчэннага абавязку як паляка.

Вы як начальнікі, можа быць нават як рускія, мяне будзеце клеймаваць і асуджаць, але як прыватныя і сумленныя людзі падумайце над трагічнасцю майго становішча, і ў Вас сумна сцісненца сэрца. Падумайце, як моцная павінна быць прычына, прымусіўшая мяне, праслужыўшы з адданасцю справе і стараннасцю, роўным кожнаму з Вас, больш за 13 гадоў,— дэзерціраваць.

Хто з вас, чытаючы сваю гісторыю, не блаславіць у душы імёны Мініна і Пажарскага, дзякуючы якім вы, шчасліўцы, шануючы іх імёны, не ведаеце і не разумееце, што значыць ненавіснае ярмо

чужаземцаў: хто адчувае, той разумее свяшчэннае пачуццё, якое прымусіла мяне расстацца з Вамі; у Вас яшчэ астаюцца на эскадры палякі, але тым прадбачыцца роля гледачоў: яны дактары або механікі; мне не даводзілася — хто ведае — можа быць, камандавацъ суднам у баі і здрадзіць тады я не сумеў бы; прывыкшы з павагаю глядзець на ваш флаг, як на мой родны, я, можа быць, пачаў бы бараніць яго насуперак усім сваім перакананням і насуперак свайму доўгу, адным словам, заставацца больш нельга — бывайце!

...Мяне мучыць тое, што я маю доўгу каля 690 рублёў, але рэчаў у мяне астаецца многа — кніг, чарцяжоў, прададзенае ўсё гэта на аўкцыёне папоўніць частку; другую ж я вышлю таму, з каго давядзецца вылік, вядома, раней, чым ён сам пачаў бы плаціць. З Еўропы я пра гэта напішу. Яшчэ раз, сябры і ўсе таварышы па службе, бывайце!

Адмірал мне ніколі не давяраў ахвотна, што мне неаднаразова нагадвала пра тое, што прымхаў у мяне з ім не павінна быць. Яго апошні час як быццам нешта прымусіла даць мне часова судна, ён гэтага вельмі не хацеў, і я гэта ведаў. Дзе цяпер мой брат і што з ім будзе? Загублю яго маладога з сабою, але што рабіць? Кожны дае тое, што можа. Бывайце.

*ЗБЫШЭЎСКІ*».

13 верасня 1863 года генерал-ад'ютант Крабэ дакладваў Аляксандру II:

«Збышэўскі — родам паляк, лічыўся адным з адукаванейшых і здольнейшых маладых афіцэраў нашага флоту, і хоць паходжанне, а,можа быць,часткова і характар яго не выклікалі асаблівага даверу непасрэднага яго начальства, але без сумнення світы Вашай вялікасці контр-адмірал Папоў тым не менш мог дапускаць мажлівасць уцёкаў Збышэўскага, што ў тых аддаленых краях ён павінен быў знаходзіцца па-за ўсякім уплывам польскага маральнага гнёту».

Імператар уласнаю рукою накрэсліў: «Надзвычай сумна».

Роўна праз месяц Крабэ пісаў Андрэю Аляксандравічу Папову:

«...Уцёкі Збышэўскага зрабілі на мяне самае цяжкае ўраджанне. Гэта ў летапісах нашага флоту першы выпадак здрады флагу. Шкода, што ўцекача не ўдалося захапіць, я ўпэўнены, што Вы не задумаліся б расстраляць яго за 24 гадзіны».

# ВЕСТКІ З ПЕЦЯРБУРГА

## I

Як гаварылася вышэй, тайкун пасля доўгага роздуму накіраваў у пачатку 1862 года ў Еўропу надзвычайнае пасольства. Узначаліў дэлегацыю Такэноўці Сімацукэно-камі — Сімодскі князь, з якім Гашкевіч пазнаёміўся яшчэ ў 1854 годзе ў час перагавораў адмірала Я. В. Пуцяціна ў горадзе Сімодзе. Восенню японскае пасольства вярнулася на радзіму. Іосіф Антонавіч вырашыў пабываць у Эда, пакуль члены дэлегацыі не раз'ехаліся па сваіх княствах і вотчынах. Была і зачэпка для гэтага. З Міністэрства замежных спраў прыйшла дэпеша і пакет з фатаграфіямі. У афіцыйным пасланні гаварылася, што гасудар імператар пасылае «праз Азіяцкі дэпартамент 6 фатаграфій аб прабыванні ў С.-Пецярбургу японскіх пасланнікаў, бо яны ў час не былі гатовыя». Разглядаючы здымкі, Іосіф Антонавіч пазнаў галаву пасольства Такэноўці Сімацукэно-камі, яго намеснікаў Мацудайра Іваміно-камі і Кёгоку Натано-камі. «Пагутарыць з гэтымі вяльможамі,— раздумваў Гашкевіч,— і пачуць з іх вуснаў уражанні аб паездцы ў Расію — самы важны для мяне інтарэс як дыпламата».

Сабраўся ў дарогу хутка. На рэйдзе ў Хакадатэ ў яго распараджэнні быў вінтавы карвет «Асілак». Камандзір — капітан 2-га рангу Пётр Афанасьевіч Чэбышаў загадаў суднаваму механіку разводзіць пару.

Вось якое сведчанне нам збярог час.

«Паводле прапановы нашага консула п. Гашкевіча 7 верасня, узяўшы на буксір зафрахтаваны купецкі брыг, што прыйшоў з Нікалаеўска па соль у Хакадатэ,— даносіў у рапарце Чэбышаў,— я вывеў яго з Сангарскага праліва; сам жа з панам Гашкевічам адправіўся ў Юкагаму, куды прыбыў 11 чысла. На рэйдзе застаў англійскую і французскую эскадру, што складалася з сямі суднаў і чакала пад парай прыезду на судны сваіх пасланнікаў, якія павінны адправіцца ў Іеда для патрабаванняў ад японскага ўрада тлумачэнняў і задавальнення за напад, зроблены надоечы... на англійскіх падарожнікаў, ехаўшых у Канагаву, прычым аднаго з іх забілі і аднаго паранілі.

Праз чатыры дні пану Гашкевічу спатрэбілася ісці ў Іеда, дзе мы прастаялі восем дзён; пасля пайшлі на суткі ў Юкагаму і адтуль у зваротнае плаванне ў Хакадатэ...»

У консульстве Іосіфа Антонавіча чакаў ліст ад Уладзіміра Іосіфавіча Яматава, у якім ён упершыню расказаў хроснаму — проста і

шчыра — пра сваё пецярбургскае жыццё. Нягледзячы на яўны сум ліста, Гашкевіч адчуў, што Яматаў не разгубіў усё разумнае, усё добрае, усё сумленнае — гэтыя якасці ў свой час пакарылі расійскага дыпламата,— і быў рады за былога японскага бонзу.

Супаставіўшы падзеі і факты, прыведзеныя ў лісце Яматавым, з тым, што расказалі пасланнікі, Іосіф Антонавіч мог без асаблівых цяжкасцей намаляваць цэласную карціну. Застаўшыся без апякунства з боку Гашкевіча, Уладзімір Яматаў вынес усе цяжкасці і, як відаць, сумеў умацаваць сваё становішча сярод чыноўнікаў Азіяцкага Дэпартамента, не ператварыўся ў пецярбургскага абывацеля.

З ад'ездам Гашкевіча ў Японію пачалося выпрабаванне лёсам. Яматава больш задавальняла жыццё пустэльніка. І калі ён хадзіў у госці да таварышаў па службе Лопава і Захарава, дык толькі па вялікіх праваслаўных святах: на Каляды, Масленіцу, Вялікдзень.

Наш іншаземец не быў пакрыўджаны жалаваннем — 500 рублёў срэбрам у год грошы не малыя. Вядома, пры Гашкевічу Уладзімір Яматаў жыў як у Хрыста за пазухаю, быў па-бацькоўску абаронены, наеты і адзеты, пра кішэнныя расходы не думаў. Былі і такія-сякія зберажэнні. Напрыклад, прэмія за «Руска-японскі слоўнік». Трэба толькі па-людску і сціпла распарадзіцца імі, не шыкаваць па-купецку, і тады тое-сёе застанецца «на чорны дзень».

Гашкевіч з сям'ёю плаціў за трохпакаёвую кватэру з вадаправодам і клазетам плюс прыслуга — 70 рублёў у год. Яматаву ён пакінуў абсталяванне, але кватэра для аднаго стала вялікаватай. Дамовіўшыся з гаспадыняю дома, той перасяліўся тут жа, але ў меншую — двухпакаёвую — за паўцаны. Ды плюс прыходзячая прыслуга за 5 рублёў.

Апоўдні Яматаў услед за іншымі пакідаў канцылярыю, заходзіў у бліжэйшы шынок папіць чаю з булачкай або піражком, прачытаць газету «Северная почта», пасля ішло прадаўжэнне прагулкі да Сенацкай плошчы або да Англійскай набярэжнай, дзе была прыстань. Часам вяртаўся назад ва ўстанову, каб закончыць пераклад дакументаў, дасланых з Іркуцка. Генерал-губернатар Усходняй Сібіры М. М. Мураўёў заключыў Айгунскі дагавор з Кітаем. Граф Я. В. Пуцяцін падпісаў Цяньцзіньскі трактат — і зноў клопатная работа. Перакладчыцкі занятак сумны, але такая ўжо яго працоўная доля.

Нельга, аднак, сказаць, што Яматаў быў замардаваны работаю чыноўнік. Не, ён знаходзіў час для наведвання музеяў, выставак, тэатраў.

...Вясна 1860 года была сырая і ветраная. Нява штарміла, гранітныя берагі грымелі, быццам парожнія піўныя бочкі. Шэрая імгла ахутала Васілеўскі востраў, набярэжныя, плошчы, блукала ў вузкіх завулках. Пачаліся павальныя прастудныя захворванні, тое, што сёння мы называем эпідэміяй. У дэпартаменце ўстрывожыліся, калі выявілі, што Яматаў ужо два дні не паяўляўся ва ўстанове. На кватэру да яго паехалі Лопаў, Захараў і Татарынаў. Па дарозе накуплялі садавіны, заморскіх ласункаў, у доме графіні Строганавай, дзе знаходзіўся магазін кітайскага чаю, ім адважылі фунт самага лепшага. Татарынаў, акрамя гэтага, заглянуў у аптэку. Аляксандр Аляксеевіч, перш чым стаць дыпламатам, пачынаў кар'еру доктарам духоўнай Пекінскай місіі разам з Захаравым і Гашкевічам. Ён не лічыў сябе прафесіяналам, але ў такіх хваробах, як інфлюэнца, разбіраўся. І на першым часе мог памагчы хвораму, пакуль не падшукалі добрага доктара.

Хвароба аказалася зацяжною. Уладзімір Іосіфавіч Яматаў змог прыступіць да работы толькі ў сярэдзіне чэрвеня. Паводле парады таварышаў па службе ён падаў прашэнне самаму высокаму начальству. Велікадушны, уніклівы ў розныя справы і клопаты падначаленых дырэктар Азіяцкага дэпартамента Ягор Пятровіч Кавалеўскі напісаў рапарт:

«...Маю гонар хадайнічаць перад яго высокасцю п. таварышам міністра замежных спраў аб грашовай дапамозе служачаму дэпартамента калежскаму рэгістратару Яматаву, які ўжо на працягу 3 месяцаў знаходзіцца ў хваравітым стане.

*Генерал-маёр КАВАЛЕЎСКІ.*
*Чэрвеня 14 дня 1860 г.»*

Збярогся яшчэ адзін дакумент. Цытую: «На аўтэнтычным напісана рукою п. таварыша міністра выдаць сто рублёў з сумы, прызначанай на дапамогу. І. Талстой».

Наогул пецярбургскае надвор'е досыць крута абыходзілася з Яматавым, пасля ён яшчэ не раз захворваў. Прадаўжаючы службу ў дэпартаменце, ён многаму навучыўся, у тым ліку і цярпенню. Неяк само сабою, а па праўдзе высілкамі бескарыслівых калегаў, яго не загружалі работаю, хоць яна, асабліва з паяўленнем новага дырэктара Азіяцкага дэпартамента, усё прыбаўлялася і прыбаўлялася. Размова ідзе пра Мікалая Паўлавіча Ігнацьева, чалавека несумненна разумнага, які любіў, як кажуць, «казарменную службу», каб у дэпартаменце усё было, як на вахтпарадах. Яго ўзлёт звязаны з удала заключаным 2 лістапада 1860 года дагаворам з Кітаем.

Сем гадоў жывучы ў Пецярбургу, Яматаў нікому не скардзіўся на свой лёс. Сем гадоў ён сачыў здалёку за падзеямі, што адбываліся на радзіме, якая была на мяжы разлажэння феадалізму. З выклікам паводзілі сябе іншаземцы, асабліва амерыканцы, падманваючы пры гандлёвых здзелках японскіх купцоў, рэзка падалі даходы ў чыноўнікаў і самураяў, не кажучы аб рамесніках і сялянах. Яматаў разумеў, што самурайскі дух, загнаны ўнутр, вось-вось вырвецца вонкі. І тады быць грамадзянскай вайне. Такая неўладкаванасць у дзяржаве не абяцала нічога добрага. Расія магла памагчы Японіі. Але як? У консула І. А. Гашкевіча інструкцыя — трымаць нейтралітэт. Улічваючы напал страсцей, віцэ-канцлер князь А. М. Гарчакоў паслаў праз Гашкевіча пісьмо японскаму ўраду. Яматаў пра гэта ведаў, бо перакладаў з рускай на японскую. Рускі ўрад згаджаўся на адтэрміноўку адкрыцця японскіх партоў Эда, Осака і аднаго з партоў на заходнім ўзбярэжжы Хонсю, калі на гэта згодзяцца іншыя дагаворныя краіны: ЗША, Францыя, Англія, Галандыя, Германія. А. М. Гарчакоў выказваў надзею, што Японія ацэніць гэты новы доказ дружалюбных адносін Расіі да Японіі. Пісьмо падштурхнула японскі ўрад паслаць сваё пасольства ў Еўропу, у тым ліку і ў Расію. Неўзабаве ад консула І. А. Гашкевіча быў атрыманы спіс членаў японскага пасольства, якое і ўзначальваў Такэноўці Сімацукэнокамі, добра вядомы Яматаву.

## II

Пра паяўленне японцаў у Еўропе ў сталічных газетах пачалі давацца кароткія інфармацыі. Афіцыйная ўрадавая газета «Северная почта» надрукавала 18 красавіка 1862 года прысланы з Парыжа вялікі артыкул, у якім было ўсё, каб прыцягнуць увагу чытачоў: якія японцы, што яны вызнаюць і чаму пакланяюцца, у што адзяваюцца і што ядуць...

Напярэдадні прыбыцця японскіх пасланнікаў у Санкт-Пецярбург «Северная почта» ў двух нумарах пазнаёміла сваіх падпісчыкаў з нарысам «Прамысловасць і гандаль Японіі». Калі адшукаеш новую інфармацыю, дык міжвольна ловіш сябе на думцы, што матэрыял рыхтаваўся ў нетрах Азіяцкага дэпартамента і, быць можа, пры непасрэдным удзеле Яматава, бо аўтарства адсутнічае. Дарэчы, забягаючы наперад, трэба сказаць, што ў «Северной почте» імя Яматава было ўспомнена двойчы. Гэта, мяркую, факт не ардынарны.

Яматаў, думаецца, адчуваў глыбокае хваляванне, рыхтуючыся да сустрэчы з суайчыннікамі — не бачыўся ж і не гаварыў ні з адным

японцам цэлыя сем гадоў. Ён вырашыў паяўляцца скрозь у парадным мундзіры дзяржаўнага чыноўніка, прадэманстраваўшы тым самым сваім былым і сённяшнім суайчыннікам павагу да дзяржавы, якая дала яму прытулак, а гасудар імператар да таго ж надаў чын калежскага рэгістратара. Дарэчы, за гэтыя гады Яматаў узняўся на дзве прыступкі вышэй: ён стаў чыноўнікам XII класа — губернскім сакратаром.

Дырэктар дэпартамента М. П. Ігнацьеў разумеў стан перакладчыка. Па сутнасці, для Яматава гэта быў своеасаблівы экзамен. І, відаць, у першую чаргу маральны. Зразумеюць ці не зразумеюць яго суайчыннікі? Мікалай Паўлавіч Ігнацьеў для сябе ўжо вырашыў, што на перагаворах з японскімі пасланнікамі Яматаў будзе побач з ім, і пастараўся ўліць у яго душу ўпэўненасць перад блізкім выпрабаваннем. Для пачатку ён паклаў на стол віцэ-канцлера А. М. Гарчакова рапарт.

«Будучы ў Азіяцкім дэпартаменце японскім перакладчыкам, губернскі сакратар У. Яматаў,— гаварылася ў дакуменце,— маючы патрэбу ў грашах для набыцця партыкулярнай вопраткі, неабходнай для яго з нагоды прыходу ў Пецярбург японскага пасольства, гонар маю ласкава прасіць Ваша правасхадзіцельства аб аказанні яму дапамогі або за кошт жалавання, якое атрымлівае, або з асобых сум...»

Прашэнне, аднесенае да паўсядзённых дробязяў жыцця, на шчасце, не заляжалася ў паперах Аляксандра II. Мяркуючы па рэзалюцыі, на наступны дзень дакумент можна было несці казначэю: «На аўтэнтычным уласнаю рукою яго імператарскай вялікасці напісана «Згодзен». 7-га мая 1862 г.»

Час збярог і распіску Уладзіміра Яматава пра тое, што ён атрымаў «...з Азіяцкага дэпартамента пяцьсот рублёў срэбрам, усямілас-цівейша падараваныя ім на абмундзіраванне».

Паводле найвысачэйшага загаду рыхтавацца да сустрэчы японскіх пасланнікаў пачалі загадзя. Віцэ-канцлер А. М. Гарчакоў прызначыў адказных асоб на чале з дырэктарам Азіяцкага дэпартамента М. П. Ігнацьевым, размеркавалі абавязкі паміж чыноўнікамі. Спачатку планавалася, што Уладзімір Яматаў будзе суправаджаць барона Ф. Р. Остэн-Сакена, які ехаў сустракаць гасцей у Берлін, але з Кранштата паведамілі, што вярнуўся з плавання капітан-лейтэнант А. Ф. Мажайскі. Адразу ж паступіў загад адкамандзіраваць яго ў распараджэнне Остэн-Сакена. Аляксандр Фёдаравіч Мажайскі добра памятаў Такэноўці Сімацукэно-камі, які ўдзельнічаў на пера-

гаворах з адміралам Пуцяціным, і нават маляваў яго. Гэты малюнак зберагаецца ў альбоме з усімі астатнімі акварэлямі, прывезенымі Мажайскім з Японіі.

Як бачым, візіту японцаў у імператарскім двары надавалася вельмі важнае значэнне. Пераважна, думаецца, таму, што ён быў першы і, відаць, самы прадстаўнічы.

Вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч — шэф флоту, распарадзіўся паслаць па японскіх пасланнікаў парахода-фрэгат «Смелы» пад камандаваннем капітана 2-га рангу Паўла Паўлавіча Лявіцкага, пасля вядомага рускага гідрографа.

«Смелы» чакаў японцаў у прускай гавані Свінемюндэ. Такэноўці Сімацукэно-камі са сваёй світаю прыбыў 24 ліпеня і ў той жа дзень парахода-фрэгат зняўся з якара і ўзяў курс на Кранштат. У час плавання высветлілася, што госці прывыклі да марскіх ваяжаў. На пачатку студзеня 1862 года яны пакінулі Эда на англійскім параходзе «Адэн», які з заходам у Ганконг, Сінгапур, на Цэйлон і ў Адэн даставіў іх у егіпецкі порт Суэц. Тут японцы пераселі на цягнік. Першае спатканне з цудам — паравозам і жалезнымі рэйкамі — і паездка з ветрыкам. З Александрыі зноў накіраваліся ў дарогу, але ўжо па Міжземным моры. У сярэдзіне сакавіка пасланнікаў сустрэў Парыж, пасля ўвесь май яны прагасцявалі ў Лондане. І зноў марское падарожжа. На гэты раз у Гаагу. Тры дні правялі ў Берліне. І вось цяпер — Балтыйскае мора.

Аб рускай гасціннасці ведаюць або чулі многія іншаземцы. Японцы ж пазнаёміліся з ёй яшчэ ў час наведання фрэгатам «Палада» Нагасакі. Маракі «Смелага» частавалі гасцей з вялікай сардэчнасцю. Адзін цікавы факт. Паводле сведчання супрацоўніка газеты «Кронштадтский вестник», «...члены пасольства прасілі падаць рэдзькі і цёртага хрэну. Гэтым яны закусвалі шампанскае, якое пілі з вялікім задавальненнем». У перапынках паміж застоллем гаспадары дарылі японцам падарункі. Жывому і цікаўнаму князю Сімодскаму падабалася відовішча магутнага карабля, які ішоў пад ветразямі. Пры малым ветры ветразі здымалі, і пачынала пыхкаць паравая машына. Зрабіла на яго ўражанне і ўнутранае абсталяванне судна — адміральскі салон, афіцэрская кают-кампанія і каюты. Такэноўці Сімацукэно-камі папрасіў тэхнічныя чарцяжы — калі ласка. Ці ж адмовіш высокаму госцю? Барон Ф. Р. Остэн-Сакен расклаў перад японцамі карту імперыі на 12 лістах, кожны паўтараметровага памеру, каб паказаць, якая вялікая і бяскрайняя Расія — ад Прыбалтыкі да Курыльскіх астравоў. І сказаў: «Гэта вам». У дадатак яшчэ паднёс вялікага маштабу план Санкт-Пецярбурга.

У моры каля вострава Дага «Смелага» сустрэў парусна-вінтавы фрэгат «Імператар Мікалай I» і пятнаццаццю стрэламі вітаў японскіх пасланнікаў як ганаровых прадстаўнікоў дзяржавы, з якой Расія звязана дагаворам. Парахода-фрэгат «Смелы» адсалютаваў такой самай колькасцю з насавой гарматы.

...На сталічнай прыстані, што на Англійскай набярэжнай, проста да трапа была пададзена пазалочаная карэта, запрэжаная шасцерыком. Кавалерыйскі эскадрон і рота пяхоты са сцягам аддалі чэсць высокаму госцю. Грымнула музыка, і картэж рушыў. У багата прыбранай карэце галава пасольства ехаў не адзін, насупраць сядзеў цырымоніймайстар высачэйшага двара — прадвадзіцель князь Шарамецьеў.

У світе Такэноўці Сімацукэно-камі былі: саноўныя асобы, набліжаныя да сёгуна, самураі, сакратары, лекары, інжынеры, перакладчыкі, якія ведалі англійскую, галандскую і французскую мову, дазорцы (шпіёны), дварэцкія, слугі. Усяго 38 чалавек.

Надвор'е было добрае, сярэдзіна лета, рака Нява іграла пад праменямі паўдзённага сонца. Картэж, мінуўшы Зімні палац, спыніўся ля параднага пад'езда запаснога палаца, адведзенага для японцаў на ўсе дні прабывання ў Санкт-Пецярбургу.

З гэтага моманту на берагах Нявы стаў развявацца японскі флаг.

Пасланнікам далі крыху адпачыць перад аўдыенцыяй. Першым нанёс візіт санкт-пецярбургскі ваенны генерал-губернатар А. А. Сувораў, праз паўгадзіны — віцэ-канцлер і міністр замежных спраў князь А. М. Гарчакоў, якога суправаджалі М. П. Ігнацьеў і перакладчык У. І. Яматаў.

Прэса ў тыя дні змяшчала прамову расійскага імператара японскім пасланнікам, «а таксама рускі пераклад вітальнай іх прамовы». Прашу заўважыць: «рускі пераклад» — не галандскі, не англійскі, не французскі, на мовах, на якіх гаварылі японскія перакладчыкі. Думаю, што пераклад зрабіў Уладзімір Іосіфавіч Яматаў. Больш з чыноўнікаў Азіяцкага дэпартамента не было каму.

У прыязнай атмасферы пачаліся перагаворы на наступны дзень, 4 жніўня. Дырэктар Азіяцкага дэпартамента граф М. П. Ігнацьеў не займаўся інтрыгамі, ён быў строгі і паслядоўны па ўсіх закранутых японцамі пытаннях. Адкрыты дыялог Ігнацьева пра востраў Сахалін зачапіў старшых пасланнікаў глыбока і ўсур'ёз. Асабліва ў той момант, калі рускі дыпламат зачытаў службовае данясенне І. А. Гашкевіча, у якім консул у Хакадатэ паведамляў, што хакадацкі губернатар Мурагамі Авадзіно-камі лічыў: японцы не з'яўляюцца

старажыламі ў паўднёвай частцы Сахаліна і не могуць прыстасавацца да суровага клімату вострава.

Такэноўці Сімацукэно-камі гатовы быў пагадзіцца з пунктам погляду суайчынніка, займаўшага пасаду губернатара, але яму не дазваляла інструкцыя тайкуна.

Калі ўявіць сабе пецярбургскае жыццё японцаў толькі ў святле дзелавых сустрэч і свецкіх званых вечароў, дык малюнак будзе, мякка кажучы, аднабаковы. Госці ахвотна наведвалі магазіны, рэстараны, тэатры, музеі, выстаўкі, любаваліся скарбамі Эрмітажа. 9 жніўня, калі белыя ночы яшчэ не затуманіліся, генерал-губернатар А. А. Сувораў запрасіў японскіх пасланнікаў у загарадны сад «Мінеральныя воды» на бенефіс І. І. Ізлера, папулярнага ў тыя гады артыста. З Масквы з гэтай нагоды прыехалі цыганскія хоры Івана Васільева і Фёдара Сакалова. Сярод пасланнікаў знайшліся заўзятыя паклоннікі музыкі, і яны былі зачараваны народнымі песнямі.

31 жніўня паміж рускімі і японскімі дыпламатамі быў падпісаны пратакол, пасля чаго апошнія пакінулі Пецярбург.

«У Азіяцкі дэпартамент

4 сакавіка 1864 г.
№ 10
г. Хакадатэ

*Сёлета скончылася шэсць гадоў з часу высачэйшага прызначэння мяне консулам у Хакадатэ, і я стараўся намеры сіл іздольнасцей апраўдаць гэты давер на працягу часу больш заўсякага консула іншых нацый ва ўсіх портах Японіі, але амаль дваццаціпяцігадовы побыт у тутэйшых мясцінах, якія адрозніваюцца хуткімі пераменамі клімату, што аказвае разбуральны ўплыў на арганізм, расстроіў маё здароўе і выклікаў дачасную старасць.*

*Таму я літасціва прашу Азіяцкі дэпартамент выклапатаць мне ўсеміласцівейшае звальненне ад тутэйшай службы і даць сродкі для выезду.*

Консул стацкі саветнік І. ГАШКЕВІЧ».

# ГОД БЕЗ ВЯСНЫ

## I

Ціхая і мёртвая восеньская ноч. Халоднае, вільготнае паветра. Дажджу быццам і не было, але варта працягнуць руку, і яна рабілася халоднай і вільготнай, нібыта акунулі яе ў горны ручай. З-за дальняй сопкі павольна выпаўзаў бледна-малочны туман. Зрэдку цішыня парушалася цяжкім пыханнем вінтавой шхуны, выпускаўшай за борт адпрацаваную пару.

Туга ахапіла сэрца Іосіфа Антонавіча. Ён доўга сядзеў моўчкі. Курыў люльку, не заўважаючы, што надыходзіць золак. Ён любіў гэты час. У поўнай адзіноце, акружанаму цішынёй і прыродаю, заўсёды добра думаецца.

Іосіф Антонавіч меў поўнае маральнае права паслаць прашэнне ў Азіяцкі дэпартамент.

Служба дыпламата на самым паўночным японскім востраве Хакайда — зусім не служба ў расійскім прадстаўніцтве, скажам, у Грэцыі ці ў Італіі. Ніякі энтузіязм, ніякія надзеі, ніякая адданасць роднаму дэпартаменту не ўстаяць перад невыноснымі выпрабаваннямі, што леглі на плечы Гашкевіча. Ні страшэнныя халады, ні інтрыгі замежных консулаў яго не палохалі, не. У іншы час, будзь ён мацнейшы на здароўе, на гэта не звярнуў бы ўвагі. Але цяпер, калі хвароба лёгкіх давала пра сябе знаць, з'явіліся вяласць, іпахондрыя, за справу браўся ўжо не з ранейшым запалам. Лекары справядліва раілі змяніць месца службы. Тутэйшы клімат шкодны. Але ці толькі гэта? Душэўны злом настаў са смерцю жонкі, якая часта хварэла ў Хакадатэ. Давялося пахаваць яе тут жа, на праваслаўных могілках, удалечыні ад роднай Беларусі, куды Лізавета Сцяпанаўна так імкнулася, як толькі адчула, што вось-вось праб'е яе апошняя гадзіна. (Захаваўся надмагільны камень з наступным надпісам: «У імя Айца і Сына і Святога Духа. Амінь. Пад гэтым каменем пахавана цела жонкі першага расійскага імператарскага консула ў Хакадатэ Гашкевіч Лізаветы Сцяпанаўны, памершай 5 вер. 1864 г. 43 гады ад роду. — *В. Г.*) Страту блізкага чалавека не папоўніць... Яму не

хацелася праводзіць паралель, але не мог проста так адмахнуцца ад іншых страт. За апошнія гады Хакадатэ пакінулі яго сябры, з якімі прыбыў у Японію восенню 1858 года. Узаемасувязь тут неаспрэчная. Супрацоўнікі консульства ад'язджалі па розных прычынах, але найчасцей з-за хваробы. Настальгія па дому выбіла з каляіны сакратара консульства Авандэра. Дактары ўстанавілі — шызафрэнія. Праз тры гады падаўся ў Пецярбург марскі агент лейтэнант Назімаў, амаль услед Махаў, які выконваў абавязкі святара, пасля настала чарга доктара Альбрэхта... Усім ім з Расіі прыслалі замену, але толькі не консулу. Ён па-ранейшаму заставаўся на сваім пасту.

У эскадры Ціхага акіяна таксама шмат перамен. Адправіліся ў Кранштат, да новых месцаў службы, яе першыя начальнікі І. Ф. Ліхачоў і А. А. Папоў, на карветах і кліперах абнавіліся камандзіры.

Гашкевіч не наракаў. Ён працягваў працаваць. І чакаць... Пісьмо ў дэпартаменце нікога не здзівіла. Наадварот, многія чыноўнікі даўно не маглі зразумець: навошта такая мужнасць і пакора? Здароўе — даражэй. Але вырашыць лёс консула ў далёкім Хакадатэ адразу не змаглі. Дакладней кажучы, у дэпартаменце Гашкевічу не знайшлі замены. Чыноўнікам, адказным за прасоўванне службы консулаў, у галаву не прыходзіла рыхтаваць кадры. Яны добра завучылі, што ў прэстыжныя краіны гасудар імператар пасылаў знатных вяльмож, а ў азіяцкі край можна і з дрэннай радаслоўнай, абы ведаў мову. На той момант, на няшчасце Гашкевіча, у дэпартаменце не знайшлося нікога «з дрэннай радаслоўнай». На пошукі пайшоў цэлы год.

Гашкевіч заплюшчыў вочы, быццам заснуў. Што з ім адбываецца? Пацягнула да ўспамінаў? Калі б на пасадзе дырэктара дэпартамента па-ранейшаму заставаўся Ягор Пятровіч Кавалеўскі, дык ён выкарыстаў бы яго, Гашкевіча, з карысцю для справы. Генерал быў да неймавернасці пачцівы, ласкавы, ветлівы да такіх людзей, як Іосіф Антонавіч. Пра гэта сведчыла апошняе пісьмо, атрыманае консулам, перад тым, як Кавалеўскаму пакінуць пасаду дырэктара.

«Шаноўны спадар, Іосіф Антонавіч.

Высачэйшым указам ад 30-га жніўня я назначаны сенатарам, захаваўшы аднак званне члена Савета Міністэрства замежных спраў. Такім чынам сувязь, якая столькі часу існавала між намі, не зусім перарвана: яна можа Вам упаўне сведчыць пра тую шчырую прыязнасць і павагу, якія я пастаянна маю да асоб, прысвяціўшых жыццё сваё цяжкай дзейнасці ў краі аддаленым, поўнай усялякіх нягод і пра душэўнае спачуванне маё да прадмета Вашых заняткаў.

Прыміце запэўненне ў абсалютнай маёй пашане і адданасці.

*Я. КАВАЛЕЎСКІ*».

Зусім іншае ўражанне рабіў на Гашкевіча генерал-лейтэнант Мікалай Паўлавіч Ігнацьеў, які змяніў Кавалеўскага. Высакамерны і часамі несправядлівы вяльможа, ён пачаў сваю дзейнасць з таго, што ператасаваў кадры, але руска-японскія праблемы так і не зрушыліся з месца. Гашкевіч меў права чакаць, што Ігнацьеў, як вопытны палітык, зразумее: на ўсходзе, побач з Рускім Прымор'ем, нараджаецца вялікая краіна з энергічным народам. На жаль, погляды Ігнацьева і міністра Гарчакова былі накіраваны не на ўсход, а на захад. Рускіх дыпламатаў цікавілі еўрапейскія справы і чым закончыцца вайна ў Злучаных Штатах Амерыкі.

«Быў бы побач доктар Альбрэхт,— падумаў Гашкевіч,— ён сказаў бы, што рабіць. У рэшце рэшт, я не служу асобам, я служу толькі айчыне».

## II

Караблі эскадры пайшлі ў Амерыку.

А калі вернуцца — невядома.

Расія ў час грамадзянскай вайны ў Амерыцы была на баку прэзідэнта Аўраама Лінкальна.

Контр-адмірал Папоў знаходзіўся з эскадраю ў Сан-Францыска. Атлантычная эскадра пад камандаваннем контр-адмірала Лясоўскага — у Нью-Ёрку. Гэта была дэманстрацыя ваенна-марскіх сіл Расіі ў падтрымку паўночных штатаў, дэманстрацыя спачування ўраду Лінкальна, які змагаўся за адзінства краіны і за знішчэнне рабства.

На хакадацкім рэйдзе — ніводнага рускага судна.

Пайшлі — і ніякіх вестак ад іх...

Маўчыць і Бутакоў Іван — стары сябар і прыяцель з фрэгата «Палада».

Трэці год няма ад яго і почуту. Забыў Іосіфа Гашкевіча. Марацкія шляхі-дарогі разыходзяцца. Такі, відаць, лёс. Ды і ці ёсць калі яму пісаць? Афіцэры з эскадры Папова, калі развітваліся, сказалі: плавае другую навігацыю ў Міжземным моры без заходу ў рускія парты. Нялёгкая, гаротная служба! Месяц таму назад Гашкевіч чытаў іншае паведамленне. Газета «Нью-Ёрк геральд трыбюн» пісала, што фрэгат «Аслябя», якім камандуе капітан 1-га рангу І. Бутакоў, знаходзіцца на нью-ёркскім рэйдзе. Вось так: сёння тут, а заўтра там. Чаго ж крыўдаваць?

«А можа, і не атрымаў Іван Іванавіч мой ліст? — раздумваў Іосіф Гашкевіч, імкнучыся прыгадаць, што тады пісаў Бутакову.— А рап-

там ён загубіўся ў Інспектарскім дэпартаменце Галоўнага марскога штаба? Усяк бывае...»

Так, бывае рознае! А тое, што пісьмо было знойдзена ў архіве Інспектарскага дэпартамента, — гэта факт.

Гашкевіч пісаў:

«Шаноўны Іван Іванавіч!

Вельмі ўсе мы шкадуем, што Вы не мелі выпадку да нас прыйсці. Цяпер ужо давядзецца чакаць, пакуль зноў прыйдзе начальнік эскадры[1]. А можа быць, Вы палічыце патрэбным ажаніцца і сустрэць нас у сваім сямействе ў Пецярбургу, вядома, з маленечкімі дзеткамі! І гэта будзе вельмі добра».

Як толькі ліст пачне сваё падарожжа па белым свеце, Іван Іванавіч Бутакоў будзе ўжо жанаты. Яго жонкаю стане В. В. Давыдава — дачка вядомага дзекабрыста Васіля Львовіча Давыдава.

Далей Гашкевіч пісаў:

«Мы сур'ёзна думаем развітацца з Японіяй. Яна штосьці нам (не шанцуе). Жонка ўсё хварэе, Машачка[2] сумуе, а я чуць не плачу.

...Прасіў бы я вас пісаць да нас часам. Ды бачу, што ў ляноце па часці пісьмаў Вы не ўступаеце мне, а таму як знаеце.

Напішыце, мы будзем вельмі рады, і нават я пастараюся пераадолець сваю ляноту і адкажу абавязкова, а асабліва, калі Вы яшчэ і навядзеце на думку, па якой часці Вы больш цікавіцеся.

Калі ж, чаго ратуй Божа, нападзе на Вас непераадольная агіда ад пісання, тады абмяжуйцеся тым, што часам успомніце пра нас, што жывуць удалечыні ад усяго жывога свету.

Жадаем Вам шчаслівай дарогі і ўсіх даброт свету гэтага па прыбыцці ў Расію.

*Адданы Вам В. ГАШКЕВІЧ».*

Склянкі на вінтавой шхуне адбілі чатыры гадзіны раніцы. Гэта нагадала Іосіфу Антонавічу пра тое, што час бы і прылегчы. Заўтра процьма розных спраў, развітальныя візіты да губернатара Мурагамі Авадзіно-камі, да консулаў замежных дзяржаў і зборы ў дарогу.

...Апошнія дні Іосіф Антонавіч адчуваў сябе агідна, марскія вяжы на японскіх партах вымотвалі яго. Збор новых калекцый, работа над слоўнікамі, над кнігаю «Аб каранях японскай мовы» — амаль усё закінута. Нягледзячы на пакуты і цяжкі роздум пра свой

[1] Контр-адмірал А. А. Папоў.

[2] Асоба не ўстаноўлена.

далейшы лёс дыпламата, у Гашкевіча не згасала любоў да жыцця. Ён многа і пакутліва доўга змагаўся за сябе, як за чалавека, за асобу са сваім «я», здольную пранесці да канца жыцця страсць вучонага і нічым не заплямленую сумленнасць дыпламата. Іосіф Антонавіч быў добры і чысты сэрцам. Гэта аднолькава падкупляла і простага матроса, і афіцэра-двараніна. І жыццё вандроўніцкае ён пражыў не дарэмна. Відаць, і працы яго будуць карысныя для людзей.

Гашкевіч стаяў на краі тэрасы свайго дому. Дымчатая вуаль воблакаў даўно парадзела. Туман рассеяўся. Наступіла раніца.

Консул сказаў сабе: «У тваім распараджэнні, шаноўны, тыдзень. Час у дарогу... З пяцідзесяці гадоў, пражытых на белым свеце,— дваццаць чатыры гады правёў у чужых краях. Нічога не засталося. У Японіі пахаваў блізкага сябра Лізавету Сцяпанаўну... Зноў адзін-адзінюткі. Як кажуць, ні сям'і, ні кала ні двара. Бабыль. У пасынка свая дарога. Ды і чужой ён крыві. Не прыліп да майго сэрца. Вернецца ў Расію — дзякуй не скажа за хлеб-соль. Забудзе. Ну так табе і трэба, старому!..»

Іосіф Антонавіч закурыў і ўбачыў на дворыку мёртвую птушку. Чайка-вадарэз. Аматарка начнога промыслу. Яна ляжала, выцягнуўшы шыю і раскінуўшы ў бакі вузкія доўгія крылы. Шырокія белыя грудзі былі казачна прыгожыя. Яны адлівалі серабрыстым шоўкам. Консул стаяў і глядзеў на яе не адрываючыся, задумаўшыся. Падышоў каравульны матрос.

— Не спіцца, ваша высокае благародзь, відаць, аб Расіі ўсё, нашай матухне, сур'ёзна гаруеце?.. Напакутаваліся, мусіць. З твару змяніліся.

Гашкевіч не адказаў. Матрос прасачыў за позіркам начальства, убачыў чайку.

— Э-э-э,— працяжна вымавіў каравульны,— ды ў нас госця.— Падышоў, падняў за крыло. — Аб мачту... У тумане чорт ведае што — не разбярэш. Шалёная або старая... Я закапаю, ваша высокае благародзь...

Іосіф Антонавіч чамусьці ўздрыгнуў і паглядзеў на мачту. Хутка восьмая раніцы. Час пад'ёму флага Расійскай імперыі. Са світаннем у рускім консульстве пачнецца звычайнае жыццё, а стацкі саветнік Гашкевіч будзе збірацца ў дарогу...

Ужо выпраўлены дакументы. Новы сакратар консульства тытулярны саветнік Міхаіл Цывількоў разаслаў іх па розных адрасах, а адзін уручыў самому Іосіфу Антонавічу.

Вось гэтыя дакументы:

«Атэстат.

Дадзены гэты атэстат ад Расійскага імператарскага консульства ў Хакадатэ стадкаму саветніку Гашкевічу ў тым, што ён забяспечаны жалаваннем да 1-га студзеня 1865 года.

У чым сведчу сваім подпісам і прыкладаннем казённай пячаткі.

*Хакадатэ. Красавіка 20 дня 1865 года.*
*За консула тытулярны саветнік М. ЦЫВІЛЬКОЎ».*

«У Азіяцкі дэпартамент.

Маю гонар далажыць Азіяцкаму дэпартаменту, што стацкі саветнік Гашкевіч з сям'ёй адправіўся з Хакадатэ ў Нікалаеўск на вінтавой шхуне «Сахалін».

*Красавіка 20 дня 1865 года.*
*За консула тытулярны саветнік М. ЦЫВІЛЬКОЎ».*

«Спадару камандзіру шхуны «Сахалін».

Маю гонар пакорна прасіць Ваша высокаблагароддзе прыняць на даверaную Вам шхуну стацкага саветніка Гашкевіча з сямействам для дастаўлення ў Нікалаеўск.

*Красавіка 20 дня 1865 года.*
*За консула тытулярны саветнік М. ЦЫВІЛЬКОЎ».*

Ва ўсіх казённых пісьмах Міхаіл Цывількоў указваў, што Іосіф Антонавіч пакідаў Хакадатэ «з сямействам». А якое, уласна, сямейства? Пасынак Уладзімір — і толькі. Гашкевіч хацеў уладкаваць хлопца пры консульстве, нават паслаў пісьмо ў Азіяцкі дэпартамент, але адтуль — ад варот паварот. Не палічыліся, што Валодзя выдатна вывучыў японскую, свабодна гаварыў на англійскай. Чым не перакладчык? Не паслухалі і клопатаў генерал-губернатара Усходняй Сібіры М. С. Карсакава, які са свайго боку напісаў асабісты ліст дырэктару дэпартамента генерал-ад'ютанту М. П. Ігнацьеву. Адмовілі па ўсіх пунктах. Не дарос да МЗС. Ёсць магчымасць уладкаваць юнака ў Іркуцку, якога не абмінуць. Новы консул Яўгеній Карлавіч Бютцаў, былы сакратар па дыпламатычнай частцы генерал-губернатара, трымаў вакансію для пасынка Гашкевіча. «Прыедзем у Іркуцк,— раздумваў Іосіф Антонавіч,— там усё вырашыцца».

## III

Ішоў 1865 год. У Японіі згушчаліся хмары, і гэта не цяжка было заўважыць. Англійскі пасол Алькок заварыў кашу. Восенню мінулага года па яго ініцыятыве была арганізавана аб'яднаная англа-французска-галандская эскадра для запалохвання японцаў. Больш за палавіну суднаў належала Англіі. Усяго ў эскадры налічвалася 17 караблёў з экіпажамі (5014 чалавек). Жаролы 290 гармат былі нацэлены на японскія марскія парты і рыбацкія сялібы.

Амерыканскі пасол Роберт Прайн, назіраючы за падрыхтоўкай экспедыцыі, вырашыў таксама прыняць у ёй удзел. Але, на яго горкі жаль, на рэйдзе Йакагамы не было ніводнага амерыканскага ваеннага карабля, не лічачы старога паруснага шлюпа «Джэймстаўн». Аднак Прайн знайшоў выйсце са становішча. Ён аддаў распараджэнне перавезці частку маракоў з экіпажа шлюпа на зафрахтаваны амерыканскі параход «Такіанг», на якім было ўстаноўлена з дзясятак дробнакаліберных гарматаў. Камандаванне аб'яднанай эскадраю прыняў англійскі адмірал Купер.

5 верасня 1864 года пачалася ваенная аперацыя ў Сіманасекскім праліве. Караблі абстралялі ўзбярэжжа княства Цёсю і высадзілі зводны атрад марской пяхоты. Японскі ўрад вымусілі падпісаць ганебную канвенцыю, паводле якой ён абавязваўся выплаціць велізарную суму кантрыбуцыі — 3 мільёны долараў.

Расія не ўдзельнічала ў спробах Англіі, ЗША, Францыі і Галандыі тым або іншым спосабам абмежаваць нацыянальную годнасць японскага народа. Лаяльнасць рускіх, іх павага да дзяржаўнага суверэнітэту Японіі раздражняла еўрапейскіх паслоў. Замежныя дыпламаты і журналісты, афіцэры і купцы старанна ўводзілі ў вушы японцам, што Расія — іх галоўны вораг, што трэба прыкласці ўсе намаганні, каб процістаяць яе ўплыву. Асабліва стараліся англічане. Яны аблыжна ачарнялі консула Гашкевіча, і, трэба прызнацца, не без поспеху. Усякі рускі карабель, што з'явіўся ў японскіх водах, здаваўся японцам ледзь не авангардам заваёўніцкага флоту, кожны рускі падарожнік — тайным агентам. Асабліва вылучаўся ў гэтай гнюснай і правакацыйнай кампаніі новы англійскі пасол Гары Паркс. Змяніўшы ў 1865 годзе Рутэфорда Алькока, ён унушаў японскаму ўраду лжывую выдумку, што рускія судны прыходзяць у Японію з адной мэтаю — захапіць Сахалін.

У кожнай краіне і ў кожную эпоху знаходзіліся людзі, якія з вялікім захапленнем і жаданнем падхоплівалі вар'яцкія ідэі. І ўсё ж

ніякія інсінуацыі не змаглі перарваць расійска-японскія сувязі, наладжванню якіх столькі сіл аддаў І. А. Гашкевіч.

У тыя гады на ўскраіне Расіі, у Нікалаеўску-на-Амуры, выдавалася невялікага фармату газета «Восточное поморье». Некаторыя матэрыялы, што публікаваліся ў газеце, на мой погляд, уяўляюць гістарычную цікавасць. Адзін з артыкулаў невядомага аўтара, надрукаваны 11 чэрвеня 1865 года, я прыводжу цалкам, бо ён мае дачыненне да майго героя.

### «ПАЖАР КОНСУЛЬСТВА Ў ХАКАДАТЭ

Незадоўга да прыходу шхуны «Сахалін» у Хакадатэ консульства наша зрабілася ахвяраю пажару, які пачаўся ў доме англійскага консула ад неасцярожнага абыходжання з агнём японскай прыслугі. Консульства наша было побач з англійскім і пабудавана ў 1860 годзе на пляцоўцы, выкапанай у гары і панаваўшай над усім горадам, але таму, што японцы адводзяць вельмі мала месца для еўрапейскіх праектаў, дык дом ад дома ўсяго за некалькі крокаў, і таму агонь перакінуўся і на наша консульства.

Хто знаёмы з японскай будоваю наогул і бачыў наша консульства, той ведае, як цяжка было абараніць ад агню ўсе будынкі, з якіх ацалелі толькі дамы: перакладчыкаў, святара, шпіталь і царква, якую японцы абаранялі з асаблівай стараннасцю.

Сам губернатар хакадацкі ў раскошнай пажарнай форме быў распарадчыкам на пажары, але, нягледзячы на ўсе высілкі японцаў, цудоўнае наша консульства ператварылася ў попел.

Консул наш выратаваў самую нязначную частку сваёй маёмасці, але страта неацэнная — згарэла ўся каштоўная калекцыя: заалагічная, батанічная, мінералагічная, якая збіралася з такімі цяжкасцямі і ахвярамі ў час усяго прабывання яго ў Японіі і якая адна магла скласці цэлы музеум.

Капітан-лейтэнант Касцяроў, які знаходзіўся пры консульстве і быў у гэты час у Нагасакі, страціў усе свае рэчы.

Цяпер члены нашага консульства жывуць у нанятых дамах, але, відаць, японскі ўрад, маючы на ўвазе абарону свайго ўласнага інтарэсу, адвядзе больш шырокае месца для нашых пабудоў, якія, несумненна, адродзяцца. Згарэлі дамы: двухпавярховы консула, аднапавярховы сакратара, флоцкага афіцэра, што знаходзіцца пры консульстве, і доктара».

Вось такая трагедыя спасцігла Іосіфа Антонавіча пад заслону яго дыпламатычнай дзейнасці ў Японіі. Пажар нанёс цяжкі ўрон. У Гашкевіча акрамя калекцыі згарэла і частка бібліятэкі, якая ўяўляла вялікую навуковую каштоўнасць для ўсходазнаўцаў і мараплаўцаў. Прыняты губернатарам Мурагамі Авадзіно-камі, консул заручыўся яго падтрымкаю у тым, што адносіны застануцца ранейшымі і што гандаль паміж купцамі Прымор'я і жыхарамі вострава Хакайда, які пусціў свае карані, павінен грунтоўна змацаваць сяброўскія сувязі народаў. Іосіф Антонавіч яшчэ раз нагадаў губернатару, што іграць на струнах славалюбства, вышукваць ва ўсходняга суседа слабасці, каб пасля бразгаць зброяй, не ў характары расіян. Як вядома губернатару, новы начальнік эскадры Ціхага акіяна контр-адмірал І. А Ендагураў адмовіўся ўдзельнічаць у сумеснай карнай экспедыцыі з англа-французскімі суднамі супраць японскіх князёў. Ён усяляк імкнуўся пазбягаць «сутыкнення, якое вядзе не толькі да сваркі, але і да неўразумення».

Праз многа гадоў пасля вопытны дыпламат і ўсходазнавец Гашкевіч напіша: «Японскі народ, нядаўна амаль сілком увапхнуты ў сям'ю цывілізаванага еўрапейскага свету, даўно меў права на гэтае месца па ўнутранай роднасці; ці не таму і праяўляе ён тую ўсіх здзіўляючую энергію, тое імкненне да цывілізацыі...»

Засталося сказаць апошняе. Узгаданая газета «Восточное поморье» паведаміла 2 чэрвеня 1865 года: «...параход «Шылка» адышоў уверх па Амуры ў Благавешчанск з былым расійскім консулам у Хакадатэ».

## НА РАДЗІМЕ

### I

...Пецярбург быў халодны і хмурны. Вецер з Балтыкі пранізваў да касцей. Былы расійскі консул у Японіі спыніўся каля каменнага парапета на беразе Нявы і не мог адарваць вачэй ад чаек, што нізка насіліся над ракою. Моцныя парывы ветру адкідвалі птушак у бакі, прыціскалі бліжэй да вады. Іосіф Антонавіч задумаўся. Вось ён дома, у Расіі. На рэйдзе, як і раней, караблі. На набярэжнай — прахожыя. Здавалася, нічога не змянілася. Усё было як сем гадоў таму назад.

Гашкевічу захацелася есці, і ён накіраваўся да бліжэйшага шынка. У шынку — вялікі пакой і кухня. Народу мала. Два-тры фурманы ды скрыпач-мадзьяр з бегаючымі вочкамі.

— Чаго вашай ласцы?

Гаспадар звяртаўся да Іосіфа Антонавіча.

— Ёсць маласольная сёмушка, ікорка з гарачымі блінамі. Загадайце і штофік. Замёрзлі з вуліцы?

— Нясіце,— абыякавым голасам сказаў Гашкевіч.

— Слухаю!

Слуга прынёс добра апранутаму пану закускі і гарэлку.

— Загадаеце і варанай капусты? — спытаў слуга.

— Можна і капусты,— адказаў Іосіф Антонавіч.

Наведвальнікі пільным вокам глядзелі на яго. Рэдкі госць у шынку. Для такіх на Неўскім цэлы тузін рэстарацыяў, а ён не грэбуе мужыцкай карчмою. Дзіўны пан.

— Ну, дзень добры, Расія! — ціха вымавіў Іосіф Антонавіч.

Гарэлка апякла горла. Талерка варанай капусты з тлустым кавалкам ялавічыны выклікала апетыт.

Слуга не адвязваецца:

— Ці не жадаеце салёненькага гурочка да мяса?

— Валачы, хлопец, усё валачы.

Пасля выпітай гарэлкі на душы зрабілася цяплей.

Гаспадар уважліва назірае з-за стойкі. Чым бы яшчэ ўслужыць госцю? Хлебасольны мужык. За суседні столік уселася чацвёра хлопцаў у студэнцкіх шынялях. Яны заказалі чай і бліны з прасянай кашаю, загорнутыя трубачкай, як піропсное эклер. Студэнты гаманілі ціха, але да Гашкевіча далятала кожнае слова.

— Як адпачывалася ў Маскве?

— Займаўся пытаннямі эмансіпацыі жанчын.

— А што гэта такое?

— Нігілізм. Кароткія валасы, кароткія сукенкі. А ля мадам Мерыкур![1]

— Весела жывяце. А вы артыкул Пісарава чыталі?

— Я вызнаю толькі Бакуніна.

— У Каткова праект рэформы больш канстытуцыйны.

— Я вывучыў павучальную эпіграму. Паслухайце, шаноўны!

Нигилисты вы тупые...[2]
Чем же быть вам, господа?

---

[1] Мадам Мерыкур (Туруань дэ Мерыкур) — вядомая дзеячка Французскай рэвалюцыі.

[2] Эпіграма належыць М. Ф. Шчарбіне (1821—1869) — рускаму паэту, прыхільніку «мастацтва дзеля мастацтва».

С просвещением России
Ваша скроется звезда.
Нигилисты по названью,
По значенью своему,
Чистый Nihil[1] вы по знанью,
Nihil истый по уму.

— Каткоў патрабуе склікаць агульны сход выбарных людзей ад зямлі рускай, а Бакунін і Герцэн балабоняць толькі ў «Колокол».

— Ціха, раскрычаўся! Не базар жа тут!

Студэнты на час замоўклі.

Іосіф Антонавіч даў «на чай» слузе, кіўнуў у адказ на нізкі паклон гаспадара шынка і выйшаў на вуліцу.

«Куды ісці? — спытаў ён сябе.— Ганчарова няма. У Парыжы. Кажуць, будзе не хутка. Можа, праз год-другі. Сцяпан Сцяпанавіч Лясоўскі ў Кранштаце. Іван Бутакоў у плаванні. Рваўся ў Расію, да сяброў. А ў Пецярбургу іх няма. Пайду ў свой халодны нумар... Заўтра мяне чакае новае прызначэнне».

Іосіф Антонавіч збочыў з Неўскага на Вялікую Канюшанную, дзе непадалёку знаходзілася гасцініца Дэмута.

...У канцылярыі Азіяцкага дэпартамента вісеў загад міністра замежных спраў князя А. М. Гарчакова аб прызначэнні стацкага саветніка Іосіфа Антонавіча Гашкевіча драгаманам VI класа.

З гэтага дня пра пецярбургскі перыяд жыцця Іосіфа Антонавіча мы знаем крыху больш. У свецкім і духоўным свеце ў яго было некалі многа знаёмых людзей, але ніводнага сапраўднага сябра або таварыша па студэнцкіх гадах, калі ён вучыўся ў акадэміі. Час ляціць! Свет, на жаль, так уладкаваны, што многія жывыя пераходзяць у царства ценяў.

Вярнуўся адзін, пахаваўшы ў Хакадатэ сваю жонку Лізавету Сцяпанаўну. Пасынак Уладзімір, дасягнуўшы паўналецця, адпачкаваўся адразу ж пасля вяртання ў Расію. І зноў, як і раней, яны асталіся ўдваіх — Гашкевіч і Яматаў. Іосіф Антонавіч заўважыў, што хрэснік вельмі змяніўся, ён ужо не быў ціхонем, палахліваю авечкай.

Можа быць, тады, у першыя дні прыезду, расказаўшы, якія перамены адбываюцца ў Японіі, Гашкевіч намёкам даў зразумець Яматаву, што той ужо не мае патрэбы ў апецы, што лепш будзе, калі паступова ён прыйдзе да думкі аб вяртанні на радзіму. Гашкевіч расказаў, што пераканаў японскі ўрад адправіць у Пецярбург юнакоў,

[1] Nihil — нішто (лацінскае).

якім патрэбны веды. І не толькі вывучэнне рускай мовы іх мэта. Думаючы пра сваю будучыню, яны хочуць стаць горнымі інжынерамі і пуцейцамі, дактарамі і марскімі артылерыстамі...

— Я адабраў шасцёра маладых людзей. У тым, што яны прыедуць вучыцца, ёсць і ваша заслуга, Уладзімір. Пасольства князя Сімодскага прарвалася ў невядомае, пераканалася, што ў Расіі навука не на апошнім месцы, а ў тым-сім крочыць наперадзе Еўропы. Я чуў, вы былі з пасольскімі ў спадара Мельнікава, цяпер ён — міністр. І, думаю, не адмовіць нам у пратэкцыі. Не нам асабіста, а вучням нашым.

Гашкевіч і Яматаў чакалі японскіх юнакоў не пазней чым наступіць зіма. Але з Хакадатэ паведамілі, што ад'езд затрымліваецца. У Нікалаеўск-на-Амуры з-за суцэльнага лёду не змагло прабіцца судна, на борце якога знаходзіліся японцы. Давялося вярнуцца. Сакратар консульства Міхаіл Цывількоў звярнуўся да начальніка эскадры Ціхага акіяна контр-адмірала І. А. Ендагурава з просьбай адправіць юнакоў на ваенным караблі, што адыходзіць у Кранштат. Рыхтаваліся пакінуць хакадацкую гавань парусна-вінтавыя карветы «Асілак» і «Вараг». Адмірал не чыніў перашкоды, хоць не мог бачыць грамадзянскіх асоб на ваенным судне. Загадаў камандзіру «Асілка» размясціць як найямчэй японцаў — дарога далёкая і не з лёгкіх. У Кранштат юнакі прыбылі ранняй вясною 1866 года, аглушаныя ўбачаным у Ганконгу, Сінгапуры, Кейптаўне, на востраве Мадэйра, у Плімуце, Амстэрдаме, — вельмі разгубіліся, але неймаверным высілкам волі і, вядома, пры падтрымцы Гашкевіча і Яматава, ад якіх не адступалі ні на крок, змаглі зладзіць з пeражытым, псіхалагічна перамагчы сябе, забыць пра марскую хваробу.

Камандзір карвета «Асілак» капітан-лейтэнант барон Бухольц прывёз пісьмо ад хакадацкага віцэ-губернатара Койдзя Ямамотакамі, у якім гаварылася:

«Маю гонар ласкава прасіць Ваша высокаблагароддзе адаслаць гэты канверт п. Гашкевічу. Калі ж яго ў той час не будзе ў Пецярбургу, дык у такім выпадку, каб уручылі таму, які будзе загадваць вучнямі і перадаць яму, што я пакорна прашу яго прыняць удзел у вучнях, як і хадайніцтва аб іх перад рускім урадам...»

Гашкевіч і Яматаў сталі першымі настаўнікамі японскіх юнакоў. У пісьме адной пецярбургскай асобе Іосіф Антонавіч прызнаваўся:

«Кожную раніцу акуратна займаюся са сваімі выхаванцамі з 9 да 12 гадз. або ў крайнім выпадку да 11 1/2. І яны займаюцца ста-

ранна, і, за выключэннем аднаго, усе хлопцы здольныя. Хочацца падрыхтаваць, каб да зімы яны маглі разумець па-руску і пасля здаць на рукі іншым настаўнікам».

У канцы мая, не паспеўшы толкам пазнаёміцца са сваімі юнымі землякамі, Яматаў захварэў. Неяк ужо ўпаміналася, што ветрана-сырая пецярбургская вясна адмоўна адбівалася на яго здароўі. Гашкевіч прыклаў шмат намаганняў, каб паставіць хрэсніка на ногі. Калі ў правізараў не было патрэбных капель або мікстур, Іосіф Антонавіч звяртаўся да суднавых дактароў, з якімі вёў дружбу з хакадацкай пары. Якраз яны і памаглі выйсці з цяжкага становішча.

Зноў, як бывала раней, Яматаў жыў на ўтрыманні свайго апекуна, хоць грошы былі, толькі па іх трэба было схадзіць да казначэя ў дэпартамент. Яматаў ачуньваў паволі, таму ўсе даручэнні выконваў Гашкевіч.

Прывяду для пераканаўчасці яшчэ дакумент:

«Азіяцкага дэпартамента служачаму калежскаму сакратару Яматаву за бягучы месяц пры стане хваробы гэтага чыноўніка выданы два жалаванні яму пад распіску стацкага саветніка Гашкевіча. Чэрвеня 28 дня, 1866 г.»

У гэтым самым 1866 годзе летам віцэ-канцлерам А. М. Гарчаковым быў аб'яўлены па міністэрстве загад: Гашкевіч Іосіф Антонавіч прызначаўся драгаманам V класа пры Азіяцкім дэпартаменце.

У студзені 1867 года Пецярбург прымаў другое па ліку японскае пасольства. На гэты раз яго ўзначаліў у рангу паўнамоцнага міністра Койдзя Ямамота, стары знаёмы Гашкевіча. Японскі пасланнік пачынаў сваю кар'еру дробным чыноўнікам пры хакадацкім губернатары Мурагамі Авадзіно-камі. У склад дэлегацыі ўваходзіў інспектар Ісікава Сургено-камі, а даверанай асобаю і перакладчыкам у іх быў Сіга Ураторо, якога Гашкевіч прывёз з Нагасакі ў Хакадатэ для навучання рускай мове. Іосіф Антонавіч і яго памочнік Яматаў былі ўключаныя ў «каманду» Пятра Мікалаевіча Стромухава, дырэктара Азіяцкага дэпартамента, які прадстаўляў на перагаворах расійскі бок. Не хачу перабольшваць, але мінулыя сяброўскія сувязі консула Гашкевіча з Койдзя Ямамота памаглі без зігзагаў, спакойна абмеркаваць Сахалінскае пытанне. 18 сакавіка было падпісана часовае пагадненне аб сумесным валоданні Сахалінам. Японцы ўжо не маглі перашкаджаць асвойваць востраў рускім, браліся пад абарону і айны — карэнныя жыхары, якіх раней бессаромна рабавалі хакадацкія чыноўнікі і прамыславікі.

Пасля заканчэння візіту японскіх надзвычайных пасланнікаў Гашкевіч і Яматаў некаторы час займаліся перакладамі дакументаў, звязаных з перагаворамі. Гэта займала ў іх больш за дзевяць гадзін у дзень, так што вярталіся дамоў вечарам стомленыя і галодныя. Сядалі за стол і па-халасцяцку чаявалі. Быццам бы нічога ў іх жыцці не змянілася. Здавалася, так будзе працягвацца вечна. Але на жаль!

Чытач, спадзяюся, даруе мне, калі я не абміну і любоўную гісторыю, што здарылася ў жыцці майго героя і якая спачатку развівалася бурна, як зменлівае і паслухмянае ветру мора. Захаваліся лісты Гашкевіча да каханай жанчыны, яны і прыадчыняць нам заслону яго асабістага жыцця. У гэтых лістах ёсць многае: і шырыня інтэлектуальных зацікаўленняў, і незвычайная жывасць розуму, і неўтаймоўная прага кахаць і быць каханым. Лісты насычаны жыццёвымі ўражаннямі, цікавымі падзеямі эпохі 60-х гадоў, характарыстыкамі знаёмых Гашкевічу людзей.

Хто ж дама яго сэрца і чаму ён пісаў ёй лісты амаль не кожны дзень?

Аднойчы пад новы 1866 год таварыш па службе ў дэпартаменце запрасіў Гашкевіча ў госці на Каляды да брата Аляксандра Ягоравіча Вашчыніна, адстаўнога палкоўніка. У доме Вашчыніных — дзявочае царства: Вольга, Аляксандра, Марыя, Ганна — чатыры незамужнія сястры. Маладое пачуццё ў паненак ірвалася вонкі. Яны ўмелі весяліцца і не саромеліся пажылога дыпламата. У той дзень Іосіф Антонавіч яшчэ не задумваўся пра зменлівасць свайго лёсу. Але кожны раз, калі яго зноў і зноў клікалі на дамашнія абеды ў сям'ю Вашчыніных, ён адчуваў, што не можа адарваць вачэй ад старэйшай дачкі Вольгі. Гашкевіч бянтэжыўся, не знаходзіў патрэбных слоў і сярдзіта адварочваўся да акна. Ён злаваўся на сябе. Застацца сам-насам з Вольгаю — пакута. А раптам з яго пажартуюць? Амаль усе нядзельныя дні Іосіф Антонавіч імкнуўся праводзіць у дружнай кампаніі сясцёр, запрашаючы іх то ў Марыінскі на оперу, то на публічныя канцэрты ў Міхайлаўскі тэатр, то ездзіў з імі на скачкі ў сяло Каламягі.

З дня на дзень у Іосіфа Антонавіча спела пачуццё. Вольга гэта цаніла, была з ім гаваркою, прымала заляцанні як належнае. Неўзабаве яны сталі выязджаць у свет удваіх. Іосіф Антонавіч бываў з Вольгаю Аляксандраўнай паўсюль: на званых абедах, блінах, вячэрах і проста на вечарынках у агульных знаёмых. Вылічваў дні і гадзіны да новага спаткання.

У канцы мая паненка захварэла. Дактары сказалі, што для таго, каб паправіць здароўе, трэба ехаць на вёску. Іосіф Антонавіч хоць і заняты быў на службе, але адразу ж падахвоціўся праводзіць. Гэтым самым ён хацеў пераканаць сябе, што больш адпаведнай сяброўкі жыцця яму не знайсці. Бацькі Вольгі Аляксандраўны благаславілі іх у дарогу. Паненка ехала адпачываць і лячыцца да свайго дзядзькі, у яго маёнтак, што знаходзіўся за пяцьдзясят вёрст ад Цверы.

Вярнуўшыся ў Пецярбург, Іосіф Антонавіч рэгулярна адпраўляў лісты да сваёй сімпатыі.

Дружба Іосіфа Антонавіча і Вольгі Аляксандраўны была падобна на нейкае салодкае ап'яненне. Шчаслівыя і закаханыя, яны перакідвалі масток ад летуценняў да болей практычных спраў; прынялі сумеснае рашэнне купіць дом, ажаніцца і, як усе людзі, стварыць сямейную ўтульнасць. Іосіф Антонавіч пачаў падшукваць жыллё, даў аб'яву ў «Санкт-Петербургских ведомостях». На прапанову нявесты ён пераехаў жыць у дом да яе бацькоў, каб не плаціць за кватэру. Усё складвалася так, як могуць таго жадаць людзі з сур'ёзнымі намерамі.

*«29 чэрвеня 1866 г.*

...Мне ўжо прапануюць за 250 руб. у год 200 дзесяцін зямлі, дом на 11 пакояў з іншымі пабудовамі і выдатным садам — усё гэта ў Лугскім павеце, за 5 гадзін язды ад Пецярбурга. Такім чынам, пасля выхаду з дэпартамента я магу быць там к вечару і на другі дзень зноў паехаць у дэпартамент... Дык вось, я Вас прашу літасціва не заставацца там, як Вы пішаце, да кастрычніка або нават да верасня, а прыехаць разам з Сашаю[1] (калі дазволіце, зноў са мною) да жніўня. Тут мы яшчэ памеркавалі б...

...Паўтараю вам, што Паўлушына[2] не Бог ведае які цуд, цяпер падобных цудаў многа можна знайсці, былі б грошы, а грошы ёсць — у мяне!

Вы не можаце ўявіць, як мне хочацца глянуць на Вас; а рэўнасць не дае спакою нават ноччу.

Прыязджайце чым раней, ды зоймемся разам прывядзеннем у парадак маіх рукапісаў. Я за што ні вазьмуся, уся работа не спорыцца — відаць, ад жару. Нават газеты не заўсёды чытаю і толькі ўжо ад Ільіча[3] даведваюся, як немцы б'юцца паміж сабою і як у Багеміі аблівалі кіпенем прусакоў — не тараканаў, а сапраўдных...»

---

[1] Саша (Аляксандра) — сястра Вольгі Аляксандраўны.
[2] Паўлушына — сяло ў Лугскім павеце.
[3] Ільіч — Іван Ільіч Захараў.

У другім лісце Іосіф Антонавіч пісаў:

«У Каламягі я даўно ўжо не быў, усяго быў два разы. Першы раз усе, вядома, абрадаваліся, бацька нават пакідаў начаваць...

Бывайце, кланяйцеся, а энтамолагу пацісніце ад мяне руку. Ага, дарэчы, аб поспехах энтамалогіі я маю такія-сякія звесткі, але пра батаніку ніякіх.

Няўжо гербарый, пакінуты намі на балконе, згніў ад выпаўшага дажджу, а новы і не пачынаецца?..»

Іосіф Антонавіч у сваёй сціпласці несправядлівы да сябе, несправядлівы як вучоны-калекцыянер, паслядоўнік вучэння Чарлза Дарвіна — вялікага натураліста. Маюцца друкаваныя крыніцы, у якіх прыводзіцца шэраг доказаў аб шырокіх ведах Іосіфа Антонавіча ў прыродазнаўчых навуках. Дам мажлівасць чытачу самому рабіць высновы.

Кніга акадэміка А. Штраўха «Заалагічны музей Імператарскай акадэміі навук». Паступленні ў фонды музея:

«1856 г. Ад рускага консула ў Японіі п. Гашкевіча. Калекцыя японскіх паўзуноў у спірце».

«1857 г. Ад калежскага саветніка Гашкевіча і надворнага саветніка Татарынава[1]. Калекцыя кітайскіх насякомых. Пераважна матылькоў».

«1861 г. Ад рускага консула ў Японіі п. Гашкевіча. 44 экзэмпляры паўзуноў і рыб з Хакадатэ».

«Эрпеталагічная калекцыя. Ад консула ў Японіі пана Гашкевіча музей атрымаў значную колькасць японскіх відаў».

Імем Гашкевіча названы некаторыя з апісаных ім упершыню насякомых.

У біяграфічна-бібліяграфічным слоўніку Брэйшнэйдэра ёсць раздзел «Рускія батанікі». Там сказана: «Гашкевіч Іосіф Антонавіч — спецыяліст па прыкладной батаніцы, калектар раслін, адзін з рускіх піянераў даследавання с.-г. раслін Кітая».

Зберагліся лісты, пасланыя ў расійскае консульства ў Хакадатэ з Імператарскага Батанічнага сада, з Дэпартамента сельскай гаспадаркі, у якіх вучоныя звярталіся да Гашкевіча па дапамогу. У 1859 годзе надворны саветнік К. І. Максімовіч зрабіў другое пада-

---

[1] Татарынаў А. А. — па адукацыі доктар, служыў у пекінскай місіі ў адны гады з І. А. Гашкевічам. Ён — укладальнік унікальнага альбома «Малюнкі раслін пекінскай флоры», які складаецца з 452 акварэляў вялікага фармату. Маляваў кітайскі мастак пад непасрэдным наглядам самога А. Татарынава.

рожжа ў Забайкалле, на Сунгары і Усуры і ў Японію. Вучоны не забыў словы Гашкевіча: «Трактат, які мы хочам падпісаць з японскімі паўнамоцнымі, прадугледжвае свабоднае наведванне расійскімі грамадзянамі гэтай краіны. Пацярпіце крыху, ану ж пашанцуе. І вы ўбачыце і Хакадатэ, і Нагасакі, і Эда...» Калі сустрэўся з консулам, Максімовіч нагадаў яму гаворку на фрэгаце «Дыяна». Гашкевіч не адмовіўся ад сваіх слоў, дадаўшы: «Распараджайцеся мною...» І пасыпаліся лісты. Падарожнічаючы па Японіі, Максімовіч наняў японца Чаноскі для збору насення мясцовых раслін. Мінуў час. Вучоны вярнуўся ў Пецярбург, а насенне памочнік не прыслаў. Давялося ўмяшацца Гашкевічу. Ён расшукаў Чаноскі, прымусіў яго ўпакаваць насенне ў скрынкі і даставіць у Хакадатэ.

Праз некалькі месяцаў Іосіф Антонавіч атрымаў ліст ад Дэпартамента сельскай гаспадаркі з падзякай за пасылку — скрынку з яйкамі японскіх шаўкоўнічных чарвякоў. У лісце паведамлялася: «...яйкі чарвякоў адасланы... у Камітэт шаўкаводства, што знаходзіцца пры Імператарскім Маскоўскім таварыстве сельскай гаспадаркі як для вырашэння пытання, ці не пашкодзіў іх холад у час перавозкі праз Сібір, так і для правядзення доследаў развядзення ў нас шаўкоўнічных чарвякоў з гэтых яек».

У тым жа лісце Гашкевіча да каханай успамінаецца энтамолаг. Ёсць сэнс растлумачыць, хто ён такі. Гэта — Дзмітрый Кайгародаў, студэнт Пецярбургскага земляробчага інстытута і малодшы брат афіцэра-артылерыста Нестара Кайгародава. Апошні адыграе ракавую ролю ў адносінах паміж закаханымі. Летам 1866 года Дзмітрый праводзіў канікулы ў маёнтку дзядзькі Вольгі Аляксандраўны. І трэба думаць, што ў гэты час юнак захапляўся многімі прыродазнаўчымі навукамі: і батанікай, і энтамалогіяй, і біялогіяй. Пазней ён стане вядомым вучоным, прафесарам Імператарскага лясного інстытута. Напіша кнігі: «Нашы веснавыя кветкі», «З царства птушыных», «Збіральнік грыбоў», «Нашы веснавыя матылькі» і, вядома, сваю выдатную працу «Гутаркі пра рускі лес».

...Кожны раз, калі Іосіф Антонавіч выходзіў на званок паштальёна, ён з заміраннем думаў: «Ад яе. Едзе. Надакучыла ёй вёска. Нарэшце пачула крык маёй душы». Але Вольга Аляксандраўна і не збіралася прыязджаць. У яе лістах усё часцей і часцей прыкмячае ён дзіўную сумесь розных пачуццяў: і жаданне дружбы, і боязь, і павагу, і недавер, і жаночую свавольнасць.

*«9 ліпеня 1866 г.*

Атрыманае сёння пісьмо ваша ўзбудзіла ўва мне некалькі раптам самых разнастайных адчуванняў. Найперш яно не выклікала таго пачуцця радасці, асаблівай (высокай), якога трэба было чакаць паводле яго зместу. Пачакайце, не спяшайцеся крыўдаваць. Прычына, па-першае, ува мне: я з некаторага часу зрабіўся такі апатычны, такі роўны пры ўсіх разнастайных выпадковасцях жыцця, што вы абавязкова прыпісалі б гэта вытрыманасці характару...

Часткова прычына і ў самім лісце вашым.

Праўда, у ім (першы раз пісьмова) выяўляецца той сяброўскі, даверлівы настрой, які я пачаў было набываць у апошнія дні нашага спаткання. Але толькі гэта выяўляецца — і мне прыкра і на сябе, і на вас. Вы толькі-толькі рашыліся звярнуцца да мяне з адной (паводле вашых слоў) просьбаю, што ёсць у вас у запасе: наконт дробязнай сумы, як быццам вы не маглі ведаць наперад аб маёй гатоўнасці быць вам карысным усім, чым толькі магу.

...І вось цяпер па ўсім відаць, што вам сумна, што ўся ваша хвароба — вынік адзіноты...

...Глядзіце, вы цяпер у такім настроі, што чаго добрага закахаецеся.

Маё неадступнае жаданне — выправіць вас сюды. Але цяпер яшчэ гэтага рашуча сказаць я не магу.

Трэба найперш пабываць раз-другі ў Дэпартаменце і разведаць, як паглядзяць на маю адлучку...»

На наступны дзень Гашкевіч прыйшоў на службу і зразумеў: паездку давядзецца на час адкласці. Праз два дні ён напісаў Вользе Аляксандраўне кароткае пісямко:

«...Учора мне назначылі асобае жалаванне за мае заняткі з японцамі, і таму ўзяць водпуск рашуча нельга, нават бессаромна».

Абставіны, што нечакана склаліся ў апошніх чыслах ліпеня, аказаліся мацнейшымі за яго жаданні.

...Прайшоў год. І вось такое пісьмо:

*«11 ліпеня 1867 г.*

Вольга Ал-на! Звяртаюся да вас, а не да вашага мужа на той падставе: былі і даўжэй і карацей знаёмыя. Ідэі мае асталіся са мною тыя самыя, якія яшчэ так нядаўна былі вашымі ідэямі і якія запазычаны вамі не ад мяне. Але не ў гэтым справа. Вы змяшалі і падвялі пад адну катэгорыю мае ўчынкі, тады як паміж імі ёсць розніца. Калісьці гэта было вынікам пачуцця, якому вам, здаецца, пара па-

верыць, цяпер жа я быў больш здзіўлены і любаваўся цудоўным тварэннем прыроды, на якое, мімаходам сказаць, вы ж самі і паказалі мне. Але і раней небяспекі ад мяне было мала, як вы ведаеце, а цяпер хвароба знішчыла яе зусім. Значыць, задняй думкі тут не было, значыць, няма нічога такога страшэннага.

Зазнаю няміласць (выказаную) ад вашага мужа, хоць для мяне і незразумела, наколькі павінны падлягаць кантролю мужа былыя ўчынкі яго жонкі, але гэта ваша справа: відаць, і ён вам паведаміў сваё былое жыццё.

Што ж да другой вашай прапановы — неадкладна адмовіцца ад кватэры, дык яна ж выканальная.

Я не хачу без толку рабіць скандал і заўтра ж пераязджаю. Вашым сёстрам, паўтараю, небяспекі я не ўяўляю, а цяпер, атрымаўшы вашы і вашага мужа парады, яны ўпаўне гарантаваны».

У ліста спакойны і дзелавы тон. Ці варта траціць час на ўсе прэтэнзіі? Нападкі мужа Вольгі Аляксандраўны і грубыя, і неразумныя. Давядзецца парушыць зняважлівае маўчанне. Давядзецца адказаць Вользе Аляксандраўне Вашчынінай, Не — цяпер ужо Кайгародавай, жонцы артылерыйскага афіцэра, якая жыве з ім на Охценскіх парахавых заводах.

Сумныя і трывожныя вынікі пецярбургскай нешчаслівай гісторыі, гісторыі з яўна банальным канцом, не лепшай і не горшай, чым у сентыментальных раманах, прымусілі Гашкевіча на пэўны час пакінуць сталіцу. Ён паехаў у Вільню.

У доме Вашчыніных застаўся чалавек, з якім Іосіф Антонавіч мог дзяліцца думкамі, адкрыта гаварыць, выліваць сваю душу. Гэта была Марыя — малодшая сястра.

29 ліпеня 1867 года ён паслаў дзяўчыне адразу два лісты.

Першы:

«Вы не чакалі атрымаць ліст з Вільні, вось вам сюрпрыз. Я ўжо тут пяць дзён, аб'ездзіў увесь горад — вельмі арыгінальны. Няма ніводнай вуліцы прамой і ўсе пераважна такія «шырокія», што толькі два экіпажы могуць раз'ехацца... Але дамы амаль усе каменныя, усе ў садах. Гэта робіць асаблівае ўражанне на маю душу, так што я займеў моцнае жаданне пасяліцца тут. Дамы тут незвычайна танныя, але ўсё ж не настолькі, каб адпавядалі маёй кішэні».

Другі ліст:

«В. А.[1] рашылася цяпер запаліць лампадку, каб асляпіць вочы святлом і выставіць на паказ толькі тое, чым трэба здавацца, схаваўшы надалей свае ўнутраныя перакананні. Але, на няшчасце, ёсць чалавек, перад якім яна часам была залішне шчырай: трэба ад яго пазбавіцца. Яе некалі ліберальнаму мужу, без сумнення, таксама не хочацца, каб яна была з кім бы гэта ні было, акрамя яго, у блізкіх адносінах, хоць бы нават самых бязвінных.

Але ні яна, ні (што асабліва дзіўна) гэты вучоны муж, нягледзячы на сваю бляху на грудзях, не высветлілі сабе самай простай дылемы. Не трэба быць на маім месцы залішне дрэнным чалавекам, каб не прыняць на сябе віны, у якой не адчуваеш сябе вінаватым...

Што ж да вас, дык апошняе наша спатканне паказала мне, што вы гатовы апраўдаць мяне; можа быць, сумленне ваша гаворыць, што калі ўжо трэба вінаваціць, дык не мяне аднаго.

Але прырода стварыла вас залішне мяккаю, і ў вас таму не хапае энергіі выказаць тое, што гаворыць вам сумленне...

...Не бойцеся ж сустрэцца са мною: будзьце ўпэўнены, што я ні поглядам, ні словам не напомню вам тое, што для вас непрыемна».

І гэты ліст да Марыі не пралівае святло на прычыны перамены, якая адбылася ў сяброўскіх сувязях паміж Іосіфам Антонавічам і Вольгай Аляксандраўнай. Фраза: «...калі ўжо трэба вінаваціць, дык не мяне аднаго» — нічога не дадае і не прасвятляе. Мы не ведаем пісем Вольгі Аляксандраўны.

І апошні ліст Іосіфа Антонавіча да Вольгі Аляксандраўны. Дакладная дата і адкуль пасланы не пазначаны. Проста: «Ліпень 1867 года».

«В. А. Пасылаю Вам Вашу картачку. Пры гэтым яшчэ хачу сказаць колькі слоў — апошні раз. Ліст Ваш заспеў мяне хворым, толькі што не ў ложку, і так ашаламіў, што я рашуча не памятаю, што я Вам адказаў, і вось два дні хаджу як вар'ят, раздумваючы, што такое за зло я Вам зрабіў?

Усіх вас я так любіў, не, люблю, як быццам Вы належыце да майго сямейства, я разумею да майго ўласнага, роднага сямейства. І раптам — пры адной думцы, што вы — больш не сябар мой, мне робіцца так цяжка!

Бывайце ж, бывайце.

*І. Г.*»

---

[1] Вольга Аляксандраўна.

## II

Усё да лепшага ў гэтым лепшым са светаў.

Ён ад'язджаў з Пецярбурга. Пакідаў яго назаўсёды. Стаяла восень. Кастрычнік. Паперы ўсе выпраўлены. Тры месяцы таму назад «Высачэйшым загадам па МЗС ад 10 ліпеня 1867 г. з нагоды скасавання пасады (навучыў японцаў рускай мове, цяпер нікому не патрэбен) звольнены ад службы з мундзірам гэтай пасады, прысвоеным з 5 ліпеня 1867 г.[1], прычым усеміласцівейша таго ж 5 ліпеня дадзена яму пенсія па тысячы руб. на год, незалежна ад пенсіі 500 руб. на год, прызначанай яму за службу ў Кітаі».

Пад Вільняй Гашкевіч купіў невялікі маёнтак Малі, недалёка ад Астраўца. Там ён будзе жыць не адзін... Пагодлівым восеньскім днём у царкве святых праведнікаў Захарыя і Лізаветы, якая размешчана ў казармах кавалергардскага палка, Іосіф Антонавіч павенчаны другім шлюбам з дачкою адстаўнога палкоўніка Сямёна Васілевіча Матчына — дзявіцаю Кацярынай Сямёнаўнай, і «шлюб гэты запісаны ў (абшуквальнай) кнізе пад № 30. Кастрычнік, 20 дня 1867 г.

Протаіерэй кавалергардскага палка Іаан Скробаў».

Ён ад'язджаў з Пецярбурга, прыслухоўваючыся да тужлівых гудкоў далёкіх цягнікоў.

...Як склаўся ў далейшым лёс Іосіфа Антонавіча Гашкевіча, мала каму вядома. І калі аўтару ўдалося знайсці такія-сякія дакументы і лісты, якія праліваюць святло на апошнія гады жыцця Гашкевіча, дык яны скупыя да крайнасці. Як бы падводзячы вынікі ўсёй дыпламатычнай дзейнасці Іосіфа Антонавіча ў Японіі, выдавец яго кнігі «Аб каранях японскай мовы» Іосіф Завадскі ўспамінаў: «Становішча рускага агента, які знаходзіўся ў зусім адасобленым порце Хакадатэ, было надзвычай складаным, нават небяспечным, так як першыя ліберальныя спробы, зробленыя японскім урадам, выклікалі ўсеагульную незадаволенасць у народзе, які спаганяў сваю злосць на іншаземцах — адбываліся частыя забойствы, ахвярамі якіх станавіліся пераважна асобы, што займалі афіцыйнае становішча.

З прычыны гэтага Гашкевічу даводзілася перажываць у Японіі вельмі цяжкі час, і ўсё-такі, дзякуючы майстэрству абыходзіцца з японцамі і цвёрдасці свайго характару, ён сумеў заваяваць высо-

---

[1] 5 ліпеня 1867 года І. А. Гашкевіч быў узведзены ў ранг драгамана IV класа пры Азіяцкім дэпартаменце.

кае становішча ў краіне і паспеў завязаць упаўне здавальняючыя зносіны паміж рускім і японскім урадамі.

...Служба пры такіх цяжкіх абставінах значна садзейнічала, аднак, поўнаму расстройству здароўя Гашкевіча, так што пасля вяртання з Японіі ў Расію ён ужо ў 1867 годзе вымушаны быў пакінуць дзяржаўную службу...»

І ўсё. На гэтым сляды адысеі Іосіфа Антонавіча Гашкевіча сціраюцца. Або амаль сціраюцца.

Так сталася, што пра апошнія гады жыцця былога японскага бонзы Масды Кумедзаймона — Яматава вядома больш, чым пра яго хроснага бацьку Гашкевіча. Ва ўсякім разе, віны Іосіфа Антонавіча ў гэтым няма. Жыццё — не сентыментальны раман, у якім на апошняй старонцы вырашаюцца ўсе загадкі. Варта звярнуць увагу, скажам, на такі важны факт: маёнтак Малі і мястэчка Астравец у нашым XX стагоддзі знаходзіліся ў эпіцэнтры ваенных дзеянняў у першую сусветную і грамадзянскую войны, у Вялікую Айчынную... У агні палалі не толькі жылыя дамы, бібліятэкі, музеі і храмы з пагостамі, але і архівы — дзяржаўныя і асабістыя. Нішто не можа з большай нагляднасцю сведчыць, як атрыманае мною пісьмо з Астравецкага раённага савета народных дэпутатаў: «...прынятымі мерамі не ўдалося ўстанавіць месца пахавання з-за даўнасці і адсутнасці якіх-небудзь пацвярджальных дакументаў.

На ўказанай тэрыторыі не захавалася ні былога месца жыхарства Гашкевіча І. А., ні захаванняў. У дзейным касцёле таксама ніякіх пацвярджальных дакументаў няма».

У пошуках іншых слядоў я пазнаёміўся з нямногімі паперамі, якія ацалелі ў фондах «Літоўскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі». У кнізе запісаў смярцей ёсць тое, што я шукаў 30 гадоў.

«3 мая 1875 года памёр памешчык маёнтка Малі стацкі саветнік Іосіф Антонавіч Гашкевіч ва ўзросце 60 гадоў[1] ад нарываў у правым лёгкім (паводле сведчання доктара Казлоўскага).

Пахаванне адбылося 6 мая 1875 года на прыходскіх могілках.

Смерць зарэгістравана ў Астравецкай царкве».

Атрымліваецца, у Астраўцы ў тыя далёкія гады былі і касцёл, і праваслаўная прыходская царква. Прычым яна называлася Казьмадаміянаўскай. Цяпер жа астаўся толькі дзейны касцёл.

---

[1] Цяпер можна дакладна сказаць, што І. А. Гашкевіч нарадзіўся ў 1815 годзе, а не ў 1814-м, як сцвярджалі некаторыя друкаваныя крыніцы.

Нарэшце, апошняе: лёс Яматава. Уладзімір Іосіфавіч быў ценем Іосіфа Антонавіча.

Аднак пра пецярбургскае жыццё японца, пасля таго як ён правёў свайго апекуна ў Вільню, зусім мала звестак. Можна толькі здагадвацца, дакладней, абапірацца на пабочныя дадзеныя і на такія-сякія расшуканыя дакументы. Як адбываліся пошукі матэрыялу — гэта, можна сказаць, асобнае апавяданне.

Напрыклад, вядома, што Яматаў не астаўся жыць на старой кватэры. Відаць, у ёй усё нагадвала пра мінулае, пра хваробы гнятлівыя і зацяжныя, пра Гашкевіча... У лютым 1868 года ён атрымлівае «Пасведчанне», якое дае яму права «наймаць кватэру ва ўчасткавым доме, што знаходзіцца ў Каломенскай частцы, за вызначаную плату».

Стары сябар Гашкевіча — Іван Ільіч Захараў, атрымаўшы ў той самы час адстаўку, уладкаваўся на прыват-дацэнцкую пасаду ў Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт на факультэт усходніх моў, якім кіраваў прафесар Васіль Паўлавіч Васільеў, даўні таварыш па службе ў духоўнай місіі ў Пекіне. Потым Захараў прывёў на факультэт Яматава, загадзя дамовіўшыся з Васільевым. Прычым П. М. Строхаў, як дырэктар Азіяцкага дэпартамента, не пярэчыў, што яго чыноўнік будзе па сумяшчальніцтву займацца са студэнтамі, бо стаяў на пункце погляду «...каб японская мова, хоць бы і неабавязкова, выкладалася на факультэце ўсходніх моў». Слова «неабавязкова» трэба разумець як «факультатыўна». Заняткі Яматаў пачаў весці ў кастрычніку 1870 года, адмовіўшыся ад выкладчыцкага жалавання, хоць і меў патрэбу ў дадатковых грошах. Яму вызначылі чытаць па дзве лекцыі ў тыдзень для студэнтаў III і IV курсаў кітайска-маньчжурска-мангольскага разраду.

Ці добрым выкладчыкам быў Яматаў? Думаю, што так. Сёння я магу назваць імёны студэнтаў, што слухалі яго лекцыі. Гэта В. Я. Костылеў, будучы генеральны консул у Нагасакі і вучоны; А. М. Пазднееў, будучы даследчык, які сабраў унікальную калекцыю старажытных рукапісаў у Манголіі і Тыбеце, аўтар многіх навуковых прац.

У рэшце рэшт, імя Яматава занесена ў «Бібліяграфічны слоўнік прафесараў і выкладчыкаў С.-Пецярбургскага ўніверсітэта» (Санкт-Пецярбург, 1898 год), у «Энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона». Ці гэта не ацэнка праведных трудоў Яматава? Да таго ж ён быў першым выкладчыкам японскай мовы ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце — і з гэтым нельга не лічыцца.

У час службы ў дэпартаменце і ва ўніверсітэце яго не пакідала мара пабываць у Маскве і Кіеве, але трэба прасіць у яго сіяцельства А. М. Гарчакова адпачынак і дакументы на праезд у ямской кібітцы. А міністр адпускаў чыноўнікаў у іншыя гарады толькі па вялікай патрэбе.

З Японіі ўсё больш і больш прыходзіла супярэчлівых вестак. Імператар Муцухіта быццам бы адмяніў недарэчныя звычаі старых часоў: цяпер японцы, што прынялі хрысціянскую веру, не караюцца. Але ганенне працягвалася. Вядомы прапаведнік Павел Савабэ, у мінулым бонза, як і Яматаў, пасаджаны ў падзямелле, але гэта толькі падліло масла ў агонь. Прынялі праваслаўе Мацвей Кінчэці, Павел Цудзі, Іаан Сакай, Якаў Урано... Успомнілі і пра Яматава. Пасля Каляд 1873 года высокапраасвяшчэнны Ісідар, мітрапаліт Санкт-Пецярбурга, выдаў зборную кнігу святару Благавешчанскай царквы, што на Васільеўскім востраве, айцу Іаану Дзёмкіну для запісу добраахвотных ахвяраванняў ад сталічных цэркваў і духавенства, ад вядомых сваёй дабрачыннасцю асоб на ўладкаванне цэркваў і школ у Японіі і на апекаванне над беднымі хрышчанымі японцамі, і над тымі, што рыхтуюцца прыняць святое хрышчэнне.

Выбар царквы Благавешчання Прасвятой Багародзіцы быў не выпадковы. Пятнаццаць гадоў назад тут прыняў святое хрышчэнне Масда Кумедзаймон. Святар Іаан Дзёмкін папрасіў Яматава прыйсці на ўрачыстую царкоўную службу. Уладзімір Іосіфавіч прыняў удзел у гэтай дабрачыннай справе. Відаць, гэта адпавядала яго поглядам.

Мне заўсёды здавалася, што няма больш стамляючага і нуднага баўлення часу, чым чакаць у чытальнай зале старыя газеты, якія заказаў сорак-пяцьдзясят мінут назад. І вось яны перад табою. Паволі перагортваеш пажаўцелыя старонкі і пачынаеш адчуваць сябе так, быццам вядзеш ціхую гаворку з продкамі, якія пакінулі табе ў спадчыну эпоху з яе таямніцамі і катаклізмамі. І раптам нечакана для сябе знаходзіш тое, што шукаў і, не верачы вачам сваім, па некалькі разоў перачытваеш адзін і той самы радок. Са мною такое бывала не раз, калі я натыкаўся на патрэбную інфармацыю. Вось і гэта, з якою зараз пазнаёміцца чытач, для мяне як узнагарода.

У газеце «Правительственный вестник» я знайшоў загад па Міністэрству замежных спраў ад 29 мая 1874 года.

«Звольнены ад службы паводле прашэнняў: перакладчык VIII класа ў Азіяцкім дэпартаменце надворны саветнік Яматаў...»

Жыццёвы вопыт падказвае, што ўсе так званыя людскія ўчынкі не выпадковыя,— наадварот, лагічныя і падрыхтаваныя. Камусьці раптам можа здацца, што чалавек прыняў быццам дзіўнае рашэнне — падаў прашэнне аб адстаўцы. Прычым ніхто яго не няволіў, ён мог служыць у дэпартаменце да поўнай выслугі — 25 гадоў. Але за яго плячыма толькі — васямнаццаць. Да таго ж, прыстойны чын надворнага саветніка, што на ваеннай мове азначае — падпалкоўнік. Загадкава, ці не праўда? І незразумела. І ўсё ж, як мне здаецца, Яматаў выношваў сваё рашэнне і, магчыма, рыхтаваўся да яго.

Напісаў я гэта і задумаўся. А моцныя ж карані, калі яны за столькі гадоў не засохлі? У іх аказалася цудадзейная сіла — сіла ўсведамлення, якое, відаць, жывіла Яматава, нагадваючы былому самураю і бонзе аб адданасці і любові да мясцін, дзе пахаваны косці продкаў... У яго, чалавека выключнага лёсу, быў свой свет. Ніхто не мог пазней ацаніць глыбіню яго мыслення, як гэта зрабілі напачатку Іосіф Антонавіч Гашкевіч са сваімі саратнікамі, маракамі «Дыяны», дыпламатамі і вучонымі-сінолагамі. На жаль, ніхто з іх не пакінуў пасля сябе ўспамінаў аб апошніх гадах жыцця Яматава ў Пецярбургу, як не пакінуў ні запісаў, ні дзённікаў сам Яматаў, чаму ён раптам... Так, так, нечакана раптам узняўся на крыло і вярнуўся да былога гнязда, як жураўель, што адбіўся ад чарады...

Не ўсе знаёмыя паверылі ў хуткі ад'езд Яматава, думалі, што госціць у маёнтку хроснага Гашкевіча. У дэпартаменце таксама захваляваліся, бо ён ужо ў Каломенскай частцы не жыў. Паступіў запыт у Санкт-Пецярбургскую Управу добрапрыстойнасці Міністэрства ўнутраных спраў, адкуль 12 жніўня 1874 года Азіяцкаму дэпартаменту быў дадзены адказ: «...звольнены Уладзімір Яматаў з падданства Расіі... па данясенні паліцыі значыцца выбыўшым за мяжу ў Японію і аб наступным паведаміў...»

У канцы дакумента — неразборліва подпісы: «За старшыню, саветнік, сталаначальнік». Усё, як належала ў бюракратычных расійскіх установах. Ёсць і рэзалюцыя, накладзеная невядома кім: «У Дэпартамент А. С.» (трэба думаць — асабовага складу).

Уладзімір Іосіфавіч Яматаў вярнуўся на радзіму восенню 1874 года. Як сведчаць японскія гісторыкі, жыццё яго працякала ў будыйскім храме Сіба-Дзодзёдзі адзінока і замкнёна. Ён прыняў былую веру і імя Масуда Каасай. За дзесяць гадоў пустэльніцкага служэння свайму Богу ён нікому не расказваў ні пра сябе, ні пра сяброў, ні пра Пецярбург, ні аб Расіі. У будыйскай веры ёсць акты,

якія не рэкамендуюць манахам разглагольстваваць дарэмна. Маўчанне ў іх уваходзіла ў лік іншых строгіх зарокаў. Можа, таму мы не маем ні яго ўспамінаў, ні дзённікаў, ні кніг, прывезеных ім з Расіі, у тым ліку і «Японска-рускага слоўніка», сааўтарам якога з'яўляўся.

Памёр Масуда Каасай 30 мая 1885 года. На яго помніку ёсць эпітафія, якую напісаў, як мяркуюць японскія гісторыкі, нехта Нагасэ Ёсімона — пан з Нагасакі. У верхняй частцы надмагільнага каменя выбіты родавы герб — гэта значыць, што бонза Масда Кумедзаймон, ён жа Уладзімір Прыбылоў, ён жа Таці6ана но Каасай, ён жа Уладзімір Іосіфавіч Яматаў, ён жа Масуда Каасай — быў дваранін і належаў, як кажуць у Расіі, да прывілеяванага класа.

Я быў на магіле былога самурая і будыйскага бонзы. Часам мне здаецца, што ён паміраў некалькі разоў, лішне многа ў яго было імёнаў. А часам прыходзіла ў галаву думка, што ён і зусім не жыў. Ён — міф, легенда. Можа быць, сышоў са старой японскай акварэлі і заявіў пра сябе, вось, маўляў, я — Самурай, вось, маўляў, я — Бонза. Што гэта? Містыфікацыі ці таямніца сакрэтнай дыпламатыі мінулага стагоддзя.

Хто ведае?

Шмат тысяч кіламетраў раздзяляе Краіну ўзыходзячага сонца і Беларусь.

Пайшлі ў краіну духаў, адкуль ніколі не вяртаюцца, беларус і японец. Кожны з іх пражыў складанае жыццё. Рознабаковасць ведаў была ўласцівасцю іх мяцежных і рамантычных натур. На жаль, выдатная карысць іх дзеянняў яшчэ не атрымала высокага прызнання. Відаць, не надышоў час. Слова за нашчадкамі. Яны рассудзяць. І, спадзяюся, адкажуць на пытанні: чым была Японія для беларуса Гашкевіча, а Расія для японца Масуда Каасая?

Я ж зрабіў толькі першую спробу расказаць, што яны жылі не дарэмна, іх справа не прапала.

## НЕПАРЫЎНАЯ СУВЯЗЬ ЧАСОЎ

### І

Гісторыя ведае нямала вучоных, падарожнікаў, пісьменнікаў, мараплаўцаў, дыпламатаў, якія яшчэ пры жыцці атрымалі ўсё спаўна: высокія чыны, узнагароды, вядомасць. Але сустракаюцца ў гісторыі асобы, у свой час праслаўленыя дзеяннямі на ніве навукі, дабра і

грамадскай карысці, лёсы якіх у сілу розных абставін аказаліся забытыя.

Да такіх людзей, несправядліва забытых суайчыннікамі, адносіцца Іосіф Антонавіч Гашкевіч.

А між тым пра дыпламата Гашкевіча першымі і ўсур'ёз загаварылі японцы. Былі знойдзены ў архівах дакументы, перапіска расійскага імператарскага консула з губернатарам Хакадатэ і тайкунам — вярхоўнай уладаю Краіны ўзыходзячага сонца. У 1920 годзе японскі вучоны Абэ Масамі апублікаваў у гістарычным часопісе нарыс «Гашкевіч — рускі консул у Хакадатэ». Праз трыццаць гадоў у Амерыцы з'явіліся першыя матэрыялы пра Гашкевіча. Іх аўтар Георг Ленсен, вучоны з Фларыдскага ўніверсітэта. Пачынаючы з 1950 года, ён выдаў чатыры кнігі аб руска-японскіх адносінах, аб экспедыцыі віцэадмірала Я. В. Пуцяціна, аб руска-японскіх культурных і навуковых сувязях і ролі ў гэтым Іосіфа Антонавіча Гашкевіча.

Некаторыя раздзелы ганчароўскага «Фрэгата «Палады», у якіх расказваецца аб Паўднёвай Афрыцы, аб «навуковай партыі» ўнутр краіны (І. А. Ганчароў, І. А. Гашкевіч, К. М. Пасьет, П. А. Зялёны і інш.), былі перакладзены і выдадзены ў Кейптаўне ў 1960—1961 гадах: «Кап у апісанні рускага» («Штоквартальны бюлетэнь паўднёваафрыканскай бібліятэкі»). Праз дзесяць гадоў у Японіі выйшла кніга пісьменніка К. Анмінамі «Чорныя караблі з Пецярбурга». Следам з'явіліся манаграфіі і гістарычныя артыкулы М. Судзукавы, Н. Канзакі, Н. Накамота, Т. Хадзімэ, Ё. Кувадзімы і інш.

На жаль, наша гістарычная навука не ўдастоіла сваёй увагай вучонага і дыпламата І. А. Гашкевіча. Усе дзесяцігоддзі, што прайшлі пасля віхуры грознага 1917 года, страшэнна вычысціўшай мноства старонак у кнізе беларускай гісторыі, на старых лістках і да гэтага часу ляжыць попел... свядомага забыцця. Пісалася новая гісторыя, у рамках якой не ўкладваўся стацкі саветнік, уладальнік маёнтка Малі Астравецкага павета Віленскай губерні, кавалер многіх царскіх ордэнаў Іосіф Антонавіч Гашкевіч. Таму быў знойдзены даволі просты спосаб: не ўспамінаць пра падобных асоб, а калі і даводзілася гэта рабіць у сілу абставін, дык ледзь-ледзь, не адкрываючы заслоны поўнасцю. Імя Гашкевіча ўпаміналася ў працах савецкіх вучоных М. І. Конрада, Э. Я. Файнберг толькі ў сувязі з Японіяй. І не болей. За ўспомненыя дзесяцігоддзі не было ніводнай гістарычнай манаграфіі, разгорнутага артыкула пра выдатнага сына беларускага народа.

Перагортваючы апошнюю старонку гістарычнага аповяду «Адысей з Беларусі», чытач мае права спытаць аўтара: а што ж дзеці і ўнукі Гашкевіча, яны што, таксама былі ў забыцці? Або яшчэ горш — жылі ў бяспамяцтве? Яны павінны былі ганарыцца такім бацькам і дзедам.

Так, павінны. Але лёс сына Іосіфа, як і ўнука Віктара, драматычны і ў многім незразумелы. Пра гэта і пойдзе маё апавяданне.

## II

Сын Іосіф нарадзіўся 18 жніўня 1872 года, праз два дні быў ахрышчаны ў астравецкай Казьмадаміянаўскай царкве. Хлопчык наўрад ці мог памятаць бацьку, так як у год смерці Іосіфа Антонавіча яму яшчэ не было і трох гадоў. Рос ён як сын двараніна. Праўда, наваспечанага. Я гэта падкрэсліваю спецыяльна, каб паказаць сацыяльнае становішча бацькі — сына беднага сельскага святара, і ў якіх умовах выхоўваўся сын Іосіф. Старэйшы Гашкевіч пра свой лёс не клапаціўся і да апошняга часу не думаў пра дваранства[1], але дзеля свайго нашчадка ў 1871 годзе падаў прашэнне ва ўрадавы сенат па дэпартаменту геральдыі, які зацвердзіў Гашкевіча разам з жонкаю Кацярынай Сямёнаўнай у патомнае дваранства.

З маленства Іосіф быў прадастаўлены самому сабе, хоць часта бываў у асяроддзі дарослых (пасля смерці бацькі ў сялібу Малі прыехала малодшая сястра маці Палагея Сямёнаўна Матчына), прагна прыслухоўваўся да размоў дамашніх, вадзіўся з мясцовымі сялянамі і леснікамі. Усё гэта шмат давала ў сэнсе ведання жыцця. Хлопчык мог гадзінамі праседжваць за кнігамі з бацькавай бібліятэкі, якая налічвала больш за дзве тысячы тамоў, перагортваць кітайскія і японскія фаліянты з малюнкамі, альбомы з акварэльнымі рысункамі старажытных мастакоў загадкавых краін Далёкага Усходу[2]. Кацярына Сямёнаўна берагла не толькі кнігі, але і рукапісы нябожчыка-мужа, спадзеючыся, што ў будучым сын пойдзе па дарозе бацькі, стане вучоным або дыпламатам. І ўсё быццам бы ішло да гэтага. У 1894 годзе Іосіф Іосіфавіч скончыў прэстыжны

[1] У адпаведнасці з 25-м артыкулам статута аб ордэнах, асоба, якая мела ордэны Св. Уладзіміра любой ступені, атрымлівала права патомнага дваранства. У І. А. Гашкевіча сярод іншых ордэнаў быў Св. Уладзімір 3-й ступені.

[2] Бібліятэка І. А. Гашкевіча знаходзіцца ў Інстытуце ўсходазнаўства (Санкт-Пецярбург) і, на думку аўтара, павінна вярнуцца ў Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

Аляксандраўскі ліцэй (былы Царскасельскі), які шырока расчыняў дзверы для кар'еры маладому чалавеку. Аднак у чыне губернскага сакратара Іосіф Гашкевіч паехаў у Херсон, дзе жылі яго стрыечныя браты. Яму на першым часе даў прытулак Віктар Іванавіч Гашкевіч, вядомы ў тыя гады археолаг і журналіст[1]. Праз год Іосіф Іосіфавіч ажаніўся з Лідзіяй Мартынаўнай Струпінскай, і там жа ў Херсоне ў іх нарадзіўся сын, якому далі імя Віктар у гонар хроснага бацькі Віктара Іванавіча Гашкевіча.

Я не буду пералічваць усе чыны і пасады Іосіфа Іосіфавіча. Пасля Херсона яму давялося служыць у Пецярбургу, Гродне, Вільні і зноў у Пецярбургу. Іосіф Іосіфавіч быў вядомым спецыялістам па складанні новых законапалажэнняў аб сялянах. Ён нават напісаў кнігу «Статыстычныя звесткі па сялянскім землеўладкаванні Віленскай губерні». (Гэту кнігу я бачыў і чытаў у бібліятэцы Вільнюскага ўніверсітэта.)

У кастрычніку 1906 года памерла Кацярына Сямёнаўна, якая жыла ўжо не ў маёнтку Малі, а разам з сынам. Пахаваў Іосіф Іосіфавіч маці на праваслаўных могілках Вільні, побач з могільнікавай царквою Святой Ефрасінні. Праз некаторы час туды быў перанесены прах бацькі[2].

У Гашкевіча, лiберала паводле перакананняў, не было халоднай абыякавасці да пакут земляробаў, таму ён стараўся палегчыць іх быццё, знаходзячыся на розных выбарных пасадах. Пачынаючы з 1900 года, кожныя тры гады яго выбіралі ганаровым міравым суддзёй Віленскай акругі, акрамя таго, ён з'яўляўся членам губернскага камітэта аб патрэбах сельскагаспадарчых, прамысловых і заводскіх

---

[1] У біяграфіі В. І. Гашкевіча ёсць знамянальная старонка. Як вядома, да рэстаўрацыйных работ ва Уладзімірскім саборы ў Кіеве быў запрошаны вядомы жывапісец В. М. Васняцоў. Абраз апостала Паўла ён пісаў з В. І. Гашкевіча, ім жа, Васняцовым, напісаны партрэт Віктара Іванавіча, які зберагаецца ў Рускім музеі. Акрамя таго, Віктар Іванавіч — аўтар навукова-папулярных кніг: «Замак князя Сімяона Алелькавіча і летапісны гарадзец пад Кіевам» (Кіеў, 1890), «Скарбы і старажытнасці Херсонскай губерні» (Херсон, 1902), «Манеты і медалі» (Херсон, 1910), «Летапіс музея за 1909, 1910 і 1911 гады» (Херсон, 1912), «Старажытнае гарадзішча на берагах нізоўя Дняпра» (С.-Пецярбург, 1913). Адзін час Віктар Іванавіч выдаваў і рэдагаваў газету «Юг», заснаваў Херсонскі археалагічны музей (адкрыты ў 1911 годзе). Памёр Віктар Іванавіч Гашкевіч у 1928 годзе.

[2] Летам 1964 года я бачыў надмагільны камень на магіле І. А. Гашкевіча, але ў 1986 годзе яго ўжо не было, знікла і надмагільная пліта на магіле сына І. І. Гашкевіча.

вытворцаў, неадменным членам Віленскай губернскай канцылярыі, членам Літоўскага епархіяльнага вучылішчнага савета.

Жонка Гашкевіча — Лідзія Мартынаўна лічылася чалавекам энергічным, кажучы сучаснай моваю, адносілася да «дзелавых жанчын». Яна з'яўлялася апякункай 1-га аддзела камітэта Віленскага дабрачыннага таварыства «Добраахвотнай капейкі».

Пасля рэвалюцыйных падзей 1905 года Расія ўсё яшчэ бурліла і стагнала, яе чакалі суровыя выпрабаванні. Урад палічыў сваім доўгам выпрацаваць заканадаўчыя нормы для задавальнення найпрасцейшых патрэб вёскі. Каб дасягнуць магчымасці выхаду сялян з абшчыны, быў выдадзены закон, які палягчаў пераход да падворнага і хутарскога ўладання, але яго трэба яшчэ было правесці ў жыццё. Ґэтым і займаўся Іосіф Гашкевіч.

Атрымалася так, што, не ўдзельнічаючы ні ў якіх партыях, але клапоцячыся аб працоўным сялянстве, Іосіф Іосіфавіч выбіраецца старшынёй з'езду ўпаўнаважаных ад вясковага насельніцтва па Віленскай акрузе. Восенню 1907 года ён камандзіруецца на з'езд неадменных членаў па сялянскім землеўпарадкаванні ў Пецярбург.

У жніўні 1908 года Іосіфа Іосіфавіча пераводзяць на службу ў Міністэрства ўнутраных спраў. Перад ад'ездам у сталіцу ён прадае маёнтак Малі, перавозіць бацькаву бібліятэку ў Пецярбург на вуліцу Знаменскую, дом 25, дзе здымае вялікую кватэру на першым паверсе. Неўзабаве, праўда, амаль не распакоўваючы скрынкі, Гашкевіч адвозіць бацькаў архіў і кнігі па Кітаю і Японіі ў Санкт-Пецярбургскі Інстытут Усходазнаўства. Усё гэта адбудзецца незадоўга да яго раптоўнай смерці. Надарылася яна 24 кастрычніка 1911 года пасля вяртання Іосіфа Іосіфавіча з камандзіроўкі ў Туркестанскі край. Было яму ад роду 39 гадоў. Выконваючы волю нябожчыка, таварышы па службе рашылі пахаваць яго ў Вільні, побач з магіламі бацькоў. Пасля таго як Іосіф Іосіфавіч быў адпеты ў Санкт-Пецярбургскім адміралцейскім саборы, катафалк з труною адправіўся на вакзал.

Вось што пісала газета «Виленский вестник» 29 кастрычніка 1911 года: «Сёння, 29 кастрычніка, прыбудзе ў Вільню цела памерлага ў С.-Пецярбургу былога неадменнага члена Віленскай губернскай канцылярыі Іосіфа Іосіфавіча Гашкевіча. У 11 гадзін дня адбудзецца перанясенне цела, пасля кароткай літыі, са станцыі на праваслаўныя могілкі, дзе яно будзе аддадзена зямлі».

Тая самая газета 30 кастрычніка: «Труну сустрэлі Віленскі губернатар камергер Д. Н. Любімаў з жонкаю, віцэ-губернатар А. Ф. Пад'яканаў, упраўляючы ген. губ. А. А. Станкевіч, упраўляючы дзярж. маёмасці Д. С. С. М. А. Селянін і былыя таварышы па службе. Усе яны вынеслі на плячах труну і паставілі на пахавальную каляскіцу».

Са скупой газетнай хронікі напрошваецца простая выснова: вучонага і дыпламата Іосіфа Антонавіча не праводзілі ў апошні шлях з такой пашанаю, якая была аддадзена яго сыну Іосіфу Іосіфавічу. Відаць, дзяржаўны чыноўнік заслужыў яе.

Цяпер наступіла чарга расказаць пра ўнука Іосіфа Антонавіча — Віктара. Як у яго склаўся лёс?

## III

Смерць бацькі і хуткае другое замужжа маці паўплывалі на характар Віктара. Ён стаў раздражняльны, нелюдзімы. Лідзіі Мартынаўне здавалася, што яна добра выхавала сына. Маці настаяла на тым, каб ён вучыўся толькі ў Аляксандраўскім ліцэі, прывіла яму любоў да вывучэння замежных моў. Да моманту заканчэння 2-га класа ліцэя Віктар валодаў англійскай, французскай, вывучаў японскую мову. Юнаку было цяжка ад таго, што маці здрадзіла памяці бацькі, як гаворыцца, не знасіла пару туфель, як адразу ж выйшла замуж, ад таго, можа быць, Віктар не ўжыўся з айчымам Юліянам Якаўлевічам Хейфіцам, таварышам пракурора судовай палаты Санкт-Пецярбурга.

Пачатак першай сусветнай вайны ліцэісты ўспрынялі як сапраўдныя патрыёты, многія з іх лічылі, што вайна з Германіяй — выратаванне Расіі, у імя якой не шкода ахвяраваць жыццём... Віктар іграўся на фронт, яму была агіднаю дамашняя абстаноўка, а там, на палях бітваў, думалася, ён знойдзе супакаенне душы. Але Лідзія Мартынаўна ўсяляк пярэчыла, лічыла ўчынак сына хлапечым выбрыкам, настойвала, каб ён закончыў курс ліцэя, а там, маўляў, вольнаму воля.

Патрэбы ваеннага часу вымусілі царскі ўрад прыняць захады, каб умацаваць армію і флот. У сувязі з гэтым у жніўні 1914 года былі створаны Асобныя гардэмарынскія класы, куды прымалі не толькі дваран, але і маладых людзей усіх саслоўяў з сярэдняй і незакончанай вышэйшай адукацыяй. Пазней гэтыя гардэмарыны атрымалі мянушку «чорныя», а тыя, што вучыліся на асноўным курсе

Марскога кадэцкага корпуса,— «белыя». Відаць, ад выразу «чалавек белай косці».

Кожны дзень у ліцэі шумна абмяркоўваліся зводкі з франтоў, і, вядома, міма ліцэістаў не прайшло новаўвядзенне на флоце, якому патрэбны былі марскія афіцэры, што ведалі справу. Віктар выдатна ведаў біяграфію свайго дзеда Іосіфа Антонавіча, сталыя гады якога прайшлі на славутых караблях «Палада» і «Дыяна» ў акружэнні маракоў, што сталі вядомымі мараплаўцамі. Ведаў пра гэта па расказах бабулі Кацярыны Сямёнаўны, у маёнтку якой Віктар жыў некалькі гадоў у дзяцінстве. Апрача таго, імя дзеда неаднойчы ўпаміналася ў настольных кнігах бацькі Іосіфа Іосіфавіча, якія дасталіся яму, Віктару, па спадчыне — «Фрэгат «Палада» І. А. Ганчарова, «У далёкіх водах і краінах» В. В. Крастоўскага, «Японія і японцы» М. Фёдарава. Думаецца, таму перад Віктарам не стаяла пытанне, у якое вучылішча ісці — у армейскае ці флоцкае. Канечне, у гардэмарыны. І іншых думак не магло і быць.

23 мая 1916 года Імператарскі Аляксандраўскі ліцэй выдаў пасведчанне выхаванцу Віктару Гашкевічу ў тым, што «ён за час прабывання свайго ў ліцэі, са жніўня 1909 да мая 1916 г., паводзін быў вельмі добрых і ні ў чым заганным ні разу заўважаны не быў. Гэта пасведчанне выдадзена Віктару Гашкевічу для прадстаўлення ў Гардэмарынскія класы».

24 мая канцылярыя Асобных гардэмарынскіх класаў паведаміла Віктару: «У адпаведнасці з правіламі прыёму Вам належыць з'явіцца ў класы 9-га верасня к 10 гадз. раніцы на медыцынскі агляд».

3 верасня Віктару споўнілася 19 гадоў. Узрост якраз адпаведны для адбывання воінскай павіннасці. Віктар быў прызнаны прыгодным для марской службы і залічаны ў Асобныя гардэмарынскія класы.

Прызнацца, я не знайшоў загада аб яго залічэнні, але затое маю на руках арыгінал «Справаздачнага ліста па харчовым забеспячэнні гардэмарынаў» за верасень 1916 года. У ім у алфавітным парадку 28-м названы Гашкевіч (а ўсяго ў спісе 120 гардэмарынаў); аказалася, што гэты дакумент уносіць яснасць. Вось што гаворыцца: «Ніжэйназваныя маладыя людзі, адпаведныя медыцынскім патрабаванням і конкурсу атэстатаў, залічваюцца ў лік гардэмарынаў Асобных гардэмарынскіх класаў з 12-га верасня гэтага года.

Агульны тэрмін службы, на падставе арт. 2, III аддзела загада па флоце і Марскім ведамстве ад 30 кастрычніка 1914 года за № 358, лічыць з 1-га кастрычніка 1916 г.»

Такім чынам, Віктар Гашкевіч — гардэмарын!

Прайшоў год вучобы, пасля здачы экзаменаў трэба было зрабіць практычнае плаванне. Сярод гардэмарынаў хадзілі чуткі пра тое, што іх разаб'юць на групы: адны паедуць на Чорнае мора, другія — у Лібаву і Кранштат. Аднак прыйшоў загад усім адправіцца на Далёкі Усход. З Петраграда ў порт Уладзівасток прыбыло каля 200 выпускнікоў Марскога кадэцкага корпуса і Асобных гардэмарынскіх класаў. Такі атрад на адным караблі размясціць цяжка. Той-сёй трапіў на мінаносцы «Уладны», «Бойкі» і «Грозны», той-сёй на ваенны транспарт «Ксенія», а «чорны» гардэмарын Віктар Гашкевіч на дапаможны крэйсер «Арол». Пакуль будучыя афіцэры баразнілі далёкаўсходнія моры, на радзіме адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя, пачалася грамадзянская вайна... Маладым маракам трэба было вырашыць цяжкае пытанне — з кім пайсці. Многае залежала ад пазіцыі камандзіра атрада вучэбных суднаў капітана 1-га рангу М. А. Кітцына, які сам трапіў у няёмкае становішча. Адпраўляючыся з Петраграда, ён атрымаў ад старшыні Часовага ўрада А. Ф. Керанскага чэк, які забяспечваў разлікі з замежнымі банкамі і камерсантамі. Цяпер жа чэк аказаўся пустой паперкаю. Каманда крэйсера пазбавілася самага элементарнага — магчымасці закупляць у замежных партах правіянт, не гаворачы ўжо аб папаўненні палівам — вугалем. М. А. Кітцын даў магчымасць кожнаму зрабіць свой выбар. Ён не перашкодзіў сысці на бераг у Шанхаі групе юнакоў, але большая частка гардэмарынаў асталася на борце «Арла».

Я не ведаю ўсіх нягод Віктара Гашкевіча (сышоў ён у Шанхаі ці не сышоў), магу толькі здагадвацца, грунтуючыся на скупых звестках. Крэйсер «Арол» трапіў у цяжкае становішча: на пераходзе з Нагасакі ў Ганконг яго сустрэлі англійскія судны і аднесліся да рускага крэйсера як да мяцежнага, узбунтаванага карабля... Усю каманду, у тым ліку і гардэмарынаў, інтэрніравалі і адправілі на брытанскі крэйсер «Сіці оф Лондан».

На гэтым след Віктара Гашкевіча абрываецца.

Цяпер, што называецца, аўтарскае адступленне. Думаю, што лёс Віктара — лёс эмігранта. Я чуў у Хакадатэ ад аднаго японца, што быццам бы хадзілі чуткі пра ўнука Гашкевіча: хтосьці яго бачыў, нехта размаўляў...

На Віктару Гашкевічу заканчваецца прамая лінія роду вучонага і дыпламата Іосіфа Антонавіча Гашкевіча. Што ж да другой галіны радаслоўнай, што ідзе ад старэйшага брата протаіерэя Іаана Гаш-

кевіча, дык тут шмат заблытанага, праўды, перамешанай з няпраўдаю. Але гэта іншая тэма для апавядання. Да апошняга часу ў Санкт-Пецярбургу жыла Кацярына Віктараўна Гашкевіч, прыёмная дачка В. І. Гашкевіча, археолага і журналіста, якой я ўдзячны за дапамогу і фатаграфіі сям'і Іосіфа Антонавіча Гашкевіча.

## IV

...Узлёт адбываецца нармальна. Самалёт, зрабіўшы паўкола над прадмесцем Масквы, узлятае ў паветра, бярэ курс на ўсход. Зручна ўладкаваўшыся ў крэсле, паступова пачынаю забываць мітусню, якая захапіла ў апошнія дні перад ад'ездам. Да Токіа дзевяць гадзін лёту, унізе доўга будзе рассцілацца родная зямля, а думкі ўжо ў Японіі. Я адкрываў у сабе падарожніка, які адправіўся ў загадкавую краіну. У салоне шумна-весела. Пасажыры, пераважна маладыя японцы — удзельнікі XII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, які толькі што закончыўся ў Маскве. Юнакі і дзяўчаты ў цудоўным настроі. Ззаду засталіся важныя знаёмствы, сяброўскія сустрэчы, спартыўныя спаборніцтвы і музычныя конкурсы. У мяне ж крыху іншы настрой. Думаў не пра тое, што асталося ззаду, а пра тое, што чакае мяне наперадзе.

Я ляцеў у Токіа на запрашэнне М. Судзукавы — выдаўца гістарычнай аповесці «Адысей з Белай Русі». Кніга, выдадзеная ў Беларусі, з'явілася таму прычынаю, і ў мяне чакаліся сустрэчы з японскімі чытачамі, якія паспелі пазнаёміцца на сваёй роднай мове з адысеяй вучонага і дыпламата Іосіфа Антонавіча Гашкевіча, выдатнага сына беларускага народа.

Сонца, прабіўшыся праз шкло ілюмінатараў, смела рассоўвала акіянскія далячыні. На гарызонце — астравы Японіі. Наш «Ту» прызямліўся ў аэрапорце Нарыта. Пры выхадзе з аэравакзала мяне чакалі М. Судзукава і прафесар С. Ямамота. Абодва яны гаварылі па-руску, як вучні падрыхтоўчых класаў, не зусім складна, часта сказалі словы, але зразумець іх было можна. Я прыкмеціў, што і разумела і сімвалічна — сустрэць з першых крокаў на японскай зямлі людзей, якія аддаюць свае сілы ўмацаванню дзелавых і сяброўскіх сувязей паміж нашымі краінамі. Павітаўшыся і знаёмячыся, сказаў ім пра гэта. Судзукава і Ямамота былі прыкметна ўсцешаны і пакланіліся. Прафесар Ямамота сказаў:

— Я з Судзукава-сан неаднаразова бывалі ў Савецкім Саюзе. І можам меркаваць пра рускіх. Вы таварыскія, добрыя і не тры-

маеце камень за пазухай. Такімі нашы продкі запомнілі і консула Гашкевіча...

Наша размова непрыкметна перайшла да вытокаў зараджэння сяброўскіх сувязей Японіі з Расіяй. І падумалася мне тады, што першым выразнікам гэтых ідэй, якія сёння паяднаді нас, быў беларус Гашкевіч. Гэта пацвердзілі і мае субяседнікі ў дарозе, пакуль мы дабіраліся да Токіа.

Для мяне, былога марака, няма нічога больш радаснага за сустрэчы з марскімі гаванямі, куды ў былыя часы заходзілі расійскія фрэгаты «Палада», «Дыяна», «Аскольд»... Прызнаюся, мне хацелася пабачыць Хакадатэ і Нагасакі, Сімоду і Хэду, Осаку і Токіа. Прайсці маршрутамі віцэ-адмірала Я. В. Пуцяціна і дыпламата І. А. Гашкевіча. Гэта дзякуючы іх стараннасці і такту многія гады ў гэтых партовых гарадах рускіх разумелі з паўслова, але жорсткі час і дзве вялікія вайны (руска-японская 1904—1905 і 1945 гадоў) аддалілі нас адзін ад аднаго, парты сталі закрытымі, як і сэрцы людзей.

Ёсць на паўвостраве Ідзу пасёлак Хэда. І бухта з такой самай назваю. Бухта прыкрытая, ціхая, выгнутая падковаю. Па ўсім узбярэжжы панатыканы двухпавярховыя домікі, пачарнелыя ад часу і ад салёных вятроў, рыбацкая прыстань, і ад яе цягнецца набярэжная, што пераходзіць у пляж, дзе ў пагодлівы дзень шмат адпачываючых. Іншаземцы тут не бываюць. У самым дальнім канцы пляжа, на стыку маляўнічай касы, выгнутай дугою, стаіць домік. Паводле знешняга выгляду яго можна палічыць за школу. Шырокія вокны з відам на Ціхі акіян і на Фудзіяму, што ўзвышаецца на процілеглым беразе заліва Суруга.

Але, як аказалася, у гэтым будынку не школа, а музей. Перш чым увайсці сюды, я звярнуў увагу на скульптурную групу. Стаяць дзве чалавечыя фігуры, абхапіўшы адна адну за плечы. Падышоў бліжэй, прыглядзеўся да твараў: ніякіх сумненняў — рускі і японец. Зробленыя з бронзы два маракі ўзышлі на мармуровы пастамент. А злева — адміралцейскі якар. Подпіс гаворыць, што ён падняты з месца гібелі фрэгата «Дыяна».

Уздымаюся па лесвіцы ў музей. Экспазіцыю адкрываюць бюст віцэ-адмірала Я. В. Пуцяціна, партрэты японскіх паўнамоцных Цуцуі і Кавадзі, з якімі ён і драгаман І. А. Гашкевіч вялі гутаркі на борце «Дыяны» (да яе крушэння) і афіцыйныя перагаворы ў Сімодзе. А вось і мадэль рускага фрэгата — падарунак савецкага пасольства ў Токіа.

Чым даўжэй я хадзіў па залах музея, разглядваючы экспанаты — прадметы далёкага мінулага, акварэльныя малюнкі, кнігі, фатаграфіі, асабістыя рэчы Пуцяціна і куфэрачак Гашкевіча,— тым выразней і ярчэй расло ўражанне таго, што зараз перада мною зусім не партрэты Пуцяціна, Гашкевіча, Мажайскага, японскіх паўнамоцных Цуцуі і Кавадзі, а жывыя людзі з нашага рэальнага жыцця. Абуджаючы ў сабе фантазію, я нібыта вярнуўся ў 1854—1855 гады, у тыя дні, калі рабілася гісторыя — вяліся дыпламатычныя перагаворы, а пасля падпісваўся першы дагавор паміж Расіяй і Японіяй.

...Стаяла сонечная раніца. З бухты Хэда на лоўлю тунца адыходзілі невялікія сейнеры, пакідалі і мы гасцінны пасёлак.

Я пасланяўся па палубе парома, дзе пад тэнтам бавілі час заклапочаныя японцы, пакуль не знайшоў сабе месца, каб нікому не перашкаджаць, не мазоліць вочы. Там, дзе я сеў на лавачку, перада мною адкрылася бухта Хэда і далячынь Ціхага акіяна. У гэту хвіліну было пра што падумаць...

Некалькі гадоў таму назад пісьменнік К. Анмінамі разам з прадзюсарам незалежнай тэлекампаніі І. Мацуэ задумалі падняць з марскога дна фрэгат «Дыяна». Але найперш яны спусцілі тэлевізійную камеру на глыбіню пяцьсот метраў, дзе фрэгат ляжыць, і зрабілі відэазапіс. Уважліва разгледзеўшы кадры, зразумелі: пры пад'ёме з такой глыбіні «Дыяна» можа рассыпацца, не вытрымае згніўшы за сто трыццаць гадоў драўляны корпус... Энтузіястам удалося падняць адміралцейскі якар вагою больш за тры тоны. Гэта другі якар, які не ўтрымаў «Дыяну» ў час дунамі ў бухце Сімода. Першы, падняты раней, як ужо ўспамінаў, служыць упрыгожаннем уваходу ў музей у пасёлку Хэда.

Трэба апынуцца за многія тысячы кіламетраў ад Радзімы, каб зразумець, як я хваляваўся, калі мы ішлі на пароме ў порт Німазі — подступ да гарадка Фудзі, што ў прэфектуры Сідзуока. Недалёка ж ад берага Фудзі, за якіх-небудзь паўтара кабельтавых ад пясчанага берага, на пяцьсотметровай глыбіні спачывае фрэгат — карабель расійскага дыпламатычнага пасольства.

На нейкі момант я адчуў сябе адхіленым ад усяго, чым было запоўнена маё жыццё раней. Мы спусцілі на ваду вянок з жывых кветак, і я, прыціснуўшы руку да грудзей, нізка пакланіўся мору.

Мы падзякавалі капітану парома за тое, што ён застапарыў ход у пункце, абазначаным на мараходнай карце заліва Суруга, дзе ляжала «Дыяна», і даў нам магчымасць ушанаваць памяць расійскага фрэгата хвілінай скрушлівага маўчання.

Праз некаторы час, апынуўшыся на беразе, у гарадку Фудзі, мы пешшу прайшлі па шашы, пасля па невялікай алеі, уздоўж якой шырока раскінуўся зялёны газон і раслі барвова-чырвоныя клёны. У канцы алеі на ўзгорку збудаваны помнік матросам і афіцэрам «Дыяны». Кампазіцыя яго простая: на камені-падушцы заняў галоўнае месца трохтонны якар «Дыяны», крыху правей ад яго — узвышалася стэла з надпісам, на якой пазначана імя І. А. Гашкевіча, а побач з ёю — на пастаменце — фігура Я. В. Пуцяціна ва ўвесь рост, левая рука віцэ-адмірала спачывае на эфесе палаша. А навокал, на разбітых клумбах, квітненне хрызантэм. І яшчэ адна паказальная дэталь — маляўнічая алея ў гэты жнівеньскі дзень 1985 года была залітая сонцам. Пакуль мы знаходзіліся тут, да нас падыходзілі пажылыя і маладыя японцы і японкі, у традыцыйным паклоне сваім штосьці гаварылі мне. Ямамота-сан перакладаў, але, калі б ён нават не ведаў рускай мовы, усё роўна было б зразумела кожнае слова — такія ў гараджан, што падыходзілі да помніка, выразныя міміка і жэст. І гэта не было ні гіпнозам, ні насланнём — проста я адчуваў людскую ўдзячнасць нам, савецкім людзям. На дзень раней я адчуў падобную сімпатыю ў музеі японска-савецкай дружбы ў Хэдзе, дзе ярка і адкрыта праяўлялася цікавасць да таго, што ім, японцам, вельмі дарагое — да памяці сваіх і нашых продкаў.

Канечне, расказаць пра ўсё ўбачанае і перажытае цяжка. Уражанняў многа. Ці адчуюць японцы нашу гасціннасць, калі зямля беларуская раскрые ім свае абдымкі ў запланаваны на лета 1986 года прыезд? У маіх японскіх сяброў нарадзілася высакародная мэта — пабываць на радзіме Іосіфа Антонавіча Гашкевіча.

## V

Вядома, што ўсякая паездка звязана з пэўнымі клопатамі, незалежна ад таго, далёка ці блізка сабраўся падарожнічаць чалавек. А калі, скажам, наважыўся паехаць у госці, дык ніяк нельга абысціся без падарунка. Не абавязкова дарагога, толькі прыйшоўся б ён да густу, адпавядаў характару таго, каму прызначаўся. Нездарма ў нашага народа ёсць мудрая прыказка: «Не дарагі падарунак — дарагая любоў». Відаць, гэтай прыказкі трымаўся М. Судзукава, рыхтуючыся да паездкі. Найперш падумаў аб сувеніры, які павінен паднесці гораду Мінску — аб пасланні мэра Хакадатэ мэру Мінска. Ні для каго не сакрэт, што прэфектурная асамблея Хакайда прыкладае вялікія намаганні для развіцця японска-савецкіх адносін.

Тут дарэчы ўспомніць пра такі факт. У нейкі момант паездка ў Беларусь была на мяжы зрыву. Месяцы за два да візіту групы «Успамін пра Гашкевіча» — такую назву японцы далі сваёй тургрупе — атрымаў трывожны ліст ад М. Судзукавы, у якім ён пісаў, што «маіх спадарожнікаў напалохала аварыя на Чарнобыльскай АЭС». Якраз у гэтыя дні ў нашай краіне гасцяваў архіепіскап Такійскі, мітрапаліт усёй Японіі Феадосій. Я паслаў Судзукаву выразку з газеты «Известия», дзе мітрапаліт адвяргаў паведамленне аб гібелі тысяч людзей у Беларусі. Неўзабаве, на маю радасць, Судзукава паведаміў, што група «Успамін пра Гашкевіча» прыедзе ў намечаны тэрмін. «Мы,— пісаў мой японскі выдавец,— маем намер добраахвотна ахвяраваць, збяром грошы і ад імя нашай групы ўнясем іх на рахунак нумар 904».

Не трэба думаць, што група «Успамін пра Гашкевіча» складаецца толькі з адных мільянераў. Не, гэта не так. У яе ўвайшлі літаратары і мастакі, перакладчыкі і выдаўцы, бізнесмены і музейныя работнікі, журналісты і актывісты таварыства «Японія — СССР». Людзі — нераўнадушныя да чужога гора.

Яны ведаюць, што беларускі народ адзіны ў бядзе, адзіны ў радасці, адзіны ў адстойванні міру. Патрэба зразумець, як і патрэба даведацца, што перажыла радзіма Гашкевіча ў гады Другой сусветнай вайны, знаходзіла водгук у сэрцах гасцей. Яшчэ ў Японіі яны чулі, што вогненная Хатынь — гэта знішчаная старымі сродкамі Хірасіма, гэта рэха крыку непазбыўнага болю... Глядзіш на помнік — на босага селяніна з хлопчыкам на руках, а бачыш вайну, забітых і спаленых бацькоў разам з дзецьмі.

Тут, у Хатыні, знаходзячыся за многія тысячы кіламетраў ад Хірасімы і Нагасакі, японскія госці, бяру на сябе смеласць так думаць, успомнілі пра гэтыя гарады, пра сваіх суайчыннікаў, што сталі ахвярамі ядзернай зброі, у іх павільгатнелі вочы. Славуты звон Хірасімы ведаюць усе. Набатам міру назвалі яго людзі. Тут жа ў Хатыні, на папялішчы беларускіх вёсак, гук хатынскіх званоў зліваецца з набатным голасам звона Хірасімы.

Няхай даруе чытач, што я асаблівую ўвагу ўдзяліў Хатыні, нічога не сказаўшы пра сустрэчы ў Мінску. Паверце, іх было многа. І маім японскім сябрам, як я зразумеў, спадабалася многае з таго, што ім паказалі. Галоўнае, яны ўбачылі памятныя мясціны, звязаныя з маленствам, малалецтвам і апошнімі гадамі жыцця першага расійскага консула ў Японіі Іосіфа Антонавіча Гашкевіча.

На трэці дзень госці адправіліся ў Вільнюс. За густой зелянінаю схаваліся могілкі на вуліцы Лепкальнё. Сюды члены групы прыйшлі, каб ўскласці вянок і кветкі на магілу Гашкевіча і яго блізкіх сваякоў, аддаць пашану памяці паводле свайго нацыянальнага абраду. Гэтая цырымонія заняла амаль гадзіну, пасля могільнікавы святар айцец Вячаслаў, ураджэнец Беларусі, запрасіў японцаў у храм Святой Ефрасінні на паніхіду — службу ў памяць сям'і Гашкевічаў, памерлых годнай хрысціянскай смерцю. У царкве стаяла ўрачыста-журботная цішыня. Японцы запалілі свечкі. І пачалося набажэнства з песнапеннем...

Сонца ўжо хілілася да захаду. Шлях групы «Успамін пра Гашкевіча» ляжаў далей паводле маршруту. У дымчата-сінім паветры куляліся кані, з ганарлівай годнасцю ўвіхаліся буслы ў сваіх вялікіх гнёздах. Па зжатым полі разгульвалі гракі. Аўтобус імчаўся міма прыціхлых палёў, грузных сціртаў.

## VI

Аднак час ізноў вярнуцца ў Японію, каб паставіць кропку ў канцы аповяду.

У Хакадатэ ў мяне адбылося мноства сустрэч, сяброўскіх гутарак, чаяпіццяў і нават быў наладжаны прыём таварыствам «Успамін пра Гашкевіча». (Пасля паездкі ў Беларусь японская група не распалася, а, наадварот, арганізавала таварыства «Успамін пра Гашкевіча».) Мне здавалася, што хакадацкія сябры мяне разумелі з паўслова і ніколі не гаварылі «не». Пасля адзін дасведчаны чалавек мне сказаў, што японцы традыцыйна скаваныя этыкетам, таму, калі трэба вымавіць «не», яны робяць выгляд, што не разумеюць і быццам бы не чуюць свайго субяседніка. У гутарцы з віцэ-мэрам Хакадатэ я не пачуў слоў «не» або «не так», калі закрануў у размове балючае для мяне пытанне аб праваслаўных могілках, аб невыразнай экспазіцыі ў мясцовым музеі, прысвечанай японска-рускім адносінам, аб маім жаданні выправіць гэту несправядлівасць (я падарыў вялікі алейны партрэт І. А. Гашкевіча) і праявіць дружалюбны акт: паставіць у скверы музея або каля былога будынка Расійскага консульства бюст-помнік першаму расійскаму консулу, якога да гэтага часу шануюць хакадатцы, калі меркаваць па апублікаваных газетных артыкулах.

За два тыдні кантактаў у першы прыезд у Японію я прывык да ўсмешак. Тут, як правіла, усміхаліся ўсе — і малы і стары, усміхаліся

паўсюль: на вуліцы і ў рэстаране, у метро і магазіне, у важным офісе кампаніі і на марскім пляжы... З часам я стаў разумець значэнне ўсмешкі, бо ў ёй заключана ні больш ні менш як дружалюбнасць, як знак увагі. Быць можа, гэта якраз і натхніла мяне ўстанавіць на грамадскіх пачатках бюст-помнік консулу І. А. Гашкевічу. І японскія сябры з таварыства «Успамін пра Гашкевіча», праводзячы мяне ў хакадацкім аэрапорце, таксама выказалі намер не адступаць ад задуманага. Тут жа прапанавалі заключыць пагадненне. Ударылі па руках, як у даўніну рабілі купцы. І — усміхнуліся адзін аднаму.

Цяпер ходу назад не быць як з аднаго, так і з другога боку. Я яшчэ не ведаў, што неўзабаве такія сяброўскія акты будуць называцца «народнай дыпламатыяй».

Вярнуўшыся ў Маскву, я пазваніў вядомаму скульптару Алегу Комаву, даўняму прыяцелю. Дамовіліся аб сустрэчы. Але абставіны склаліся так, што мы пабачыліся толькі праз некалькі месяцаў. Я расказаў пра свой джэнтльменскі дагавор з японцамі з Хакадатэ. Скульптар падумаў і сказаў: «А ну пакажы фота...» У мяне была адзіная фатаграфія Гашкевіча, ласкава падараваная мне Кацярынаю Віктараўнай Гашкевіч-Хлопатавай. Комаў уважліва паглядзеў на здымак пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, коратка сказаў: «Буду ляпіць». У далейшым вялікую дапамогу нам аказаў Расійскі фонд культуры, якому я і Комаў бясконца ўдзячныя. У першых чыслах красавіка 1989 года скульптурны партрэт Іосіфа Антонавіча Гашкевіча, адліты ў бронзе, быў адпраўлены ў Японію Саюзам савецкіх таварыстваў дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, другім нашым спонсарам.

Пад блакітнымі скляпеннямі музейнай залы ў Хакадатэ сабраліся прадстаўнікі таварыства «Успамін пра Гашкевіча», вядомыя ў горадзе людзі, музейныя работнікі, вучоныя, пісьменнікі, мастакі, карэспандэнты японскіх газет і тэлекампаній. Сярод ганаровых гасцей я ўбачыў сваіх старых знаёмых Масахіса Судзукаву, Такада Касіці, доктара Каіціра Фукасэ, мастака Ціканоры Ямагуці, археолага Ціё Хадзімэ, перакладчыкаў Накамуру і Марту Она. На прэс-канферэнцыі пасля адкрыцця бюста-помніка мы з Комавым адказвалі на шматлікія пытанні аб нашай культуры, аб перабудове. Мы выкладвалі ўсё як ёсць. Не забыўшы пры гэтым нагадаць, што кожны чалавек жыве на зямлі не адасоблена, яго асабісты лёс залежыць ад агульнага лёсу ўсяго чалавецтва. Нам няма чаго дзяліць.

Апоўдні мы павінны былі ляцець у Сапара і, нягледзячы на шэры дажджлівы ранак, паспяшаліся на рускія праваслаўныя могілкі, каб управіцца да ад'езду.

Час бярэ сваё, ён точыць камень і разбурае дрэва, не кажучы ўжо пра такое кволае тварэнне, як надмагільны ўзгорачак. Ён гіне ад вятроў і дажджоў і ад таго, калі няма каму прыйсці і дагледзець за ім.

Мы ўсклалі кветкі да каплічкі. Нізка пакланіліся магілам суайчыннікаў — герояў Сінопа і Севастопаля, мараплаўцаў-першапраходцаў.

Першапраходцам быў і Адысей з Беларусі.

Хтосьці сказаў: мы жывыя, пакуль нас памятаюць. Як гэта справядліва!

Нашы слаўныя продкі, якія верылі ў бессмяротнасць душы, спадзяюся, думалі пра тое ж. І верылі ў нас, у нашу памяць, у нашу надзейнасць. Дык ці ж яны, нашы прадзеды, якія сумленна выканалі свой доўг перад Айчынаю, не заслужылі бессмяротнасці?

*Мінск — Масква — Токіа — Хакадатэ.*
*1964—1991.*

# ЗМЕСТ

**Гузанаў, В. Р.**

Г93 Адысей з Беларусі: дак. аповесць / В. Р. Гузанаў; пер. з рус. мовы Я. Саламевіча. — Мінск : Беларусь, 2014. — 278 с., [16] л. іл.

ISBN 978-985-01-1086-2.

У горадзе Хакадатэ на востраве Хакайда стаіць помнік першаму расійскаму консулу ў Японіі — Іосіфу Антонавічу Гашкевічу (1814—1875). Сын беларускага народа, ён першы з расійскіх вучоных пабываў у Паўднёвай Афрыцы, вывучаў флору і фаўну Кітая, Філіпін, Карэі, Японіі. Гашкевіч валодаў многімі замежнымі мовамі і нават склаў японска-рускі слоўнік. Ён здзейсніў кругасветнае плаванне на знакамітым фрэгаце «Палада». Пра перыпетыі яго жыццёвага шляху і расказвае гэтая кніга, матэрыял для якой пісьменнік В. Гузанаў збіраў не толькі ў Расіі і Беларусі, але і ў Японіі, дзе да гэтага часу жыве памяць аб нашым земляку.

Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 341.8(476)(092)+929Гашкевіч**
**ББК 63.3(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Гузанаў** Віталь Рыгоравіч

**АДЫСЕЙ З БЕЛАРУСІ**
**Дакументальная аповесць**

Рэдактар *В. М. Пінчук*
Мастацкія рэдактары *В. Г. Загародні, В. Г. Паўлавец*
Тэхнічны рэдактар С. *Л. Печанёва*
Карэктары *В. І. Смірнова, Ю. М. Уланава*

Падпісана да друку 03.11.2014. Фармат $60 \times 84^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Гарнітура «Warnock Pro». Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 16,28+1,4 укл. Ул.-выд. арк. 19,9+2,1 укл.
Тыраж 1000 экз. Зак. 777.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/4 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. http://belarusbook.by.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 от 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.